# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(711) ЛЮТЫ, 2013**

**Выдаецца з 1953 года**

# 2



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

# Ёсць такая прафесія

**Міхась КАРПЕЧАНКА, галоўны рэдактар бялыніцкай раённай газеты «Зара над Друццю»:**

— Мне думаецца, што будучыня Узброеных Сіл за прафесіяналамі, «кантрактнікамі». З юнака, які ідзе служыць у войска неахвотна, які, скажам, хоча займацца навукай, выяўляе сябе ў асветна-культурнай справе ці іншых сферах дзейнасці — з такога хлопца за паўтара года прафесіянала-вайскоўца не зрабіць. Проста ён адбывае павіннасць, нястомна і ўпарта лічачы дні да «дэмбелю».

Ва Узброеных Сілах Беларусі па кантракце, наколькі мне вядома, служаць 40 працэнтаў вайскоўцаў. Што цікава, сярод іх больш чым 4 тысячы жанчын. Многія з іх дасягнулі значных прафесійных поспехаў: чатыры жанчыны — палкоўнікі, 40 — падпалкоўнікі.

Адбываецца фемінізацыя войска. Можа, гэта і добра, паколькі па прыродзе сваёй жанчына больш абачлівая за мужчыну, больш спагадлівая і добрая. З іншага боку, канешне, ніякавата, што выключна мужчынскую справу пачынаюць рабіць жанчыны.

...Не, усё ж такі будучыня арміі за прафесіяналамі. І — мужчынамі.

**Гош ЛУШЧЫЦКІ, галоўны рэдактар аўтамабільнага партала** avtika.ru:

— У воўску не служыў. На пытанне: «Чаму?» заўсёды адказваю: «Дзякуй, пакуль што не хочацца». Хаця ёсць яшчэ час перадумаць, але наўрад ці такое здарыцца. Армія, безумоўна, патрэбна. Як армія. Што датычыцца тэрміновай службы — пытанне доўгае і філасофскае. У вузкім сэнсе асабіста для мяне служба як такая каштоўнасці не ўяўляе. Пастраляць з агнястрэльнай зброі я магу ў ціры, пабіцца люблю і з задавальненнем раблю гэта на спарынгах, пра прывіццё адказнасці казаць няма чаго — працую з 13 гадоў на фірме бацькі з дзядзькамі, якія некалі працавалі на савецкіх заводах, і да справы «да выніку, без адгаворак» прывучыўся паспяхова.

А характар служба ў войску не выпрацуе: там ён толькі праявіцца. Знаёмыя, якія служылі, — свядома пайшлі ў войска менавіта за мужнасцю і досведам, зрабіўшы паўзу ў вучобе, — ніколькі не змяніліся. Напэўна, усё залежыць ад мэты і настрою. Увогуле, гэта як оперныя спевы: некаму падабаецца, нехта займаецца і паказвае клас — дзякуй Богу. Але мне раней было нецікава, а цяпер ужо не да гэтага.

**Галіна БЯЛЯЕВА, галоўны рэдактар інфармацыйнага весніка «Гонар маю» Мінскага сувораўскага ваеннага вучылішча:**

— Памятаеце знакаміты дыялог з фільма «Афіцэры»? «Радзіму абараняць! Ёсць такая прафесія, узводны». Служэнне справе Айчыны заўсёды выклікала асаблівую павагу. Бо быць ваенным — гэта ж сапраўды асаблівая прафесія, не кожнаму па сілах. Яна цяжкая і маральна, і фізічна. Небяспечная нават у мірны час. І патрабуе вялікай адказнасці. Але ёсць людзі, якія прысвячаюць гэтай справе ўсё сваё жыццё, і, нягледзячы на розныя лішэнні і нязручнасці, на працягу дзясяткаў гадоў застаюцца вернымі абранаму шляху. Для іх і словы «афіцэрскі гонар» — не пустыя. Для многіх пакаленняў абаронцаў Айчыны пачаткам шляху ў армейскае жыццё стала Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча, якое ў гэтым годзе адзначае 60-гадовы юбілей. Сюды прыязджаюць хлопчыкі з усёй Беларусі. Яны ўсе мараць стаць вайскоўцамі, абаронцамі Айчыны. Мне думаецца, што і сёння кожны наш выхаванец з гонарам падпішацца пад знакамітым «Жизнь — Родине, честь — никому!»



Вольга ШЭЛЯГОВІЧ

# Пра каханне

***Правесці лагічную сувязь паміж лютым і каханнем у сённяшніх рэаліях зможа нават першакласнік. Апошні зімовы месяц адметны лавінай сусветнай рамантыкі. Кветкі ахапкамі выносяцца з крам, рукі стамляюцца падпісваць «валянцінкі», фантазія закіпае ад ідэі зрабіць мегападарунак для каханага (праўда, у святочнай мітусні чарговы кубак з сэрцайкамі купляецца неяк сам сабой). Дзень усіх закаханых — 24 гадзіны, адведзеныя на прызнанні. Лічы, апошні вагон. Не заскочыў — ідзі прэч, як Маякоўскі, «любовищу свою волоча», год чакай свайго «зорнага» часу.***

Да Дня закаханых я стаўлюся з доляй іроніі, бо каханне не будзе чакаць 14 лютага, каб даць пра сябе ведаць. І потым, калі чалавек закаханы, то гэта яго натуральны штодзённы стан, і кветкі каханай носяцца без падставы, а не ў канкрэтны дзень — такія прадказальныя, «дзяжурныя». Тым не менш у гэтым свяце пры ўсіх яго відавочных камерцыйных мінусах ёсць сэнс — прапаганда найлепшага з чалавечых пачуццяў. Усё пачынаецца з любові. Больш таго, ёю ўсё і заканчваецца. Таму быць любоўным нігілістам, мякка кажучы, не камільфо.

Бывае, чалавек скардзіцца: маўляў, не шчасціць з каханнем. Ды няхай не сумуе чытач, у сэрцы якога — адзінота. Найчасцей адчуваем сябе няшчаснымі, калі пачуцці нашы не раздзеленыя, але тое да пары да часу, бо невыпадковасць безадказнага кахання прыходзіць пад руку з разуменнем каштоўнасці вопыту. Што б там у каго ні было, яно было — магло не стацца, але сталася, і за тое трэба дзякаваць Богу. Без кахання, ведаеце, немагчыма творчасць. Ды што там творчасць! Добрых бліноў без яго не спячэш.

Толькі засмучае мяне вельмі, што многія называюць каханнем зусім не тыя пачуцці. Маці мая часта паўтарае, што слова гэтае людзі зацерлі, як манету. Толькі спадабаўся хлопец, часта таўшчынёй кашалька і моднай кашуляй, — ужо кахаю, ужо на ўсё згодна. Маўляў, трэба адразу кідацца ва ўсе цяжкія, пакуль ён «тэкстам не зняславіў фактуру». Толькі ўчапіла вока прыгожую дзяўчыну — ужо хачу, але на пару вечароў, бо асартымент шырокі, а жыццё — адно. І становіцца каханне вайной, дзе ўсе сродкі для дасягнення перамогі — добрыя. Трэба — абражу, трэба — па галаве пагладжу. Буду трымаць пры сабе запасным варыянтам. А можа, і кіну. Нават былую каханую — цяжарную, ці былога каханага — у адчаі. І пры гэтым каханнем сваім, мімалётным, імкнуцца сябе апраўдаць.

Я не ведаю на 100 працэнтаў, хто такі святы Валянцін, ці быў ён увогуле, не ведаю, ці дакладна ад Луперкаліеў, фестываляў эратызму, бярэ вытокі Дзень усіх закаханых, таму не маю права асуджаць тых, хто адзначае яго. Я параіла б часцей узгадваць не пра Валянціна, а пра іншага святога — апостала Паўла, які занатаваў у Бібліі, у пасланні Карынфянам, бадай, самае дакладнае тлумачэнне слова «любоў» (ды і слова «каханне» таксама) з усіх тых, што я чытала.

І хоць размова ішла пра любоў у самым шырокім сэнсе, кожнае слова ў гэтым тлумачэнні мае дачыненне да любові праўдзівай, эталоннай, любові кожнага чалавека — да любога чалавека і да Бога. Запісана Паўлам, што любоў доўгацярплівая — у маім разуменні, трывае яна доўга, даруе. Сказана: міласэрная — сэрца напаўняе спачуваннем ды прагай дапамогі. Не зайздросціць — бо не жадае сабе таго, што робіць іншых пасяховымі. Не ўзвышаецца, не ганарыцца — не стварае ўмоў, пры якіх губляецца роўнасць паміж людзьмі і ўзнікае панаванне і рабства, не пагардлівая. Не бясчынствуе — не разбурае лёсаў, не ходзіць побач з грубасцю і скандалам. Не шукае свайго — не ідзе па шляху эгаізму. Не раздражняецца — захоўвае спакой, лепш сцерпіць. Не мысліць зла, бо сама — пажаданне дабра. Не радуецца няпраўдзе: дзе любоў — няма месца падману. Усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца — ходзіць поруч з верай і надзеяй на лепшае. Усё пераносіць — нязломная!

Хацела прывесці канкрэтны прыклад, але азірніцеся: усё вакол нас. Ёсць тыя, хто жыве, як кажуць, душа ў душу. І трэба, каб гэтаму «душа ў душу» яны абавязкова навучылі сваіх дзяцей, унукаў, малодшых братоў і сясцёр, вучняў. Вельмі мала гаворыцца на гэткія тэмы з дзецьмі і падлеткамі, а потым здзіўляемся, чаму яны ставяць знак роўнасці паміж любоўю і інтымам у самым прымітыўным сэнсе слова. І не трэба думаць, што падлеткі не зразумеюць дарослых спраў. Аркадзь Куляшоў свой выдатны верш пра каханне «Бывай» напісаў у 14 гадоў! «Чаму так горка, не магу я зразумець?» — задаваў сабе пытанне юны паэт. «Пайшла, пакінуўшы мне золкі і туманы, палынны жаль смугой ахутаных дарог, каб я хвілінны боль і горыч гэтай раны гадамі ў сэрцы заглушыць сваім не мог…» Горыч — гадамі ў сэрцы тых, хто не ведае пра сапраўдную любоў і такое ж каханне.

Некалі і я не ведала. І людзі казалі, што няма яго. Праглядаю цяпер сямейны альбом. Усміхаюся.

# Ад рукі

Уладзімір Саламаха

...Уладзімір Максімавіч, як мала хто, умее шчыра радавацца чужому поспеху. Кожны набытак нашай літаратуры, за якім стаіць канкрэтны пісьменнік, Дамашэвіч успрымае і як яго, аўтара дасягненне, і як дасягненне ўсёй нашай літаратуры, усяго грамадства.

Такім, як Дамашэвіч, заўсёды баліць за ўсё, што насуперак чыстае логіцы, адбываецца ў рэчаіснасці. За тое, што было, ёсць і будзе з чалавекам, нацыяй, народам, яе мовай і культурай, нягоды з Айчынай.

Такім, мабыць, дадзена Богам здольнасць, зыходзячы з мінулага жыцця народа, аснаваючыся на сёняшнім, дакладна прадбачыць будучыню. Такія могуць, нягледзячы ні на што, загадзя, як здарыцца бяда, забіць аб ёй трывогу...

(З кнігі «Сусвет дабрыні»)

27 снежня 2012 г.

**Нацыянальны гістарычны архіў** Беларусі і выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» выпусцілі зборнік дакументаў «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI стагоддзя». У зборніку прадстаўлена 116 дакументаў «апошняй волі» на старабеларускай і старапольскай мовах. І гэта не толькі карысна для «спецыялістаў», але і проста цікава

### ГЭТА ТРЭБА БАЧЫЦЬ

Гісторыя, Нясвіж і шахматы. Да 17 сакавіка ў палацава-паркавым ансамблі беларускага Парыжа доўжыцца выстава шахмат майстра Рыгора Пашкова. Прадстаўлены: «Турнір», «Амазонкі», «Карабель», «Пётр І», «Карнавал» — усяго 12 калекцый.

Афішы да беларускіх фільмаў (нямых і гукавых) 1920—1930-х гадоў можна ўбачыць на трэцім паверсе Музея гісторыі беларускага кіно. Убачыць і пераканацца ў тым, што ў жанры кінаплаката ў той час працавалі самыя таленавітыя мастакі і дызайнеры. Многія з прадстаўленых кінаплакатаў з'яўляюцца не толькі гістарычнай, але і мастацкай каштоўнасцю.




**У адным канцэрце** пад назваю «Жыццё. Творчасць. Лёс» выступяць таленавітая моладзь, салісты-дзеці і сталыя выканаўцы, адзначаныя ганаровымі званнямі. Праграма прысвячаецца геніям сусветнай культуры — Пятру Чайкоўскаму і Сяргею Рахманінаву. 16 сакавіка ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі (Малая зала імя Рыгора Шырмы).

**«Срэбны звон цымбал»** пройдзе 22—24 сакавіка пры падтрымцы ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама, Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага і кіраўніцтва раёна. У канцэртнай зале каледжа будзе цесна!

**Беларускі саюз музычных дзеячаў віншуе з юбілеем** хор-майстра Ларысу **Іконнікаву.** Спецыяліст у галіне дырыжорска-харавога выканальніцтва, педагог, аўтар метадычных дапаможнікаў і навуковых работ, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь жыве і працуе ў **Гродне.** Пад яе кіраўніцтвам дасягнулі шырокай вядомасці на радзіме і еўрапейскага прызнання камерны хор дзяржаўнай установы культуры «Гродзенская капэла», Жаночы хор Гродзенскага дзяржаўнага музычнага **каледжа.**



**«Пахварэць» за фіналістаў** конкурсу, прысвечанага 140-годдзю Ф. Шаляпіна, можа кожны ахвотны: праслухоўванні пройдуць 23 сакавіка ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, уваход — бясплатны. А вось каб 24 сакавіка трапіць у сталічную філармонію на ганараванне пераможцаў і заключны гала-канцэрт, варта паклапаціцца пра білеты.



Маладосць

Заснавальнікі: Саюз пісьменнікаў Беларусі і працоўны калектыў рэдакцыі

220041, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а Тэл. 68-27-61

№______ „5" лютага 1996 г.

Добры дзень, Валянціна!

А. Казлоў і я падрыхтавалі да друку Вашу кніжку.

Уражанне прыемнае. Тут — літаратура не з літаратуры, а з жыцця. Да таго ж у добрым сэнсе жаночая проза: чырвонай ніткаю амаль ва ўсіх творах праходзіць тое, што найперш перажывае жанчына, а — па-другое, адлюстравана змаганне „моцнай" і „слабой" жаночай асобы. Многія старонкі напісаны ярка, з лепшымі адзнакамі про-

*З калекцыі аўтографаў «Маладосці»*
*Ліст да Валянціны Кадзетавай.*

*Алесь МОЙСКІ*

# БЕРАГОЎ НЕ ЗНОЙДЗЕШ У МАЁЙ РАКІ...



***Алесь Мойскі нарадзіўся 10 мая 1988 года ў Мінску. Магістрант кафедры беларускай літаратуры і культуры БДПУ імя Максіма Танка, пераможца конкурсу «БрамаМар» у намінацыі «Проза», але і ў паэзіі паспеў паспрабаваць сябе ў розных жанрах і формах. Аднак лічыць, што без ведання класічных канонаў не варта прэтэндаваць на ўласныя адкрыцці ў паэзіі.***

* * *

Беспамылкова: на гэтай зямлі
Хутка не будзе жывых, уцалелых,
Тут разаб'юцца мае караблі!
Нешта ў грудзях запякло, забалела…

Ты не чакай, дарагая Асоль,
Грэем даўно пераблытаны карты,
Так здабываць мы навучымся соль —
Толькі для гэтага плакаць не варта.

Тубыльцы мы сярод гэтых людзей,
Хто з вас, скажыце, апошні рамантык?
Тых, хто гуляе па лужах, радзей
Мы сустракаем. А можа, няма тых,

Хто да апошняга дня нёс дабро,
Ставіў шчаку то адну, то другую?
І камяні хай ляцелі ў яго,
Ён выбачаў і казаў: «Не крыўдую…»

**ЗЯЗЮЛЯ**

Стрэлка гадзінніка «ку» ды «ку-ку»,
Крочыць па коле няўмела.
Ведай зязюля на чорным суку —
Нават яна б анямела.

Ціхенька цікае мой цыферблат,
Цокае, быццам абцасы.
Сочаць за цокатам вочы цытат
Тых, хто спяшаецца ў касы.

На самалёты, на паязды
Вечна спяшаюцца людзі.
Толькі зязюля: «Навошта? Куды?
Век ваш не доўгі ўжо будзе!»

* * *

Для чаго жыве мастак,
Слова маючы ў кішэні?
Для грамадства або так?
У кішэнях — вырашэнне!

* * *

Колькі не ўглядайся ў электрычнасць
лямпы —
Берагоў не знойдзеш у маёй ракі.
Там харэі часам разбаўляюць ямбы,
Словы расцякуцца, як вада ў радкі.

Можа, калісь будзе і ў кішэнях поўна,
Зноў рака выходзіць з берагоў пачне.
Вогненнае кола — гэта толькі поўня,
Не мядзяк пацёрты —
ўсё ў сваёй цане.

## ЧОРНЫ КОТ

Майго чорнага ката
Асудзілі без суда —
Ён цяпер у пекле.
Праклiналі сто разоў!
Так заведзена ў катоў —
Церпяць чэрцяў здзекі.

Цэнтр дрэннага ўсяго,
Усе крычалі на яго —
Перабег дарогу.
Людзям брыдкі чорны кот,
Кіламетрамі ў абход
У мэтах засцярогі

Ходзяць людзі, ну а кот
На патэльні цэлы год
Смажыць хвост і вушы.
Забабонаў новых шмат,
Уратуюцца наўрад
Усе людскія душы.

## САНЕТ № 4

*(з вянка санетаў «Кахаю цябе»)*

Ласкавы шэпт... Гарачай хваляй мкне
Твой подых, незямны і непаўторны
Ляцеў нібыта праз палі і горы
І раптам апынуўся у мяне.

Любоў не можа рухацца ў цане,
Яна паслужыць шмат каму узорам,
Яе набудуць толькі што за зоркі,
Каб хабар за яе гучней звінеў.

Гатовы душы д’яблу аддаваць,
Па коле пранясецца галава,
На глебе гэтай вар’яцеюць людзі.

Я адплацiў каханню не танней
Я стаў яго рабом, і яно будзіць
Да сэрца кроў маю. Мана ўсё або не?

* * *

Адкажы мне, сонца,
Адкажы мне, вецер,
Дзе мой абаронца,
Што на небе свеціць?

Дзе ж ты, мая зорка,
Блізка ці далёка?
На душы зноў горка,
А на сэрцы лёгка.

Вершам, а ці прозай
Мне ў жыцці сагрэцца?
Дапаможа розум
І падкажа сэрца.

## СЛОВА НОВАГА ДНЯ

Пакідае словы
Небарака дзень.
Надыходзіць новы.
На язык надзень
Слэнгі і звароты...

Гады, мурашы
Выпаўзуць не з рота —
Выпаўзуць з душы.
Крыўдна не за словы,
Крыўдна за людзей!
Круцяцца галовы
У гэты новы дзень.

**ДЗЕНЬ ПРАЦЫ**

Сонныя цені
і сонныя людзі
Цягнуцца па калідорах.
Сонца-Ясенін —
як сонца на блюдзе.
За панядзелкам — аўторак.

Дзе эвалюцый
нямы адгалосак?
Малпа імкнецца да трона.
Людзям малюе
ўсе робы ў палоску.
І серада — за аўторкам,

Дым за трубою
і ночы за днямі
Малпы заўжды адвяргаюць,
А мы з табою
на зло замяняем
Серады ўслед чацвяргамі!

І азарэнню
звычайна ўсё роўна
Што заўтра будзе у модзе.
Пятніца ў ню па
слядах Рабінзона
За чацвяргамі прыходзіць;

Тут у пенснэ ходзяць
малпы, а людзі
У клетках паселі з ахвотай.
Ім не да смеху,
Бы ў тым Галівудзе.
Пятніцы ўторыць субота:

Днём зноўку праца,
і праца уночы —
Будзе знарок асвятленне.
І не схавацца
філосафу ў бочцы.
А за суботай нядзеля —

Дзень адмысловы,
якоесьці свята.
Нешта на скронях змакрэла —
вымавіш слова:
«Балюча. Стыгматы…»
Прыйдзе ізноў панядзелак…



*Паліна ЛУК'ЯНОВІЧ*

# ГАРАДСКАЯ

*Апавяданне*



***Паліна Лук'яновіч нарадзілася 24 чэрвеня 1996 года ў Мінску. Вучаніца 11 класа сталічнай гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны. Паспяхова ўдзельнічала ў рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і літаратуры. Першы свой твор напісала ў трэцім класе. Асноўнай задачай на бліжэйшы час лічыць паступленне ў Інстытут журналістыкі БДУ.***

Паўзмрочная ранішняя шэрань і цішыня стаялі ў пакоі. Бляклае зімовае сонца праз гадзіну-другую мелася ўставаць, але пакуль яно ледзь варушылася пад цяжкім покрывам хмар. Цемра стала толькі крыху больш празрыстай, і з яе выступалі расплывістымі абрысамі асобныя, найбольш вялікія прадметы: цёмным выпуклым ценем аддзялілася ад сцяны шафа з прыадчыненымі дзверцамі, нейкай ненатуральнай, грувасткай фігурай здаваўся чатырохкутнік тэлевізара на нязграбнай тумбе. Стол знікаў у дальнім закутку, і нават напружыўшы зрок нельга было б заўважыць яго ў густым змроку. Вузкі ложак ляпіўся да сцяны, падобны да цьмянай шэравата-белай здані: гарбом на ім узнімалася захутаная коўдрай чалавечая постаць. Ані зыку, апроч размеранага цікання гадзінніка, ані руху, апроч нячутнага, слабага варушэння скурчаных старэчых пальцаў…

У гэтую часіну толькі адну жывую істоту ў маўклівай кватэры ніяк не мог адужаць сон. Старая Куліна ляжала з заплюшчанымі вачыма, не маючы сілы павярнуцца набок, і неяк механічна, усыпляльна вадзіла закарэлым пазногцем па грубай прасціне. Поцемкі хавалі яе жаўтаваты азызлы твар, хваравітыя запалыя шчокі, скрозь пранізаныя сіняватымі, таненькімі, бы на лістках, жылкамі. Над сухімі вуснамі сабраліся зморшчыны, таму старэчае аблічча набывала падабенства з растрэсканай у засуху зямлёй.

Па грудзі накрытая коўдрай, Куліна драмала і не драмала, выпрастаўшы шырокую белую руку. У роце стаяў гаркавы, вязкі прысмак лекаў, ад якога яна часам шамкала вуснамі, але не ўставала, не працягвала руку за жалезным кубкам, напалову поўным вадой. Пад'едзеныя моллю шарсцяныя панчохі злёгку калоліся, і ад гэтага старой было прыемна: нешта хатняе, цёплае чулі ў гэтым паколванні яе занямоглыя ногі.

Як толькі пачало віднець, сышоў сон, і замест яго цяжар разліўся па ўсім целе, адурманіў галаву: абрыўкі нейкіх успамінаў, фраз, знаёмыя, але непазнавальна размытыя твары — усё гэта было як туман, мроіва, што знясільвала старэчы розум, не давала яму спачыну. На адно імгненне надыходзіла быццам бы прасвятленне — нейкая згадка раптам праясняла ўсё, і станавілася лягчэй на

сэрцы, здавалася, вось яна ўжо супакоіцца і засне. Але гэта доўжылася толькі хвіліну: зноў яна губляла сваю думку і правальвалася ў невыноснае трызненне.

У пакоі яшчэ больш пашарэла. За фіранкамі ўжо можна было разгледзець голыя, пачарнелыя галіны дрэў, якія лезлі ў самае акно…

Сабраўшы ўсе сілы, старая амаль фізічным намаганнем саштурхнула з сябе хваравітую стому, каб хаця расплюшчыць вочы. Яна ўтаропілася няўцямнымі, як мутнае шкло, зрэнкамі ў столь. Троху паляжаўшы, ачуняла ад сну і адразу ж звыкла, неўпрыкметку для сябе самой пачала весці ў думках гутарку: «Скажы ты… Ну і нутро, ну і нутро Бог даў… Праўду людзі кажуць: крывога дрэва не выпрастаеш. Колькі гадоў ужо трутнем жыву, палічыць, ужо *га-ра-джан-ка*, а што ні світанне — усё адно як падкідае якая немач!.. Лухта ў галаву лезе, спаць не дае, зараза такая… Невядома што круціцца перад вачыма, абы растрывожыць, абы з ложка сапхнуць. А навошта? Прасторы няма, паветра няма, працы няма… Толькі старасць ды хвароба на карку сядзяць… Косткі старыя ныюць, і ад любога руху часам так нясцерпна робіцца, што аж займае дух і ў вачах цямнее. Ай Божачка, ай бацюхна, каб хоць якая палёгка, каб хоць сілы болей!.. Ды нічога не зробіш: як ні стагні, а ўставаць трэба… Сонца ўстае — і я павінна…»

Куліна варухнулася, цяжка павярнула галаву набок, туды, дзе пад коўдрай сапла дачка. Імгнення ёй хапіла, каб у галаву ўбілася неадчэпная, неадкладная справа: пайсці да пліты, няхай хоць які сняданак падаспее, покуль Шурка ўстане. З зацятасцю чалавека, які прывык рабіць падоўгу і шмат, але прымушаны жыць без працы, старая ўхапілася за гэтую думку. Ёй раптам здалося, што так і трэба, што Шурачка ніяк, ну ніяк не паспее добра пад’есці, калі яна не ўстане і не падсмажыць ёй колькі яек.

Старая адкінула коўдру, з цяжкасцю спусціла на халодныя палавіцы адну нагу, потым другую. Урэшце села. Абапіраючыся на аслаблыя рукі, яна важка паднялася, так што ложак зарыпеў, быццам уздыхнуў вальней. Куліна заўсёды спала ў вішнёвай, месцамі палінялай кофце, на якой з гадамі засталося толькі тры гузікі. І вось цяпер, не накінуўшы і не апрануўшы нічога, яна проста, як ляжала, пасунулася, шаркаючы па падлозе, у невялікі калідорчык. Дзверы тоненька «войкнулі» і няшчыльна прычыніліся за ёй. Куліна перачакала колькі, аддыхалася: яна мала хадзіла апошнім часам і пераступаць нагамі рабілася ўсё цяжэй. Пасля пацягнулася ў кухню.

У кухні было сцюдзёна. Тут напружана і глуха гудзеў халадзільнік, мармытаў нешта прыёмнік. На століку ляжала замусоленая кляёнчатая сурвэтка, прапаленая ў некалькіх месцах: Шура шмат курыла. Патэльня, лёгенькая, не тое што ў вёсцы, хоць і крыху падрапаная, стаяла на пліце. Побач, на стале, ляжала накрыўка, рыжаватая ад неадмыўнага тлушчу. Чакаў свайго часу пусты, нязвыкла халодны турлік, дзе звычайна варылася кава.

Куліна ніякавата аглядала ўсё гэта, вагаючыся, куды падацца спачатку і за што ўзяцца. Нарэшце яна нясмела падышла да халадзільніка, асцярожна пацягнула на сябе металічную ручку. Знайшла, дастала пару яек.

Пакуль яечня шкварчэла на патэльні, старая не зводзіла з яе вачэй — быццам баялася, каб часам не сапсаваць — і дзівілася свайму няўмельству і негаспадарлівасці. «Гэта ж трэба: нават яйкі развучылася гатаваць! Столькі непатрэбных, няўклюдных рухаў, і нейкая кволасць у руках, быццам яны не ведаюць, што робяць. А ці ж была яна калі такой няўдаліцай! Маці-нябожчыца засмяяла б сваю Куліну, каб бачыла!»

Надрыўна затрашчаў будзільнік за сцяной. Старая хуценька кінула на бледныя жаўткі, вакол якіх бурліў і сычэў тлушч, жменьку кропу.

З пакоя, пацепваючыся плячыма, выпаўзла Шура. Яна хуталася ў махровы халат і пацірала заспаны твар. Яе худыя ногі з хваравіта напятымі венамі мерзлі,

сунутыя ў шыракаватыя тапкі. Тапкі гэтыя саслізвалі пры кожным кроку і заміналі Шуры ісці.

— Мам, ты тутака? — спытала яна сіплаватым пасля сну голасам, прасоўваючы ў дзверы раскудлачаную галаву.

— А дзе ж, — адгукнулася старая. — Добрай ранічкі, Шура.

— Бачу, якой добрай… Ты чаго ўзнеслася? Ляжаць табе трэба, спаць. А ты нешта кухарыш, так што пахі на ўсю кватэру… Ну чаго табе ўздумалася? Я ж прасіла не корпацца на кухні!.. — незадаволена бурчала дачка, а пасля, як бы стаміўшыся злаваць, прастагнала: — Бо-жачка, мама, табе кажы не кажы — як дзіця!

І знікла ў прыбіральні, а неўзабаве перайшла ў ванны пакойчык, адкуль пачуўся шум вады.

Старая нейкі час працягвала стаяць, разгублена і недарэчна, пасярод кухні. Потым грузна апусцілася на стул побач са сталом, склала на каленях рукі ды так і сядзела, змятая, з пасмамі рэдкіх сівых валасоў, у якіх заблытаўся грэбень, сядзела, гледзячы на праём дзвярэй невідушчымі вачыма, чакаючы дачку на сняданне.

На пліце стыла яечня. Нарэшце з ваннай выйшла Шура. Крок, яшчэ крок… Адчыніліся дзверы, і яна з’явілася, пасвяжэлая, бадзёрая ад струменістай воднай прахалоды.

Шура не баялася свайго ўзросту, але жыла так, што ніхто не ведаў яе гадоў (ды і яна сама, здавалася, не ведала). Толькі маці з незразумелым утрапеннем лічыла кожны Першамай: пяцідзясяты… пяцьдзясят трэці… нарэшце, пяцьдзясят шосты. Даччынымі гадамі яна быццам вымярала сваё жыццё: у старой больш не заставалася нічога свайго, нават дня народзін, пра які яна ўспамінала толькі тады, калі ранкам, працягваючы руку за кубкам вады, нечакана намацвала побач з ім тонкія сцяблі кветак…

— Што глядзіш так? — пыталася памякчэлая Шура, ставячы каву і запальваючы газу.

— Я во тут зрабіла, Шурка, сядай, — схамянулася ад пытання старая, і ўзнялася, неяк медзведзявата расставіўшы ногі, але тут жа пахіснулася, абаперлася далонню на стол побач.

— І нашто, скажы, ты рабіла? Хіба прасіла я? — раздражнёна адказала дачка, нарэшце павярнуўшыся тварам да маці. — Дужа табе гэта трэба было… Не немаўля, бадай — каб пашчасціла, то ўжо сама бабкай была б, — магу ж сябе абслугоўваць! Прынамсі ведаю, чым паснедаць.

Гэтыя словы можна было прыняць, як дакор, але, загрубелая сэрцам і вухам, Куліна не заўважыла ніякага закіду, тым больш, што яго і не было. Узнікла крыўда, але за іншае…

— Табе з’есці цяжка? Шкада ж выкінуць, — падцяўшы вусны, адказала старая, і твар яе пашарэў.

— Цяжка. Я не магу ранкам есці, не ідзе мне, разумееш? — Шура паспешліва схапіла турлік, з якога ўжо бурдуляў кіпень, беражліва паднесла да гладкага краю філіжанкі.

— Малыя былі — усё елі, усім «ішло», а тут бачыш… — пачала Куліна, але дачка строга і нецярпліва перапыніла:

— Давай не будзем з-за такой лухты, га?

Паставіла духмяную гарачую каву на сурвэтку, села. Сухой шыракакостай рукой яна ўзяла пачак цыгарэт, сунула ў зубы адну. Закурыла.

— Цяперака звару табе кашы, — пасля маўчання загаварыла Шура, выпускаючы струмяні дыму, і, сёрбнуўшы глыточак кавы, дадала: — Мёду пастаўлю, булкі адрэжу… А мо гарбаты хочаш?

Старая ледзь заўважна адмоўна хітнула галавой. Ёй рапатам стала так невыносна, што захацелася пайсці і легчы, ды цэлы дзень не падымацца з ложка.

— Як ты пачуваешся? Як спіш? — памаўчаўшы, пытала дачка, пытала шчыра, не абы спытаць, але ад гэтага чамусьці не цяплела ў Куліны на сэрцы.

— Няблага, — сказала неахвотна, неяк праз сілу.

— Пра што няблага? — кава спынілася напаўдарозе да вуснаў.

— А ўсё няблага, — абыякава прасіпела старая і закашлялася. — Толькі ногі от усё баляць.

— Яны табе, я бачу, заўсёды баляць. Ляжы, калі на тое, не нагружай іх, лекі прымай… Што ж яшчэ? Доктара будзем выклікаць, — страсаючы попел у бляшанку прагаварыла Шура. — У абед да цябе зойдзе Ірышка, падагрэе, што я пакінула, разам паясцё.

Старая не адказала ані гукам. Сядзела як нежывая, толькі вочы блукалі па сценах, мэблі, дачцэ…

Шура затушыла цыгарэту, паднялася ды ўзяла грубаватымі пальцамі філіжанку, дзе на дне плёскалася чорнае халоднае месіва. Колькі хвілін яна паглядала зверху ўніз на вартую жалю старэчую постаць, дарэмна лавіла тупы, дзікаваты позірк бляклых вачэй. Усё гэта сведчыла пра няўхільнае, цяжкае, страшнае, пра тое, што чакае і яе, адзінокую, наперадзе. І ў нейкі момант Шуры зрабілася так шкада і сябе, і маці нямоглую, што яна, глуха ўздыхнуўшы, ціха абняла старую за плечы. Непрыкметна пастарэлая, бессямейная дачка гладзіла Куліну сутулую спіну, каб супакоіць і супакоіцца, каб дакрануцца да жывога, роднага чалавека.

Падтрымліваючы старую пад локаць, Шура давяла яе да ложка, пасадзіла. Пасля вярнулася на кухню, зварыла кашы, дастала мёду, булкі і прынесла ўсё гэта ў пакой. Праз пятнаццаць хвілін ужо апранутая, з нафарбаванымі вачыма, яна пакідала кватэру, спяшаючыся на аўтобус.

Застаўшыся ў адзіноце, Куліна не варухнулася, так і сядзела, падобная да вялізнай рапухі. На табурэціку побач дымілася каша, бялюткая, з адным жоўтым вочкам: раставаў кавалачак сметанковага масла. У шкляначцы стаяў ненатуральна празрысты, як вадкі бурштын, мёд. Зірнуўшы на яго спрактыкаваным вокам, старая мімаволі падумала: «Бач, чысцюткі, шэльма, як божая сляза…» Памарудзіўшы, Куліна ўзяла лыжку, пачала паціху есці, усё падбаўляючы мёду, не адчуваючы ні смаку, ні паху.

Аднойчы ёй здалося, што скончана ўсё, што вось яна ўжо ў шэрай маўклівай магіле ляжыць, памерлая, і што не каша, а зямля набіваецца ёй у рот. Але вось дзіва: і ў труне ні спакою, ні збавення не адчувалася. Самота была, туга па нечым, а збавення аніколечкі.

Куліна не злавалася на дачку: што з яе, гаротнай, возьмеш. Мужыка, дзяцей не прыдбала, а тут, у горадзе, ашалееш так вось жывучы. Душа за Шуру балела, за адну такую нешчаслівую. І нязломак дзяўчына калісь была — усё пры ёй — але чамусьці абышло яе замужжа, тут ужо нічога не зробіш. Не тое старэйшая дачка, Вера, — пайшла замуж яшчэ дваццаці ёй не было. І нішто — жывуць, больш як сорак пяць гадоў ужо разам. Дзяцей, унукаў — процьма, што ні месяц — імяніны. Шумная ў іх сям'я, вялікая, хоць і рэдка збіраюцца, затое як зляцяцца — і чарку, і да чаркі знойдуць, ды яшчэ з песнямі, успамінамі. Радасна на іх глядзець, усё адно як на вёсцы некалі, як вяселле ці іншая нейкая нагода, а то калі вячоркі… Верка і цяпер кіраваць дужа любіць, хлебам яе не кармі, сама без справы ніколі не сядзіць, дык яшчэ і за іншымі сочыць, каб пры справе пачуваліся. Нацярпелася праз яе нораў Куліна: баялася, што не возьме ніхто замуж дачку, скажуць, не навучыла, як з мужыком абыходзіцца. Бывала, паходзіць, паходзіць хлопец, колькі разоў з танцаў правядзе, а пасля

плюне ды адступіцца: проста трываць такую няможна. А вось жа знайшла ў горадзе цельпука Віцю, выскачыла за яго! Што ні кажы, а ён хлопец добры быў: разважлівы, памяркоўны, толькі чытаў зашмат, але яно нічога — з гадамі прайшло.

Былі ў Куліны і два сыны: старэйшы — Пятрок, малодшы — Валодзька. Старэйшы — вучоны, ва ўніверсітэце выкладае, таксама сям'ю мае. Шура за яго на пяць гадоў маладзейшая. А Валодзечка, любы сынок, на будоўлі інжынерам быў. Там і загінуў, калі абваліліся рыштаванні. Як даведалася, што сына не стала, ледзь не звар'яцела: кідалася па хаце, валасы на галаве рвала, галасіла, а то часам спаўзала па сценцы на падлогу і сядзела так моўчкі, утаропіўшы некуды вочы. Гадзінамі магла так маўчаць. Муж тады хадзіў за ёй, як за дзіцём: ноччу сядзеў побач пры святле, аж пакуль яна не засне. Баяўся дужа, каб часам нічога не ўчыніла над сабою.

Колькі год мінула — за сынам пайшоў муж, яе Міхал. Ізноў бедавала, месца сабе не знаходзіла, збіралася класціся з ім побач у труну. Як пахавалі Міхала, так, пакуль магла, жыла Куліна ў вёсцы, у сваёй старой хаце, якую разам з мужам будавала, дзе нараджала і расціла дзяцей, адкуль адпраўляла ў апошні шлях самага блізкага пасля маці, роднага чалавека.

Не магла Куліна кінуць свой дом, вёску. Людзі з'язджалі, паміралі, а пасля іх заставаліся толькі пахілыя, ледзь не цалкам спарахнелыя платы ды рыпучыя іржавыя весніцы. Толькі старая ўпарта не зважала ні на што і жыла сабе, як умела. Праўда, праз нейкі час яна стамілася ад адзінокага вясковага жыцця — узрост браў сваё — і дзеці, параіўшыся між сабою, вырашылі забраць маці ў горад: так і матцы будзе лепш, і ім спакайней.

Спачатку Куліна зусім разгубілася: тлумна, душна, а вакол столькі людзей і машын. Асфальт і тое, здавалася, гудзе. А вуліцы якія шырокія! Пастануць машыны радамі — роўненька, бы на градках сядзяць, — і, часам, так ім цесна, што ледзь паўзуць адна за адной. Колькі вокам ахапіць — усё цягнецца і цягнецца бліскучы металічны ланцуг, а ўзбоч дарог — дамы такія высачэзныя, усе цагляныя.

Сама Куліна, канешне, ведала, як яно там, у горадзе: і чула шмат, і сама дзе-нідзе пабыла. Толькі ўсё роўна: чуць і бачыць — гэта адно, а на восьмым дзясятку трапіць з хатняга падворка ў кватэру на праспекце — гэта зусім іншае. Колькі яна сабе здароўя папсавала, пакуль прызвычаілася!

Першыя дні прайшлі, як у тумане. Блукала па кватэры ценем, не ведала куды прыткнуцца, куды рукі падзець. Шура ўсё бегае, мітусіцца, нешта гатуе, перакладае, перабірае. Ледзь толькі яна, Куліна, пачне прасіцца, каб хоць якую працу ёй дала — рукамі махае, крычыць: «Ой сядзі ўжо, мама, я сама!» І так ва ўсім. А калі-нікалі яшчэ гаркне, каб пад нагамі не блыталася ды не замінала. Не са злосці, канешне, гаркне, а так…

Ды во яшчэ — смешна ўспомніць — кладзецца, бывала, спаць і заснуць не можа доўга-доўга. Сны тады сняцца, ціхія, падобныя да старога кіно, і ўсё пра былое: пра бацькоў-нябожчыкаў, пра маладосць, пра вёску… Раніцай вочы расплюшчвае і ляжыць, уцяміць не можа, дзе яна і што з ёй.

Дзіўным, незразумелым падалося Куліне яе цяперашняе жытло: па ваду ці, скажам, да ветру хадзіць не трэба, жывёліны — ніякай! Але цяжэй за ўсё, як высветлілася, было адвыкнуць ад волі, ад прастору. У вёсцы проста: колькі, палічы, двароў, ну і людзі, вядома, толькі ўсё знаёмыя, а далей — лугі, поле, лес… І дзверы ў хаце заўсёды адчыненыя, так што і спыняцца не трэба — прастуй праз хату навылёт. Яно ж, калі падумаць, таксама прастора.

Там яшчэ паветра было шмат, часам аж занадта: летам ходзяць па халоднай хаце цёплыя такія скразнякі, а зімой, калі натоплена да гарачыні, ледзь толькі шчылінка — праз яе ўжо студзіць.

У горадзе зусім інакш. Ды, па праўдзе кажучы, дзе таму прастору ўзяцца, калі людзі не ў хатах жывуць, а ў нейкіх каменных карабах: толькі і ёсць, што аканічкі. Жывуць адзін пад адным і дома амаль не бываюць, хоць бы Шурку ўзяць. Але, канешне, не ёй, не старой бабулі судзіць гэтых гараджан: ім, можа, так і лепей, ім, можа, іншага і не трэба. Сама яна з часам звыклася з незразумелым парадкам, з'явілася абыякавасць, затупілася туга. Бо нашто душу рваць, калі нічога ўжо не зменіш.

Прыходзілі малодшыя ўнукі і прыносілі з сабой той няўлоўны вясёлы настрой, які ўласцівы толькі дзецям. Дзяўчынкі сакаталі нешта прыемнае, неразумнае і заспакаяльнае, што Куліна радавалася і адпачывала з імі ад усіх сваіх хвароб і згрызот. Сустрэчы з унукамі адганялі ўсю пошасць, якая заўжды гняла старую, давіла грудзі, упарта вяртала туды, куды ўжо больш не выпадала вярнуцца.

Што і казаць, цяжка, сорамна жыць вось так, седзячы на карку ў дзяцей, ды ніхто не мог ці не хацеў разумець гэтага. Вось і шаркала, як здань, з кута ў кут, а ўсё болей ляжала. Пакрысе старэчае хворае цела аплыло тлушчам, і сама Куліна стала падобна да жоўтай царкоўнай свечкі, якая ад жару плавіцца і асядае долу, курчыцца, губляе сваю форму і ўрэшце пачынае патроху згасаць…

Даўно яна кінула есці і ўжо з добрую гадзіну клявала носам, незаўважна хілячыся ўбок, да падушкі. Думкі і згадкі ператварыліся ўжо ў трызненне. Куліна важка і бясшумна паваліласяя набок, як валяцца ў пушчы трухлявыя, набрынялыя вільгаццю дрэвы. Гэты несвядомы сонны рух прымусіў старую на імгненне расплюшчыць вочы, але амаль адразу ж яна заснула яшчэ мацней.

…У талерцы засталося на адну лыжку астылай ліпкай кашы. Смалістая кропля мёду не цякла далей па шклянцы, і будзільнік, здавалася, прыцішыў хаду. Святлей, чым было за акном, ужо не магло развіднець…

А палове трэцяй прыйшла Ірышка. Тонкая, русявая, з мяккімі стрыжанымі валасамі, Іра здавалася ласкавай і лёгкай, як парушынка. Куліна вельмі любіла гэта дзяўчо і не зважала на тую асаблівую паблажлівасць, якую ўнучка спакваля, зусім ненаўмысна засвоіла ў адносінах да яе. Неўпрыкметку для сябе самой, Ірынка ставілася да бабкі з адценнем прытоенай грэблівасці, з якім звычайна ставяцца маладыя да тых, каго лічаць вельмі старымі, ледзь не здзяцінелымі. Але Іра была настолькі дабрадушнай і шчырай, што не бачыла ў сваім стаўленні нічога ганебнага. Куліна ж ад душы захаплялася ўнучкай, і гэта захапленне часта асляпляла яе.

Не першы раз яны абедалі разам. Як звычайна, Іра спытала нешта пра здароўе, але, калі старая пачала адказваць, слухала досыць павярхоўна і няўважліва, часам падтаквала. Троху пасядзеўшы, дзяўчына ўскочыла, пачала завіхаца ля пліты, адкрыла кран, падсунула пад ваду талеркі.

Куліна працягвала гаварыць і гаварыла з прыемнасцю, так, як мала з кім гаварыла апошнімі днямі. Яна расказвала пра тое, як ёй баляць ногі, пра сварку з Шурай, пра свае сны… Але шум вады ў рукамыйніку перакрываў ейныя словы, а ўнучка прыбірала са стала і зрэдку ківала сваёй светлай стрыжанай галоўкай.

Пад вечар у замку зашкробся ключ, адчыніліся дзверы — Шура вярнулася.

— Мама? Ці жывая ты? А! — гукнула бадзёрым голасам дачка, стоячы ў расхрыстаным паліто і сцягваючы з нагі бот.

— Куды ж я падзенуся, — слаба азвалася з пакоя старая і цяжка заварушылася на ложку.

— Ну, як ты тут маешся? Прыбягала Ірыша? — пыталася Шурка, заходзячы ў пакой, а на вуснах і ў вачах — усмешка.

— Прыбягала. А што гэта ты так ззяеш, як пятак? — Куліна разглядала сваю Шуру з прытоенай весялосцю ў стомленых заспаных вачах: усё ж радасна, калі дачка ў гуморы.

— А чаго ж мне не ззяць? Дзень надарыўся някепскі, а заўтра — субота!.. Любата, мамка!

— Шэры дзень, слата адна… А ты кажаш някепскі… — нечакана вымавіла старая з засяроджаным, дурнаватым выразам на азызлым твары. Яна думала пра сваё.

— То яно хутка пройдзе. Кажуць, падмарозіць за ноч, — не зразумела Шура. — Я пераапрануся і пойдзем вячэраць.

Пасля гарбаты яны пасядзелі перад тэлевізарам, перакінуліся некалькімі словамі і хутка патушылі святло.

Уначы Куліне снілася вёска.

Вось іх доўгая, адзіная на ўсё селішча вуліца, выбоістая, з жоўценькім пясочкам дарога. Па ёй пыліць вазок: бяжыць буланенькі конь, смешна закідаючы ногі, скачуць па ямінках колы, гаспадар — здаецца, Сцяпан Каральковых, — злёгку трасе лейцамі. Куры з-пад конскіх капытоў кідаюцца на платы, лямантуюць, лапочуць крыламі.

Вазок усё едзе паўз вёску, пагойдваецца, і ўжо як бы не Сцёпка кіруе, а яна сама сціскае ў пальцах лейцы.

Вунь на прызбе бабы сядзяць, гамоняць пра нешта тонкімі, надтрэснутымі галасамі. Вочы прымружылі ад яркага сонца, пазбіралі зморшчынкі на тварах і сядзяць белыя-белыя, накрытыя хусткамі, праводзяць яе хітраватымі, цікаўнымі позіркамі.

А там, далей, двое дзядзькоў, спацелыя, да пояса голыя, кураць у засені грушы: зруб, відаць, для лазні ладкуюць, адпачываюць цяпер.

Трухае конік міма двароў, дзе бегаюць дзеці, рохкаюць свінні, бразгочуць ланцугамі сабакі. Дамкі ўздоўж вуліцы ўсе знаёмыя: каб хто спытаў, дык не задумваючыся б паказала, дзе Васілеўскія жывуць, дзе Пруднікі і Барковічы… Ды што там: па мянушцы б кожнага назвала!

Твараў Куліна не бачыць, але вяскоўцаў пазнае так дакладна, быццам толькі ўчора з імі гаманіла. Нават забылася ў сне, што амаль усе яны даўно ўжо памерлі.

Едзе яна, едзе, і кожны, каго сустракае, з ёй вітаецца, але яна чамусьці не разбірае слоў. Сама спрабуе гаварыць — і ўсё адно як аглухла: свайго голасу не чуе.

Раптам конік заварочвае на нечы двор, і яна ўжо бачыць, што прыехала дадому, хоць іх хата і павінна стаяць крыху далей па вуліцы. Вось выходзіць з хляўка яе Міхал, малады, з чубам. Усмешка ў яго, як у Шуркі: вясёлая, стрыманая, а ў вачах ад яе агеньчыкі. Падыходзіць, гаворыць нешта, толькі Куліна нічога не можа зразумець. І Міхал зусім не чуе яе, адно паўтарае штосьці сваё ды ўсміхаецца, сам светлы такі, як бываюць аблічча на абразах у царкве.

А пасля нешта незразумелае адбылося: ён стаў знікаць некуды і намагаўся яе ўзяць з сабой, але не мог. І твар у яго стаў такі сумны, бляклы, а позірк тужлівы. Ні вёскі не стала, ні людзей — нічога, адна пустэча. Тут з’явіліся аднекуль бацькі, і твары ў іх гэткія ж самыя, як у Міхала — з глыбокімі, самотнымі вачыма. Нічога не кажуць — маўчаць, як скамянелыя, і павольна знікаюць…

Хацела кінуцца да іх, ухапіць — а нельга крануцца з месца, немагчыма зрабіць ані кроку. І яна стаіць, крычыць немым крыкам і з жахам бачыць, як яе пакідаюць адну на голай зямлі маці, бацька, Міхал…

Такая скруха, такі жаль ахапілі Куліну, што яна заплакала ў сне скупымі ды вялікімі, як боб, старэчымі слязьмі…

Прачнулася яна вельмі рана і доўга ляжала ў халоднай шэрані зімовага світання. У цішыні было чутно, як ходзіць будзільнік, як дыхае пад коўдрай Шура. Выпрастаўшы рукі ўздоўж тулава, Куліна глядзела ў столь. Твар яе здаваўся яшчэ больш змарнелым за ноч і меў колер застылага воску.

Гэтым ранкам старая не размаўляла з сабой у думках, а моўчкі ляжала на сваім прадаўленым ложку. Дыхала яна так слаба, што грудзі амаль не ўзнімаліся.

Калі Шура паднялася, паціраючы кастлявыя локці, і зірнула на маці, сэрца ў яе ўпала. Твар дачкі страшэнна скрывіўся, пабляднеў, вусны нервова тарганулiся. Яна рынулася ў закуток, дзе ляжала старая, ухапіла яе руку, пачала мацаць твар. У горле нешта дзіўна булькатала, плечы хадзілі ходырам.

— Мама!.. Мамачка!.. Чуеш, мамка?.. — нарэшце сіпла прашаптала Шурка. Страшна было глядзець на яе калматую, сухую, сагнутую фігуру, поўную трывогі і адчаю. Куліна варухнула бяззубым ротам, уздрыгнулі яе рэдкія вейкі.

— Чаго ты? — хутчэй здагадалася, чым пачула дачка. — Ты не бойся, знемагла я вось нешта…

— Дзякуй Богу! Дзякуй Богу жывая! Ну што з табой, мама? Што?! Ціск?! Сэрца?! — звар'яцелая ад гора і ад радасці крычала Шура, хапаючы матку за рукі, прагна зазіраючы ў вочы.

— Ды не… Знемагла кажу… — толькі і адказала старая.

Праз пятнаццаць хвілін у кватэру ўвайшлі медыкі «хуткай дапамогі». Шура глядзела, як слухаюць маці, як даюць ёй лекі, як апускаецца на падушку яе сівая галава, і кусала сухія вусны. Як у тумане яна нешта падавала, бегала ў кухню за вадой, дапамагала прыўзнімаць старую… Часам Шура да болю, да рознакаляровых кольцаў у вачах нацiскала на павекі, каб зняць прыкрую вільготную павалоку слёз.

Калі яны засталіся сам-насам, і Шура схілілася над матчыным ложкам, Куліна ціха прамовіла:

— Завязіце мяне назад… у вёску… Там буду паміраць.

— Што ты кажаш! Немагчыма! Не даедзеш ты, мама, не вытрываеш! Кінь!

— Вытрываю… Далібог ачуняю, толькі вы завязіце, Шурачка, дочачка, завязіце… — Куліна ўмольна стагнала, сваёй зморшчанай жоўтай рукой шукаючы руку дачкі.

— Нельга туды цяпер, разумееш? — мякка, як дзіцяці, тлумачыла матцы Шура, а ў самой дробна дрыжалі пальцы. — Хата забітая, сырая, нятопленая шэсць год… Зіма ж, люты месяц, мама!..

— Вясной вязіце… — не жадаючы нічога разумець, упарцілася хворая.

…Запалыя вочы, азызлыя шчокі, скрозь у сiняватых жылачках, зямліста-шэрыя, як нежывыя, тонкія вусны…

— Пакуль тая вясна!.. — усклікнула Шура, страціўшы раўнавагу, але адразу ж схамянулся, прагаварыла прымірэнча, пяшчотна: — Ладна. Вясной, калі зможаш, паедзем… Супакойся, мам, спі… Адпачні.

Куліна, здалося, суцешылася гэтым абяцаннем. Яна заплюшчыла прыпухлыя вейкі і заціхла. Шура як магла асцярожна падаткнула пад бакі старой пуховую коўдру, паднялася з рыпучага ложка і на дыбачках выслізнула з пакоя, пайшла на кухню варыць булён. Там яна патэлефанавала Веры і брату і, трымаючы ў пальцах цыгарэту, ад якой віўся струменьчык блакітнага дыму, расказала ім усё. Змоўчала толькі пра матчыну просьбу.

…На канфорцы кіпеў булён, дачка курыла і занепакоена бубнела ў трубку, а за вокнамі ўзяліся марозам лужыны, заінелі чорныя вільготныя галіны дрэў.

Куліна змагалася з хваробай тры тыдні. Не было такога дня, каб яна не спытала ў Шуры, калі ўжо яны едуць. Лес, прастор, жоўта-зялёныя антонаўкі, высокія стагі і рыпучы журавель — усё гэта было ў пакутных начных трызненнях, кароткіх хваравітых снах сівой «гараджанкі».

Вясны Куліна не дачакалася…

*Анатоль ЗЭКАЎ*

# ДАРОГА НА РАДЗІМУ



***Анатоль Зэкаў нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта працаваў у камсамольскіх арганізацыях, карэспандэнтам рэгіянальнай і рэспубліканскай прэсы. Аўтар шматлікіх кніг паэзіі і прозы.***

* * *

Дыхне вясною сакавік,
Аднак, калі па праўдзе,
Вясну страчаць я не прывык
На гарадскім асфальце.
Яна не тая тут зусім,
Як у маленстве даўнім,
Калі скідала снежны грым
І потым уладарна
Ступала на абсяг зямны,
Каб з гурбаў раўчукамі
Журчаць-звінець на ўсе званы
Пра час, што так чакалі!

**УСПАМІН
СА ШКОЛЬНЫХ ГАДОЎ**

Згадаю даўні час,
Калі зімой, ззалеўшы,
Хадзіў я ў шосты клас,
А Пеця, брат, — у першы.

Было, што намяце
За ноч такіх сумётаў,
Ажно не бачна, дзе
Штыкеціны ад плота.

Тарыў я першым шлях,
За мной услед — малеча.
Як быццам на плячах
Я нёс усіх. Дарэчы,

Згадаю даўні час —
Ды дзе настрой вясёлы?
Няма каму ўжо ў нас
Хадзіць сягоння ў школу.

## ГАРАДСКІ РОЗДУМ

Праз майго маленства вёскі —
Гаўлі,
Муравей,
Галы —
Неслі ў вырай пагалоску
Журавы сваім «курлы».
І было ў ім столькі суму,
Што наўрад ці перадам.
Я глядзеў на іх і думаў,
Што вось так ляцеў і сам
Пасля школы з вёскі роднай,
Адчуваючы ў той міг:
Шлях мой будзе незваротны
У адрозненне ад іх.
Хоць вяртацца мне не трэба,
Гарадскім да скону быць,
Ды «курлы» пачую ў небе —
І душа мая шчыміць.

## ДАРОГА НА РАДЗІМУ

Мой цягнік упарта
Цягне свой хатуль:
Пяць гадзін — дахаты,
Пяць гадзін — адтуль.

Кіламетры ніжа,
Кроіць далягляд.
А дахаты — бліжай,
Чымсь адтуль назад.

* * *

Я рыфмаваў «бярозы — слёзы»,
Аднак не каюся зусім,
Бо плачуць і цяпер бярозы
У лесе сонечным маім,

Дзе ўжо не гахаюць сякеры,
Піла-двухручка не шыпіць.
Прагрэс іх лёс перадаверыў
Бензапіле. І стала жыць

Нашмат цяжэй маім бярозам,
Як і астатнім дрэвам спрэс.
Ад бензапіл ідзе пагроза —
І не ўратуеш рыфмай лес.

## У РАКУЦЁЎШЧЫНЕ

Над Максімавай крынічкай
Я вады папіць схілюся —
І паэтава аблічча
Ў ёй убачыцца чамусьці

І пра час той нагадае,
Як Максім аж праз стагоддзе
Вераніку выглядае,
А яна ўсё не прыходзіць.

Колькі скрухі ў тым аблічы!
П'ю ваду, а ў роце сушыць.
Ля Максімавай крынічкі
Мне таксама зараз скрушна.

* * *

Сарвецца з вочапа вядро —
І толькі дзынкне па вадзе,
Як скаланецца ўсё нутро
І ўбок самога павядзе.
Цяпер бяжы, бяры бусак
І пачынай вядро лавіць...

А што я пра вядро, аднак?
Жыццё б на дно не апусціць!

* * *

Не зарабляюць вершамі на хлеб,
Ужо не кажучы пра масла.
Чаму ж спускаюся, бы ў склеп,
За словам тым я, што не згасла?

Чаму ізноў ні дня пражыць
Я не магу, каб не натхніцца
І слова выбавіць з душы,
Што ў вершы потым заіскрыцца?

Чаму патрэбаю з патрэб
Мне стала ціхае вар'яцтва,
Калі ўжо слова — больш, чым хлеб,
І страшна без яго застацца?..

Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# ЛЕГЕНДА ПРА ШЫПШЫНУ

*Міфалагічнае апавяданне*



**Ганна Навасельцава нарадзілася 11 мая 1983 года ў Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. Машэрава, аспірантуру пры гэтым універсітэце. Працуе выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры ВДУ. Друкавалася ў абласных і рэспубліканскіх выданнях.**

***Цягнецца дзіця да кветкі шыпшыны, прыгожай і яснай, нібы тое сонца. Цягнецца малое, хоча сарваць. Такія чароўныя пялёсткі. Такая чалавечая цеплыня кветкі. Усе мы, пакуль не адышлі далёка ад пачатку свайго, чуйныя да святла і сонца. Да ўсмешкі шыпшыны, якой паклікана высокае сонца.***

***Ведаеш, ведаеш легенду пра шыпшыну, маленькі чарадзей. Цяпер у свеце няма нікога, хто б не чуў яе. Толькі не ведаеш ты ўсёй праўды, бо не ўся праўда захавалася ў легендзе. Толькі ж не можаш ты зразумець, як маленькая цудадзейная кветка магла паклікаць гэткае вялікае сонца…***

***«Не рві, не ламай шыпшыны», — прамаўляю ціхім подыхам ветрыка.***

***Палохаецца малое, адмаўляецца ад сваёй задумы. Уцякае прэч ад такой зманлівай, такой агністай… Ведае, хто я, нязменны вартаўнік прыгожага шыпшынавага сонейка. Я той, пра каго гаворыцца ў легендзе.***

***І толькі я, адзіны ў свеце, ведаю, што нічога яшчэ не скончана. Бо не можа так заўчасна скончыцца каханне. Як не можа так заўчасна скончыцца і надзея. Не дапусцяць такога чары. Не дазволіць такога свет…***

***Толькі… Усміхаецца зноў шыпшына, адгукаецца ёй сонца гарачым промнем. І падае долу з шыпшынавай кветкі маленькая расінка. Ціха падае. Ніхто не ўчуе яе жалобнага звону, які ляціць над зямлёй і лёгенька ўскалыхвае свет. Ніхто не ўчуе, ніхто не адгукнецца… А я чую, я, чарадзей, які прыходзіць у жалобны час. Лёгка кранае расінка мае павекі. І я вітаю цябе, светлая чараўніца. Мы не разыдземся з перакрыжаванняў нашых шляхоў. Нам не адзінока… Толькі нам дваім у вялікім свеце.***

***Падае расінка долу, нібы сляза, нібы ясная знічказіхотка. Ты не верыш мне, ты ўсё яшчэ змагаешся… І я змагаюся. Толькі змагаюся не з табою. Цяжка змагацца, цяжка памятаць, цяжка верыць…***

***«Як за морам ды за акіянам, ды за востравам за Буянам…» спачывае памяць доўгая, памяць чарадзейная. «Трыма ростанямі ідзі, на высокія зоры глядзі,***

***Дзіву змрочнаму пакланіся…» прачніся памяць, прачніся. І прачынаецца змрочны Дзіў, які памятае ўсё цёмнае і трывожнае, што здарылася ў свеце ад яго пачатку. Прачынаецца несмяротны сын Сусветны…***

***І ляціць над светам да мяне ягоны голас:***

***— Спадзяешся, думаеш пра каханне, чарадзей? Калі ж спаліць цябе дарэшты шыпшанавае сонца?***

***Малю цябе, цёмная ноч, малю цябе, яснае сонца, каб спраўджанае няспраўджаным зрабілася. Малюся пра цябе, светлая чараўніца. Смуткуе ды шукае цябе ў свеце белы воўк, плачуць пра цябе тужлівыя хмаркі. Не супакоіцца самотны ветах, ідзе па тваіх слядах, гневаюцца імклівыя вятры, нясуць над зямлей твае чары. Толькі ж хіба можна спраўджанае зрабіць няспраўджаным?..***

Адгукаешся мне, змрочны Дзіў. Ты заўсёды азываешся тады, калі нехта, надзелены чарамі, губляе пэўнасць у гэтым вялікім свеце. Ты — ягоная памяць, памяць усяго, што адбылося, еднасць усяго, што магло адбыцца. Страчаныя і неспазнаныя чары. Ты — апошні, хто можа спраўджанае зрабіць няспраўджаным, хто можа ўсё вярнуць.

— І навошта вы сустрэліся, чарадзей? Няхай бы вы ніколі не сустракаліся. Няхай бы ніколі не ўведаў свет адной-адзінай легенды… Ты просіш вяртання, ты просіш памяці, але ты не гатовы. Не цяпер, чарадзей ночы.

— Я прашу пра гэта, Дзіў. Ты адзіны можаш зразумець, што значыць ведаць пачатак і стаць легендай. Кожную хвіліну вялікай вечнасці памятаць. І шкадаваць. Мне пякучым стала сонца. Мне цёмнай стала ноч.

— Самотна, скрушна. Але воля твая, смяротны.

Пасылае свае чары змрочны Дзіў, і я ўспамінаю. Усё, што было са мною, усё, што было не са мною.

…Усміхаешся мне, ласкавая цёмная ноч. Я адзіны з чарадзеяў, хто рады вітаць тваю вечную ўсмешку. Я адзіны, каго ты прызнала сваім. З гонарам нясу твае чары, таямнічая, страшная, непрадказальная. Хаваецца ад цябе сонца, хаваецца ад цябе белы свет. Баяцца людзі і маленькія светлыя птушкі твайго невыноснага змроку. Людзі і птушкі. Птушкі і людзі. Сполахам поўняцца замшэлыя хаціны, дзе ў трывозе чакаюць новага світання. Трасуцца кволыя гнёзды, спавітыя ў высокіх галінах дрэў, каб хоць так быць бліжэй да сонца. Яны ніколі не зразумеюць цябе, цёмная… Не карай іх, палахлівых. Яны слабыя для тваёй велічы. Даруй і не гневайся…

«Я не гневаюся на іх, чарадзей, — русальчыным рэхам адгукаецца мне ноч. — Навошта ж мне гневацца, калі ты ёсць у мяне».

Ёсць. У тваіх чарах мне азываюцца неба і зямля. Пад тваімі зіхоткімі зорамі я адчуваю сябе магутным і вечным. У імя тваё пасылаю чары ў свет. А што яшчэ трэба чарадзею? Чары, упэўненасць і еднасць. Усё тое, што ты падаравала мне. Шчаслівым смехам вітаюць мяне русалкі ад цёмных вод, ад далёкіх лясоў.

Лёгка маім чарам уночы. Разганяю прагныя чорныя хмары. Не, ты не будзеш уладарыць ноччу, Чарнабог, пакуль я — чарадзей. І за тое ўдзячна паглядае на мяне самотны ветах. Выплывае над светам са сваёй заўсёднай тугой.

Маёй воляй імчыць праз замець асенніх лістоў белы воўк. Што за вестку нясеш мне, драпежны? Шэпчуць нешта незразумелае пажоўклыя лісты. Якую чарадзейную таямніцу адкрыеш мне цяпер, цёмная ноч… Пра што спытаеш, дзе выпрабуеш? Бліскае самотны ветах наперадзе, перабягае яму шлях белы воўк. І пакрыўджана пыхкае зыркі ветах:

— Як можаш ты, малодшы, шлях мне, вялікаму ды слаўнаму, перабягаць?

— А не хадзі, вялікі ды слаўны, па маіх шляхах, — адказвае маімі словамі белы.

— Буду хадзіці, — не паддаецца ветах, — буду хадзіці першым…

І адбіваецца ў жоўтых ваўчыных вачах. Плыве праз шэрань лясоў, праз халодную смугу, вечны ягоны сябра, вечны сапернік. Цепае вачыма белы, і адкрываюцца ў іх заснежаныя палі ды глыбокія яры, лесуновы бязгучны шэпт пра далёкія далі… Лясы. Поўня. Радасны зорны змрок над вялікім светам.

— Пайшлі са мной, чарадзей. Вось-вось адкрыецца той закляты скарб… І ты нарэшце зможаш ім авалодаць.

Чаканую вестку прынёс ты мне, белы. Даўно я хацеў скарб той адкрыць. Толькі не пускала мяне невядомае старое закляцце, што схову тую берагло. Значыць, шлях праз яе ты знайшоў. Пайшлі, драпежны.

— Ідзіце-ідзіце, — азываецца нам цёмная ноч. — Знайдзіце-адшукайце…

Смяецца таемным русальчыным пошчыкам. І толькі я адзіны чую, што ўсплылі з віроў вадзянікі, трывожна заварушыліся лесуны, ускалыхнуліся ростані трох дарог, чакаючы сабе ахвяры. Цёмная ноч, рыпіш ты старымі вярбінамі цяжка, змрочна, нібы кагосьці шкадуеш… Каго?.. Чаго?.. Кароткі шлях з табою, белы, хутка імчыш праз ноч...

— **Х**то закляў той скарб, Дзіў? Скажы мне, мудры, хто ж стварыў яго?

— Стварыў яго літасцівы Сварог, ды сыны яго легкадумныя скарб той страшнай кляцьбой зачаравалі. А ты знайшоў іх скарб, чарадзей.

— Знайшоў. Не мелася там ані еднасці, ані чараў. І як жа тады было мне прадбачыць, што станецца цемра навечна заклята…ісці да сонца, вятроў і хмар. Ды і не гэта мне страшна. Будзе вечна пакутаваць той, да каго пацягнуцца ноч, ветах і воўк.

…**З**нікае ў карагодзе асенніх лістоў лясная сцяжынка, барвовая, мяккая. І хочацца бегчы па ёй, не зважаць на голыя самотныя дрэвы, праз галіны якіх сочыць за табой халодны ветах. Прыцішаны, насцярожаны. Такія лёгкія і светлыя, лятуць асеннія лісты. Чым не маленькія зямныя зоркі?.. Ціха, сцюдзёна. Пайсці па сцяжынцы і не азірацца, пайсці за святлом самотнага ветаха. Хуткія крокі трывожаць шоргатам асенні спакой, такі велічны, адвечны. І тады здаецца, што шэпча табе ярка-барвяны зорны кляновы ліст: «Не хадзі за ветахам, чараўніца, не хадзі, не глядзі». «Што ты ведаеш пра мяне, каб такое казаць, кляновы? Хіба ты чуеш, як кліча дзіўны ветах… Не магу чакаць…» І адказвае зорны лісцік: «Ляцеў я здалёку. Шумеў ля старэнькай хаціны клён, глядзеў у яе вокны тры стагоддзі. Бачыў і радасць, і горыч. Чакаў, пакуль будзе жыць там маленькая дзяўчынка… Узіраўся ў яе вочы, трымаў яе гушкалку на сваёй галіне. І няма нічога, чаго б я не ведаў пра яе». Пайсці, пайсці і не азірацца. Самотны ветах наперадзе. Тонкая рабіна побач. Падае пад ногі чырвоная гронка рабіны, і коцяцца спелыя ягады. І, здаецца, штосьці шэпчуць: «Не хадзі за ветахам, чараўніца, не хадзі, не глядзі. Не азывайся цёмным чарам». «Якія цёмныя чары? Светлы ветах наперадзе. Навошта дарма палохаеш мяне, рабіна-рабінка?» «Не цябе палохаю, сама баюся. Памятаеш рабіну, што расла непадалёк ад твайго дому? Захінала маленькую дзяўчынку ад начніц і крыксаў[1]…

[1] Хваробатворныя духі, ад якіх пакутуюць дзеці.

Гэта сястра мая. Паслухайся нас, не хадзі…» Навошта словы такія, калі так хораша ісці, ісці і не азірацца. Такое прыгожае ветахава святло, такая іскрыстая лясная сцяжынка. І ляціць, нібы чарадзейны звон, падае ў рукі зусім зялёны дубовы лісточак. Лёгкі і моцны. Адкуль жа ты, лісточак? Няма дубоў на гэтай сцяжынцы. І нібы чуецца ў адказ: «Лячу я здалёку. Ад бацькі-дуба, што стаіць на высокім узгорку за тваёй хацінай. Паслухайся, не вер ветаху, не хадзі за ім. Вяртайся назад…» Навошта ты ляцеў так далёка, зялёны дубовы лісточак, каб сказаць мне, што нельга верыць і чараваць… «Не магу я спыніцца, зялёны дубовы лісток. Не магу, калі шэпчуць пра нешта таемнае кляновыя зоры, калі падаюць такія спакусныя рабінавыя гронкі і калі ты кажаш такое, мудры і стары, як свет». І адказвае чараўніцы дубовы ліст: «Сем стагоддзяў глядзеў я на свет, упіраўся кронай у неба, а каранямі ў зямлю. Гайдалася ў маіх галінах сонца, вісеў на іх самотны ветах. Бачыў я ўсё, што мінулася, ведаю ўсё, што будзе… Надыдзе вялікае свята, што здараецца аднойчы ў сонцаварот. І будзе расці ў свеце цудадзейнае зернейка, самае лепшае на зямлі. І пачуюць тады твой голас птушкі, звяры і расліны. Будуць яны цешыцца, бесклапотныя. І абудзіцца ў людзях вялікая спагада і дабрыня. Не хадзі ж за ветахам, чараўніца. Паслухайся ж, не хадзі». Падае з рук дубовы ліст. Такая мяккая асенняя сцяжынка. Амаль нячутныя крокі…

— Не бойся мяне, харошая, светлая, — шэпча мне цёмная ночка. — Чакала цябе, смяротную, чыёй воляй зможа расці ды мацнець цудадзейнае зернейка. Для цябе гэты дарунак Сварогаў. Толькі дарунак той закляты…

— Як можна закляцце тое зняць, цёмная ночка?

— Заўладае гэтым скарбам свет праз сэрца чыстае ды спагадлівае, і не будзе ў свеце чараў мацнешных… Толькі той, хто ўчыніць такое, страціць свой лёс. Назаўсёды страціць.

— Дзе ж схавана цудадзейнае зернейка, цёмная ночка?

— Схавана яно ні блізка ні далёка. Той, каго прызнала я сваім, шлях адшукаў… І цябе тым шляхам павяду.

— Што ж, мне ісці тым шляхам, цёмная ночка. Адзавіся мне, сонейка яснае. Памажы ў цёмнай ночы. Вятры імклівыя, хмаркі тужлівыя, пачуйце слова маё…

*Я не веру ў цёмную ночку, не веру ў самотны ветах. Я не веру беламу драпежнаму ваўку. Яны знікаюць, нібы туман на золку, уцякаюць ад яснага сонейка. Знікае вялікі чароўны свет, і застаецца толькі ява. Самотная, як зманлівыя шэрыя хмары. Скрушная. Куды ж плывяце вы, тужлівыя хмаркі? Куды ідзеш ты, вялікі свет…*

*Снуюць праз свет людскія думкі, снуюць, бясконцыя, бы тыя хмаркі ў небе. Толькі не знікаюць думкі, а застаюцца, гатовыя запісацца радочкамі ў вялікі Сусвет жыцця, дзе кожнае слова, кожная справа застанецца. Добрая, харошая. Такі ён, Сусвет, што ўсё найлепшае памятае. Памятае і памятаць будзе справы асілка Гарыні, пра якога ходзяць показкі і ў свеце людскім, і ў свеце чарадзейным. Гавораць, гавораць рознае… Што вандруе ён па свеце, ходзіць таемна, з'яўляецца ўсюды, дзе яго чакаюць. Не надзелены чарамі асілак Гарыня. Чужы ён чарадзейнаму свету. Толькі ўсюды, дзе б той не з'явіўся, абуджаецца ў людскіх сэрцах, бы насланая наймагутнейшымі чарамі, чуласць і спагада. Дзівяцца з гэтага самыя дасведчаныя чарадзеі, не могуць спасцігнуць такога закляцця…*

*І я не магу. Не магу стварыць сваімі чарамі вечнай дабрыні і міласэрнасці. Толькі прасіла я цёмную ночку, каб была яна літасцівай, толькі прасіла белы дзень, каб не злаваў ён на змрочную сваю сястрыцу. «Чаму ніколі не замірыцеся вы?» — спытала ў іх. «Не замірымся, — адказалі яны, — бо ніводны з чарадзеяў яшчэ не*

*стварыў такіх чараў». «Я ствараю. Я пасылаю ўсю сваю магію ў свет. Прашу, каб стаў вялікі свет спакойнай калыскай, лёгкай ды шчаслівай». Усміхнуўся мне белы дзень, змрочна прамаўчала цёмная ноч, толькі паляцелі ў свет мае чары… Светлыя чары ў цёмнай ночы…*

*Я не веру ў цёмную ночку, у самотны ветах. Я веру светламу сонцу, што беражэ гэты свет сваім добрым цяплом. Я веру імклівым вятрам, што разганяюць тужлівыя хмаркі-насланні, якія засцілі свет. Я веру мудрым дрэвам, высокім і моцным, на якія трэба глядзець, ловячы ясны сонечны позірк, патанаючы думкай у сіняй нябеснай кроне, вялікай, як свет. Адвечныя вятры жывуць у іхніх галінах, спяваюць песні, у якіх славяць жыццё. Мудрыя дрэвы памятаюць людзей, што дакраналіся іхніх магутных сцвалоў. Пайшла ў іх высокія галіны тая радасць і той боль, якія былі з чалавекам. І я веру ў добрага асілка Гарыню, які ходзіць па свеце дзеля людзей. У моцныя галіны пойдзе тая дабрыня…*

*І я не веру, што спраўджанае можа стацца няспраўджаным. Я не веру…*

*— Чаму ты не верыш у магутнасць чараў, светлая чараўніца? — шэпчуць мудрыя дрэвы.*

*Я веру ў свет. Я веру свету. Заплакалі нада мной тужлівыя хмаркі, прасілі, каб адмяніла я свае чары.*

*— Чаму ж не паслухала ты іх? — шэпчуць мудрыя дрэвы.*

Не адкрылася цудадзейнае зернейка таму, хто прыходзіць з цемры. Хоць і шляхам пакручасным ён ішоў, хоць і веў яго белы воўк, і плыў над ім самотны ветах. Толькі мне яно адкрылася… Створаны мною светлыя чары ў цёмнай ночы…

Засмяялася русальчаным смехам цёмная ночка ды незразумела сказала, што ратуе мяне, калі прыйдзе час. Адно спытаўся яе цёмны абраннік, навошта я так учыніла.

Не цёмная самая страшная ноч, пакуль ён ідзе праз змрок ды цемру. Не баюся ані самотнага ветаха, ані драпежнага ваўка, бо слухаюцца яны слова яго. І мы абодва валадарым над сонцам, над ноччу, старымі, як гэты свет.

— Старэйшымі за гэты свет. Толькі ты, чараўніца, хочаш уладарыць над сонцам, а я іду поруч з ноччу і ведаю гэта. Навошта сваімі светлымі чарамі ў цёмнай ночы лад вялікі, адвечны парушыла?

Каб жа ён разумеў мяне… Не хацела я ладу парушаць, дрэвы мудрыя, высокія расчароўваць. Не мне, смяротнай, з імі раўняцца. Толькі страшна мне пазбавіць свет дарунка добрага, дарунка чарадзейнага. За светлыя чары ў змроку прабачыць сонейка, прабачыць і ночка. А ты, чарадзей, ці прабачыш?

— **П**ытаецца светлая, якая ніколі не спазнала цяжару ад змроку, моцы ад гневу, ці прабачу я яе. Пытаецца і не ведае, што раіць мне ноч яе запалохаць і скарб, які яе чарам адкрыўся, забраць. Спадзяецца на Сварогаў дарунак і не ведае, што шэпча мне самотны ветах заўладаць скарбам, які належыць мне па праве… Не можа і здагадацца, пра што вые мне белы воўк.

Толькі… маўчу, нічога не раблю. Ведаю, што не адступіцца ад волі сваёй цёмная ноч. І ветах. І ты, воўк белы, драпежны. Прыспешваеш мяне сваім выццём. Няўжо і я не адступлюся з вамі? Я не паслухаю цябе. Я не паслухаю ўсіх вас. Не паслухаю адзіны раз…

І цяпер, праз час, я адчуваю тваю волю, цёмная ноч. Толькі не магу я знайсці адказу. Адгукніся мне, Дзіў. Дапамажы зразумець…

— Не адмяніла сваіх чараў тая, якая верыла ў свет. Не вярнуў гэтых чараў ты, адзіны, хто мог так зрабіць. І хто павінен быў так зрабіць, бо ў гэты свет не

верыў. Што ж, нездарма скрыўдзіліся ноч, ветах і белы воўк, — прамаўляе мне змрочны Дзіў.

А я бачу ў замеці жоўтых тужлівых лістоў цябе, светлая чараўніца. Пайшла ты ў няблізкі вялікі свет… Не змог я змагацца з табою. Позірк твой, светлы, харошы, забыць не магу. Нагадаюць пра цябе ноч, ветах і воўк, якія чуйна слухаюць слова маё.

І цяпер, як і тады, пра нешта выеш, белы воўк, пра некага плачаш… Я памятаю, што некалі, даўно-даўно, ты мне адказаў…

«Пра цябе і пра яе, чарадзей начны, дзіўны-непрадказальны… Вось і пачалася ваша легенда…»

* * *

**К**рычыць уночы Дзіў, адкрывае мне памяць. Смяецца з мяне здзекліва, кпліва, зусім не так, як смяялася ты, цёмная ноч. І чуецца ў ягоным голасе дакор: маўляў, літасцівыя ноч, ветах і воўк да свайго абранніка, толькі як ты мог забыць пра іх волю. Як мог спадзявацца, што будзеш мудрэйшым за іх…

— А чаго ж ты хацеў, чарадзей? Зрушыла светлая чараўніца адвечны лад.

Я ведаю гэта, Дзіў. І ўсё ж не магу паверыць, што маглі яны ўчыніць такое. Памятаю, як мовіла мне ноч, што слухаюцца яе магутныя багі, слухаюцца не так, як смяротныя. Памятаю, як загарнуўся ветах у чорныя хмары, пакрыўджаны маёй пагардай. Памятаю, што знік ты некуды, белы воўк. Дзе ж ты быў? Я і цяпер не ведаю…

Памятаю. Ты адкрываеш мне памяць, Дзіў. І зноў, як быццам гэта здарылася імгненне таму, чую, што бязгучна ляціць над светам слова вялікага Сварога. І зноў, як бы нічога не мінулася, нічога не прайшло, думаю я, верны чарадзей ночы, пра тое, чаму ж, вялікі Сварог, ледзьве чутна слова твае…

*…Парушыўся адвечны лад. Толькі нездарма так учынілася. Светлымі чарамі ў цёмнай ночы абуджана незвычайнае зернейка. І будзе расці зернейка, дзіўнае, цудадзейнае. Будзе расці дзеля людзей. Не будзе ў быцці такога сэрца, якога не здолее яно прасвятліць, падараваць дабрыню і спагаду. Беражыце яго, багі, дзеля зямлі…*

Гаворыць Сварог пра тую радасць, якую падорыць зернейка людзям, пра добрае і харошае, што зробяць тыя, сэрцаў якіх дакранецца цудадзейнае зернейка. А ў цёмным небе, над цёмнай зямлёй расквітнелі перуновыя кветкі — агністыя маланкі. Шмат агністых кветак…

І адказвае Пярун Сварогу:

— Чароўнае зернейка буду берагчы заўсёды як найвялікшы, найжаданейшы дарунак. Аддам яго лепшаму з людзей, чыё сэрца чыстае, чыя душа жывая, каб расквітнеў нябачаны раней цуд у людскім свеце. І тады добрым і прыгожым зробіцца людскі свет. Стане такім, якім яшчэ не быў ніколі-ніколі. Знікнуць, як быццам іх не было, пакуты, і горыч, расчараванне і ўсё, ад чаго мы, несмяротныя, хацелі б выратаваць людзей.

— Мы не можам выратаваць іх ад усяго. Будзь асцярожны са сваімі жаданнямі, брат. І ці не пра лепшага чарадзея гаворыш ты? — пытаецца заклапочаны Вялес.

— Не! — гнеўна-грукатліва кідае Пярун. — Ні адзін з чарадзеяў не будзе аберагаць зернейка. Ніколі.

— Падумай, брат, — спакойна і разважліва працягвае Вялес, — як зможа захаваць смяротны, які не ведае чараў, цудадзейнае зернейка. Як зможа такое зрабіць?

— Зможа. І зробіць, — па-ранейшаму гнеўна доводзіць сваё Пярун, — пакуль ёсць у сэрцы чалавечнасць. А яна ёсць заўсёды. Я ведаю. Я бачыў яе там, дзе б, думалася, яе быць не можа. Мы занадта верылі ў чарадзеяў. Занадта доўга.

— Мы зрабілі шмат памылак, толькі ці не чарадзеі сталі адкупіцелямі многіх з іх… І што ж станецца са светам, калі мы з усёй утрапёнасцю паверым у слабога чалавека?

— Маўчы, Вялес. Што ты ведаеш пра яго, слабога чалавека?

— Я ведаю, як цяжка ўрабляць яму зямлю. Як пакутліва жне ён спрадвечныя каласы, поячы іх сваімі тужлівымі песнямі, росячы іх сваім салёным потам. Як мінае час, і забывае ён пра зжатыя каласы. Змаўкаюць і губляюцца песні, складзеныя ад усёй душы, ад шчырага сэрца. Ён забывае ўсё… Бяздумна ідзе праз сваё жыццё, адно пакутуючы і шкадуючы. Павер жа, мой упэўнены брат, што гэта слабасць. Што чарадзей мацнейшы хаця б таму, што ніколі і не думаў скарыцца свайму лёсу…

— Я таксама ведаю яго, брат. Ведаю, як можа ён берагчы і абараняць тое, у што верыць. Яго, моцнага ў верным змаганні, немагчыма спыніць. Амаль немагчыма здабыць над ім перамогу, хай сабе і магутнай бессмяротнай зброяй. І ён не адмаўляецца ад свайго змагання, не адмаўляецца ніколі-ніколі. Нават калі бачыць, што ёсць сіла стакроць мацнейшая за ягоную, калі ягоная сіла патрабуе кроўнай прысягі, а разам з прысягай і жыцця. І нават тады ён не здраджвае, не падманвае. І нават паміраючы, ён не здаецца. Скажы мне, мой недаверлівы брат, што можа стаць мацнейшым за такое?

— Расчараванне. Страты і горыч, пакуты і адчай, што поўняць яго смяротнае сэрца так часта, як ідуць восенню дажджы. Ты не ездзіш у гэтакі час на сваёй грымотнай калясніцы і не бачыш, мой ваяўнічы брат, як гэты, кім ты так захапляўся, адмаўляецца ад барацьбы, веры, памяці — ад усяго таго, за што ўтрапёна змагаўся. Ты гаворыш так, бо ніколі не бачыў прыкрага раўнадушша, ад якога хочацца заплакаць самотнымі слязьмі.

— Што ж, паплач, мой слабы брат. Ты заўсёды быў слабым…

— Павер, грозны ваяр, што я не слабейшы за цябе.

— А чым спраўдзіш словы свае?

…Смяецца з мяне Дзіў, адкрывае раней неспазнанае. А мне здаецца, што перажываю я пачуцці твае, светлая чараўніца. Робіцца мне невыносна цяжка, так, як табе ў цёмнай ночы… Не вытрымаць позірк несмяротнага. Уладара нябеснага агню. Уладара агністай маланкі. Вялікіх агністых кветак. Што вам хмары, што вам бясхмар’е, агністыя кветкі… Вы ж ніколі не шукалі ў небе ласкавых сонечных промняў. Вы ж ніколі не чакалі подыху імклівых вятроў. А позірк несмяротнага такі харошы, добры… Няўжо гэта ты, грамаўнічны?

— Няўжо гэта ты, вялікі Грамаўнік? — прамаўляе здзіўлены Вялес. — Няўжо гэта тваё нялітасцівае і халоднае сэрца зрабіла добрым цудадзейнае зернейка… Не бачыў я большага цуда, не чуў я пра вялікшае дзіва. Не было такога на зямлі.

— Не было такога на зямлі, мой мудры брат. Веру і не веру я сам у гэты цуд, у гэтае дзіва. Толькі з гэтай часіны і да скону дзён буду я берагчы добрае цудадзейнае зернейка.

— Так, мой суровы брат. З ім ты адчуваеш сябе амаль чалавекам?

— Не гавары таго, чаго не разумееш, Вялес. Я буду берагчы цудадзейнае зернейка так, як ні бярог аніхто на свеце. Дзеля гэтага свету і дзеля людзей я аддам цудадзейнае зернейка лепшаму чалавеку…

— Не рабі такога, брат мой, прашу цябе.

— Я аддам цудадзейнае зернейка лепшаму чалавеку, які пойдзе падарожнічаць

па свеце. І будзе прыходзіць ён да людзей, і будуць тыя дзівіцца ягоным словам і справам… Але будзе абуджацца ў іхніх сэрцах дабрыня…

— Дзеля свету і людзей, што ж ты робіш, брат мой…

— Дзеля свету і людзей я гэта раблю, малодшы брат. Чарамі неба заклінаю…

— Чары зямлі, не папусціце такога. Чары свету, да вас звяртаюся…

— Чары свету, вам загадваю. Гэтага неслухмянага пакарайце.

— За што, брат мой?

За што ты так, грамаўнічны… Навошта цаляеш маланкай у свайго брата? Навошта адкрываеш мне такое, Дзіў… «На тое, што доўгімі, доўгімі стагоддзямі прыходзіў да мяне белы воўк. Мы з ім старэйшыя за Перуна ды Вялеса. Бачылі мы, як раслі Сварогавы сыны. І вучылі іх, вучылі мудрасці і цярпенню. Толькі ніколі не жылі сыны Сварогавы мірна. Пакутваў ад іх свет… Што ж, чарадзей, і багі памыляюцца». Паліла мяне сонца, гналі імклівыя вятры, пакрыўджана глядзелі самотныя хмары на мяне, начнога, дзіўнага-непрадказальнага. І казалі яны, казалі табе, чараўніца, і цэламу свету…

*Нашто не паслухалася, чараўніца? Навошта пайшла за ветахам, навошта ўглядалася ў ягоны страшны твар? Чаму не пачула кляновага ліста? Прасіў ён цябе… Чаму адвярнулася ад гронкі рабіны? Берагла яна цябе… Чаму выпусціла з рук дубовы лісточак? Захінаў ён цябе. Пайшла па мяккай асенняй сцяжынцы, ціха, бязгучна. І ніхто цяпер не пачуе цябе. Не памёр мудры Вялес, не можа памерці той, каму няма смерці. Не адступіўся ад сваёй волі. Закляў цудадзейнае зернейка. Закляў яго і Пярун, забараніў набліжацца да яго любому з чарадзейнага роду. І сталася пракляццем вялікае слова багоў… Толькі хто пра гэта дазнаецца, хто пра гэта пачуе?..*

Я дазнаўся, я пачуў. Сталася пракляццем вялікае слова багоў для любога з чарадзейнага роду. Праклянцце назаўсёды страціць свае чары, калі адшукае чарадзей незвычайнае зернейка. Толькі як можна адшукаць вечную міласэрнасць, спагаду ды дабрыню? Смяешся з мяне, Дзіў. Здзекуешся злосна.

«Не, не смяюся, — шле мне свой адказ вешчы. Ціха, самотна. — Яна адшукала…»

* * *

**«П**амяць тваю адкрываю, а сэрца тваё адкрыць не змагу, — мовіць мне цяпер вешчы. — Не ноч, не ветах і не воўк уладараць тваім сэрцам. Толькі адзін ты ім уладарыш». Ці адзін, мудры Дзіў… Не вольны смяротны ў сваіх жаданнях, не можа загадаць ён свайму сэрцу. «А ці можа смяротны загадаць свету сваё жаданне? Ці можаш гэта ты, чарадзей?» Толькі ты, вялікі сын Сусветны, пра гэта скажаш… А я, смяротны, упэўнены, што свет не дае нам таго, чаго мы жадаем. «Але дае тое, што нам трэба. Чарадзей, яна думала не так». Не так… Яна верыла свету. «А ты, дзіўны ў свеце чарадзейным, непрадказальны ў свеце людскім, калі-небудзь зможаш паверыць хоць у адзін з іх?»

— Я ўсё яшчэ веру ў ноч, вешчы. Толькі ў яе магутнасць і яе міласэрнасць.

— Гэта твая цёмная ноч не выпускала чараўніцу з багны. Ці памятаеш?

Я памятаю… Я тады ўратаваў цябе, светлая.

— Што ж, памятай, — расчаравана ўздыхае Дзіў, — але ведай, чарадзей, што тады ты памыляўся.

І адкрываецца мая бясконцая памяць…

**…Ц**і доўгі, ці кароткі гэты шлях, сонца, вятры і хмаркі, таго я не ведаю. Згубіўся некуды час, і я ў часе, і ўся-ўся зямля…

Па балоце, па багне так цяжка ісці. Не бачна мне дарогі, не бачна ратавання. Толькі адны рапухі скачуць па купінах ды пазіраюць пыхліва, лыпаюць вялізнымі вачыма. Куды вы завялі мяне, сонейка, вятры і шэрыя хмаркі? Не праб'ецца праз начны змрок сонечны прамень. Не насмеляцца парушыць балотную ціш хуткія вятры. Толькі хмаркі, што спавіваюць балота сваёй шэранню, мглістымі дажджынкамі шэпчуць мне: «Знайдзі лілеі, чараўніца. Сарві лілеі, чараўніца. Знайдзі, сарві. Яны ведаюць шлях…» Шукаю лілеі. Шукаю. Шукаю.

Знайшла празрыстыя, халодныя, нібы ветахаў твар. Стала іх зрываць. Адчулі тое ўсюдыісныя балотныя русаліцы. Сабраліся і плачуць: «Прыгажосць нашу нішчыш». А я русаліцам адказваю: «Не хачу вас крыўдзіць, русалкі-русаліцы. Не хачу прыгажосць вашую нішчыць. Хачу адно шлях адсюль знайсці… А за тое, што кветкі вашыя сарвала, стануць усе-ўсе лілеі ў вашым балоце іскрыстымі, бы сонечныя праменьчыкі». Сарвала лілею ды прамовіла чарадзейнае слова. Засвяцілася мая лілея як сапраўдны сонечны прамень. А за ёю — усе лілеі на гэтай багне.

Засвяцілася ўсё вялікае балота так, што, здавалася, пачынае ўжо днець. Вылез перапалоханы балотнік, не пазнаў свайго валадарства. Весела заўсміхаліся русаліцы. Сказалі прыязна:

— Зрабіла ты нашае жытло прыгожым, светлым. Заставайся з намі.

— Не магу я застацца з вамі, русалкі-русаліцы. Не маё гэта жытло…

— А дзе ж тваё жытло, чараўніца? — спыталі русаліцы зладжана. — Страціла ты яго, страціла. Страціла...

— Чаму жывяце вы ў балоце? Дзе вашае возера? Дзе вашыя жыты, у якіх так хораша вам у росах купацца? Дзе вашыя дрэвы, на галінах якіх так люба вам гушкацца?

З тугой ды жальбой адказалі мне русалкі:

— Было ў нас возера, чараўніца, было. Сіняе, ласкавае, чыстае. Весела бегалі мы па зялёных жытах, гушкаліся на мяккіх вярбовых галінах. Казыталі, зманьвалі, прыўлашчвалі… Пакуль аднойчы не прыйшлі вялікія светлыя чары. Людская міласэрнасць і спагада не мела літасці да нас… Страцілі мы і возера, і жыты, і дрэвы…

— Ды няўжо праз тое светлае начное чараўніцтва?

— Праз тое, праз невядомую нам чараўніцу страцілі. О, каб жа ведалі мы, хто тая, якая зрабіла нас балацянкамі, заказыталі б яе. Толькі не ведаем мы таго…

— Ці не можна як ператварыць балота ў возера?

— Каб адмянілася тое чараўніцтва, вярнулі б мы сваё валадарства, толькі не адмянілася яно. Ты ж балота нашае сумнае прыгожым зрабіла. Не можам мы табе падказаць, не можам дапамагчы. Толькі прадказваем мы, што чарадзей адзін, дзіўны-непрадказальны, дадому можа цябе вярнуць. Не вяртайся дадому, няма табе шляху туды, чараўніца.

Не слухаю самотных балотных русаліц. Ці доўгім, ці кароткім быў той шлях праз іскрыстае начное балота, толькі свяціліся лілеі, а русаліцы працягвалі мне рукі, каб не спатыкалася аб балотныя купіны. Апоўначы сталі купіны знікаць у багне, пачалі радзець ясныя лілеі, спалохана суцішыліся балотныя русаліцы. Вялізны змрочны цень праляцеў над балотам. Прагучала невядомае слова і ператварыўся наперадзе цень чарадзеем не чарадзеем, а дзіўным-непрадказальным…

Чаму вы такія, цёмная ночка, самотны веташка і ты, белы гаспадар ваўкоў… Чыю несмяротную волю ты, чарадзей, правіш…

Маўкліва пазіраю на дзіўнага-непрадказальнага. Ні пра што не пытаюся.

— Цяжка цябе тут бачыць. Але і тут ты засталася святлом. Вытрымала вялікае выпрабаванне. Цябе адзіную не магу я прадбачыць-прадказаць. Ты ўмееш верыць…

— Не кажы мне пра веру, ты, які не верыш сам. Ты — ноч і адчай, ветах і страта, драпежны ваўчыны гаспадар і…

— Хто, светлая? Хто яшчэ?

— Ніхто. Не чалавек. Не чарадзей. Як ты мог ісці за мной, сачыць за мной? Як ты мог…

— Я толькі той, хто прыйшоў вывесці цябе з цемры. Не думаў ісці за табой, не хацеў сачыць. Хачу толькі шлях вяртання твой адшукаць. Зрабілі чары твае з возера багну, а ці мала зробяць яшчэ… Не магу я прадбачыць-прадказаць, што цябе чакае.

— Не прасіла я будучыню маю прадказваць, не хацела, каб ішоў ты за мной, каб заступнікам быў.

— Ратаванне тваё цяжкае. Можаш вярнуцца назад, толькі страціш праз гэта сваё чалавечае аблічча. Вечныя зоркі, вясёлкі, навальніцы. Ніколі не знікнуць на зямлі зыркія рабіны і сінія рэкі. Вялікая справа — несмяротнасць. Толькі… няўжо гэты свет не варты таго, каб быць у ім чалавекам? Адкажы мне, тая, што верыць свету, верыць у свет.

— Не адкажу я табе, змрок ды цемра. Не маеш права ты пра гэта пытаць. Не можаш ты зразумець, што свет просіць маёй несмяротнасці. Свету яна трэба.

— Ці здагадаешся ты, якая не прымае ночы, што змрок — гэта яшчэ не цемра. Што ты будзеш рабіць бясконцае несмяротнае жыццё ў свеце вялікага мудрага Дрэва?

— Зраблю, каб нікога больш не палохала цемра. Ніколі-ніколі. Зраблю, каб не стала ночы, знік ветах і ніколі-ніколі больш не азываўся белы воўк. Ці ты заступіш мне шлях, каб я не зрабіла гэта?

— Няўжо дзеля гэтага трэба табе несмяротнасць? Страціш ты сонца, вятры, хмары. Страціш усё і лёс свой страціш.

— Нашто мне мой лёс? Нашто мне вартасць кароткага смяротнага жыцця… Я не вярнуся да яго ніколі.

— Не дае несмяротнае жыццё… жыцця. Вялікі здзек.

— Нашто мне гэта? Ёсць цудадзейнае зернейка. Толькі яно адно вартае цэлага свету. Дзеля яго праганяць мне цемру. Праганяць мне цябе, чарадзей ночы.

Хочаш прагнаць нялюбы змрок, чараўніца, а не ведаеш таго, што беражэ цябе змрок. Беражэ ды бароніць. Але трэба, каб выйшла ты з гэтай багны… І тады ў свеце, дзе так хочацца жыць, мы яшчэ пазмагаемся за ноч і сонца.

**…Д**умаю пра добрае цудадзейнае зернейка, пра яснае сонейка, імклівыя вятры і самотныя хмурынкі. Не ты мяне, а я прадбачу-прадказваю цябе, дзіўны-непрадказальны. Усміхаюся яму.

Узыходзіць над балотам яснае сонейка. Імкнуць хуткія вятры, кружаць свой адвечны карагод тужлівыя хмаркі. А я ўсміхаюся табе, дзіўны-непрадказальны, і я не хачу, каб спраўджанае ды сталася няспраўджаным. Асвятляе яснае сонейка гэтае вусцішнае балота.

І прамаўляе мне дзіўны-непрадказальны:

— Кветку дзівосную, падобную да яснага сонца, зырка-гарачую, авеяную імклівымі вятрамі, росную, асмужаную слязьмі самотных хмарак, прадбачу-прадказваю. Кліча тая кветка сваёй усмешкай узыход сонца, подых вятроў, слёзы дажджоў… Кліча сэрца вялікага свету…

Свеціць яснае сонейка, лётаюць імклівыя вятры, кружаць у небе высокія хмурынкі.

— Мы яшчэ сустрэнемся, чараўніца. Трэці раз, астатні.

Гучыць невядомае чарадзейнае слова. Хутка знікае апошні начны цень.

Мы яшчэ сустрэнемся, дзіўны-непрадказальны. Сустрэнемся яшчэ не адзін раз.

* * *

«**П**расіў ты мяне, каб спраўджанае стала няспраўджаным. Можна вярнуць чары, але нельга вярнуць чараўніцу, калі не хоча яна таго. Ці пра тое, смяротны, ты марыў…» — азываецца мне мудры Дзіў.

А я прашу цёмную ноч пра літасць, пра дараванне. Прашу, як прасіў тады, каб не карала адну светлую чараўніцу. Зноў моўлю самотнага ветаха, каб не пакінуў яе ў вялікай дарозе, падказаў шлях. Зноў клічу белага ваўка, каб бярог яе. Прашу, каб не перасталі вы верыць майму сэрцу, пакуль поўніцца ваша вечнасць яго смяротным біццём… Прашу, бо вы былі і ёсць адзіныя, каго я магу прасіць.

І адказалі мне тады цёмная ноч, самотны ветах, белы воўк: «Ведаем пра тое, што вярнулася чараўніца ў свет. Не страціла чары, не ператварылася ў кветку… Не дае спраўдзіцца таму закляццю пачуццё шчырае, пачуццё вялікае сэрца цёмнага… Бароніць і беражэ яе тое сэрца, чакае і спадзяецца. А што за гэта можа быць мацнейшым?»

— Не зможа воля мая ад закляцця кветкі-вечнасці яе засланіць, а толькі ты тое зможаш, — зноў, як некалі, прамаўляе мне Дзіў.

І толькі цяпер зведаў я вашую цёмную бясконцую спагаду, ноч, ветах і воўк… Толькі вы здольны бясконца верыць у таго, хто памыляецца. Ісці за ім, нябачныя і нячутныя, каб не збіўся ваш абраннік з дарогі. І зноў, як некалі даўно, вы гаворыце мне, каб верыў я свайму сэрцу. Бо толькі яно адно трымае яе…

Я зноў пытаюся, не могучы, як і тады, супакоіцца:

— Як мне перамагчы такое закляцце, Дзіў? Як можа перамагаць боскае жаданне смяротны?

— Як ноч перамагае дзень, як дзень перамагае ноч… Чарадзей ночы, няўжо ты ніколі не навучышся верыць?

— Я веру табе, Дзіў, як верыў тады, калі ты казаў…

«Таемнае імя яе знайдзі-адшукай. Пакуль будуць ведаць ноч, ветах і воўк таемнае імя тое, не стане чараўніца кветкай. Адно ведай ты, блізкі мне дзіўны-непрадказальны, як вымавіш ты імя таемнае светлай чараўніцы, у той жа момант споўніцца закляцце».

— Я не вымаўлю яго, Дзіў. Не вяшчуй таго, мудры…

Малю цябе, цёмная ноч, малю цябе, яснае сонца, каб спраўджанае няспраўджаным зрабілася. Малюся пра цябе, светлая чараўніца. Смуткуе ды шукае цябе ў свеце белы воўк, плачуць пра цябе тужлівыя хмаркі. Не супакоіцца самотны ветах, ідзе па тваіх слядах, гневаюцца імклівыя вятры, нясуць над зямлёй твае чары, толькі хіба можна спраўджанае зрабіць няспраўджаным…

І гнеўна паліць мяне яснае сонца:

— Нашто памяць цёмную, памяць Дзіваву паклікаў-пабудзіў?

І нясуць сонца, вятры і хмары слова сваё светлай чараўніцы. І магу я бачыць яе вачыма свет…

— Цёмная ноч шукае цябе, — казала мне пранікліва яснае сонейка.

— А з ёю ветах самотны, — дадалі мне імклівыя вятры.

— А з імі воўк белы, драпежны, — казалі мне тужлівыя хмаркі.

— Не змагу я цябе захінуць ад цёмнай ночы, — хавалася ў хмары яснае сонейка.

— Не зможам мы прагнаць самотны ветах, — рабіліся цішшу імклівыя вятры.

— Не зможам мы збіць са следу белага ваўка, — расплываліся па небе тужлівыя хмаркі.

Хто ж можа быць мацнейшым за гэтую ноч, ветах ды ваўка, як не ты, сонейка, як, не вы вятры, як не вы, хмаркі…

— Толькі ты, — палымнее яснае сонца.

— Толькі ты, — свішчуць імклівыя вятры.

— Толькі ты, — шэпчуць тужлівыя хмаркі.

Мовяць зладжана сонца, вятры і хмаркі:

— Можам мы рабіці цуд, можам мы ствараці дзівы. Толькі не можам зрабіць так, каб адкрылася табе цёмнае начное сэрца. Як учыніцца тое, уздыміцца-расквітнее на зямлі тваё незвычайнае зернейка… І знікне, нібы ніколі яго не было, страшнае закляцце…

— Сонца яснае, вятры імклівыя, хмаркі тужлівыя, няўжо сэрца цёмнае, начное, зрабіці тое можа?

— Цуд найвялікшы — сэрца чалавечае. Толькі яно дабрыню творыць. Не ўладныя мы над ім.

— Няўжо не зробіць таго маё светлае сэрца? Няўжо яго мала?

— Вялікія твае чары, моцныя, добрыя. Толькі нікога не абмінае незвычайнае зернейка, непрадказальнае яно, неспазнанае. Жыве яно ў сэрцах лепшых, харошых. Абуджаюцца сэрцы — і творыцца дабрыня, робяцца цуд і дзівы.

— А калі маўчаць сэрцы…

— Без сэрцаў маўчаць і чары, няма ані цудаў, ані дзіваў. І цяжка тады ў свеце людскім.

Мовяць мне сонца, вятры і хмаркі:

— Не бойся цёмнай ночы, што шукае цябе. Не мае яна ўлады над тваімі думкамі. Не хавайся ад ветаха самотнага. Не можа ён наслаць на цябе свае чары. Не ўцякай ад ваўка белага. Не зачэпіць ён цябе. Толькі дзіўны-непрадказальны табе страшны.

— Сонца яснае, вятры імклівыя, хмаркі тужлівыя, адкажыце мне, чым страшны той дзіўны-непрадказальны?

— Не маем права падказаць. Не маем моцы разгадаць. Знайдзі падказку сама, разгадай сама, чараўніца.

— Не разгадаць мне цёмнай ночы, не спазнаць таямніцу самотнага ветаха, не ўгадаць думкі белага ваўка.

Мовяць трывожна сонца, вятры і хмаркі:

— Дзіўны-непрадказальны разгадаў цёмную ноч. Дзіўны-непрадказальны спазнаў таямніцу самотнага ветаха, дзіўны-непрадказальны ўгадаў думкі белага ваўка. Дзіўны-непрадказальны ведае пачуцці твае, а хутка ўведае таемнае імя тваё, чараўніца.

— Сонейка яснае, вятры імклівыя, хмаркі тужлівыя, не хачу я ісці ў ночку цёмную, не люблю ветаха самотнага, баюся ваўка драпежнага. Шлях да ратавання мне падкажыце…

— Ідзі да дрэва мудрага, высокага. Таго, што толькі адно ва ўсім белым свеце. Там і ратаванне тваё, там і згуба, чараўніца…

— Сонейка яснае, вятры імклівыя, хмаркі тужлівыя, а ці будзе ля мудрага дрэва той, каго ноч, і ветах, і воўк прызналі сваім?

— Спытайся ў ночы, спытайся ў ветаха, спытайся ў ваўка. Спытайся сама, чараўніца…

Лятуць мае словы ў свеце.

І адказ шле мне цёмная ноч:

— Хочаш ведаць, ці будзе ля мудрага дрэва той, каго я прызнала сваім, дык сама спытай у яго. У цемры пачуе ён цябе…

І адказ шле мне самотны ветах:

— Хочаш ведаць, ці будзе ля мудрага дрэва той, каго я прызнаў роўным сабе, дык сама падыдзі да яго. Знойдзеш яго па маім святле.

І адказ шле мне белы воўк. Чуецца ў ягоным драпежным выцці:

— Хочаш ведаць, ці будзе ля мудрага дрэва той, у кім я пазнаю сябе, дык сама ў вочы яму паглядзі. Панясу вас абодвух на сваёй спіне дарогай і бездаражжам…

Не паеду я на тваёй спіне, воўк драпежны, не выйду я болей у тваё святло, ветах самотны, не пайду я праз твае жахі, цёмная ноч.

— Крокі твае мне чутныя, — насміхаецца белы воўк.

— Сляды твае мне бачныя, — кпіць самотны ветах.

— Чары твае я заўжды адчуваю, — грозіць цёмная ноч. — Не пройдзеш ты праз нас да высокага мудрага дрэва. Не знойдзеш ты без нас высокае мудрае дрэва. Не адшукаеш ты без нас ратавання свайго ля высокага мудрага дрэва.

Збег некуды белы воўк, схаваўся ў хмары самотны ветах, сплыла цёмная ноч да пары да часу. Сонейка яснае, вятры імклівыя, хмаркі тужлівыя, не пакіньце мяне, не пакіньце…

І адказ шлюць мне сонца яснае, вятры імклівыя і хмаркі тужлівыя:

— Не можаш ты пайсці да дрэва мудрага высокага за сонцам ды сонечнымі пуцявінамі, за вятрамі ды па слядах вятроў імклівых, за хмаркамі ды па сцяжынках хмарак тужлівых. Закрыты табе шлях той. Не толькі сонца да дрэва мудрага прыходзіць. Спавівае-ахінае яго цёмная ноч. Не толькі вятры імклівыя галіны яго калышуць. Гайдаецца на галінах яго самотны ветах. Не толькі хмаркі тужлівыя росяць яго сваімі слязьмі. Вартуе дрэва мудрае высокае воўк белы, драпежны. Там шукае дзіўны-непрадказальны таемнае імя тваё… Як знойдзе ён імя тваё таемнае, чарадзейнае, дык учуе твае крокі белы воўк, убачыць твае сляды самотны ветах, пацягнецца да тваіх чараў цёмная ноч. І паўстане тады на тваім шляху дзіўны-непрадказальны…

Рэхам лесуноў ды вадзянікоў смяецца мне цёмная ноч:

— Шукае імя тваё таемнае мой найлепшы. Павер у яго, як веру ў яго я.

Ценямі вольхаў ды асін смяецца мне самотны ветах:

— Адшукае дзіўны-непрадказальны імя тваё таемнае. Буду берагчы-хаваць як найдаражэйшы дарунак тваю таямніцу…

Шлях мне перабягае, смяецца з мяне белы воўк:

— Не бойся мяне. Панясу цябе на сваёй спіне далёка-далёка. Адно азавісяадгукніся.

Не ўсміхаецца мне яснае сонца, не шлюць мне прывітання імклівыя вятры, плачуць, плачуць над светам тужлівыя хмаркі.

Кліча мяне дзіўны-непрадказальны ў цёмную ноч. Кліча пад ветахава святло. Пасылае белага ваўка, каб хутчэй прынёс мяне. Не магу адмовіцца ад чарадзейнага імя свайго. Не магу не паслухаць. Не магу не прыйсці. Хутка імчыць праз ноч белы воўк. Загарнулася ты ў хмары, яснае ласкавае сонейка. Калі ж прагоніш цёмную

ноч? Знікла ты ад мяне… Сышлі вы за свет, імклівыя вятры. Калі ж запалоніце самотны ветах шэрымі хмарамі? Схаваліся вы ад мяне… Заліліся вы слязьмі, тужлівыя хмаркі. Калі ж змыеце-схаваеце мой след ад белага ваўка?

— Не адкажа табе болей гарачае сонца, не азавуцца табе болей віхурныя вятры, не пачуюць цябе болей шэрыя-плакучыя, — смяюцца з мяне ноч, ветах і воўк. — Цяпер ты наша, наша, наша…

Не ваша!..

І знікае тады ў карагодзе асенніх лістоў лясная сцяжынка. Знікае, такая барвовая, такая мяккая. І хочацца бегчы па ёй. Бегчы, каб не зважаць на самотныя дрэвы, праз галіны якіх сочыць за тобою халодны ветах. Хочацца бегчы праз ноч, у якую скрушна лятуць лёгкія асеннія лісты. Лятуць ды не прасвятляюць яе, маленькія зямныя зоркі. Хочацца бегчы і не азірацца, калі не твае хуткія крокі трывожаць амаль бязгучным шоргатам асенні спакой. Адвечны, як ветах, велічны, як ноч.

— Шып-шы-на, — рэхам выдыхае цёмная ноч, азываецца русальчаным спевам.

— Шып-шы-на, — прамаўляе самотны ветах над светам чарадзейным, над светам людскім.

— Шып-шы-на, — вые белы воўк, і слухаюць тое выццё ўсе драпежныя звяры.

— Адпусці мяне, чарадзей. Няхай не шукае мяне цёмная ноч, няхай не высочвае мяне з неба самотны ветах, няхай не бяжыць за мной белы воўк.

— Буду шукаці, — шэпча невядомымі галасамі цёмная ноч, — буду шукаці і знайду.

— Буду сачыці, — шэпча цягуча самотны ветах, — буду сачыці і знайду.

— Буду бегчы, — шэпча чалавечымі словамі белы воўк, — даганю-даганю…

— Ты цяпер наша, наша Шыпшына, — радуюцца цёмная ноч, самотны ветах і белы воўк. — Паслухай нас, паслухай…

*Не, не слухаю… Пазбылося мяне яснае сонейка, пазбыліся мяне імклівыя вятры, пазбыліся мяне тужлівыя хмаркі. Самотна мне ў ночы, адзінока пад халодным ветахам, скрушна ісці мне побач з белым ваўком… Хачу назад, да сонца, да вятроў, да хмар. Адпусці мяне, адпусці, чарадзей, як маеш да мяне хоць крыху спагады. А не то сама да дрэва мудрага высокага пайду, знайду сабе ратаванне.*

— Няма табе шляху да дрэва мудрага высокага праз ноч, — прамаўляе мне дзіўны-непрадказальны. — Не стала яго, як не паслухалася ты кляновай зоркі, ды не падняла чырвонай гронкі рабіны, ды выпусціла з рук зялёны дубовы лісточак. Лісток з дрэва мудрага высокага… Няма табе шляху да дрэва мудрага высокага і ўдзень…

— Цяпер ты наша, наша Шыпшына, — радуюцца цёмная ноч, самотны ветах і белы воўк. — Слова твае слухаць будзем… Імя тваё вымаўляць будзем, каб ніколі не спраўдзілася тое страшнае закляцце.

*Не, не слухаю... Навошта вам маё слова? Адно хачу пачуць: «Шыпшынка, — ціхае, як біццё сэрца, шаргаценне вятроў праз сонечныя іскрынкі, — усміхніся, ты наша...»*

— Паслухай, паслухай нас, — не сунімаюцца цёмная ноч, самотны ветах і белы воўк. — Бачылі мы дзяўчынку, ціхую, маленькую, якая ў святле была, пад сонцам хадзіла, якой вятры спявалі ды хмаркі плялі вянкі. Бачылі даўно… Сплылі сонцавароты, і стала тая дзяўчынка моцнай светлай чараўніцай, адзінай, якая не баялася ночы. Не жадаем мы, каб страціла яна сваё людское аблічча. І таму клічам яе, смяротную, чалавечную, бо ведаем, што не спраўдзіцца тое закляцце, пакуль цёмная ноч, самотны ветах ды белы воўк вымаўляюць імя таемнае.

*Не, не слухаю… Што гэта? Міласэрнасць ночы, міласэрнасць цемры? Спагада ветаха і белага ваўка? Няўжо ўмееце вы спагадаць… А можа, таму вы не адпускаеце мяне, што ён, дзіўны-непрадказальны, таго не загадвае… Шукае мяне, чакае мяне. Толькі што мне да ўсяго гэтага. Думаю пра цудадзейнае зернейка, самае лепшае на зямлі. Няўжо не змагу перамагчы вас, ноч, ветах і воўк, калі мною створаны такія чары…*

— Мы чуем, — азываюцца цёмная ноч, самотны ветах і белы воўк. — Мы чуем твой голас, Шыпшына, мы ведаем твае думкі, мы цябе разумеем. Павер жа, што без нашых чараў не прарасло б тое незвычайнае зернейка. Мы блізкія табе… І яму, нашаму найлепшаму, ты неабыякавая…

*Цудадзейнае зернейка. Ад цябе абудзіцца ў людзях вялікая спагада і дабрыня…*

— Шыпшына, — не сунімаюцца цёмная ноч, самотны ветах і белы воўк.

*Дзе ты, цудадзейнае зернейка? Як жа расцеш ты ў свеце адно… без мяне… Толькі ноч, ветах і воўк. Такая мяккая асенняя сцяжынка. Амаль нячутныя твае крокі, дзіўны-непрадказальны. Амаль нячутныя словы:*

— Не хадзі, чараўніца, не хадзі да дрэва мудрага высокага, хоць і пасылае яно ў свет магутныя дубовыя лісты… Прабачыць нам сонца і прабачыць нам ноч, толькі яно, дрэва мудрае высокае, толькі яно адно не прабачыць ніколі… Трымае яно лад, беражэ парадак у свеце. Парушыла ты ягоную волю, і я не змог гэта паправіць. І ноч мая цёмная не змагла цябе схаваць… Не хадзі, чараўніца, не хадзі да дрэва…

Лятуць магутныя дубовыя лісты праз ноч, засцяць ветах, падаюць сумётамі на белага ваўка.

— Памятай, што бачыць цябе цёмная ноч, памятай, што свеціць табе самотны ветах, памятай, што бароніць цябе белы воўк, — прамаўляе мне дзіўны-непрадказальны.

*Не, не слухаю… Я здзіўлю цябе, дзіўны-непрадказальны. Шлях праз ноч да дрэва мудрага высокага мне адкрыты…*

*Цёмна, самотна, драпежна. Цяжка без яснага сонейка, імклівых вятроў і тужлівых хмарак. І чаму мне здаецца, што цягнецца да мяне з галін дрэва мудрага нечысць цёмная, нечысць страшная. І гучна звоняць зялёныя дубовыя лісты…*

*Зернейка добрае, зернейка цудадзейнае. Цёмна нам уночы, цяжка без яснага сонейка. Цягнецца, цягнецца нечысць страшная, галёкае ды смяецца на розныя галасы.*

*І гаворыць мне той, хто заўсёды ідзе праз ноч:*

— Не магу я нечысць тую прагнаць, не магу я цемры той шлях заступіць. Ахінае тая цемра дрэва мудрае высокае. Навошта ты прыйшла да высокага дрэва, навошта ўчыніла так, чараўніца?

*Зернейка цудадзейнае, самае лепшае на зямлі, клічаш ты яснае сонейка, клічаш імклівыя вятры, клічаш тужлівыя хмаркі. Клічаш без пары…*

*«Страшна нам тут», — даюць адказ імклівыя вятры. — «Не прасвятляе тут сонца неба». «Не прасвятляю, бо не можна мне свяціць без пары, без часу». «Пакліч сонца, пакліч вятры, пакліч нас, Шыпшынка», — просяць мяне тужлівыя хмаркі.*

— Шыпшынка, — нясуць вятры імя маё.

— Шыпшынка, — жаляцца тужлівыя хмаркі.

— Шыпшынка, — азываецца мне яснае сонейка.

— Не праганяй мяне, Шыпшына, — просіць цёмная ноч. — Я берагу цябе…

— Не праганяй мяне, Шыпшына, — просіць самотны ветах. — Я берагу цябе…

— Не праганяй мяне, Шыпшына, — просіць спалоханы белы воўк. — Я берагу цябе. Вартую-абараняю.

— Не хачу хадзіць у цёмнай ночы, не люблю самотнага ветаха, баюся белага ваўка. Свет без вас будзе лепшым. Навошта яму цемра і жахі? Навошта яму ты, чарадзей…

Шуміць, шуміць нязгодна дрэва мудрае высокае. Толькі ёсць у мяне магутныя чары…

Самотны, як ноч, позірк таго, дзіўнага-непрадказальнага:

— А ты ўпартая, — прамаўляе мне чарадзей. — А ты ўпартая, Шыпшына-Шыпшынка.

*Не слухаю… Усміхаюся. Боль у сэрцы, ззянне ў руках, яркае, перуновае. І азываецца мне цудадзейнае зернейка:*

*— Як жа ты не паглядзела ў вочы яго, чараўніца? Як жа, светлая, ля дрэва міласэрнасці і веднасці не ўбачыла свайго лёсу… Няўжо аддала ты мне ўсю сваю дабрыню і ўсю спагаду?*

*Усміхаюся. Узыходзіць над светам яснае сонейка. Лятуць імклівыя вятры. Плачуць тужлівыя хмаркі.*

*А я ўсміхаюся... Узыходзіць над светам высокае сонца.*

* * *

— **І** чаму мне так балюча, Дзіў? Так цяжка цяпер, калі ўсё яшчэ можна вярнуць?

Маўчыць вешчы Дзіў, не азываецца мне пад святлом сонца.

А я хачу зразумець вас, сонца, вятры і хмары. Хачу зразумець, навошта вы казалі ёй пра мудрае высокае дрэва, якое ніколі не даруе парушальнікам ладу…

І паўтараю я ночы, сонцу, ветаху, вятрам і хмарам, што нічога яшчэ не скончана. Кажу табе, Шыпшына, пра самае незвычайнае зернейка. Схавалася яно да пары да часу, схавалася, пакуль ты не вернешся. Яно чакае цябе…

**…У**зыходзіць над светам высокае сонца. Узыходзць тады, калі я ўсміхаюся. Лашчаць зямлю імклівыя вятры, пояць яе тужлівыя хмаркі смачнай дажджавой вадою. І плыве сонца над светам. Плыве нада мной і цэлую ноч чакае маёй усмешкі.

Я клічу сонца. «Ты падобная да яго», — прамаўляюць мне вятры і хмаркі. «Ты падобная да сонца», — прамаўляюць мне цёмная ноч і самотны ветах. «Ты падобная да яснага сонейка», — кожную ноч прамаўляе мне белы воўк, вартуе і абараняе мяне. Толькі я праганяю ноч, ветаха і ваўка. Калю іх сваімі вострымі шыпамі.

Хутка ўцякае ад мяне белы воўк. Хаваецца самотны ветах. Сыходзіць цёмная ноч. Толькі ў доўгую шэрую хвіліну, калі сышла ўжо ноч, але не настаў яшчэ белы дзень, робіцца мне цяжка-цяжка, самотна-самотна… Не бароніць мяне белы воўк, не свеціць мне самотны ветах, не бадзёрыць мяне цёплай усмешкай цёмная ноч.

— А ты ўпартая, — прамаўляе мне дзіўны-непрадказальны.

Настае пасля ночы белы дзень. Лятуць імклівыя вятры над светам. Даганяюць хмаркі белага ваўка, даганяюць і ніяк не дагоняць. Не, я не плачу ў тую шэрую хвіліну надыходзячага дня. Гэта не ад маіх слёз уздыхаюць вятры, жаляцца тужлівыя хмаркі. Гэта не слёзы ляцяць у сонечных промнях над светам…

— Ты ўпартая, Шыпшына-Шыпшынка, — паўтарае мне дзіўны-непрадказальны.

Кланяецца ён ночы і вітаецца з сонцам. Цягне рукі да ветаха і гуляецца з вольнымі вятрамі. Загадвае беламу ваўку і паказвае шлях тужлівым хмаркам. І слухае,

слухае дрэва мудрае, высокае. Што ж гаворыць яно пра мяне, што такое, дзіўны-непрадказальны?

Сварацца Пярун з Вялесам. Уцякае белы воўк ад грамаўнічных стрэлаў. Бягуць тужлівыя хмаркі ад Вялесава гневу. Не замірацца багі за страту цудадзейнага зернейка.

Не азываюцца сінія лясы на слова маё. Не адгукаюцца празрыстыя рэкі на слова маё. Не пачулі шляхі і дарогі слова майго. І толькі адзін незвычайны вандроўнік, які крочыў няходжаным шляхам, на імгенне спыніўся, нібы нешта пачуўшы.

Куды ж ты ідзеш, дзіўны-непрадказальны? Чуеш ты слова маё. У цэлым свеце толькі ты адзіны ведаеш, як змяніцца і як змяніць, як спраўджанае зрабіць няспраўджаным… Мовіш цёмнай ночы, мовіш яснаму сонцу. Слухае цябе белы воўк і тужлівыя хмаркі. Не супакоіцца ад слова твайго самотны ветах ды імклівыя вятры… Памятаеш ты ўвесь свет, і цябе свет памятае. Мілая табе ўсмешка мая, як мне мілае высокае сонца. Думаю пра цябе. Думаю пра цябе і ўсміхаюся…

Узыходзіць над светам яснае сонейка…

**«Л**юбяць яе сонца, вятры і хмары. Любіць яе свет… І ты, чарадзей…», — азываецца мне цяпер змрочны Дзіў. Не смяецца болей з мяне, не кпіць, не дадае мне сілы. Цяжка стала цёмнай ночы і самотнаму ветаха ды беламу ваўку… У самую цёмную часіну, самотную ды злую, адчуваю я позірк Чарнабога. Зацікаўлены, прагны. Змагаецца за душу маю Дзіў, абуджае мяне сваім вешчым поклічам:

«Не забывайся пра яе, чарадзей. Паслухай таго, да каго прыходзяць у апошнюю часіну. Цяпер ты — апошні, хто можа спраўджанае зрабіць няспраўджаным, хто можа ўсё вярнуць. Пакуль пачуцці твае трымаюць яе, датуль не стане незваротным тое закляцце… Прыйдзе час — і вернецца ваша легенда. Не скончана яна. І не будзе ёй скону, пакуль ты верыш».

*Ты упартая, Шыпшына-Шыпшынка. Я змагаюся за цябе. Я, чарадзей, які прыходзіць у апошні жалобны час. І таму я чую, як падае долу малая расінка. Ціха падае… ды я ніколі не праміну яе жалобнага звону. Падае маленькая яркая дажджынка. Лёгка кранае мае павекі. І я зноў вітаю цябе, светлая чараўніца. Мы ніколі не разыдземся з перакрыжаваннеяў нашых шляхоў.*

У цемрадзі ночы прыходзіш да мяне ты, белы. Нясеш слова Дзівава — легенду пра тых, якія не ведалі чарадзействаў…

І я пачынаю верыць у цуды, падараваныя нам светам. А як жа не верыць, калі кажаш ты пра асілка, што пад высокім мудрым ясенем перамог нячыстую сілу, якая хацела навечна забраць яго каханую. Ён не быў чарадзеем, не ішоў праз ноч, не здзіўляў вялікі свет, ані чарадзейны, ані людскі.

*І я пачынаю верыць, што наша легенда яшчэ не скончана. Мы толькі ўдваіх у цэлым свеце. І ў цёмнай адвечнай ночы і пад ясным вячыстым сонцам…*



*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

# МУЖЧЫНСКІЯ ЗАБАВЫ

*Апавяданне*

З Дому друку я выйшаў на праспект, пастаяў на прыпынку, дзе спыняліся аўтобусы і тралейбусы — хацеў з'ездзіць у горад, трэба было зазірнуць у кнігарню ля Галоўпаштамта, там зацікавіла мяне адна кніжка, але тады не было з сабою грошай.

Канчаўся працоўны дзень, народу на вуліцы, на прапынку было шмат, транспарт перапоўнены. Ці варта лезці ў такую таўханіну? Мо неяк іншым разам... Так я стаяў і думаў, а цераз вуліцу, насупраць мяне, ішла кампанія маладых хлопцаў. І нешта ім захацелася пазабаўляцца: два счапіліся барукацца, а мо нават не барукацца, а проста паказаць нейкі барцоўскі прыём, як я потым здагадаўся. А прыёмчык быў новы, я яго ніколі не бачыў дагэтуль, хоць сам і любіў, калі быў маладзейшы, часам размяць косці, але гэта лепш дзе-небудзь за горадам, на траве, а не на асфальце. Хоць і тут хлопцы адышлі з асфальту на газон, і адзін якраз і паказваў кампаніі гэты прыём. Вось яны трохі прыгнуліся, шырока расставіўшы ногі, гатовыя кінуцца адзін на аднаго, але раптам той, што быў у белым лёгкім світары, зрабіў крок управа, апынуўся побач з праціўнікам у светлай футболцы, трохі нават як ззаду, і раптоўна прасунуў сваю правую руку між ног праціўніка і непрыкметным рухам учапіўся за штаны, прыўзняў, адарваўшы ад зямлі, як той Геракл Антэя, і вось гэты Антэй апынуўся ў вельмі смешнай позе: ногі задраліся ўверх, тулава пераважыла і паехала да зямлі, а рукі інстынктыўна, як самі па сабе, зрабілі рух наперад, каб не грымнуцца тварам у цвёрды грунт. Ва ўсякім разе, той хлопец, што паказваў прыём, лёгка і спрытна паклаў свайго праціўніка на зямлю, што і трэба было даказаць.

Раптам ля таго месца, дзе толькі што адбылася сцэнка барацьбы, спыніўся міліцэйскі «козлік», з яго выскачылі два маладыя міліцыянты з палкамі і падступіліся да хлопцаў, нешта грозна патрабуючы. Цераз вуліцу я не мог разабраць іх слоў, але ясна было, што міліцыянты ўшчувалі хлопцаў, што тыя парушалі грамадскі парадак і павінны за гэта адказваць — мо аштрафаваць іх ці забраць з сабою ў пастарунак хацелі. Прадстаўнікі парадку былі надта сур'ёзныя, а хлопцы — далучыліся і тыя, што стаялі ды глядзелі на барцоў — смяяліся, размахвалі рукамі,



***Уладзімір Дамашэвіч нарадзіўся 17 студзеня 1928 года ў вёсцы Вадзяніца Ляхавіцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў рэдактарам у разнастайных выдавецтвах нашай краіны, на беларускім радыё, а таксама ў часопісах «Полымя» і «Маладосць». Аўтар шматлікіх празаічных кніг.***

паказваючы, што гэта не хуліганства, а проста жарт, ніякага парадку яны не парушалі. Спрэчка з доказамі працягвалася хвілін пяць ці трохі болей, але ўрэшце міліцыянты падабрэлі, старшы махнуў рукою — ці то на развітанне, ці то з пагрозай, яны селі ў машыну і паехалі. А хлопцы трохі пастаялі, пасмяяліся, абмяркоўваючы здарэнне, і пайшлі далей, няйначай, у парк Чалюскінцаў, дзе можна было адпачыць і выпіць па шклянцы віна ў адной з забягалавак, якіх тады было шмат.

...І мне ўспомнілася здарэнне, якое адбылося некалькі гадоў таму ў адной кампаніі, удзельнікамі якой былі мае сябры, але толькі з іншаю канцоўкаю, не такою лагоднаю, як я бачыў ля Дому друку.

Пасля нейкага пленума ў Саюзе пісьменнікаў, які разглядаў пытанні перакладаў паэзіі на розныя мовы — чаго я туды трапіў, не ведаю, бо да паэзіі адносін не маю — мы, чатыры чалавекі, апынуліся ля рэстарана «Патсдам»: два паэты — Алег Лойка і Раман Тармола, і два празаікі — Леанід Гаўрылкін і я. Хто выказаў думку зазірнуць у гэты нямецкі рэстаран, ужо не памятаю, але мы дружна яе падтрымалі. Занялі столік на чатырох, заказалі нямецкага шнапсу і лёгкай закусі — тонка нарэзанай, мо таксама нямецкай кілбасы. Мы не збіраліся доўга тут сядзець, бо было ўжо не рана, а Лёню Гаўрылкіну трэба паспець на гомельскі цягнік, ён яшчэ жыў у Гомелі, працаваў на тэлестудыі.

Мы выйшлі з рэстарана злёгку падвяселеныя, але не п’яныя, аднак ужо нейкая сіла кіпела ў мускулах, хацелася пусціць яе ў ход. Я з Тармолам счапіліся барукацца на хаду, прыціснуў яго да рыны — вадасцёкавай трубы, абхапіўшы яго разам з трубою. І тут жа чую: мяне нехта ляпае па плячы — неяк недалікатна, і кажа: «Вы нарушаете!» — з жалезнаю ноткаю ў голасе: «Пройдёмте!» — дадае напаследак.

Я адпусціў Тармолу і трубу — ды бачу, што ля нас апынуўся міліцыянер, які запрашае парушальнікаў парадку ў дзверы ля самай гэтай трубы: якраз гэта былі дзверы аддзела міліцыі. Ад нечаканасці мы проста анямелі і атупелі, і, як бараны на бойню, пайшлі ў расчыненыя дзверы: я першы, а за мною Тармола.

Скарыстаўшы момант, Леанід Гаўрылкін адкалоўся ад нас — яму на цягнік, а Алег Лойка зайшоў апошнім, за сяржантам. Ён у лік парушальнікаў, натуральна, не трапіў, але за кампанію яму было цікава паглядзець, чым усё скончыцца, бо сур’ёзнага парушэння тут не адбылося.

Мы апынуліся ў прасторным кабінеце, дзе за масіўным двухтумбавым сталом сядзеў салідны лысаваты маёр і нешта шукаў у сваіх паперах, якіх перад ім было шмат.

Сяржант з парога далажыў, што вось п’яныя парушальнікі парадку, пачалі ля іх дзвярэй высвятляць адносіны, каб не ён, дык учынілі б бойку. Ва ўсялякім разе, яны «оскорбляли собственное достоинство».

— Ніякай бойкі не было, — не сцярпеў гарачы Раман Тармола, — мы проста захацелі размяцца! Што, гэтага няможна рабіць? — звярнуўся ён да маёра.

— Размяцца можна, але не на вуліцы ў горадзе, а дзе-небудзь на траве, на лузе, — салідна сказаў маёр. — Сядайце, вось вам анкеты... Усім траім? — спытаўся ён у сяржанта, які стаяў перад ім на выцяжку.

— Нет, только двоим, вот этому и этому, — паказаў ён на мяне і Тармолу. — А этот товарищ не принимал участия в дебоше.

— Уладзя, запомні: мы з табою дэбашыры! — гучна сказаў Тармола і зарагатаў. — Гэта амаль тое, што і ардэнаносцы!

— Прошу не оскорблять орденоносцев, гражданин... Как ваша фамилия? — звярнуўся маёр да Тармолы. — Заполняйте анкету... На русском языке... Садитесь...

— Зараз я напішу вам сваё прозвішча, таварыш начальнік! І напішу скаргу на вашага сяржанта, які перавышае свае правы і невінаватых прахожых залічвае ў злачынцы. Які я злачынец? Што я парушыў? — зноў ускіпеў Тармола.

— Вы нарушали общественный порядок, — адказаў маёр спакойна. — К тому же вы пьяные! — ужо на высокай ноце.

— Я п'яны? Адкуль вы ўзялі? Мы толькі прыгубілі па кілішку і закусілі вось тут у рэстаране. Я не п'яны, і мы ўсе ніякія не п'яныя! — усё больш распаляўся Раман Тармола.

— Сейчас мы проверим! — ужо зазлаваў маёр. — Сержант, подготовьте машину и отвезите их на экспертизу.

Сяржант казырнуў, выскачыў з кабінета, і не паспелі мы агледзецца, як ён тут жа заявіўся з двума міліцыянтамі, зусім маладымі хлопцамі.

— Пошли, — сказаў ён мне.

І маладыя міліцыянты з двух бакоў узялі мяне за рукі вышэй локця — узялі моцна, нібы я гатовы быў вырывацца ад іх, і павялі па доўгім калідоры. Мы апынуліся на заасфальтаваным двары, без снегу, які ўжо трохі прыкрыў зямлю — гэта быў недзе канец кастрычніка. На гэтым прасторным двары стаяў міліцэйскі «козлік», і міліцыянты вялі мяне да яго, моцна трымаючы.

— Адпусціце рукі, хлопцы, — сказаў я спакойна. — Я не ўпаду... І не ўцяку...

Як ні дзіўна, яны паслухалі мяне, адпусцілі, ішлі на крок за мною, а я кіраваў да машыны. Гэта была спецмашына — трохі падоўжаны кузаў, перагароджаны ззаду рашоткаю на дзве клеткі: у пярэдняй, відаць, садзілі затрыманых, клетка зачынялася, а ззаду па баках сядаў канвой — месца было на двух чалавек. Яны пасадзілі мяне ў пярэднюю перагародку, сказалі чакаць, а самі пайшлі — няйначай, забіраць Тармолу.

Я пасядзеў хвілін дзесяць, не болей, як пачуў шум, галасы лаянкі і нават гукі барацьбы: як нехта вырываўся, супраціўляўся, а яго трымалі, чутны былі крокі, як таптанне на месцы, кароткае пераступанне з нагі на нагу, — адным словам, валтузня.

Я зразумеў, што вядуць Тармолу, а ён вырываецца, буяніць, паказвае характар. Выскачыў з машыны і падбег да клубка з чалавечых цел, дзе цяжка было разабраць, дзе ж той цывільны Тармола, а дзе міліцыянты — клубок варушыўся, мяняў сваю канфігурацыю, часам распадаўся на часткі і зноў збіраўся ў адно цэлае.

— Хлопцы, адпусціце яго, ён нікуды не ўцячэ, — сказаў я разагрэтым міліцыянтам, — я яго павяду, вось пабачыце.

Уся працэсія спынілася, я дастаў Тармолу як з мяшка, узяў за руку, як дзіця, і мы пайшлі разам да машыны, а міліцыянты, моцна задыханыя, ішлі за намі, нешта гаварылі і смяяліся.

Тармола таксама дыхаў цяжка, але не пераставаў пагражаць усяму свету і гэтым хлапчукам-міліцыянтам, якія накінуліся на яго, як ганчакі на дзіка, выкручвалі рукі і нават вывіхнулі вялікі палец на правай руцэ.

Мы падышлі да машыны, я, як першы, хто ўжо тут быў і ведае хады-выхады, пралез у першае аддзяленне, пацягнуў Тармолу за сабою, потым у другое, дзе павінны былі сядзець мы, злачынцы, і зачыніў за сабою жалезныя, з рашоткі, дзверцы, сталі чакаць.

Міліцыянты стаялі ля машыны, раіліся, гаварылі прыцішана, каб мы не пачулі іх сакрэтаў, потым падзяліліся: два пайшлі ў вадзіцельскую кабіну, а два накіраваліся да нас, селі на месца аховы, бразнулі дзверцамі, а нас узялі на зашчапку — на ўсялякі выпадак.

«Козлік» завёўся, завуркатаў маторам, і мы паехалі, а куды — гэта нас мала цікавіла. Зрабілі некалькі паваротаў, праехалі некалькі вуліц — і нарэшце спыніліся каля нейкай медыцынскай установы, нас вывелі, але аказалася, што дарэмна, тут не робяць экспертызы на алкаголь, трэба ехаць далей. Зноў селі, зноў паехалі, на вуліцы ўжо ноч, нават позняя.

Раман Тармола бурчыць без канца, сам сабе лаецца, ніяк не можа змірыцца, што яго затрымалі як нейкага дэбашыра, прытым п'янага, якога трэба вазіць на міліцэйскай машыне па нейкіх клініках-паліклініках, каб зрабіць аналіз.

— А ты, Уладзя, дзьмуў калі ў трубку? — спытаў ён у мяне.

— Не, мне нешта не давялося, — адказаў я.

— Слабак! — выгукнуў Тармола. Гэта было, дарэчы, яго любімае слоўца, калі ён гаварыў пра кагосьці, пераважна пра свайго верагоднага працаўніка. — Як гэта каб ты, жывучы гэтулькі ў сталіцы, не перабраў меры, не трапіў у лапы да гэтых лягавых, а яны цябе не навучылі, колькі трэба піць, з кім і калі.

— А што, хіба сёння мы перабралі меру? А бачыш, як выйшла, — вінавата загаварыў я. — Нейкі дур прыйшоў у галаву, і я цябе прыціснуў да гэтае трубы...

— У іх проста недавыкананне плана па затрыманнях, вось яны нас і заграбасталі. Але не на таго нарваліся! Я ім пагоны пазрываю, вось пабачыш! — зноў узвіўся Тармола.

— Ты іх не запалохвай, а то яны будуць старацца нас глыбей закапаць, каб самім выглядаць белымі ды пухнатымі.

— Наадварот, хай дрыжаць, як асінавы ліст, хай ведаюць, што не на таго напалі... Ну вось, здаецца, і прыехалі, — закругліўся Тармола.

Сапраўды, «козлік» спыніўся ля вялікага будынка нейкай лячэбнай установы. Два міліцыянты, што сядзелі за перагародкай, адчынілі спачатку свае дзверцы, потым адкінулі зашчапку на нашым аддзяленні і загадалі выходзіць.

Лабараторыя, у якую нас прывялі, была нейкая як часовая, размяшчалася ў канцы доўгага калідора, не было добрай мэблі, а толькі малыя табурэцікі, як у дзіцячым садку. Нам сказалі прысесці на іх, медсястра дала нам трубкі, мы сталі ў іх дзьмуць-булькаць некалькі хвілін. Вадкасць, якая знаходзілася ў выгнутай уніз шкляной «люльцы», як мне здалося, не змяніла свайго светлага колеру, які быў дагэтуль, калі мы толькі пачыналі ў яго дзьмуць.

Медыкі тут жа зрабілі аналіз і выдалі на рукі сяржанту паперку на дваіх, з пячаткаю, па ўсёй форме, а нам сказалі, што ў нас «лёгкая степень опьянения».

Тармола не ўтрымаўся, каб зноў не папракнуць міліцыянтаў, што яны займаюцца не тым, чым трэба: не ловяць сапраўдных злачынцаў, а трацяць дарагі час на тое, каб не даваць спакою сумленным людзям, залічваючы іх да дэбашыраў і парушальнікаў парадку.

Я трохі яго супакойваў, мы падзякавалі медыкам, і нас зноў павялі ў машыну. Міліцыянты неяк прыкметна перамяніліся, прыціхлі, яны чакалі іншых вынікаў і былі расчараваны: што яны скажуць-пакажуць начальству? Патрацілі гэтулькі часу дарма…

Паблукаўшы па сонных вуліцах горада, мы зноў вярнуліся на тое месца, адкуль пачыналі: заасфальтаваны двор побач з будынкам міліцэйскага аддзела. Мы патрацілі часу больш як гадзіну, вось і мы, вось і вынікі…

Маёр Пятручэнка па-ранейшаму перабіраў свае паперы, знаходзіўся ў яго кабінеце і Алег Лойка, яны, відаць, тут шмат пра што пагаварылі, настрой у абодвух быў мірны, нават дабрадушны. А я думаў, што Алег пайшоў дадому, і гэта было б справядліва, а ён, дзівак, сядзеў тут, чакаў, хваляваўся за нас...

Сяржант паклаў перад маёрам паперку з аналізам, казырнуў і выйшаў з кабінета. Маёр узяў паперку, моўчкі чытаў, потым уздыхнуў моцна і сказаў да нас дваіх, злосных хуліганаў:

— Вот вам анкета, отвечайте на все вопросы по порядку. И в конце — ваша подпись.

І ён падаў адну паперыну мне, другую — Тармолу, уручыў нам шарыкавыя ручку, і мы пасунуліся да яго шырокага стала, сталі спачатку чытаць тую анкету, потым узяліся адказваць. Чаго там толькі не было!

Прозвішча, імя, імя па бацьку, месца пражывання, тэлефон, месца працы, тэлефон, парушэнне грамадскага парадку, чаму затрыманы — ступень віны і г. д. Раман Тармола адразу ажывіўся, заўсміхаўся, нават стаў рагатаць: якая ступень віны? Хто яе вызначае? Мы што — пабілі вам вокны, напалі на каго, яшчэ што благое зрабілі? Лёгкая ступень ап’янення — што гэта, вялікае злачынства?

— Заполняйте, заполняйте, — супакойваў яго маёр, — всё отрегулируем.

Ва ўсялякім разе, у графе пра алкаголь я напісаў, што п’яныя мы не былі, што пацвердзіла і экспертыза, і што дэбош наш быў усяго толькі мізэрнаю забавай, што нас дарэмна арыштавалі і дарэмна вазілі на экспертызу, патрацілі гэтулькі часу.

Маёр прачытаў нашы анкеты, гэта заняло нямала часу, чамусьці каментарыяў не рабіў, а потым, як адумаўшыся, прачытаў нам мараль: салідныя людзі, пісьменнікі, а паводзіце сябе як дзеці, лепш сказаць, як дробныя хуліганы, пачынаеце нейкае баруканне на вуліцы, палохаеце людзей. Вось і дагуляліся. Гэта, дарэчы, не ўсё, працяг яшчэ будзе.

На што Тармола таксама не прамаўчаў, а сказаў — паўтарыў свае словы, што ён пазрывае з іх пагоны, хай яны таксама не думаюць, што гэты інцыдэнт пройдзе ім гладка, без сучка і кручка.

Урэшце мы выйшлі з аддзела на вуліцу і ўздыхнулі з палёгкай. Адчуваўся лёгкі марозік, стаяла цішыня, сям-там віднеліся вулічныя ліхтары, людзей не было ўжо відаць — ці не першая гадзіна ночы. Але чамусьці разыходзіцца не хацелася, не хапала нейкай кропкі, якую трэба было б паставіць. Тармола лаяўся сам сабе, але неяк ужо больш мірна, чым пры маёры, і ўсё паўтараў сваё любімае слоўца «слабакі», невядома каму яго адрасуючы.

— Якія гэта слабакі? Хто слабакі ці слабак — канкрэтна? Давай праверым! — нечакана для сябе я стаў заводзіцца. Мо нават таму, што там я паводзіў сябе надта мірна і спакойна, толькі стрымліваў Тармолу.

— А што? Можна і праверыць, — падтрымаў мяне Тармола. — Дзе тут нам можна знайсці арэну? Раздзьмуць ток, як казаў нейкі змей. — Ён азірнуў прастору перад намі — якраз насупраць аддзела, але трохі лявей, была нейкая праталіна паміж дамамі, засыпаная снегам. — Якраз неблагое месца для турніру. Уладзя, дзьмі ток! А ты, Прафесар, — звярнуўся ён да Алега Лойкі, — будзеш секундантам і суддзёю, а мы праверым, хто з нас слабак.... Ды я цябе размажу, Уладзя дарагі, хоць ты і старшы за мяне на некалькі там гадочкаў, і табе будзе не гонар пячатаць лапаткамі вось гэты белы дыванок. Дзьмі ток!

Алег Лойка спрабаваў супакоіць Тармолу:

— Слухайце, а мо не варта пачынаць двубой сярод ночы, ды яшчэ паблізу ўстановы, у якой вы пабывалі не па сваёй волі?

— Прафесар, мы толькі трохі разварушым зацёклыя члены, як тая казала, а ты ўважліва судзі, каб без ніякіх нацяжак і паблажак. А я цябе, Уладзя дарагі, размажу, як міленькага!

— Не кажы гоп, як не пераскочыў, — адказаў я жартам. — А яшчэ лепей — не хваліся на рацы ідучы...

Тармола прапусціў мае словы міма вушэй і сказаў толькі:

— Варта было б паскідаць апранахі, але няхай. Мякчэй будзе падаць, дарагі Уладзя, па мянушцы Стары.

Ну і вось, мы з Тармолам, як два пеўні, пасталі адзін перад другім, гатовыя счапіцца і пачаць бойку, а Алег Лойка, як секундант і суддзя адначасова, трохі адышоўся, даў нам прастору для добрага размаху.

Мы абодва не пайшлі адразу на збліжэнне, а прыцэльваліся здалёк: схапіць саперніка за рукі, каб пры добрай пазіцыі даць падножку ды паваліць на зямлю. Але для гэтага трэба наблізіцца, а мы абодва ведалі гэтую небяспеку і трымаліся воддаль, хапаліся толькі за рукавы паліто, за рукі, часам Тармола нечакана крывіўся, нібы ў яго што балела. Ага, дык жа ў яго вывіхнуты палец, цяпер гэта можа яму замінаць. Якраз я прыхільнік блізкага бою (спрабаваў студэнтам займацца боксам) па прынцыпе: дадуць табе, але і ты дасі, а так толькі будзеш размахваць рукамі, ці, як у гэтым баруканні-дужанні: адбываецца толькі захоп рук, ды і то на момант, бо кожны стараецца вырвацца сам і схапіць за рукі свайго саперніка. І ўвесь час напагатове, прыгнуўшыся...

— Вяла, вяла, — зрабіў нам папрок суддзя-секундант Алег Лойка, які, відаць, замярзаў без руху, а мы трохі грэліся. — Гаворкі было шмат, а вынікаў не бачу. Больш актыву! Больш спрыту!

Мы пасля гэтых слоў секунданта паскорылі тэмп, але вынікаў усё не было, мы ўжо задыхалі, як кавальскі мех, хацелася скінуць паліто, бо плечы зрабіліся мокрыя ад поту. Заставалася або чакаць зручнага моманту, калі праціўнік памыліцца, або ісці на збліжэнне і ўжываць нейкі там захоп за шыю ці за талію, рабіць падножку, каб кінуць саперніка на зямлю, прыпячатаць да снегу.

Паступова мы скарачалі адлегласць між сабою, захопы пайшлі за талію, за пояс, ужо былі спробы падножкі, але няўдалыя, з іх лёгка мы выходзілі — і я, і Тармола, бо каб зрабіць добрую падножку, трэба пазбавіць праціўніка манеўра, каб ён хоць на момант застаўся нерухомым, як той сноп ці куль саломы, які можна кідаць куды хочаш.

Каб мы былі распранутыя, можна было б ужыць той спосаб, які ўжываў хлопец на праспекце каля Дому друку, які мне калісьці давялося бачыць. Але наша доўгая вопратка скоўвала рухі, не давала разгарнуцца. Даводзілася таптацца на адным месцы, разлік быў на памылку ў абароне — у яго, што памылюся я, у мяне — што памыліцца ён.

Відаць, трэба было стаміцца, каб потым нехта з нас хутчэй памыліўся, прамаргаў момант, даў праціўніку ўжыць нейкі выніковы прыёмчык, хоць гэта было проста, як двойчы два: абхапіць за талію і даць падножку, паваліць праціўніка на дол — усяго толькі.

А можа, яшчэ ўся бяда была ў тым, што мы даўно не займаліся такім спортам, забыліся на ўсе свае хлапечыя і мужчынскія забавы, якіх шмат сярод моладзі, калі яна летам ходзіць недзе на рэчку, на возера, купаецца, загарае, дужаецца і паказвае свой спрыт і сілу? Відаць, што і гэта...

Яшчэ я ведаў адзін прыём, якім карыстаўся мой зямляк, калі былі студэнтамі і жылі ў інтэрнаце на Віцебскай вуліцы, былым Яўрэйскім педтэхнікуме, дзе мы часам разварушвалі косці. Дык вось, Павел Мамчыц з-пад Клецка ў баруканні ўжываў свой каронны нумар, супраць якога ніхто не мог устаяць на нагах. Мамчыц быў рослы хлапчына, але я не сказаў бы, што ён выглядаў дужым —

мускулатуру меў звычайную, не распрацаваную і не натрэніраваную, бо спортам не займаўся.

Ва ўсялякім разе, яго нумар праходзіў не з усімі. А сакрэт прыёму быў у тым, што свайго праціўніка, узяўшы моцна за рукі, цясніў назад, а потым рэзка падаваў яго на сябе, сам жа ў гэты момант збочваў, і праціўнік не мог утрымацца на нагах і падаў на зямлю як сноп — і добра, калі на рукі, а мог выцяцца і тварам, сапсаваць партрэт.

Але чужога прыёму я не ўжываў, тым больш што мы з Тармолам аднолькавага росту, і ў такім варыянце гэта мае значэнне — можа не атрымацца. Урэшце мы ўжо дайшлі да «абдымкаў», стараліся зрабіць падножку, але гэта не ўдавалася, бо праціўнік стаяў, шырока расставіўшы ногі, а злавіць абедзве нагі пад сваю адну — для падсечкі — ніяк не выходзіла. Я, напрыклад, сваю захопленую нагу тут жа вырываў і ставіў на патрэбнае месца, каб зноў стаяць трывала.

Дзіўна тое, што за час барукання — а мы ўжо дужаліся можа з паўгадзіны, ці мне так толькі здавалася, але ніхто з нас не «памаліўся» — не прызямліўся нават на калена, была толькі тупатня, нейкае няўклюднае перастаўлянне ног, без усякага парадку і сістэмы, абы толькі ўтрымацца на нагах і не ўпасці.

І ўрэшце неяк так выйшла, што я моцна захапіў Тармолу ў абдымкі, зрабіў падсечку, рэзка штурхануў яго назад — і ён тут жа бездапаможна паляцеў на зямлю, а я — на яго, твар у твар. Ён крутнуўся пада мною, хацеў вылузацца, але я трымаў яго моцна, ногі мае ляжалі на зямлі, а на ім толькі тулава, і таму скінуць мяне з сябе, як мяшок, ён не меў сілы. Мяне ратавалі ногі, якімі я ўпіраўся ў зямлю.

— Ну, хто слабак? — задыхана спытаўся я ў пабoранага праціўніка. — Здаешся, Мікіта? — спытаўся я словамі з вядомага анекдота пра Мікіту Хрушчова і Маа Цзэдуна, у якім распавядалася пра канфлікт паміж Кітаем і СССР, калі на першы дзень у палон да Саветаў здалося пяць мільёнаў кітайцаў, на другі дзень — яшчэ пяць, на трэці — яшчэ пяць. Тады Маа здымае трубку і па прамым провадзе звоніць Хрушчову: «Ну как, Никита, сдаёшься?» Што Мікіце заставалася рабіць? Толькі здацца...

— Здаюся, Стары, здаюся, — прастагнаў задыхана Тармола.

Тут над намі ўзвысіўся Алег Лойка, як секундант і суддзя адначасова, пачаў прамаўляць дыктарскім, ледзь не левітанаўскім, голасам:

— Заяўляю аўтарытэтна, з усёй адказнасцю, што паядынак праходзіў з пераменным поспехам і па ўсіх правілах, супернікі паводзілі сябе па-джэнтльменску, а заслужаную перамогу атрымаў болып актыўны і спрытны барэц Уладзя. Яму і ўсе лаўры пад звоны літаўры, — закончыў ён пад рыфму, як і належыць паэту.

Урэшце я ўстаў, падаў руку Тармолу, ён ускрыкнуў — я прыціснуў яго балючы палец. Ён уставаў нехаця, проста адпачываў стомленым целам, як пасля цяжкай працы. Мы разам сталі шукаць свае шапкі, якія недзе тут валяліся, але, аказваецца, яны апынуліся ў «суддзі» Алега Лойкі пад пахаю, і ён іх нам урачыста перадаў.

Тармола пасля пройгрышу быў не ў гуморы, і неяк надта сур’ёзна, не як паэт, а празаік, прамовіў:

— Будзем лічыць, што Уладзя ўзяў лаўры. Але хай ён падзякуе, што мільтоны вывіхнулі мне палец. Вось прычына яго поспеху.

На што Алег Лойка тут жа адказаў са смехам:

— Кепскаму танцору заўсёды нешта замінае, і вы ведаеце што. А Тармолу — палец! Звонкая рыфма сама напрошваецца. — Потым дадаў ужо сур’ёзна, з прабачэннем: — Толькі ты, Рамане, не крыўдуй, гэта я сказаў так, для понту. Каб вас развесяліць. Вы сёння абодва заслужылі лаўровых вянкоў. Пастараліся... Але

мо на гэтым і паставім кропку? — Ён зірнуў на свой ручны гадзіннік: — Гадзіна трыццаць. Надта мы сёння загуляліся. Там недзе Гаўрылкін пад'язджае ўжо да Гомеля, а мы тут стаім на якары. Па конях!

— Правільна, Прафесар. Дзякуем за праведны суд, — сказаў Тармола. — Добра, што мы сёння зрабілі выправу ў «Дрэздан», а трапілі ў мянтоўку. Век жыві — век вучыся, хлопцы!

— Не ў «Дрэздан», а ў «Патсдам», — паправіў я Тармолу. — Некалі там павесяць мемарыяльную дошку — у гонар нашага візіту.

— Ну і на міліцэйскай установе, калі яна яшчэ там застанецца, — закончыў гутарку Алег Лойка.

На гэтым мы развіталіся: кожны падаўся ў свой бок.

* * *

Назаўтра на рабоце ў рэдакцыі «Маладосці» супрацоўнік аддзела публіцыстыкі Мікола Гіль сказаў мне, што заходзіў сюды з самага ранку лейтэнант міліцыі і распытваў пра мяне: хто я такі, ці захапляюся спіртовымі напоямі, як спраўляюся са сваімі абавязкамі. Але нічога не запісваў. Мікола Гіль сказаў, што даў мне добрую характарыстыку, тым больш, што я прыйшоў у часопіс не так даўно і не паспеў яшчэ наслядзіць.

Пазней пазваніў Раман Тармола са свайго тэлебачання і са смехам распавёў, што яго, як злоснага парушальніка парадку, аштрафавалі на 25 рэ, але ён не збіраецца плаціць і будзе скардзіцца на маёра Пятручэнку, які перавысіў свае паўнамоцтвы. Спытаўся, ці аштрафавалі мяне. І здзівіўся, што толькі яго, а потым дадаў, што так і павінна быць: я паводзіў сябе па-піянерску...

Не хочацца гаварыць горкія словы ў канцы, але, відаць, трэба: два ўдзельнікі таго забаўнага здарэння пайшлі ў лепшы свет — Леанід Гаўрылкін даўно, больш як дваццаць гадоў таму, а Алег Лойка — нядаўна, пару гадоў таму. Вельмі цяжка я перанёс расстанне з імі, бо гэта былі дарагія мае сябры. Асабліва доўгія гады мы сябравалі з Алегам Лойкам, з якім разам калісьці паступалі на беларускае аддзяленне філфака, разам вучыліся. Дзякую за дружбу, дарагія сябры, памятаю вас і сумую без вас.

А з Раманам Тармолам даўно не сустракаліся, хоць жывём не так далёка ад Дому друку. Нядаўна набыў яго новую кніжку вершаў «Прычасце», пачаў чытаць. Цяпер ён — Тармола-Мірскі.

*P.S. Аказваецца, яшчэ не ўсё! Пакуль я пісаў гэты опус, пакінуў белы свет мой сябра Раман Тармола, вось зусім нядаўна, месяц таму. Слава яму і хвала, і вечны спакой. Хай табе сняцца, Рамане, светлыя сны пра Беларусь!*

*Бажэна МАЦЮК*

# ШУКАЙЦЕ. ЗНАХОДЗЬЦЕ. СТВАРАЙЦЕ МЯНЕ!

* * *

Я чакаю сваёй самоты,
Болю ранаў чужых, застылых...
Знікне ціша ў сухіх грымотах.
Чорны ветразь. Сівыя крылы.

Супраць ветру — адна дарога.
Побач з крохкімі сноў лістамі
Адрас свету майго другога:
Першы — памяць святых расстанняў.

Вось спакой наш. Як дзень лістоты,
Зноўку ліст мне пусты ён піша.
Я чакаю сваёй самоты —
Недасяжна-маўклівай цішы.

* * *

Каханне і слёзы побач
На аркушы белым,
На сіверы тлелым,
Агорнутым слаба ў поўнач.

Набытак і страта разам
У словах шалёных,
У крылах стамлёных,
Пакінутых дню сам-насам.

Палон і свабода поплеч
За поглядам скутым,
За ветразем гнутым,
Адцененым блізка ўдалеч.

* * *

Прапала без вестак у сонечных плямах.
Шукайце. Знаходзьце. Ствараце мяне.



***Бажэна Мацюк нарадзілася 8 чэрвеня 1991 года ў Вілейцы. Вучыцца на 4 курсе беларускага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ. Друкавалася ў газетах «Раніца», «Пераходный возраст», «Мінская праўда», часопісах «Бярозка» і «Маладосць». Не можа быць паэткай, калі адчувае сябе шчаслівай. Лічыць, што паэзія — стан адчаю, калі падаеш у прорву, каб ачысціцца — і ўзняцца да неба.***

Бо я — у журботных **тваіх** панарамах —
Спякотай кранаючы след на акне.

Зайздросціць і вецер
маім спадзяванням.
Лавіце. Хавайце. Я вас не знайду.
Не веру бязглуздым
пустым заляцанням
Пялёсткам ружовым зруйную бяду.

* * *

Я больш не чакаю казкі.
Я ведаю — шчасце не ў гэтым.
Знікаюць паволі падказкі,
Як вецер у словах паэта.

Кахаю цябе. І каханне
Мяне вымушае крочыць
Ад кволых і спелых ранняў
Да чыстай салёнай ночы.

Сталела ў віры адчаю,
Змянялася, як завея —
Мне мала было небакраю,
Дзе горыч — мая прывілея.

Вучуся кахаць і бачыць
Дыханне тваё, усмешку.
Хай нехта мяне прабачыць,
Што побач, а не на ўзмежку.

**ПЫТАННІ-АДКАЗЫ**

Цяжка? Не цяжка — балюча.
Ды хто яго ведае?
І боль называюць гаючым.
І чорнае — белае?

Цяжка. А што растлумачыш?
У кожнага свой Сусвет.
І цемру завуць удачай.
І лісце таполяў — білет?

Цяжка, але гэта праўда.
Падманваць цябе — не маё.
Шэпт: «Як не сёння, то заўтра?»
Каханне — святая любоў?

**УСМІХНУЛАСЯ…**

Ты спытаўся: «Як жыць адзінотай?»
Усміхнулася: «Як? Натуральна!
Надарвана-шчаслівай нотай,
Што гучыць у грудзях адчайна;
Бестурботна-пустой дрымотай,
Для якой і змяняцца варта;
Чорна-белым зжаўцелым фота:
Безнадзейна — і так упарта!
Цяжка-рэзкай сваёй пяшчотай,
У крыві аканіц, звычайна..!»
Ты спытаўся: «Як жыць адзінотай?»
Усміхнулася: «Даравальна!»



*Анатоль КАЗЛОЎ*

# РАСХРЫСТАНАСЦЬ, АЛЬБО ДАЛОНЬ НА ПЛЯЧЫ

*Аповесць*

***«Ён ваяваў пяцьдзясят гадоў. Няспынна. Штодзённа і штоночна ён вёў вайну паўстагоддзя. Наступленні змяняліся ганебнымі ўцёкамі і хвілiннымі замірэннямі, але мiналi шчаслiвыя гадзiны перадыху, і ён зноў кідаўся на цёмныя куточкі ў сваёй душы. Так, Хацейка ваяваў сам з сабою. Да поўнай знямогі і атруты крыві ў целе. Ён нішчыў у сабе маленькага чалавечка: дробнага і мярзотнага зайздросцу, ліслівага і палахлівага мураша, гнюснога паклёпніка і хцівага задаваку. Але ж, нягледзячы на кволасць маленькага ворага, які, здавалася, вось-вось акалее ў магутным целе, — пяцьдзясят гадоў нічога не атрымлівалася ў Хацейкі. Ды, крый Божа, калі б хто-небудзь перамог з варагуючых бакоў, то адбылася б непапраўная трагедыя з камічным фіналам. Хацейка ў такім выпадку вымушаны быў бы пайсці на пахаванне самога Хацейкі. Не больш і не менш. Хаўтуры па самім сабе не кожны здольны вытрымаць і не з'ехаць з глуздоў. Дык навошта ж Хацейку вайна? Няспынная, штохвілінная і бясконцая? Адказ да прымітыўнасці просты: Хацейку патрэбна вайна — каб жыць. Жыць у суладдзі з самім сабою. Парадокс?.. Не!»***



***Анатоль Казлоў нарадзіўся 28 ліпеня 1962 года ў вёсцы Асінаўка Краснапольскага раёна. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН БССР. Працаваў у часопісе «Полымя», тыднёвіку «ЛіМ». Выдаў кнігі прозы «Міражы ценяў», «...І тады я памёр», «Незламаная свечка», «Юргон» і іншыя.***

Вірун адарваў позірк ад закопчанай сцяны паўразбуранай пабудовы і прысеў у супрацьлеглым кутку. Тэкст быў напісаны звычайнай крэйдай. Почырк невядомага аўтара падаваўся няспешным і акуратным. Па-дзявочы ахайным. Толькі дзіўнаватым здавалася тое, што для празаічнага практыкавання чалавек абраў такое непрыдатнае месца. Ну, няхай бы ён напісаў: «Вася + Каця = любоў», але ж невядомы замахнуўся на філасофскае абагульненне жыцця нейкага Хацейкі. Што аўтар намерваўся гэтым акрэсліць? Ды і ўвогуле, навошта пераводзіў крэйду і марнаваў час у закінутай і паўразбуранай двухпавярхоўцы на ўскрайку Мінска?

Вірун выпадкова сюды забрыў адным восеньскім надвячоркам. Пасяліўшыся ў новым мікрараёне сталіцы, мужчына захацеў уведаць усё наваколле, каб пачувацца больш разняволена і звыкла. Не адчуваць сябе сіратою сярод аднолькавых шэрых будынін спальнага раёна яму

дапамагала вечаровая прагулка па лапіках узлескаў, якія па незразумелай прычыне пакінулі будаўнікі, а таксама швэнданне па старых, закінутых бараках прыгараднага пасёлка. Што тут размяшчалася, Вірун і па сёння не ведае. Звычайна, адпрацаваўшы паўнюткі дзень у сваёй канторы, дабраўшыся на метро дадому, ён хуценька перакусваў і, пераапрануўшыся, выбіраўся ў вандроўку. Няхай і ў недалёкую, у нечым прымітыўную, але вандроўку на пару гадзін. Тут мужчына адпачываў ад абрыдлага шматлюддзя і гарадскога шуму. Ходзячы па ўзгорыстых пустках ды лагчынках, зазіраючы ў пакінутыя ды расхрыстаныя вятрамі баракі, Вірун мякчэў душою і да болю ў сэрцы разумеў простую ісціну: усё навокал хуткаплынна ды зменліва. Нічога ў прыродзе, а тым больш у жыцці, нямя нязрушанага. Кожны пражыты дзень — гэта адарваны пялёстак ад кветкі жыцця. Набліжэнне да непазбежнага. Некалі ён хваравіта баяўся такіх думак, стараўся не ўзбівацца на іх. Усялякімі хітрыкамі прымушаў сябе разняволена пасміхацца над сабою ж. Маўляў, менш думаеш — даўжэй жывеш. Будучы па натуры самотнікам, Вірун стараўся для навакольных выглядаць закончаным аптымістам. Праўда, ці ўдавалася яму гэта, — ён дакладна не ведаў. Двойчы ажаніўшыся і двойчы развёўшыся, мужчына вырашыў: сямейнае жыццё не для яго. Яму ўвесь час хацелася бескарыслівага, шчырага і даверлівага кахання, а яму падварочваліся ўладарныя і зайздросныя сяброўкі… А мо яму так здавалася? Толькі ж і па сёння Вірун ні разу не пашкадаваў, што ціхамірна разбегся з заручонкамі. Не перажываў ён і за дзяцей, якіх не было ні ад адной з жонак. Навошта пладзіць жабракоў? Планета і так перанаселена! З ім не згаджаліся, спрачаліся ды прыводзілі сотні довадаў на карысць малых карапузаў. Але Вірун заставаўся пры сваім меркаванні: ніякіх дзяцей. Не, у яго самога было прыстойнае дзяцінства. Наконт гэтага комплексаў аніякіх не павінна існаваць у ягонай свядомасці. Не хацеў Вірун нашчадкаў — і ўсё тут. Магчыма, нехта бачыў у гэтым прычыну разводаў даволі прывыбнага і нічым не абдзеленага Богам мужчыны. Вышэй сярэдняга росту, цёмнавалосы і стройны дзяцюк часта лавіў на сабе позіркі згаладалых па ласцы і цеплыні кабетак-саракавак. Асабліва ў метро, дзе добрае асвятленне і шчыльная, часта занадта шчыльнае суседства між пасажырамі. Іншым разам нават да непрыстойнасці цеснае. Такое, што адчуваеш біццё сэрца суседа і здушлівы пах спрацаванага за дзень арганізма. Але, як кажуць вастраcловы: калі не падабаецца грамадскі транспарт, то едзь на таксоўцы…

Вірун бяздумна сядзеў у супрацьлеглым кутку барака і невідушчым позіркам упінаўся ў закопчаную сцяну з тэкстам. У нейкі момант яму падалося, што гэта ён сам напісаў, бо згодны з кожным словам невядомага аўтара… Хаця, навошта гэта вайна з сабою, калі чалавеку так мала трэба ў жыцці. Прытым кожнаму. Ну, неабходны жытло, праца, здароўе. Камусьці — сям'я. Камусьці, але не Віруну. Навошта празмерныя амбіцыі, ад якіх робіцца цесна душы і сэрцу? Не намі ж сказана, што на той свет анічога не забярэш…

«Ну ты і даразважаўся! — пасміхнуўся мужчына. — З такімі думкамі чалавецтва вернецца назад у пячоры. А чаму і не? Няблага было б, каб мы, нарэшце, ацверазіліся ад свайго ўсясілля-бяссілля»...

За праломамі вокнаў зацерусіў спорны дождж. Пад парывамі ветру танюсенька заскавыталі пруткі бэзу з утомленай за прамінулае лета лістотай. Праз дзюры на самым вільчыку даху кроплі ўбіваліся ў барак і бязгучна згасалі ў кучах пацярухісмецця. Запахла адзінотай глыбокай восені: зжоўклай напаўжывой травою, разлезлым і патрушчаным шыферам, абадранымі шпалерамі ды самотай нізкага неба. Сярод усіх гэтых разнастайна-аднолькавых пахаў Вірун пачуваў сябе ўтульна. Тут жыла цішыня. Глыбокая і ўсеабдымная. Няспешная і цягучая, як цукровы сіроп, цвёрда-празрыстая,

нібыта бурштын. Цішыня, якой не хапае штодня чалавеку, каб адчуваць сябе шчаслівым і абароненым, незалежным і вольным не толькі ў думках, але і ва ўчынках. Бо цішыня-самота ачышчае, вымывае з галавы безліч непатрэбнай, але ліпучай, нібы смала, інфармацыі. Цішыня дае магчымасць прыслухацца і нябачным трэцім вокам прыгледзецца да самога сябе. Урэшце, ураўнаважыць жаданні і магчымасці. Цішыня сілкуе ў глыбіні душы парастак шчаслівага мінулага. Таго мінулага, калі маглі радавацца дажджавому чарвяку на ўзбочыне сцежкі, басаножнаму хлюпанню па неглыбокіх лужынах на футбольным полі. Яна ж, цішыня, шчымлівай слодыччу запаўняе сэрца пры згадцы першага спасціжэння дарослацці… Вірун у гэтыя хвіліны і цешыўся нязвыклай адзінокай цішынёй пад пошчак дажджу ва ўчарнелым бараку. Ён фактычна быў шчаслівы. Утомлены, расслаблены і шчаслівы. Незаўважна прыплюснуўшы павекі, ён задрамаў. Чуйнасць слыху прытуплялася, цела агортвала лянотная абыякавасць, дыханне замаруджана спакайнела. Сінічка, што прысела на разламанае падаконне, цікаўна зірнула на кручкаватую постаць чалавека каля глухой сцяны і, скокнуўшы раздругі па ўчарнелай драўніне, спырхнула на кучу друзу пасярод будыніны. Крутнуўшы галоўкай, прыслухалася да наваколля: а ці нямашка паблізу небяспекі? Пераляцела яшчэ бліжэй да прыснулага Віруна. Пташцы хацелася даведацца: навошта нехта прыйшоў у гэтае глухое месца? Што ён тут робіць? Каго шукае? Небяспечны ён для яе альбо не? Счакаўшы яшчэ хвілінку і спасцігшы птушыным розумам, што заспакоены чалавек ёй не пагражае, сінічка юркнула праз пралом столі на гарышча, да свайго жытла ці часовага прыстанку.

А Віруну снілася глыбокае падзямелле з адпаліравана-бліскучай падлогай і груба абчасанымі каменнымі сценамі, у якіх яркімі зоркамі, між палымнеючых паходняў, блішчэлі ў агні алмазы, а пад сценамі разлягаліся галькаю залатыя самародкі. У бязмерна вялікай падземнай зале панавала нейкае мройна-блакітнае святло. Сполахі жывога полымя паходняў і зданістага асвятлення дружна ўжываліся, не парушалі акаляючай гармоніі. Вірун заўважыў удалечыні празрыстыя, на некалькі дзясяткаў метраў удаўжыню, сталактыты. Яны грацыёзна спускаліся з нябачнай столі памяшкання і спічаста застывалі каля падлогі. Ад іх сыходзіла цеплыня. Мужчына гэта адчуваў тварам. Каб упэўніцца, што не памыляецца, ён выпрастаў перад сабою рукі. Нібы сляпы, які шукае падтрымкі. Далоні агарнула прыемная ўтульнасць, кончыкі пальцаў, падалося, быццам нехта асцярожна стрыкануў пучком крапівы. Вірун не адхапіў рукі, а наадварот зрабіў некалькі крокаў наперад, усё трымаючы перад сабою выцягнутыя рукі. Самае дзіўнае, што дзецюку падалося, не, ён быў перакана081ны, што ўжо наведваўся ў гэтае цудоўнае месца. Ён на ментальным узроўні дакладна памятае, дзе знаходзіцца гэтае падзямелле. Нават можа паказаць на карце, бо з самага дзяцінства, з той хвіліны, як, паслізнуўшыся, зваліўся ў замёрзлую панеўку на азярцы, каля бабулінага дома, ён запомніў гэтую залу падзямелля. Усім сваім хараством, непаўторнасцю ды зманлівасцю яна ўпячаталася ў мозг. Вірун помніў, як гуляўся ў цяжкія самародкі, перакідваючы з далоні на далонь важкія глыжыкі металу. І цяпер яму захацелася нахіліцца і ўзяць пару цьмяна-жоўтых самародкаў. Бо ён помніў, што і яны некалі былі не зябка-халоднымі, а быццам нагрэтымі яйкамі ў гняздзе курыцы-нясушкі. Вірун апусціў правую руку і, збочыўшы да сцяны, нагнуўся да самародкаў.

— Не ўсё золата, што блішчыць, мой дарагі, — пачуў мужчына прыцішаны голас. Ён паспешліва выпрастаўся і зіркнуў па баках. Нікога не згледзеўшы, дзяцюк пачаў уважліва ўзірацца ў прастору залы. Ані зруху навокал.

— Дзіўна, — прашаптаў сам сабе. — Такое багацце павінен нехта вартаваць. Ва ўсіх жа паданнях і казках так гаворыцца.

— Гэта не казка, дарагі Вірун. І не паданне, — зноў пачуўся голас. — А рэальнасць. Ці правільней сказаць: рэальная спакуса для дробных душ. Для тых, каму ў жыцці ўсяго мала. Колькі б і якімі шляхамі ні х*а*палі, а ўсё роўна ім падаецца мала. Цяпер жа большасць такіх людзей побач з табою жыве. Ці я памыляюся?

— Хто ты? — выгукнуў у прастору Вірун. — Я ж не магу гаварыць сам з сабою? Пакажыся. — Папрасіў.

— Я і не хавалася. Прайдзі да цэнтральных сталактытаў і ўбачыш мяне.

Мужчына ўпэўнена пайшоў наперад. Ён зрабіў добрую сотню крокаў, пакуль дасягнуў празрыста-ледзяных, аж на зубах зарыпела, сталактытаў. Праціснуўшыся між спарышамі, Вірун угледзеў драўляны, колеруператопленага воску, човен, вялікі і спраўны. Ці не, хутчэй гэта была ладдзя, на якой некалі падарожнічалі вікінгі-захопнікі. Сапраўды, у гэтую дагістарычную пасудзіну можна было лёгка размясціць чалавек трыццаць. Толькі ж у ладдзі-чоўне стромка стаяла адзінюткая постаць дзяўчыны. Белатварая, з чорнымі брывамі і ясна-зялёнымі вачыма, з вадаспадам валасоў да борціка чоўна, яна з сумам пазірала на госця.

— Ну, і навошта ты прыйшоў зноўку да мяне? — уздыхнула гаспадыня ладдзі. — Я ж цябе адпусціла ў дзяцінстве. Цешылася, гледзячы, як ты жывеш, як не збочваеш з абранай дарогі. Радавалася, што ты ніколі не называў белае чорным, а чорнае белым. Дурням гаварыў, што яны дурні, а пакрыўджаным падстаўляў плячо і працягваў руку. Што цяпер у цябе бунтуе ў душы? У чым ты засумняваўся? Што азмрочыла твае дні?

— Памірае ўва мне вера ў людзей. Не знаходжу я чысціні думак і памкненняў у сваіх аднародцаў. Народ мой не жыве, а пражывае, не гараць іх душы агнём гонару і велічы за сябе і блізкіх сваіх. Няма народа і мяне разам з ім няма. Я згубіўся ў шэрасці натоўпу. Я такі ж спажывец, як мільёны майго народа. Я пачаў баяцца. Разумееш, баяцца!

— Хлусіш! Ты ніколі і нікога не баяўся. Сам мне ў дзяцінстве яшчэ казаў, што, акрамя душы, у чалавека анічога нельга адабраць. А ўсё матэрыяльнае — гэта попел. Нават горш — лайно. Душа ж непадуладна людзям.

— Цяпер я сумняваюся ў гэтым…

— Няпраўда, — не пагадзілася паненка. — Ты проста ва ўзроставым раздраі. Так мне здаецца. Вось паглядзі: навокал цябе бязмежнае багацце. Не вымяральнае людскімі меркамі. У цябе ж нават думкі не ўзнікла, каб прыхапіць нешта з сабою. Ці дакладней, каб мець хоць крупіцу таго, што бачыш.

— Навошта? — абыякава спытаў Вірун.

— У мяне пытанняў больш няма.

Аднекуль падзьмуў вецер. Свавольны такі. Вясенні жэўжык-вецер. Ён разгайдаў ладдзю, пагуляўся з валасамі дзяўчыны, крутнуўся юлою вакол спарышаў-сталактытаў і аціх на горцы залатых самародкаў.

— За кожны ўчынак мы адказваем перад самімі сабою. Так ты вучыла мяне, — пасля хвіліннага роздуму загаварыў мужчына. — Ды і не толькі перад самімі сабою, але яшчэ і перад той невядомай Сілай, якую не бачым, але штохвілінна адчуваем душой і розумам. Так у ідэале павінна быць у людскім грамадстве. А гэтага няма. Я не праведнік. І ніколі не буду ім. Толькі ж ёсць прасцейшыя, не намі прыдуманыя прынцыпы, па якіх варта жыць, каб пачувацца чалавекам, а не воранам на кучы трупаў. Я выдатна разумею і тое, што каб стварыць, трэба нешта разбурыць. Гадуючы ў сабе сённяшняга, я разбураю ўчарашняга. Падымаючыся на прыступку над сабою, я ў той жа час апускаюся на калені. Так мне здаецца…

— Гэткая разбэрсанасць у думках найлепшым чынам характарызуе твой жыццясмяротны ўзрост. Ты ж дайшоў да паўвекавога ўзросту, дажыў не схібіўшы… ці не так?

— Ат, рознае было. Не падабраў кацяня ў кустоўі. Галоднае і змоклае кацяня. Кінуў дзвюх жонак. Здрадзіў сабаку, які ў мяне паверыў. Паверыў, як ніхто дасюль. Гэта мой найвялікшы грэх. Не магу сабе дараваць па сёння.

— Тое добрае сабачаня даўно ўжо ў лепшым свеце. Не ў вашым, людскім свеце. І яно даравала табе. Бо ты ж чалавек.

— Чаму ж тады пры сустрэчай з сабакам, якога выгульваюць, у мяне баліць сэрца. Я вінавата ўсміхаюся кожнаму з іх, у думках прашу дараваць за майго сабачаня. Я кожны дзень усміхаюся сабакам і зусім не заўважаю, не помню іхніх гаспадароў.

— Гэта пакуль што не дыягназ. Ідзі ды жыві. Адпускаю цябе і цяпер. Магу падараваць прыгаршчы самародкаў. А калі не лянуешся, то накалупай жменю алмазаў, — аднымі вуснамі пасміхнулася дзяўчына. — Не саромся. — Падахвочвала паненка.

— Дзякуй, мне не трэба.

* * *

Вірун прахапіўся ад таго, што вялізны павук імкнуўся залезці ў левую наздру. Вяласянымі лапамі ён стараўся ўбіцца ва ўпадабанае месца. Страсануўшы членістаногую набрыдзь зацёклымі пальцамі, мужчына моцна чхнуў. Ён толькі цяпер адчуў, як у грудзях нястрымана калоціцца сэрца, а ў вушах марскім прыбоем пульсуе кроў. Моцна ўдыхнуў ротам і затрымаў дыханне. Дзяцюк паспрабаваў утаймаваць сэрцабіццё. Счакаўшы некалькі хвілін, ён выдыхнуў і паўтарыў абраны метад лячэння наноў. Сэрца пакрыху запавольвала біццё.

— Ну, трэба ж так. Ай-яй-яй, — дакараў сябе Вірун. — Во акалеў бы ў разбураным бараку, і ніхто б не спахапіўся. За некалькі дзён сабакі з'елі б і касцей не пакінулі. Не трэба столькі кавы піць ды па два пачакі на дзень цыгарэт выкурваць. Сэрца, аказваецца, у мяне не жалезнае, як і ва ўсіх. — Ён няспешна, абапіраючыся далонямі аб сцяну пабудовы, паволі падняўся. Абтрос з нагавіц прыліплую пацяруху, абцягнуў лёгкую баваўняную куртку і зірнуў праз сляпое вока акна на вуліцу. Там, за сценамі барака, увачавідкі звечарэла. Паветра нібы набрыняла густым і цягучым туманам. Дождж скончыўся, але волкая вільготнасць, здавалася, запоўніла ўсю прастору, кожную шчыліну. Вірун перавёў позірк з акна на сцяну і аслупянеў. Побач з папярэднім тэкстам ён угледзеў новы. Напісаны такім жа роўным, акуратным і няспешным почыркам. Міжволі цірнуўшы тыльным бокам далоні вочы, мужчына пасунуўся наперад, каб лепш бачыць, прыжмурыўся і пачаў чытаць.

***«Сумна. Жыць яму сумна, а паміраць не хочацца. Ці яшчэ рана? Занадта рана. Пакуль жа, дзякуй Богу, не сышлі ў лепшы свет бацькі. Не народжаны (а ці народзяцца?) і не дагледжаны дзеці. Ягоныя дзеці. Ага, колькі ж іх туляецца па белым свеце?.. Каб жа толькі мог ён падлічыць. Дакладна ведае, што з дзясятак ёсць, а астатнія? Прыгадвае ж іншым разам ён тых дзяўчат ды жанчын, якія не сказалі ані слова, а, апусціўшы вочы, ледзь улоўна, машынальна прыкрывалі жываты, калі каханак бязлітасна пакідаў іх. Моўчкі сыходзіў. Шукаў шчасця. Сваё шчасце, якое, здавалася, тут, побач з чарговай дачкой Евы, яму не наканавана. Шчасця проста не будзе з Веранікай, Анжэлай, Віялетай, Надзькай, Ірынай… І ён ішоў далей. Забываўся на ўсё і ўсіх. Бо хацеў свайго шчасця! Адчуваў ягоны смак, дотык, подых і водар там, за дзвярыма кватэ-***

***ры. І зрываўся з месца, стрымгалоў бег у невядомасць. Бег з цеплыні, ад ласкі і любові, у дажджлівы надвячорак, у снежную раніцу і спякотны полудзень. Імчаўся насустрач невядомаму, мройнаму, пажадліваму і зманліваму шчасцю… А чаму бег? Ён і цяпер бяжыць, праўда, не з такой ужо хуткасцю ды імпэтам. Але бяжыць, бяжыць яшчэ, хоць і робіцца сумна жыць. Бо ж зведана, спазнана сёе-тое, але ці дарэшты? Каб жа ведаць… Яму здаецца, што чалавек увогуле не ведае, чаго хоча. Бо па жыцці кожны вандроўца і шукальнік прыгод. Спыняюцца толькі тыя, хто ад нараджэння лянотны альбо фізічна нямоглы, скалечаны… Альбо баіцца згубіць тыя крошкі «шчасця», што выпадкова падабраў падчас папярэдняга забегу. Тлусцее цела, заплывае тлушчам і жаданне пошуку. Часам душа бунтуе, але ж куды ёй без друзлага ўжо цела? Марафонец ператвараецца ў кідальніка молата. Молата жаданняў…***

***З чаго ж нам пачаць? Дасведчаныя людзі кажуць, што з любога месца. Неабавязкова з першага крока альбо пацалунка, ці піянерскага гальштука на шыі… Галоўнае пачаць. Распавед павядзём не толькі пра каханне, вернасць альбо здраду. Будзем гаварыць пра жыццё канкрэтнага чалавека, на пэўным кавалку зямлі ў абмежаванай прасторы. Пачнём мазкамі ствараць карціну. Ці, лепш сказаць, пісаць вобраз. Што атрымаецца з гэтага? Пакуль невядома. Магчыма, пейзаж, а мо і абстракцыя ці мазаіка. Пажывём — пабачым».***

Прачытаў да апошняга слова — і кінула ў пот, змакрэлі далоні, павільгатнелі вочы. Мужчыну падалося, што выскачыў ён з парыльні ў лазні. Новы тэкст на сцяне дакладна быў пра яго, ці амаль пра яго. Нехта нябачны быццам зазірнуў у глыбіню ягонай душы і, уважліва паглядзеўшы, убачыў тое, што мужчына хаваў нават ад сябе. Не хацеў прамаўляць услых. Бо аднойчы прамоўленае, не дасць ужо спакою да самага скону. Лепш няхай яно, тое балючае, сядзіць стрэмкай у целе і зрэдку паколвае-назаляе. Галоўнае, каб не запалілася, не зрабілася гнайніком. А калі і ператворыцца ў фурункул, то само ж і прарвецца, незаўважна ачысціцца і зацягнецца новай скурай. Маладой і гладкай. Канешне, можа ўтварыцца струпок, але ён наўрад ці будзе муляць. З ім можна жыць, не звяртаючы ўвагі на адмеціну. Ці ж мала іх на целе і ў душы? Ды не злічыць іх, гэтых шнараў! Спаласаваны імі як унутраны, так і знешні бок кожнай асобы. Вірун тут не выключэнне. І яму не чужая прымаўка: жыць як набяжыць. Ён таксама, як і большасць, хавае ад староннiх вачэй непрыгожыя ўчынкі, пажадлівыя думкі, хаценні, драбязу памкненняў. Вірун такі ж, як усе. Ці амаль такі ж… А мо і горшы за людскую большасць… Каб жа ведаць, які ты і хто ты ёсць на самай справе…

— Божа мой, я вар'яцею! Дакладна шызануўся! — прашаптаў мужчына сасмяглымі вуснамі.

На ілбе ў дзецюка буйной расою выступіў пот, а вусны перасохлі, як счарнелая піжма пасярод зімы на лысым пагорку.

— Калі і хто змог напісаць на сцяне тэкст? Я ж сядзеў у супрацьлеглым баку. Няўжо не пачуў, як нехта заходзіў? Ды і той чалавек, што зазіраў сюды, як не пабачыў мяне? Не мог ён не ўгледзіць іншага ў такім невялікім пакоі барака. Нешта дзеецца не тое… А да чаго, да якой падзеі незразумелы сон? Пячора з незлічонымі скарбамі, прыгажуня ў чоўне. Эт жа, і прысніцца ж… Ды дзе? У напаўзгнілым бараку давялося пабачыць горы золата. Тэксты, напісаныя невядома кім на закопчанай сцяне. Белае на чорным… Падзямелле і вяшчунні сярод багацця, — Вірун стаяў з угнутымі плячамі і нагадваў цяпер старога каршуна, які патрапіў пад праліўную навальніцу. Куточкі губ на ягоным твары асунуліся, падковай звісалі над прамакутна-масіўным, як любяць маляваць амерыканцы на сваіх вайсковых плакатах,

падбародкам. У вачах жа застылі глыбокая тужлівасць і непрыхаванае недаўменне, ці, нават, разгубленасць. Па ўсім бачылася, што чалавек заблытаўся ў сваіх думках і перажываннях. Ён цяпер суцішыўся, нібы муха, што патрапіла ў павуту. Але праз хвіліну, сабраўшыся з сіламі, істота пачне змагацца за волю, жыццё і палёт па замкнёным коле. Па коле, якое называецца так проста, але як важка — жыццё. Толькі пакуль невядома: ці хопіць спрыту, навыкаў ды здольнасцей выблытацца з ліпучапругкіх цянётаў? Выбрацца з аднаго палону, каб патрапіць у новую пастку. Мо і больш небяспечную ды пагрозлівую за папярэднюю.

Эх ты, чалавек-муха, ці муха-чалавек, усё бяжыш, ляціш, няма часу супыніцца і агледзецца, перавесці дух і ўважліва зірнуць пад ногі, направа, налева, угору, урэшце — перад сабою. Зірнуць і зразумець, што не варта такіх высілкаў твая гонка. Гонка за прывіднасцю смачнейшага кавалка і прывабнасцю новай апраткі. Бо калі ты ўрэшце спынішся і агледзішся, то зразумееш, што твой страўнік-коўбік поўны, а ад адзення ды іншых даброт няма ўжо сілы вольна пачувацца…

Ну што, перавёў дух? Бяжы далей, бо інакш скалееш. У падсвядомасці кожнага антонавым агнём пульсуе думка: рух — гэта жыццё. Толькі так і не інакш. Вось і бяжы, за гарызонтам жа зданістай мараю пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі недасяжная вежа абсалютнага шчасця. Твайго шчасця, задавальнення і роспачы.

Вірун усёй істотай адчуваў ірэальнасць сітуацыі. У ягонай душы нібы ўтварылася трэшчынка-разлом, праз якую і хлешчуць цяпер раздрайныя думкі і пачуцці. Ну, па-першае, чаго пацягнула яго ў гэты закінуты і хісткі барак? Разумны чалавек пабаяўся б і парог пераступіць у такую халупу, а ён, як ачмурэлы, убіўся ў самую сярэдзіну, да таго ж прыснуў тут, як шчаслівы яўрэй пасля кірмашу. Па-другое, угледзеў тэкст на сцяне, напісаны быццам для яго і пра яго. Па-трэцяе, пасля сну, побач з першым нехта напісаў другі тэкст, а ён, Вірун, не змог упільнаваць пісаку. Калі сур'ёзна задумацца над паслядоўнасцю такіх здарэнняў, то прыходзіць думка: выпадкова ўсё гэта, альбо наўмысна, спецыяльна некім задумана? Тады ўзнікае наступнае пытанне, нават два: кім і дзеля чаго?

Вірун уздыхнуў на поўныя грудзі і, правёўшы ўказальным пальцам правай рукі па чорнай сцяне побач з тэкстамі, зрабіў, не азіраючыся, пару крокаў назад. На тым месцы, дзе датыкнуўся палец да закапцеласці, застаўся белаваты след. Звілістаняроўны, нярвовы, як і жыццёвы лёс самога Віруна. Яшчэ раз зірнуўшы на тэкст, мужчына загадкава пасміхнуўся сам сабе і, усутыч падышоўшы да сцяны, хукнуўшы на далонь, як на пячатку, прыклаў яе да сцяны.

— А гэта мой роспіс, — голасна прамовіў дзяцюк. — Я згодны з усім, што тут напісана. Адназначна завяраю і пагаджаюся з выкладзеным. Але ж, хутка пачне цямнець. Трэба клыпаць дадому. Ніколі не паверыць Моніка-Моня, калі распавяду ёй пра свае сённяшнія прыгоды. Не, не паверыць, як піць даць. Яна яшчэ тая жанчына, якім трэба ўсё не толькі пачуць, але і пакаштаваць, памацаць, нюхнуць і адшчыкнуць крошку ці каліва. А прыйсці ды самой зірнуць ды ўпэўніцца, яна не захоча. Шмат гонару мае, каб швэндацца па струхнелых, прапахлых цвіллю і дажываючых апошнія часіны, бараках. Выпешчаная яна горадам. Ёй цішыні не трэба. Падавайце Моніцы-Моні шум гарадскіх вуліц, клацанне трамвайных колаў аб рэйкі, гул бясконцых аўто і штурханіну людской плыні. — Пакуль гаманіў, мужчына паспеў ужо выйсці на вольнае паветра. Ён прыпыніўся на хвіліну каля ўваходнага праёма, праз які ўварваўся ў будыніну стомлены за дзень вецер. Свавольнік, забраўшыся ў барак, раз-другі саданууўся аб перашкоды сцен ды аціх. Відаць, ён урэшце знайшоў тое месца, якое шукаў. Тут яму ніхто замінаць не будзе да самай раніцы. Бо і Вірун вызваліў барак, сабраўся ў сваю ўтульную, хоць і невялічкую кватэру. Да маўклівай,

хоць і наравістай ды раўніва-недаверлівай Монікі-Моні. Канешне, яна не беспрытульны вецер, якому патрэбны раздолле і шырыня, нябесная прастора і пошум дрэў ды бязважкасць аблокаў. Моніцы-Моні дастаткова і голасу Віруна, ягонага ненавязлівага клопату і прыцішаных дыванком у зале крокаў, каб адчуць сваю абароненасць і неабходнасць гаспадару кватэры. Моніка-Моня не любіць доўгіх адлучак Віруна. Дзяцюк гэта засвоіў ужо даўно. Яна хвалюецца і нервуецца за яго. Чуйна ўслухоўваецца ў скавытанне ліфта ў пад'ездзе, шчоўканне ключа ў замочнай шчыліне. Часта гэта чужыя людзі падымаюцца да сябе ў жытло, адмыкаюцца суседскія кватэры. А Вірун усё недзе затрымліваецца, штосьці шукае па ўзмежках горада, па пустках ды лагчынах. Ганяецца за прывідным заспакаеннем для душы, а мо і цела. Толькі ж цела змэнчваецца за такія падарожжы-пошукі: пачынае ныць спіна, баляць ногі. Дзяцюк пасля такіх падарожжаў заўсёды жаліцца Моніцы-Моні, а яна абыякава маўчыць. Помсціць яму за вымушаную адзіноту.

Вірун ужо далекавата адышоў ад закінутага барака. Пясчаная сцяжынка вілася між невысокіх пагоркаў, хавалася ў пераросла-высахлым разнатраўі і гублялася за худаватымі лапікамі бярэзнічка, да якога не паспелі яшчэ дапяць і знішчыць гарадчукі. Праз пару кіламетраў сцежка выскачыць да мастка, што перакінуты над тлумнай кальцавой дарогай. Перайшоўшы яго, кожны ўліваецца ў нястомны вір гарадскога жыцця. Таго жыцця, дзе ад шматлюддзя цесна нават думкам у галовах, не тое што целам. Віруну часта здавалася дзікім і ненатуральным жыццё гарадскога люду. Ён пачаў сумнявацца, што ў такой людской таўханіне і гармідары анёлы-ахоўнікі мільёнаў гарадчукоў упільнуюць сваіх абранцаў. Што яны не зблудзяцца і не пераблытаюцца, а змогуць спыніць свайго канкрэтнага чалавека ад непрыгляднага альбо ракавога ўчынку. Няшчасным анёлам-ахоўнікам увесь час трэба пільнавацца абаронца, каб незнарок, на хвілінку адбіўшыся, не згубіцца ў людскім гушчары чужых цел. Мо ад гэтага столькі няшчасцяў здараецца апошнім часам? Бо анёлы-ахоўнікі, нібы малыя дзеці, губляюцца, а людзі, без абярэжлівасці сваіх крылатых абаронцаў, непрадбачліва трапляюць у не тыя месцы, дзе павінны знаходзіцца.

— Цікава, а куды падзяюцца анёлы-ахоўнікі, калі чалавек памірае? — Вірун ад нечаканай думкі замарудзіў крок. — Яны ж не могуць памерці разам з людзьмі. Відаць, эфірныя стварэнні робяцца вольнымі, свабоднымі, як нябесныя птахі. Тады, які сэнс анёлу-ахоўніку абараняць ды аберагаць свайго абранніка? Атрымліваецца, што чалавек для анёла-ахоўніка прыгнятальнік, сатрап… Ух ты. — Дзяцюк дастаў з кішэні курткі цыгарэты. Шчоўкнуў запальнічкай, прыкурыў. — І трэба ж дадумацца да такой дурноты. Але, чаму дурноты? Цалкам лагічнае пытанне, хоць і падаецца непрыгожым і нават гнюсным. Можна пайсці яшчэ далей: як Усявышняму прыгледзець за цяперашняй колькасцю людзей у свеце? За сямю мільярдамі! Даруй мне, Божа, за такія думкі, але незайздроснае ў цябе існаванне. — Цыгарэтны дым казытаў у ноздрах, выдыхаўся мужчынам у вечаровую шэрань. Пад падэшвамі абутку лёгка шаргацеў вільготны пясок. Дзе-нідзе прыходзілася дзецюку абыходзіць невялікія лужынкі, якія пакінуў нядаўні дожджык. Калашыны нагавіц у Віруна вымаклі да самых каленяў. Гэта ад травы, якая пры хадзьбе чалавека атрасала з сябе вільгаць на ягонае адзенне.

— Сапраўды, існуюць пытанні, на якія ніколі не зможаш адказаць. Пераканаўча і даходліва. Аргументавана і доказна. Часта прыходзіцца чыесьці довады і пастулаты проста прымаць на веру. Відаць, што так атрымліваецца і з нашымі анёламі-ахоўнікамі. Яны заўсёды і паўсюль з намі таму, што так ёсць і так павінна быць. Усё вельмі проста і зразумела, — Вірун шчыра ўсміхнуўся наваколлю. На душы зрабілася лёгка і ўтульна, зразумела і ясна. Быццам пасля цяжкай працы, калі завершана манатонная справа.

Віруну падабалася заставацца сам-насам. Ён гадзінамі мог блукаць па пустках і лугавінах прыгарада. Зазіраць у недалёкія лясныя масіўчыкі. Шукаць у летнюю пару першыя чырвоныя кропелькі сунічак, знаходзіць цёмна-фіялетавыя россыпы чарніц, узбівацца на сямейкі лісічак ці спаткацца з важна-засяроджанымі, а таму замаскіраванымі, ганарліўцамі баравікамі альбо падасінавікамі. Мужчына рабіў такія паходы не для наедку, а дзеля ўнутранага суладдзя. Такія паходы ён здзяйсняў летам. Позняй восенню ж шлындаўся не так далёка ад горада, як хацелася б. Прычына адна: рана цямнела. Пакуль дабярэцца на метро да свайго новага спальнага раёна, перакінецца парай слоў з Монікай-Моняй, перакусіць, а на прагулянку застаецца не больш гадзіны-паўтары.

У канторы, дзе працаваў Вірун, не вельмі яму назалялі з размовамі ды роспытамі калегі. Яны ведалі, што мужчына не гаваркі, а таму пасля прывітання і пары банальных фраз прымаўкалі, займаліся сваімі справамі ды клопатамі. Надараліся дні, калі Вірун мог моўчкі адпрацаваць цалюткую змену і напрыканцы дня, не развітваючыся, сысці дамоў. Да такіх паводзін дзецюка супрацоўнікі звыкліся, нават не лічылі яго дзіваком. Маўляў, маўклівы чалавек, ну і няхай сабе маўчыць. Хто ведае, што ў яго на душы? Бо балбатаць языком сёння ўсе майстры. У кожным кутку абмяркоўваюць тэле-шоу, якія напярэдадні паглядзелі па каляровых скрынках, лежучы на канапах. Маўклівасць у наш час можна ўспрымаць як знак якасці чалавека. Нават ягонай абранасці.

Вірун даўно заўважыў, што вакольны свет пакрыху шызее, тупее, зарастае танным тлушчам, апускаецца ніжэй ватэрлініі. Што пэўныя, абавязковыя чалавечыя якасці, якія цаніліся раней, беззваротна дэградуюць, прыніжаюцца і выраджаюцца. Робяцца непатрэбнымі ў стасунках. Іх замяняюць новыя, невядома адкуль узятыя, выродлівыя каштоўнасці. Хаця, якія ж яны каштоўнасці? Як гаворыцца, свята месца пустым не бывае. І вось на змену дабрыні і спачуванню аднекуль выплывае і трывала замацоўваецца злая зайздрасць. А дзеля таго, каб адчуць сябе чалавекам, менавіта Чалавекам, трэба прынізіць бліжняга свайго, альбо ж зусім незнаёмага, выпадковага прахожага на вуліцы, пасажыра ў транспарце… Бо кожны хоча мець больш вольнага месца. Пашырыць свой асяродак, адабраўшы некалькі ўздыхаў вольнага паветра ў паплечніка…

Можа, таму Вірун з гадамі і ператварыўся ў маўчуна, які больш слухае і назірае, чым гаворыць ці прамаўляе. Шосты год яму добра, нават выдатна пачуваецца з Монікай-Моняй. Не назаляючы адно аднаму, яны шчасліва суіснуюць, часам дзеляць адзін ложак. Гэта ў тыя ночы, калі Вірун заўважае, як ягоная жанчына замаркоцілася, альбо ў зімовы час, калі ў пакоі бывае не дужа цёпла. Маразы ж у лютым калі-нікалі дасягаюць і мінус трыццаці. Вось тады мужчына забірае Моніку-Моню з улюбёнага ёю фатэля да сябе ў ложак. Грэе азяблыя рукі, ногі, твар. Супакойвае яе і абяцае не пакідаць вечарамі ў самоце, прыходзіць дамоў раней, разам гатаваць вячэру і шастаць па інтэрнэце. Моніка-Моня шчаслівая засынае побач з дзецюком. Яны абодва шчаслівыя.

У мільённы раз Вірун гатовы паўтарыць: як жа мала чалавеку трэба для шчасця! Усяго-та адчуваць сябе здаровым, быць хоць некаму патрэбным, мець унутранае суладдзе, нейкі дах над галавою, працу для кавалка хлеба — і ўсё!

«А ці так гэта ўжо і мала? — задумаўся мужчына, выходзячы на тратуар і ўліваючыся ў гарадскую плынь. — Па вялікім рахунку, не многа і не мала. Якраз, каб панесці, не ўгінаючыся і не ламаючы хрыбет».

Як ні дзіўна, але апошнім часам Вірун зрэдку, але прыгадвае сваіх жонак. Былых каханак. Вяртаецца ў мінулае і разумее, што на сённяшні дзень, з цяперашнім жыц-

цёвым вопытам, ён шмат што б змяніў, зрабіў па-іншаму. Не быў бы такім прасталінейным і безапеляцыйным. На некаторыя рэчы і ўчынкі жонак ён прыплюшчваў бы вочы, не заўважаў, ці, больш правільна сказаць, не надаваў бы такое значэнне. Ну ніяк не катастрофа гэта, што Віялета, дзе б ні павярнулася, паўсюль разводзіла бруд і неахайнасць. Ды і здрада Таццяны ў турыстычнай паездцы — не такая ўжо і трагедыя для сямейнага жыцця. Канешне, навучыцца дараваць іншым іх правіны — складаная задача. Дужа складаная. Яна вымагае вялікага жыццёвага досведу і вопыту, разважлівасці ды аналізу прычыны і выніку. Гарачнасць маладосці зразумелая, асабліва тады, калі кахаеш, калі верыш у вечнае каханне, у нязменнасць сямейных каштоўнасцей, калі верыш у святасць адносін. Эх, маладосць-маладосць… Толькі ж Вірун ніколі не шкадаваў пра зробленае. Ён даўно ўжо дараваў сваім жанчынам і не адзін раз сам у думках папрасіў у іх прабачэння…

У некаторых вокнах шматпавярховікаў ужо запальвалася святло. Зноў пайшоў дождж, але не такі моцны, як папярэдні, а прыцішаны і няспешны, нудотна-доўгі. Па густа абкладзенаму аблокамі небу можна меркаваць, што ён будзе доўжыцца ўсю ноч, прыхопіць яшчэ і раніцу наступнага дня. Чаго здзіўляцца? Восень жа, глыбокая восень. Яна нібы няспешная сталасць-старасць чалавека. Удумліва-разважлівая і ў той жа самы час — непрадказальная: то нечакана сонца вызірне, а то без дай прычыны і невядома адкуль нагоніць занудлівай і непрагляднай імжы. Цягучай і казытліва-роспачнай, падобнай да паталагічнай самоты, якая ўзнікае ніадкуль і бясследна знікае пасля навалы-дрымоты, што агортвае чалавека падчас роздумных, тысячы разоў перадуманых і перабраных у памяці мінулых дзён, гадоў, дзесяцігоддзяў. Восень, матухна восень і даецца дзеля таго, каб прыпыніцца, падумаць, узважыць ды прыняць у свой набытак пройдзена-пражытыя зіму, вясну і лета.

Вірун любіў восень. І раннюю, і познюю, нават з першымі прызімкамі, калі танютка-гладкі лядок прыхопліве ваду ў лужынах, а шаравата-чорную зямлю прысыпаюць снежныя крупінкі. Уведзеныя прыродай у зман галубы спрабуюць кляваць гэты прасяны падарунак набёсаў. Шкада, што ім нельга насыціць валякі птушкам, а толькі ахаладзіць галодныя дзюбы ды расчаравана шукаць спажывы на прыпынках грамадскага транспарту ці ў сметніцах каля пад'ездаў дамоў. Дзецюку кожная восень была непаўторнай. Ён менавіта восенню падлічваў свае пражытыя гады, хоць і нарадзіўся Вірун напачатку лета. Але ж лета, яно легкадумнае, паспешлівае і вірлівае: ніякай роздумнасці і глыбіні ў ім. Таму мужчына адзначаў свой дзень нараджэння на другі дзень Уздзвіжання. Калі, па народным павер'і, усё лясное гадаўё залягала на зімовую спячку. Вірун напярэдадні набываў пляшку добрага віна, абавязкова чырвонага, і, седзячы апошнімі гадамі з Монікай-Моняй на кухні, няспешна выпівалі. Піў, канешне, сам віноўнік урачыстасці, а сяброўка маўкліва пазірала на пасталелага імянінніка і загадкава-адасоблена ўсміхалася. Усмешка Монікі-Моні заўсёды зачароўвала Віруна. Мужчыну здавалася, што ў ёй схавана ўся мудрасць чалавецтва. Ён быў перакананы, што менавіта такія ўсмешкі ён бачыў у далёкім дзяцінстве на тварах старэнькіх вясковых бабуль, у вачах якіх застыла вечнасць, а самі яны, іх твары, нібы свяціліся ледзь улоўным, але такім яўным і фантастычным святлом, якое можна было зачарпнуць ад іх прыгаршчамі і выліць на сябе. Дзяцюк па сёння памятае тыя светлыя і мудрыя ўсмешкі, ад якіх разбягаліся ва ўсе бакі яго дзіцячыя непрыемнасці ды крыўды. У тых бабулек былі лёгкія, як пёры, далоні, нібыта пушынкі — пальцы. Але ж ад дотыкаў іх бязважкіх рук загойваліся вокамгненна Віруновы збітыя калені і локці, зацягваліся драпіны. Ападалі пухіры ад крапівы-пякучкі. І галасы бабулек з дзяцінства заўсёды былі лагодныя, сардэчнашчырыя і даверлівыя. Да іх не страшыўся прыходзіць з любой крыўдай і дзіцячай

бядою. Бабулькі ўмелі, нібы вецер на небе, разагнаць-развесці ў бакі непрыемныя і пагрозлівыя хмары. Старыя жанчыны вучылі дзяцей усміхацца і радавацца кожнаму дню, дапамагалі спасцігаць простую мудрасць існавання. Яны вучылі дабрыні і спагадлівасці яшчэ кволыя дзіцячыя душы. Дапамагалі бачыць навакольную прыгажосць і непаўторнасць. Кожная кветка, любая казюрка мела для іх выключнае значэнне…

Толькі, калі вырас, пасталеў і паспытаў дарослага жыцця напоўніцу, Вірун задумаўся над тым, як маглі неадукаваныя бабулькі з вёскі быць настолькі мудрымі, дальнабачнымі і святымі? Святымі той святасцю, якой сёння не знойдзеш ні ва ўніверсітэце, ні ў акадэмічным інстытуце, ні нават у царкве, сярод служак Усявышняму. Парадокс!

Мужчына мінуў тралейбусны прыпынак, перайшоў перакрыжаванне дарог і спыніўся непадалёк ад універсама. Ён успомніў, што ў лядоўні няма ні кроплі малака да ранішняй кавы, ды і цукар канчаецца. Добра б было прыкупіць і нешта мясное для бутэрбродаў. На ганку крамы мужчына заўважыў прывязанага сабаку, які аддана чакаў гаспадара. Вірун міжволі ўзгадаў, як яшчэ да сустрэчы з Монікай-Моняй ён збіраўся набыць сабе шчанюка і выгадаваць чатырохлапага сябра, які ніколі і ні пры якой сітуацыі не здрадзіць. У ягонай падсвядомасці і свядомасці цвіком-соткай засеў выраз, які аднойчы агучыла маці. Яна ў той вечар, калі Вірун паскардзіўся на школьнага сябра Тодзіка, сказала, што, калі не хочаш мець ворагаў, то ніколі не заводзь блізкіх сяброў. Бо хто яшчэ, акрамя сябра, ведае твае самыя балючыя мясціны… Усміхнуўшыся і падміргнуўшы засмучонаму лабрадору, дзяцюк заскочыў у краму. Куртка прамокла, і Вірун адчуваў целам вільготнасць адзення. Вялікіх чэрг не назіралася, ён хуценька зрабіў пакупкі, склаў іх у пакет, што насіў у кішэні, выйшаў на ганак. Сабакі ўжо не было на месцы. Дачакаўся аблавухі свайго гаспадара, пабег ва ўтульную кватэру. Будзем так думаць, што ва ўтульную і гасцінную. Павінна ж у жыцці шанцаваць і рэдкім сабакам, якіх заводзяць не толькі дзеля незразумелых амбіцый, але і па поклічы душы.

Чамусьці сёння Віруну ва ўсім бачылася больш шэрых фарбаў, чым яркіх. Ягоны мозг, атрымаўшы нязмушаную волю, пераскокваў на розныя сентэнцыі, рэфлексіі. Бо як жа без іх. Яшчэ і комплексы. Без іх, радзімых, таксама няма чалавека. А мара кожнага павінна здзяйсняцца. Добрая і светлая мара. У дзіцяці і дарослага.

«Жылі б мы, як мурашы-вандроўнікі, дзе нямашка ні іерархіі, ні камандзіраў, ні наглядчыкаў. Няма падначаленых, выканаўцаў і паганятых. Усё робіцца агулам, разам. Кожны мураш задзейнічаны ў жыцці калоніі-арганізму. У іх існуе толькі адна маці-каралева. Такі мурашыны арганізм бессмяротны, — Вірун перакінуў пакет з адной рукі ў другую. Вольнай далонню ляснуў па кішэні і зразумеў, што не набыў цыгарэт. А без іх ён, як без паветра. — Ну і параўнанне, — скрывіў грымасу мужчына. Ён хоць і адышоў далекавата ад крамы, але павярнуў назад. — Дык вось пра мурашоў, — узбіўся зноў дзяцюк на перарваную думку. — Усе мурашы роўныя адзін перад адным. Няма лідараў, кожны з іх лідар і выканаўца. Вось каб здарыўся цуд, і мурашыныя прынцыпы прыжыліся ў людскім асяродку. Гэта быў бы пачатак новай эры для чалавецтва. Каб жа ж дзе знайсці краіну міру і справядлівасці. Мы ўвесь час вядзём барацьбу з сабою, суседам, знаёмым і зусім чужымі людзьмі. Нашыя сэрцы моцныя і параненыя адначасова. Але заўсёды мы перакананы, што лепш быць мёртвым, чым рабом. Дык дзеля чаго імкнёмся ўсё жыццё кагосьці падпарадкаваць? Жонка — мужа, бацька — сыноў і дачок, начальнік — падначаленага… Відаць, кожны з нас слабы, а нам хочацца сілы за кошт абяссільвання іншых. Не дзіўна, што ў маім узросце пачынаеш азірацца назад. Шукаць сэнс пражытага.

А дзе ён, той сэнс? Як хоць выглядае? Ці мае ён колер, смак, вышыню і шырыню? Колькі доўжыцца ў прасторы?»

Вірун раптам прыгадаў нечаканую гаворку з сястрой на кухні. Ён тады прыехаў у раённы цэнтр, дзе атабарылася Ніна, пасля даволі доўгага растання. Папіўшы кавы ды з'еўшы самаробнага пірага, яны гаманілі пра родных і знаёмых, дзяліліся навінамі: што набылі і прыдбалі за прамінулы час, куды з'ездзілі, якія дзівосы пабачылі. І вось зусім нечакана сястра спытала ў Віруна.

— Скажы, а дзеля чаго мы ўвогуле жывём? Які сэнс жыцця?

Мужчыну такое пытанне агаломшыла. Поўнасцю. Бо ў яго пра сэнс існавання пыталася Ніна. Ягоная малодшая сястра, якая мела прыстойную сям'ю, добрага мужа і двух выдатных сыноў. Здавалася, што ўсё ў яе мелася для шчасця і радасці. Але ж вось якое пытанне яна задала брату. Чалавеку, які не меў на той час ні жонкі, ні дзяцей… Што ён мог адказаць Нінцы? Звычайную банальшчыну, шматслойную і пустую. Але ён добра запомніў апошнюю сваю фразу: «Нінэль, сэнс жыцця — у ягонай бессэнсоўнасці». На тым і пагадзіліся. Бо кожны з нас сам-насам шукае свой сэнс жыцця. Іншае пытанне: ці знаходзіць, застаецца адкрытым да апошняга выдыху.

Незаўважна Вірун дайшоў да пад'езда свайго дома. На вуліцы ўжо добра сцямнела. Запаліліся прыдарожныя і дваровыя ліхтары. Іхняе слепаватае асвятленне неяк гублялася ў змроку. Не набывала акрэсленасці і яркасці. Магчыма, што так здавалася з-за мройнага дожджыка-імжы, які аднастайна сеяўся з нахілена-нізкага нябеснага прасцягу.

«Трэба распавесці Моніцы-Моні пра мае сённяшнія прыгоды. Не забыцца расказаць сон і пісаніну на ўчарнелай сцяне. Мо яна мне нешта разгадае ці падкажа. Сцвярджаюць жа, што жаночы розум больш гнуткі і падатлівы ў разгадцы галаваломак, — Вірун націснуў на клыпажок ліфта, які, цяжка заскрыгатаўшы, пасунуўся з верхніх паверхаў на першы. — Ды праз пару дзён трэба выкраіць якую гадзінку і наведацца зноў у той барак. Мо з'явіцца нешта новае на сцяне? Цікава было б упільнаваць невядомага *пісацеля*, спытацца, дзеля чаго ён практыкуецца ў езуіцкай прозе? Навошта, з якой мэтай вылівае на закапцелай сцяне пакутлівасць сваёй душы? У наш час для гэтага існуе не толькі папера, але і камп'ютары, інтэрнэт. Выкладвай у сусветнай павуце ўсё, што набалела, што турбуе і непакоіць сэрца… Але ж наколькі сугучны роздум невядомага стваральніка тэкстаў майму цяперашняму стану».

Ліфт паралітычна тарганууўся, шчоўкнуў некалькі разоў і разлапіў уваходныя дзверы. Дзяцюк увайшоў у глухі пенал пад'ёмніка і націснуў патрэбны паверх. Яго вочы спатыкнуліся, пераскочылі з аднаго надпісу на другі, трэці. Ды іх не злічыць на ўсіх чатырох паверхнях ліфта. Чаго толькі не накрэмзана на гладкіх бакавінах! Пачыналася самаробная рэклама нумарамі тэлефонаў і заканчвалася пэўнымі органамі мужчын ды жанчын. Маладое пакаленне хвалілася сваёй дасведчанасцю і распустай. Раней Вірун неяк не звяртаў увагі на фламастэрнае пісьмо ў ліфце. Вочы глядзелі і не бачылі напісанае, бо мозг пераварваў дзённыя ўражанні, быў заняты больш істотнай працай, чым чытвом таго, што накрэмзала галапузая моладзь. А вось сённяшнім вечарам позірк зачапіўся за разнамастыя надпісы і нязграбныя малюнкі, нумары тэлефонаў даступна-пажадлівых дзяўчынак ды хлопчыкаў.

Вось і ягоны паверх. Вірун не паспеў як след памаралізатарыць ды паўшчуваць на часы і норавы. Дзверы расхінуліся, і ён каля сваёй кватэры. Лёгкі паварот ключа, шчаўчок замка, і мужчына, нарэшце, у сценах жытла. Адгароджаны ад усіх і ўсяго. Дома чыста, суха і ўтульна. Моніка-Моня звыкла сядзела ў мяккім фатэлі і пазірала ў напаўзанавешанае акно. Пакуль не ўключыў святло, Вірун бачыў толькі сілуэт.

Але вось успыхнула бра ў вітальні, і дзяцюк агарнуў цёплым і лагодным позіркам вытанчана-маўклівы твар сваёй жанчыны.

— Прывітанне, Моніка! Вось я і дома! Не вельмі засумавала адна? Крыху затрымаўся, ты ўжо даруй, шаноўная. Прайшоўся па наваколлі. Ведаеш, наўкол такая самотная прыгажосць, што аж сэрца млее ад замілавання. Не стамлюся паўтараць, як люблю я восень з яе дажджамі, з пахамі прэлай лістоты і адцвілай квецені. Восень прымушае думаць пра вечнасць і хуткаплыннасць жыцця, пра няспраўджаныя надзеі, адзіноту, якую кожны хавае ў глыбіні сваёй душы. Адзінота і чалавек — неад'емныя паняцці. Хтосьці ўцякае ад яе ў вясёлыя і гаманкія кампаніі з выпіўкай ды музыкай. Звычайна так робяць не спрактыкаваныя яшчэ маладзёны. Яны не разумеюць пакуль, што адзінота — найпатрэбнейшая частка жыцця. Ад яе нельга пазбавіцца, яе трэба прыняць у самім сабе, нават палюбіць. Інакш, калі ўцякаеш, яна помсціць значна балючай, заганяе ў дэпрэсію… Ды што я табе балбачу пра адзіноту? Ты ж сама, Моніка, мая дарагая Моня, паспытала яе на сабе. Ведаеш, што іншым разам адзінота — найлепшая сяброўка ў тлумным свеце. Верны сябра, дарадца і памочнік. Бо добрае і важкае заўсёды нараджаецца ў адзіноце ды самотнасці! Калі прасветленасць, што нахлынула, ніхто не палохае, ніхто не дакучае. Але, гамонкай сыты не будзеш. Хутка будзем вячэраць. Пачакай з дзясятак хвілін, пакуль разагрэю стравы. — Вірун за гэты час паспеў пераапрануцца ўжо ва ўсё хатняе. Ён адчуваў, як мышцы ног і паясніцы гулі прыемнай стомай, а да твару, у хатняй цеплыні, прыліла кроў, і шчокі, лоб, падбародак паружавелі і лёгенька пашчыпвалі. Памыўшы рукі, мужчына патупаў на кухню, адчыніў лядоўню і выняў адтуль прыгатаваны харч. Вірун звычайна займаўся на варыльні па суботах. На цэлы тыдзень наперад ён смажыў катлеты альбо курыцу,варыў суп у вялікай эмаліраванай каструлі, прыдумваў нейкі гарнір да другіх страў. Дзецюка нікольві не напружваў такі занятак. Яму нават падабалася эксперыментаваць пры гатаванні з мясам. Ён іншы раз спалучаў пры смажанні свініну з вельмі ж на першы погляд неспалучальнымі прадуктамі. І як на дзіва, заўсёды ўсё атрымлівалася надзвычай смачна. Рэдкія госці не пераставалі здзіўляцца кулінарнаму майстэрству гаспадара кватэры. Вось і цяпер, кінуўшы на патэльню пару катлет і тушанай спаржавай фасолі, мужчына шчоўкнуў уключальнікам ФМ-радыё. Ягоны любімы радыёканал — «Мелодыі веку». Віруну падабаўся няспешны і ненавязлівы музычны фон, які існуе, быццам вакольнае паветра, незаўважна.

— Вось усё і гатова, — выгукнуў мужчына з кухні. — Я цябе прынясу, і будзем вячэраць. Толькі твой табурэцік лацвей пастаўлю да сцяны. Трэба нешта лепшае прыдумаць. Нязручна табе, Моніка, на такім седале. Не забыцца б прыгледзець у мэблевай краме больш утульнае ды зручнае крэсліца. Ты як думаеш? — На поўны голас гаманіў Вірун, пераварочваючы катлеты. — Я ведаю, што будзеш не супраць. На наступным тыдні, падчас абедзеннага перапынку, зазірну на Камароўку. Казалі, што там даволі нядрэнны мэблевы магазін. Раптам пашэнціць. — Мужчына выключыў канфорку на газавай пліце. Парэзаў на сподачак пару гуркоў са слоіка, накраіў некалькі лустачак хлеба, не забыў наліць і шклянку кефіру. — Усё, усё, дарагая, іду па цябе. — Гукнуў дзяцюк з кухні і, цірнуўшы ручніком, што вісеў ля ракавіны, рукі, жвавенька пакрочыў у залку-спаленьку сваёй аднапакаёўкі.

— Бачыш, як я ўсё хуценька зрабіў, — пахваліў сам сябе Вірун. — А цяпер падсілкуемся. Дужа я зґаладаўся. Прагулка апетыт наганяе. Шкада, што ты не хочаш далучыцца да мяне. Але, так-так, праўду гаворыш, нязвычна будзе глядзецца наша пара. Хаця, якая нам справа, што падумаюць і скажуць пра нас стрэчныя. Ні мы іх не ведаем, ні яны нас. А калі б і ведалі, то якая нам розніца? — Мужчына асцярожна ўзяў на рукі Моніку-Моню і, нібы малое дзіця, панёс на кухню. — Вось тут асця-

рожненька, каля дзвярэй, — прыгаворваў ён. — А цяпер павернемся бачком. Яшчэ пару крокаў, і мы на месцы. Так, дарэмна вельмі блізка пасунуў да сцяны табурэцік. Я яго нагой адсуну. А то яшчэ звалішся ды грымнешся аб падлогу. Недарэчна будзе глядзецца. Канешне, пакалечыцца ты, Моніка, не пакалечышся, а драпіны на целе могуць застацца. Навошта нам лішнія клопаты ды праблемы? Вось цяпер сядай. Давай прытулімся спінай да лядоўні. Так надзейней будзе. — Дзяцюк утульна ўмясціў Моніку за невялікі стол. Паставіў перад ёй квадратную талерку з геаметрычнымі фігурамі, побач паклаў відэлец. Для сябе таксама ўзяў талерку з лыжкай. Вірун, колькі помніць сябе, ніколі не карыстаўся відэльцамі. Ён спажываў ежу лыжкай. Не важна, дзе абедаў ці вячэраў, але заўсёды пакідаў лыжку і для другога. Так яму было зручный ды звычней. У рэстарацыях ды на прыёмах ён не адмаўляўся ад сваёй звычкі. Ніколі не звяртаў увагі на зацікаўлена-здзіўленыя позіркі. Ну і што, калі нехта хмыкне сам сабе: маўляў, вось табе і маеш «дзярэўню з калхозам» разам.

— Кажаш, што не хочаш вячэраць? — звярнуўся мужчына да Монікі-Моні. — Як хочаш, прымушаць не стану. А я паем. Смачныя, скажу табе, катлеты атрымаліся. Як усё роўна па спецзаказе для ганаровых гасцей. Але, што самога сябе нахвальваць. Без сціплай сарамлівасці скажу, што гатаваць я ўсё ж умею. Ад маці ў мяне гэтая здольнасць і практычных заняткаў ад папярэдніх жонак. Не, не хвалюйся, не буду я ператрасаць сваё мінулае. Няхай яно прэсуецца пад цяжарам зніклых гадоў. Я пра другое хацеў табе распавесці, — мужчына пракаўтнуў чарговы кавалак катлеты і запіў вадкаватым кефірам. — Гуляючы па ваколіцах за горадам, задыбаў я ў закінуты і напаўзгнілы барак. І так там пачувалася добра ды па-хатняму ўтульна, што нават задрамаў. Але перад гэтым прачытаў на сцяне дзіўны тэкст. На першы погляд, просценькі вельмі, ды чамусьці для мяне важны. Адчуў гэта сэрцам, нутром сваім. Уяўляеш, прачытаў і заснуў. Прымроіўся ірэальны сон, дзе сустрэўся ні то са смерцю ў вобразе прывабнай дзяўчыны, ні то са сваім анёлам-ахоўнікам, сярод незлічонага багацця пячоры. Такога багацця, што словамі не расказаць. Не хопіць слоў. Гэта трэба бачыць, Моніка. Гаманіў з той прыгажуняй, якая стаяла ў чоўне, і ўсё думаў, а ці выберуся з залатой пячоры, ці адпусціць мяне незнаёмка? Дзякуй Богу, адпусціла. Праўда, подленькае жаданне ў мяне нарадзілася: прыхапіць з сабою хоць адзін самародак. Але нешта спыніла. Ды і як прынясеш са сну ў рэальнасць нешта матэрыяльнае? Абсурд. Дурнота. Відаць, я гэта разумеў, калі спаў. Дык вось, калі прачнуўся, то ўгледзеў на той жа сцяне, побач з папярэднім тэкстам, новы, свежанькі! Я не ўчуў, хто і калі яго напісаў. Загадка, скажу табе, Моніка. Парадокс нейкі. Ты што, не верыш мне? Праўду кажу, без перабольшання. — Вірун хрумсцеў агурком і пільна ўглядаўся ў твар субяседніцы, якая выглядала не заінтрыгаванай пачутым, а больш абыякавай, чым вымагала сітуацыя. — Я думаю, што тэксты на сцяне ў бараку напісаны не чалавекам, а кімсьці бесцялесным, нейкім фантомам, ці, урэшце, самі ўзніклі, праступілі праз закапцеласць. Можа такое быць, га, Моніка? І ты не ведаеш. Дарэчы, тое, што напісана, штосьці значыць для мяне, павінна азначаць нейкі паварот у жыцці, лёсе? Я так думаю. Толькі не ведаю, да добрага ці не вельмі, усе гэтыя нечаканыя здарэнні. Чаго чакаць ад сну ў бараку і тэкстаў на закапцелай сцяне? Заўтра, пасля працы, хачу зноў схадзіць туды. Канешне, калі ты не супраць. Трэба паглядзець, ці не прымроілася ўсё ўбачанае сёння. Бо часам нам бачыцца тое, чаго ў рэальнасці не існуе. Ты сама ведаеш, што надараюцца хвіліны, у якія чалавек павінен баяцца самога сябе, не давяраць сваім вачам і вушам. Праўду, праўду кажу табе, Моніка.

З прыёмніка павольна, але раскаціста гучала песня пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Насценнае бра над кухонным сталом рассейвала па цеснаватым

памяшканні скупаватае жаўтлявае святло, якое нагадвала заход сонца за далёкі гарызонт. Здавалася, што свяціла яшчэ не паглынула пакатасць ілба зямлі, і апошнія шчодрыя промні на развітанне паспешліва кідалі самотны позірк у прыцемненае наваколле. Менавіта такое асвятленне і панавала ў Віруновай кухні. Дзе самсунгаўская лядоўня займала ўвесь кут да столі, каля абагравальнай батарэі. Святло ад бра палахліва датыкалася да твару Монікі з левага боку, лашчыла парык са штучных валасоў, выхоплівала кончык прамога носіка і падэшвачку падбародка. Мужчына, адарваўшы позірк ад апусцелай талеркі, крайком вока зірнуў на маўклівую Моніку і ў незлічоны раз залюбаваўся пекнасцю ды зграбнасцю сваёй каханай.

— Ведаеш, Моніка, што я яшчэ заўважыў у стасунках між людзьмі? Гэта можа падацца дзіўным, але ў любой праяве сяброўскіх пачуццяў, няважна, між жанчынамі альбо мужчынамі, грамадства бачыць толькі сексуальны падтэкст. Калі гэта нават нявінныя абдымкі ці дакрананні, дотыкі. Усё роўна, акаляючыя бачаць праяву сексуальнасці і нічога больш. З-за гэтага мы баімся быць шчырымі і дэманстраваць сваё сяброўства. Бо, не дай Бог, калі на людзях мужчына альбо хлопец абдыме сабе падобнага. У такім выпадку за спінай ён абавязкова пачуе здзеклівы смяшок і дакорліва-асуджальнае слова-абразу — «гомік»… Тое ж і з жанчынамі, хаця яны ўсё ж і пачуваюцца вальней. Ды не нашмат. І ім прышпільваюць бірачкі «лезбас», не моючы на тое ні маральнага, ні этычнага права. Мы зацінаемся самі ў сабе. Грамадства грубее, асоба драбнее і задзіночваецца. Не, Моніка-Моня, я гавару не пра нас з табою. Нам няма чаго баяцца, ды мы і вышэй любых асуджальных ды абразлівых слоў. Хоць зайздрасці навокал паўным-паўнютка, нянавіць праз вушы людскія ліецца, запаўняе вуліцы і праспекты. Але нас пакуль усё гэта не датычыць. Канешне, нялёгка заўсёды заставацца вышэй агульнага, так бы мовіць, «нармальнага» ўзроўню паводзін ды меркаванняў, але ўсё ж *можна* і *трэба*. Бо інакш сальешся ў бязлікі сыпуча-цягучы, няўстойлівы брудны асяродак балота, багны, урэшце, бяздоннай прорвы. Дзе ходзяць шыхтамі, носяць аднолькавае, думаюць стандартамі, спаць кладуцца і падымаюцца па камандзе. Нават пазяхаюць па ўзмаху рукі. Ну, дык, ці ж жыццё гэта, Моніка? Ат, бачу, стаміў цябе гаворкаю. Не? Ты не супраць яшчэ што-небудзь паслухаць? Дзякуй, цярплівая мая, сяброўка.

Дык вось, гуляючы за горадам, я незнарок раздушыў на сцяжыне смаўжа. Звычайнага цёмна-шэрага смаўжа. Не заўважыў. Зрабіў крок і адчуў хруст пад падэшвай. Адняў нагу і згледзеў згустак, мешаніну плоці і зямлі. Тое, што яшчэ пару хвілін таму было жывым, па маёй вінеператварылася ў бясформенную масу, у небыццё. Бяздумна, лёгка і проста боскае стварэнне я спляжыў, знішчыў. Не, я выдатна разумею, што свет ад гэтага ўчынку не перакуліўся, нават не шалахнуўся, — Вірун прыкурыў цыгарэту. — Але ж, ведаеш, дарагая Моніка-Моня, мяне ў тую хвіліну агарнула такая глыбокая роспач, што я ледзь не ўкленчыў і не загаласіў па смаўжу, як па самым родным і блізкім стварэнні. Ці ж нармальна гэта, Моніка? Маўчыш. І ты не ведаеш? Канешне, прасцей за ўсё сказаць, што старэеш ты, Вірун. Мякчэе душа, а на паверхню выбіваецца сентыментальнасць, хаванячы пад сабою мужчынскі азарт паляўнічага і здабытчыка. Каб жа ўсё так проста было ў нашым, чалавечым, жыцці…

А, можа, наадварот ніколі нічога не варта ўскладняць? Жыць прасцей, не забіваць мазгі пытаннямі, на якія ад пачатку няма адказаў. Ну, што такое для чалавецтва, планеты нейкі смоўж альбо ластаўка, заяц, казуля, ці чалавек? Гэта не бачны воку драбок ад пылінкі… Колькі пра гэта я чытаў у разумных кніжках! А вось сёння сапраўды адчуў, што асіраціў сусвет на цэлага смаўжа. Міжволі зрабіўся знішчальнікам…

Загаварыў я цябе, Моніка. Даруй. Проста нейкі незразумелы настрой агарнуў вечарам. Хочацца выгаварыцца, ачысціцца ад бруду і смецця, што незаўважна збіраецца дзесяцігоддзямі ў патаемных закутках свядомасці ды і падсвядомасці таксама. Што ж, будзем класціся спаць. Бо нашы продкі звычайна гаварылі: пераначуем — больш пачуем. Ды і пабачым, спадзяюся.

* * *

Вірун убачыў велізарны натоўп людзей пасярод паселішча. Хаты вялікай вёскі раскінуліся вольна і раскошна па некалькіх лабатых пагорках. А з дзясяткі два прыстойных пабудоў збягалі двума радамі да нізіністай раўнінкі-праплешыны. Тут, на гэтым утаптаным і ўезджаным пятаку, і туліліся пасяляне. Мужчыны, жанчыны і дзеці цясніліся бліжэй да цяньку магутных ліп. Пад шатамі якіх можна было схавацца ад пякучых промняў паўдзённага сонца. Стаяла ці не сярэдзіна лета. Адзін з тых дзён, калі нябеснае свяціла, ускараскаўшыся ў зеніт, шчодра адагравала пасялян ляснях зямель ад віхурнай зімы і зацяжной, не дужа ласкавай на цеплыню, вясны. Паветра вакол аж дрыжэла ад сонечнай шчодрасці ды ўвішнасці. Па вёсцы нават пеўні не кукарэкалі, ленаваліся драць глотку ў такую спёку. Ім, няўрымсліўцам, сёння лацвей пачувалася ў лазістых кустах каля хат ці ў зарасніку піжмы ды палыну на ўзмежках гаспадарскіх надзелаў. Ніхто іх не турбаваў, ніхто не кышкаў на ненажэрнае курынае племя. Людзям, як бачым, не да хатняга птаства. Усе пасяляне сабраліся на праплешыне-пятаку каля Кузьмовай хаты. А што менавіта ў гэтым дагледжаным дамку жыве Кузьма, Вірун ведае, хоць і не разумее, адкуль тое веданне.

Людзі гаманілі хто парамі, а некаторыя зліліся ў купкі па некалькі чалавек. Гаворка ва ўсіх была няспешная, з ноткамі спачуванняў ды шкадобы ў галасах. Дзеці нястомнымі вераб'ямі шасталі між ног дарослых. Мальцы прабіваліся ў пярэднія рады, а дзяўчаткі ў насунутых на вочы хусцінках, наадварот, туліліся за спінамі мужчын ды жанчын. Яны сарамліва і паспешліва кідалі позіркі адна на адну, перазіраліся і, чырванеючы, апускалі вочы. Яны, здавалася, пачуваліся сярод пасялян, як нашкодзіўшыя коткі.

Вірун прасунуўся з самага краю, там дзе сонца, не шкадуючы промняў, выпякала пакамечаную, стаптаную і ледзь жывую траву, да сярэдзіны натоўпу, у цяністую засень. На яго, як ні дзіва, ніхто не звяртаў асаблівай увагі. Зрэдчас мужчыны ў гадах і дзецюкі з рэдкім шчэццем на няголеных тварах, працягвалі рукі, віталіся. Ён пасялянам адказваў тым жа поціскам далоняў. Прасунуўшыся ледзь не ў першыя рады, Вірун адчуў чыюсьці пяцярню на сваім плячы. Павярнуў галаву і сустрэўся позіркам з прыгожым чарнагаловым юнаком. Канешне, юнаком яго можна было назваць умоўна. Хлопцу не сёння і не ўчора споўнілася гадкоў дваццаць, але і да трыццаці, на выгляд, яму яшчэ далекавата.

— Здароў, Вірун. Чаго азіраешся вакол, нібы злодзей? — чарнагаловы шырока ўсміхнуўся, выпусціўшы з-пад не па-мужчынску яркаватых губ роўную палоску зубоў.

«Во каму пашэнціла, — мільганула думка ў Віруна, — да глыбокай старасці стаматолага ведаць не будзе».

— Ты што, не пазнаеш мяне? — разгубіўся маладзён. — Назіраю за табою ўжо з чвэрць гадзіны і не магу зразумець: ці ты з ранку недзе брагі сербануў, ці ўчора лясун дзесьці закруціў. Выглядаеш дужа прыбіта-задурманеным. То як яно, хмяльнога глытнуў?

— Што тут адбываецца? Чаго сабраліся людзі? — замест адказу, паспешліва запытаўся Вірун.

— Дзівак, — зрабіў разгубленую грымасу на твары чорнагаловы. — Яшчэ ж два дні таму стараста аб'явіў па ўсіх вакольных паселішчах, што сёння адбудзецца пакаранне быком Матрункі Нічыпоранай. Ты што, тыдзень спаў недзе, што не чуў навіны пра гэтую гуляшчую? Яе Марцін заспеў у свірне з Кажамякам з Прысожжа. А ў нас жа спаконвеку тых жонак, якія здрадзілі мужу, караюць быком. Ты сапраўды нейкі дзікі. Мо захварэў, ці памяць балотнік адабраў поўнасцю. Няма чаго так часта на паляванні швэндацца. Цётка Грыпіна мне колькі разоў скардзілася, што адбіўся ты ад зямлі. Усё па лясах ды пералесках блукаеш. Нечага шукаеш. Мо ўчарашні дзень цябе аніяк не адпускае.

— Пачакай, — папрасіў Вірун. — Хто такая цётка Грыпіна? І хто ты сам будзеш?

— Вось завярнуў дык завярнуў, — разявіў рот прыгожатвары. — Яна твая маці, а я — стрыечны брат. Зусім дрэнны ты зрабіўся. Да шаптухі ісці неадкладна трэба, а то позна будзе.

— Ды помню я ўсё, — схлусіў Вірун. — Жарты ў мяне цяпер такія. Памяць трэніраваю. Гульня гэтакая. Прыкідваешся, што ўсё забыўся і пытаешся ў сябра, як я ў цябе, ды ловіш яго на недакладнасцях, промахах, і сам выдатна запамінаеш кожную драбніцу да скону дзён. Во як. — З палёгкай выдыхнуў Вірун.

— Угу, — здзіўлена ўзняў бровы на гладзенькім лобе маладзён. — Мудры ты, Вірун. Недарэмна твой дзед Кузьма ўжо цэлую вечнасць карае здрадніцкае бабскае племя быком. Я чуў, мужчыны казалі, што хутка Кузьма перадасць гэтую справу табе ў спадчыну. Будзеш ты ў нас сачыць за норавамі ды вернасцю. Шчыра кажучы, не зайздрошчу табе, Вірун. Не захочуць дзеўкі за цябе замуж ісці. Будзеш, як Кузьма, чакаць самай вынослівай бабы, якая не сканае пасля пакарання. Ці бычка, як гэты здохне, нягегленькага завесці ды навучыць прамудрасцям пакарання.

— Што ты вярзеш дурноту нейкую! — узлаваўся Вірун і ледзь не штурхануў у грудзіну суразмоўцу, які паваротам тулава ўхіліўся ад сяброўскага кухталя. — Бога на вас няма, паганцаў. Прыдумалі нейкае пакаранне быком. А самі, усе мы, мужчыны, святыя? Навошта здзекавацца з безабаронных і бяссільных жонак сваіх ды дачок?

— Во загаварыў, дык загаварыў! — вочы ў чорнагаловага, здавалася, што вось-вось выкаццца з вачніц і павіснуць на ўзроўні падбародка. — Не намі ж такі закон заведзены, і не нам яго адмяняць. — Вымавіў ён нарэшце, калі ачомаўся ад пачутага. — Жаночая доля такая: быць вернай пад небам высокім толькі аднаму мужчыне. Яна ж сама выбірае, з кім пабрацца, і прысягае на агні, што не аступіцца, што ніколі не дазволіць чужому, акрамя мужчыны свайго, увайсці ў жывародную пячору. Ці не так я кажу, Вірун?

— Вар'ятня суцэльная. Я сапраўды шызануўся, з'ехаў з глуздоў па поўнаму, — хутка вымавіў нашчадак Кузьмы.

— І што за словы дзіўныя ды раней не чутыя кажаш? Чаго ўсхадзіўся, як маладое піва. Ну, пакараюць Матрунку быком, што тут такога? Не яна ж першая і не апошняя будзе. На нашай з табой памяці Матрунка ўжо шостая з усіх нашых паселішч баба, якую паставяць пад быка. Калі выжыве, то сыйдзе ў чужыя землі, а сканае — на вогнішча кінуць.

— Навошта дзяцей сюды папрыводзілі? — схапіў Вірун каля сваіх ног мальца. — Дзеля чаго ім такое відовішча? — Падшыванец вёртка вылузнуўся з пяцярні мужчыны. — Хто загадаў недаросткаў пускаць на пакаранне?

— Як хто? — перапытаў маладзён. — Ва ўсе часы староста загадвае. Ды і гэта не проста відовішча, як ты кажаш, а навука для наступнікаў. Нас з табою ў іх узросце таксама прыводзілі. Ці мо памаркі табе громам адбіла? А, зразумеў, — заўсміхаўся чорнагаловы прыгажун. — Гэта ты ўсё гуляешся, памяць трэніруеш. Ну, давай-давай, удасканальвайся. Усё роўна не гэтым летам, дык наступным зменіш Кузьму. Будзеш выводзіць быка на распусніц. Доля твая такая, Вірун. Ад яе нікуды не дзенешся. Спачуваю, канешне. Раптам не пашэнціць табе, і памрэш бабылём. Не зазірнеш ані разу ў зваблівасць пячоры. Карнік быком нідзе дурнічку замужнюю не знойдзе, каб пацешыцца, а неапаганеныя дзяўчаты наўрад ці выберуць цябе для жыцця. Вось так яно, Вірун, — куды ні кінь, паўсюдна клін. — Гледзячы на прыгожатварага, ніяк нельга было зразумець: спачувае ён сябру, альбо здзекуецца.

Раптам натоўп ажывіўся, пасунуўся наперад. Мужчыны адшуквалі позіркамі сваіх жонак, моўчкі падыходзілі да іх, бралі за руку і, ставячы наперад сябе, лягонька падштурхоўвалі, маўляў, глядзі, даражэнькая, ва ўсе вочы, што і з табою можа стацца, калі закарціць раптам паспытаць плод з чужога дрэва. Можа, ён і сапраўды больш сакавіты ды ядраны, але ж чужы. Не забывайся, каб не апынуцца на пляцы ганьбы, пад напорыстасцю кормнага быка, які распалавініць твой сверб да самага пупка…

Вірун заўважыў, як з клеці Кузьмовага двара вывелі маладую прыгожую жанчыну ў доўгай мешкаватай апратцы, як двое жылістых мужчын вынеслі аднекуль драўляны станок-узвышша, паставілі на пыльным лапіку пляца, як садралі з проставалосай грэшніцы адзенне і, паставіўшы на станку на калені, моцна прывязалі раменнымі путамі за ногі і рукі. Пачуў Вірун і рык: глухі ды пажадлівы, працінаючы, халодзячы кроў рык магутнай жывёліны, якая прадчувае не свой скон, а канчыну людской душы.

На нейкую хвіліну натоўп прыціх. Чулася, як у паветры гудуць шматлікія авадні ды слепакі, якіх і сонца не загнала ў прахалоду лістоты недалёкіх дрэў, ці ў гушчыню шматтраўя.

«Не, я не магу дапусціць катавання жанчыны! Божа мой літасцівы, якое ж гэта дзікунства і варварства, якая бесчалавечнасць і лютасць. Такога не можа ў прыродзе існаваць. Не здатныя людзі на такое вычварэнне!»

Вірун з усяе сілы паспрабаваў прабіцца праз гушчыню натоўпу да краю пляца, на якім вось-вось павінна адбыцца экзекуцыя. Ён праціскаўся між успецелых цел пасялян, якія, здавалася, знарок не прапускалі яго, моцнай і непарушнай сцяной адгароджвалі ад катавальнага месца, месца злачынства.

— Ну, куды, куды ты сунешся? — пачуў Вірун над самым вухам. — Ахаладзі свой пыл. Нічога зрабіць не зможаш. Бяссільны ты перад выракам лёсу. Яго не перапішаш наноў. Бо твая нітка жыцця ўжо выдрана з кудзелі і спрадзена нябачнымі сіламі ды скручана на верацяно. Ты, Вірун, староннi сузіральнік. Не дадзена табе ўмяшацца ў ход падзей. — Мужчына задыхана павярнуўся на голас. Побач стаяў чорнагаловы прыгажун і ўсміхаўся. Усмешка на ягоным твары нагадвала застылую, акамянелую маску. Гэта быў не жывы твар, а твар манекена.

— Супакойся. Ты і нашчадкі твае ўсё роўна будуць караць распусніц быком, — чорнагаловы, здаецца, маўчаў, але Вірун чуў кожнае не прамоўленае ім слова.

— Хто ты? — не змог стрымаць сябе ўсхваляваны Вірун. — Дзеля чаго і навошта выпрабоўваеш мяне? Чаго дабіваешся ад збалелай маёй душы?

— Я твой стрыечны брат. І ўсяго толькі, — не пераставаў усміхацца чорнагаловы. — Павер, анічагусенькі не хачу ад цябе. Я, як і ты, прыйшоў паглядзець на пакаранне блудлівіцы. Па загадзе старасты. Як усе яны. — Маладзён няспешна павёў галавою зправа налева і ў адваротным парадку. — Некалі ўсё з чагосьці пачыналася.

Вернасць, адданасць, самаахвярнасць, адчуванне родавай прыналежнасці, усё мае свае карані. Тлумачу простыя ісціны. Але ж на кімсьці ўсё і павінна спыніцца, мець сваё лагічнае завяршэнне. Вось бачыш, і я ўмею гуляць у тваю гульню забыўлівасці. Не трэба пахвальбы, проста я — добры вучань, а ты — неблагі настаўнік…

— У чым сэнс усяго сённяшняга дзейства? — не стаў даслухоўваць суразмоўцу Вірун. — Я ж не з вашага асяродку, нават не помню тут нікога. Усе гэтыя людзі чужыя мне, як і я ім…

— Няўжо? Памыляешся, даражэнькі, — перабіў Віруна чорнагаловы. — Калі хопіць у цябе мазгоў і крыху цярпення, то да ўсяго дойдзеш сваім розумам. Разбярэшся ў прымітыўнай галаваломцы. Не, нават не ў галаваломцы, а ў задачы з адным невядомым. Хаця, усе складнікі ў задачцы вядомыя…

Раптам наваколле скалануў нечалавечы крык. Ён дасягнуў нябёсаў, адбіўся ад празрыстай сінечы і ўпаў на абагрэтую зямлю ды раскалоўся на драбнюткія аскепачкі, якія паглынуліся мільёнамі пясчынак на лабастых пагорках…

* * *

Раніцай у Віруна трашчала ад болю галава. Кожная мышца ды сухажыліна ў целе былі напятымі і знясіленымі, выпетранымі ўшчэнт. Не раўнуючы, нібы ў марафонца на дыстанцыі ў цэлае жыццё. Гаркату ў роце не прагнала і кава з малаком ды мёдам. Мужчыну здавалася, што ўсё ягонае цела прайшло ноччу праз нейкую малатарню, якая не толькі знясільвае фізічна, але і адбірае ўнутраную моц, раўнавагу, пазбаўляе прагі жыцця.

«Нешта са мною робіцца не тое. Усё здаецца як звычайна і ў той жа час нічога звычнага і ранейшага ўва мне не засталося. Што фізічна зношваюся, то зразумела. Ад пражытых гадоў нікуды не ўцячэш, не схаваешся. Яны штодня нагадваюць пра сябе патрэскваннем у каленях, ламатою ў плячах, задышкаю ды ўсё большай і большай колькасцю выкураных цыгарэт. Тут усё ясна як божы дзень. Але ж куды падзелася ранейшая радасць ад прадчування прыемнай невядомасці і чакання яе ў кожным наступным дні? — Вірун згатаваў другі кубак кавы і прыпаліў ці не пятую цыгарэту. — Здавалася, што вось-вось заўтра ты абавязкова спазнаеш нешта такое, чаго не ўдавалася табе раней. Менавіта заўтра будзе твой самы шчаслівы дзень, які расцягнецца на бясконца доўгія гады, дзесяцігоддзі, а, можа, і стагоддзе. Заўтра прыйдзе твой дзень. Толькі твой і нічый больш! А што цяпер? Ды не хочацца раніцай падымацца, каб у чарговы раз зразумець, што анічога звышнатуральнага не адбудзецца. Што, як і ўчора і пазаўчора, ты прабяжыш дзень па замкнёным коле. Але ж хоцькі-няхоцькі, а на працу ісці трэба. Праца. Ад яе праз гады настолькі стамляешся, што і самы любімы занятак ператвараецца ў пакутлівае выпрабаванне».

Вірун заўважыў у апошнія гады дзіўную і не вельмі зразумелую заканамернасць у грамадстве. Спачатку ён гэта спісваў на ўзроставую прыдзірлівасць ды празмерную ўедлівасць. Але ж чым далей, тым больш кідалася ў вочы, што на большасць кіраўнічых пасад прыходзяць (прызначаюцца) прафаны, людзі далёкія ад спецыфікі занятку. Не прафесіяналы, а аматары. Недалёкасць і прымітывізм так званых начальнікаў нельга было не заўважыць, нават тады, калі і прыплюшчваеш вочы, яно чырвонай анучай трапятала навідавоку. Дакацілася гэтая хваля і да Віруновага офіса. Мужчына шчыра, па-чалавечы шкадаваў новую генерацыю сваіх кіраўнікоў. Яны, небаракі, імкнуліся напачатку схаваць сваю недасведчанасць, непадрыхтаванасць і, як гавораць, недадзенасць Богам ствараць, за шматслоўнасцю, мітуснёй, нязбытнасцю і фантастычнасцю праектаў, а ўрэшце спыняліся на апрабаваным і

славутым навядзенні парадку. Што ж ім яшчэ заставалася? Дысцыпліна — той бізун, які служыць ці не з часоў стварэння свету. Запалохаць падначаленага, убіць яму ў галаву, што ён, твой кіраўнік, распараджаецца тваім лёсам. І толькі ад яго залежыць, ці давядзецца табе заўтра паснедаць і аплаціць камунальныя паслугі. Што ён не Бог, а вышэй Бога. Канешне, не ўсіх можна было прыціснуць ды зламаць. Моцныя асобы гаварылі ў твар начальнікам пра іхні ўзровень і дасведчанасць, давалі зразумець усю іхнюю мізэрную веліч і сыходзілі… у дворнікі, вартаўнікі альбо грузчыкі. Так было і ў Віруновым асяродку. Толькі ж кіраўнікі не дужа ўбіваліся ды ўздыхалі, выціраючы мокрыя вочы. Яны ў той жа дзень бралі чалавека з вуліцы на вызваленае месца і з большым асцервяненнем кіравалі.

Так, мяняецца свет, і змяняюца людзі. Ад такой простай ісціны анікуды не дзенешся. Вірун гэта выдатна разумеў, таму і стараўся адасобіцца, занурыцца ў свой, выбудаваны па асабістай схеме, асяродак. Пакуль што яму шэнціла, ніхто вельмі не назаляў і не лез у душу. Як гавораць, і на тым дзякуй. Дызайнерская фірма, у якой працаваў Вірун, апошнім часам ператварылася ў клуб запалоханых жанчын. Мужчыны-кіраўнікі другога звяна, талковыя прафесіяналы, неяк незаўважна і ў той жа час хціва, былі выціснуты альбо звольнены з працы начальнікамі першага звяна. (Ну, проста не фірма, а калгас са сваімі старшынямі і звеннявымі). На іх жа месца ставіліся кабеткі з ласкавымі галаскамі, паслухмяныя і згодныя выконваць самыя ідыёцкія загады. Не раўнуючы, як у войску, дзе ніколі не страціць актуальнасці лозунг: я начальнік — ты дурань, а калі ты начальнік — то я хаджу ў дурнях. Адным словам — весела.

Вірун пазіраў на такія пертурбацыі спачатку з сумам і болем у сэрцы, а пасля — з зацікаўленасцю. Маўляў, чым жа гэта ўсё скончыцца? Няўжо дзяржаўная фірма выкараскаецца ў канкурэнтнай барацьбе з прыватнымі? Аддзел, дзе працаваў мужчына, раздзімаўся бражнай бурбалкай. Ледзь не кожны тыдзень мяняліся твары новых супрацоўніц. Фірма трашчала па швах, але пакуль трымалася. Нельга было ўжо вызначыць: жывы гэта пакуль арганізм, ці аганізіруючы труп.

Вірун дапіў апошні глыток кавы, зрабіў паспешлівую зацяжку цыгарэты і затушыў яе ў прывезенай з Барселоны попельніцы. Невясёлыя згадкі пра працу не дабавілі аптымізму і бадзёрасці. Галаўны боль не праходзіў, а цялесная ламата не супакойвалася. Ён высунуў шуфляду ў стале кухні, дзе захоўваліся лекі, пакорпаўся і вылузнуў з пласціны таблетку анальгіну. Укінуў у рот і разжаваў у аднародную масу. (Такая звычка ў яго захавалася з дзяцінства). Грэбліва запіў месіва мінеральнай вадой і прыслухаўся да сябе. Быццам праз пару хвілін лекі абавязаны падзейнічаць.

— Наіўны, — прамовіў мужчына сам сабе. — Добра, што такое дзівацтва не бачыць Моніка-Моня. А то падумала б, што я зусім збрэндзіў…

І тут Вірун успомніў сон. Усё да драбніц, да каліўка, да кожнага штрышка, дэталі, пачутага слова. Ён быццам здранцвеў. У памяці адным суцэльным панарамным кадрам прамільгнула бачанае.

— Пакаранне быком, — міжволі вылецела з губ.

Віруну падалося, што гэтыя словы ажылі і ператварыліся ў слюдзяністых стракоз, якія сваімі празрыстымі крылцамі затрапяталі пад столлю.

Мужчына падышоў да акна, зірнуў на вуліцу. Зноў імжэў дождж-пацяруха. Сыра і волка глядзеліся дрэвы, машыны, тратуары і паспешлівыя гараджане. Нейкі згорблены стары без парасона выгульваў калматага і бязроднага сабаку. Рудая поўсць на жывёліне набрынялымі пасмамі ледзь не кранался долу. Нямоглы стары і абыякавы да ўсяго сабака стваралі нейкі ірэальны тандэм. Як Віруну падалося: гэтая адмысловая пара на сшарэлым газоне падкрэслівала пустату і абыякавасць жыцця. Кожнага паасобку і ўсіх разам.

Не хацелася нікуды выходзіць. Мужчыну закарцела зарыцца ў ложак з Монікай і забыцца ў бяздумным сне, дзе няма ні гукаў, ні фарбаў, ні думак. Існуе толькі суцэльная бяздонная і глухая пустата.

— Але ж хопіць з мяне сноў! — сам сябе супыніў, адагнаў жаданне Вірун. — Дзе б знайсці сілы, каб забыцца на папярэднія загадкавыя мроі? На ўсё тое, што выдаў мозг. Баюся, што рэальнасць і сны сплятуцца, сальюцца ў адно цэлае. І што тады рабіць? Псіхушка адназначна забяспечана. А што будзе з Монікай-Моняй? — Мужчына бяздумна глядзеў праз акно ў гушчыню нізкага неба над дахамі шматпавярховікаў.

Дзецюка абудзіў ад роздумнасці мабільны тэлефон. Настойлівая і заезджаная мелодыя патрабавала ўзяць трубку.

— Алё.

— Вірун? — спытаў стомлена-плаксівы жаночы голас.

— Так, я.

— Гэта Зоська звоніць. Сястра Ліліяны, — голас задрыжэў, патанчэў і сышоў на ўсхліп. — Няма больш нашай Ліліянкі. Разбілася сястрычка мая. Ой, Божачка ж, мой Божа, што ты нарабіў? Навошта яна табе так раненька спатрэбілася?..

Вірун, слухаючы, спрабаваў асэнсаваць інфармацыю. Прычым тут ён да першай жонкі, якую не бачыў гадоў пятнаццаць. Адкуль родзічы Ліліяны ўзялі нумар ягонага тэлефона? І ўвогуле, ён чужы чалавек для роду Покічаў. З Ліліянай пражылі разам не болей трох гадоў. Усяго трох! І калі тое было? Навошта ён, Вірун, ім здаўся?

— Дык ты прыедзеш на пахаванне, Віруночак? Назаўсёды развітаешся са сваёй любай жоначкай. Яна ж цябе штодня з языка не спускала. Усё гаварыла, які ты выдатны, клапатлівы чалавек і муж. Які дабрэнны і прыстойны. Ліліянка ўсе гэтыя гадочкі табою жыла. Нікога не магла доўга цярпець, бо ты ў яе заўсёды заставаўся на першым месцы. Выпіваць і гуляць яна пачала з-за цябе. Бо ты засланіў ёй Божы свет. Ты Ліліянку ў магілу звёў. Каб табе праваліцца на роўным месцы! — Голас жанчыны зрываўся на істэрыку. — Каб табе ля вады хадзіць і піць прасіць, каб ты белага дня не бачыў!..

Вірун павольна адняў ад вуха мабільны, націснуў клыпажок адключэння.

— Вось табе і маеш, — толькі і прамовіў. Ён зноў прысеў на табурэцік ля кухоннага стала. Закурыў. Трэба было збірацца на працу, але прымусіць сябе нешта рабіць не мог. Не ставала ні фізічных, ні душэўных сіл. Званок Ліліянінай сястры спляжыў тое нямногае, што яшчэ заставалася пасля загадкавага сну, пасля душэўнага спусташэння, якое ён адчуў учора, прачытаўшы на сцяне закінутуга барака таямнічыя пісьмёны. Ды і Моніка-Моня не азывалася са свайго крэсла. Як вечарам пасадзіў яе ў мяккі фатэль, дасюль яна і ўзіраецца абыякавым позіркам на палічкі серванта з калекцыяй разнамасных ды рознакаліберных козлікаў. Вірун пачаў іх збіраць гадоў шэсць таму. Неяк завітаў з сябрамі на свята горада. І заблукалі яны кампаніяй на гандлёвыя рады, дзе народныя ўмельцы дэманстравалі ўласнаручныя вырабы. Там і ўгледзеў дзяцюк гліняную свісцёлку ў выглядзе зваблівага і зграбнага козліка. Вірун ім настолькі захапіўся, што, не задумваючыся, набыў. А нехта з сяброў і падкінуў ідэю, маўляў, а чаму б табе не збіраць з іх калекцыю? Сёння ж калекцыяванне дужа ў пашане. Глядзіш, і будзе занятак для не маладога ўжо і занадта сур’ёзнага мужчыны. Тады яны ўсе разам пасмяяліся над прапановай, але Вірун праз некаторы час заўважыў за сабою дзіўную рэч: наведваючыся ва ўнівермагі ды цумы, цацачныя крамкі, ён паўсюль вышукваў фігуркі барадатых козлікаў. Не абавязкова гліняных, а і парцалянавых, шкляных, пластмасавых, нават з шытва і штучнага футра. І вось цяпер на шырокай паліцы красаваўся вялікі статак козлікаў, якія не назалялі, а лашчылі вока не толькі гаспадару кватэры, але і гасцям.

— Моніка, я збіраюся на працу! — гукнуў з кухні Вірун. — Хоць яна ў мяне і колам у горле стаіць. — Гэта мужчына прамовіў прыцішана, больш для самога сябе. — У такое надвор'е толькі і цягацца па тралейбусах ды метро. Вось ужо крайнай Бог абдзяліў: то дажджы кароткачасовыя без перапынку, а то завірухі тыднямі не ўшчукаюць. І дзе ж тое сонца ды жаданая спёка? — Мужчына няспешна мыў у ракавіне з вячэры пакінуты посуд і свой кубак з-пад кавы. Ён незадаволена бурчэў сабе пад нос пра надвор'е, якое аніяк не ўсталёўваецца на працягу ўсяго года, аб працы, ад якой сківіцы зводзіць, пра жанчын, ад якіх ужо стаміўся.

— Што ж за няшчаснае наша племя мужчынскае? На кожную ўпадабаную дачку Евы мы глядзім у першую чаргу, як на патэнцыйную самку, аб'ект сексуальнай уцехі і задавальнення. А пасля ўжо заўважаем усе іх астатнія вартасці ды якасці. І нікуды ж ад гэтага не падзецца. Хоць ведаем, што новая сустрэча, знаёмства, захапленне акрамя радасці і замілавання прынясе процьму праблем і пакут, расчараванняў ды роспачы. — Вірун пераапранаўся ў касцюм, а думкі сноўваліся ў галаве адвольна і свабодна, як бы самі па сабе, незалежна і шырока. — Колькі ж ужо за пражытыя гады мелася такіх стрэч-растанняў? Ды не злічыць, як і ў большасці мужчын і жанчын майго ўзросту. А ты думаеш, што толькі мы, мужчыны, глядзім на жанчын з сексуальным прыцэлам? — Запытаўся ў сябе Вірун. — Ну і дурань тады. Жанчыны таксама на нас глядзяць у першую чаргу, як на жарэбчыкаў, самцоў. З прыкідкай на вынослівасць ды цягавітасць. І няхай яны хоць у тысячны раз абвінавацяць мяне ў напрасліне ды нагаворах, але я застануся пры сваёй думцы. Можа, гэта толькі не датычыцца маёй Монікі-Моні. Так, яна святая. Але ж я незнарок і выбраў менавіта яе ў свой жыццёвы полудзень. Не Ганку-Вальку, не Кацярыну-Рэгіну, а менавіта Моніку…

— Не сумуй без мяне. Пастараюся сёння раней вызваліцца і прыйсці дамоў, — з парога прамовіў Вірун і шчоўкнуў аўтаматычным замком.

«Вось табе і Ліліяна. Званок з мінулага. Далёкага і пустога. — Зрабіўшы нябачны зігзаг, пераскочыла думка з аднаго на другое. — Мы з першых дзён не былі шчаслівымі. Юначая гіперсексуальнасць і жыццёвая недасведчанасць звялі-злучылі нас разам. А якое можа быць шчаслівае жыццё, калі акрамя секса анічога нас не звязвала? Голы секс, фізічнае задавальненне і больш нічога. Тры, чатыры, шэсць месяцаў — і прыходзіць насычэнне целам. Хочацца большага, значнага, вышэйшага… А яго няма. Страшна пражыць жыццё ў чаканні. Чаканні чагосьці незвычайнага, казачнага, невядома-шчаслівага. Чакаць… Кожную гадзіну, дзень, месяц, год. Чакаць і, мажліва, не дачакацца. Але ж надзея квола трапеча ў грудзях. І каб наблізіць тое невядомае, але даўночаканае, ты імкнешся вечарамі раней класціся спаць. А калі сон дзесьці заблукаў у абдоймах з іншымі шчаслівцамі, то неадкладна бярэшся за прыхаванае снатворнае. Толькі б заснуць і наблізіць гадзіну, дзень свайго шчасця ды пачувацца дзіцём, якому нарэшце далі смачны ласунак. Чакаць са дня ў дзень, спадзявацца, што заўтра будзе абавязкова тваім. Толькі тваім. І вось аднойчы, расплюшчыўшы вочы, усведамляеш, разумееш, што гэты дзень нарэшце прыйшоў. Так табе здаецца. Але і сёння ты памыліўся. Твой дзень абмінуў цябе, зблытаў перакрыжаванне, вуліцу, дом, кватэру. Нічога, хай пабудзе шчаслівым нехта іншы. У цябе ж застаюцца вера і надзея. Яны найбліжэйшыя сяброўкі, якія пакуль што не здраджваюць. Хоць, калі шчыра, з гадамі робяцца больш лядашчымі, нягегла-хілымі і спакутаванымі. Але яны ёсць, пакуль яшчэ з табою. Так я жыў да сарака, сарака пяці гадоў, а затым надзея з верай ляснуліся. Воблачкам цыгарэтнага дыму раставарыліся ў наваколлі, не пакінуўшы пра сябе і следу».

Вірун ужо ехаў у метро і, затуліўшыся ў правым кутку вагона, не звяртаў увагі ні на пасажыраў навокал, ні на гул электрычкі ў тунэлі. Ён наперад ведаў, як праміне

сённяшні дзень. Пустыя і безвыніковыя клопаты на працы, банальная гаварыльня абрыдлых супрацоўнікаў, дзяжурныя ўсмешкі і рукапаціскanні. Кожны з калег (пра сябе іх Вірун называў — калек) будзе хаваць свой сум, абыякавасць да ўсяго, за маніторамі камп'ютараў, бесперапынна прысёрбваючы каву ці гарбату. Не жыццё, а суцэльны, без выхадных і святаў, дзень сурка. Які, магчыма, толькі і разбавіць успамін, што нечакана выплыве, вырвецца аднекуль з падсвядомасці кавалачкам, аскепкам з дзяцінства. Салодка-гаркавага, шчасліва-крыўдлівага, бадзёра-нястомнага, але з прысмакам гарчынкі струкавога перцу. Ды ўсё ж непаўторна-зайздроснага і, як здавалася, бясконцага… А «вінаватым» ва ўспаміне можа стацца некалькі нот мелодыі, альбо ўлоўлены носам пах, ці позірк, што зачапіўся за пачырванелыя гронкі арабіны. І ўспамін абудзіць душу, прымусіць сэрца шпарчэй гнаць кроў па венах. І хоць успамін прамільгне дваццаць пятым кадрам у штодзённым чыне, але ён дасць імпульс усведамленню, што не ўсё так безнадзейна страчана. Імжа з набрынялага неба — часовая, цягучая і брудная вада ў Свіслачы вясною ачысціцца, унутраная стомленасць праміне і зменіцца на казытлівую радасць. Урэшце, вернуцца надзея і вера. Бо дэпрэсія — не ўзроставы паказчык, а ўсяго-та змэнчанасць чалавека ў мільённым натоўпе сабе падобных. Ты разумееш, што жыць прыземлена не можаш. Клопат пра гаспадарку, ежу, адзенне — не галоўнае, хоць так жылі ды і жывуць твае родзічы. Не глядзець на лес з захапленнем і радасцю, а вызіркваць добрае дрэва для дроў — не тваё прызначэнне. Не заўважаць прыгажосці кветак і траў, а бычыць толькі сена для жывёлы — так сумна…

— Выходзіце на наступным прыпынку? — пачуў Вірун за спінай пытанне. Ён моўчкі хітнуў галавой у знак згоды і пасунуўся на крок уперад. Штурханіна ў дзвярах вагона, хрыплаваты дынамік з абыякава-бясколерным голасам настолькі звыклыя з'явы, што мужчына не ўяўляе ўжо жыцця без іх.

«Колькі ж вас, мае мілыя і дарагія людцы? І ўсе бяжым мы разам і ў той жа час паасобку. Спяшаемся, гонімся за нечым, а ўрэшце разумеем, што не туды і не так беглі. Глядзім пад ногі, баімся ўзняць адно на аднаго вочы, проста ўсміхнуцца, саступіць прастору больш паспешліваму і нецярпліваму. Мы баімся згубіць "сваё месца" ў вагоне, на эскалатары, у чарзе ў кафетэрый ды да білетных кас… Ай, што зменіцца ад уздыхаў ды папрокаў агульнай, бязлікай масе? Ні-чо-га! А таму не займайся пустым самаедствам. Не дакарай монстра, які цябе не чуе і не пачуе ніколі». — Вірун адкрыў уваходныя дзверы, зайшоў у офіс. (Не любіў мужчына гэтае слова, але без яго, офіса, сёння нікуды. Кожны кабінет, пакойчык велічаюць гэтым словам). На працоўным месцы знаходзіліся толькі тры чалавекі, астатнія завіслі ці ў пробках на дарогах, ці ў чужых ложках сваіх палюбоўніц і палюбоўнікаў. Усё і тут як заўсёды.

— Прывітанне, арлы і арліцы! — звыкла павітаўся Вірун і прайшоў да свайго стала. Так званага рабочага месца.

— Ты чамусьці сёння не ў гуморы, — стрэліла на мужчыну позіркам маладзенькая каляжанка. — Што, ноч не ўдалася? — Прэсна ўсміхнулася яна і ўтаропілася ў манітор.

Вірун праігнараваў пытанне. Яму хацелася аднаго: набліжэння вечара, калі ён з палёгкай падымецца з крэсла і подбегам шусне ў падземку. А адтуль дахаты, дзе верна чакае Моніка-Моня, старыя красоўкі і паношаная куртка. Дзяцюку раптам так закарцела апынуцца ў старым, закінутым бараку, што аж пяты засвярбелі. Ён толькі цяпер зразумеў, што менавіта там хаваецца разгадка ягонага ўнутранага раздраю. «Пасяджу да паўдня, а затым пабачу. Паскарджуся на дрэнны стан і збягу.

Ніякай сілы не стае адседзець цалюткі дзен з выглядам па макаўку занятога чалавека. Стараваты я для гульняў у хованкі. Мяне чакаюць Моніка, барак ды пісьмёны на сцяне. Усё астатняе не вартае ўвагі». На душы Віруна палягчэла, бо ён прыняў рашэнне. Няхай і ва ўрон працоўнай дысцыпліне.

* * *

У другой палове дня Вірун ужо крочыў па сцяжыне да ўпадабанага барака. Дождж спыніўся яшчэ раніцай. На небе, сярод густаватых хмар, прамільгвала сонца. Яно здавалася запалоханай і юркай дзяўчынкай, якая, пераадольваючы непасільныя перашкоды, імкнецца дапамагчы нямогламу чалавеку ўскараскацца з восеньскай лужыны на краёчак сухой лавы пад навесам. І ўсё ж гушчыня хмар радзела, а сонечныя промні з кожнай хвілінай смялей і напорысцей аблашчвалі ўмакрэлую зямлю, дрэвы, травы і кустоўе. Абнадзейвалі людзей скупой цеплынёй і ласкай.

Вірун схлусіў Моніцы-Моні, калі, прыйшоўшы дамоў, сказаў, што адлучыцца ў краму. Сам жа, не пераапранаючыся нават, толькі пераабуўся, пашыбаваў да кальцавой дарогі, а затым, збочыўшы на сцяжынку, скіраваў да напаўразбуранага барака. Яго туды цягнула невядомая сіла. Падыходзячы да пабудовы, яшчэ за пару добрых соцень метраў, дзяцюк заўважыў каля барака сілуэт чалавека. Якраз насупраць пралома дзвярэй. Вірун крыху запаволіў крок. Мільганула думка: а, можа, вярнуцца дамоў? Яму не хацелася некага бачыць у гэтым бязлюдным месцы. У месцы, якое ён па праве лічыў сваім. Нават, нейкім інтымна-сакральным. І вось на табе, маеш, чужака ў сваіх уладаннях.

Каб неяк сабрацца з думкамі і вырашыць, што рабіць, Вірун няспешна, замаруджана паляпаў правай рукой па кішэнях у пошуку цыгарэт. Нарэшце выняў пачак, выцягнуў з яго адну і пстрыкнуў запальнічкай. Скоса зірнуў у бок барака. Яму падалося, што невядомец пільна ўзіраецца ў Віруна і ўзмахамі галавы, нібы конь у спякотнае надвор'е, кліча да сябе. Дзяцюк зусім разгубіўся. Яму раптам закарцела з усіх ног кінуцца бегчы. Як мага хутчэй і далей ад барака і невядомага чалавека, які так па-сяброўску, гасцінна запрашае яго наблізіцца. Толькі ж у мазгу пульсавала, як нарыў, іншая думка: «Не бойся, а смела ідзі. Ты ж так хацеў разабрацца ва ўсім. Зразумець сябе і тое, што з табою адбываецца. Ідзі! Спяшайся!»

І Вірун паскорыў крок. Не глядзеў нават пад ногі на звілістай сцежцы. Яго пацягнула, нібы жалезную пласціну да вялізнага магніта. Мужчына тварам адчуваў вібрацыю паветра паміж ім і баракам, чалавекам, што стаяў у праломе дзвярэй.

Калі іх падзяляла некалькі дзясяткаў метраў, Вірун пазнаў у незнаёмцы чорнагаловага маладзёна з учарашняга сну. Тая ж усмешка на прыгожым твары і нават адзенне тое ж.

— Дзень добры, брацельнік, — першым павітаўся знаёмы незнаёмец. — Доўга ж чакаць цябе давялося. Думаў, што не прыйдзеш сёння. Але спадзяваўся. Як бачу — не дарэмна.

— Здароў, проста адказаў Вірун не рукаючыся. — І навошта гэтак тэрмінова табе спатрэбіўся? — Разгубленая ўсмешка скрывіла твар дзецюка. — Здаецца, столькі гадоў шчасліва пражылі, не ведаючы адзін аднаго, і раптам узнікла неабходнасць.

— А ці ж шчасліва пражыў ты тыя гады? — не пагадзіўся прыгожатвары.

— Нікому не жаліўся, — парыраваў Вірун.

— Ну канешне. За спінай толькі разводы, выпадковыя сустрэчы і пастаянны раздрай душы. Пошукі, пошукі… Спадзяванні, расчараванні і зноў пошукі. А чаго і каго? — чорнагаловы пільна глядзеў на дзецюка.

Вірун прамаўчаў.

— Ты сам так і не зразумеў. Добра, што спыніўся на манекене-ляльцы. Сваёй Моніцы-Моні. Лагічнае завяршэнне для нашчадка караючых быком. Толькі манекен і можа быць з табою.

— Ды перастань несці глупства, — папрасіў Вірун. — То быў проста дурнаваты сон у стомленай галаве. І ты, наколькі разумею, галюцынацыя. Чуў, што такое з людзьмі здараецца ад стомы і зашоранасці жыццём. Дастаткова працерці вочы ды страсянуць галавой, і цябе няма.

— Паспрабуй, — падахвоціў чорнагаловы. — А раптам і праўда.

Вірун кулаком цірнуў адно, другое вока і зірнуў перад сабою. Чорнагаловы прыгажун стаяў на тым жа месцы.

— Цяпер пераканаўся, што я рэальны? Як і ў сне. А ўвогуле, ты ўпэўнены, што тое было сном? Усяго толькі сном? Пайшлі ў будыніну. Там я напісаў для цябе чарговы тэкст. Побач з адбіткам тваёй далоні. Табе ж спадабаліся мае папярэднія пасланні. Ты гаварыў пра тэксты і свайму манекену-ляльцы, так званай Моніцы-Моні. Я не памыляюся?

— Ну, гаварыў. Што з таго? — буркнуў Вірун і пайшоў следам за чорнага-ловым.

— Чытай, — ні то загадаў, ні то папрасіў прыгожатвары. — Мо тут і знойдзеш для сябе сякія-такія адказы. А мне час не дазваляе больш заставацца побач. Чытай. — Яшчэ раз паўтарыў ён.

Вірун зрабіў некалькі крокаў да сцяны і ўпіўся вачыма ў роўны і прыгожы почырк тэксту.

***«Як знайсці дакладныя словы, каб апісаць боль, пакуты, адзіноту чалавечай душы? Колькі не перабірай у памяці, як не напружвай і не моршчы лоб, а ўсё слоўнікавае багацце падаецца нейкім легкадумным, бязважкім і павуціністым. Рэдкім і хліпка-недакладным робіцца слова, пастаўленае побач з*** **боллю.** ***Зацяганым, заношаным, збітым і… ніякім пачуваецца слова і побач з*** **пакутай.** ***Што ўжо казаць пра*** **адзіноту.** ***Адзінота, яна і ёсць — адзінота. Якімі словамі не атуляй і не прыбірай адзіноту, яна, прыгаломшаная прыгажуня, застаецца сам-насам на ўсіх расхрыстаных скрыжаваннях дарог.***

***Адзінота — жабрачка, адзінота — ганарлівіца, адзінота — фанабэрыстасць, адзінота — уседазволенасць, адзінота — прыгажосць, адзінота — царыца. Ніякае слова не змякчае, не ўлашчвае*** **адзіноту.** ***Калі яна ўжо ўбілася ў душу, то не ўратуе чалавечае цела ані летняя духмянасць лугоў, ні плёхканне лагодных марскіх хваль, нават экзотыка Катманду, няўлоўная пастка кахання не разбурыць за імгненні ўзведзены замак адзіноты. З болем разабрацца прасцей… А ці прасцей? Цяжка, немагчыма чалавеку быць шчырым і праўдзівым нават самім з сабою, што ж ужо казаць пра шчырасць сярод сабе падобных, у паўсядзённасці. Таму і адзінота, боль, пакуты хаваюцца пад маскай абыякавасці на твары і крывадушным лозунгам: “Калі мне баліць і я пакутую ў адзіноце — значыць, я жыву! А як жыву і навошта?” — гэта ўжо пытанне рытарычнае. Не дарэмна ж у свой час нехта зазначыў, што, калі чалавек пачынае цікавіцца сэнсам жыцця, альбо яго каштоўнасцю, то гэта азначае, што ён хворы.***

***А хворыя мы ўсе, толькі кожны па-свойму: адным сумна жыць, другім — цесна, а трэцім — без розніцы як жыць, з кім і дзеля чаго. Галоўнае — жыць, проста — жыць!..»***

* * *

…

*Станіслаў ВАЛОДЗЬКА*

# У НЕБЕ МІЛАЙ ВОТЧЫНЫ МАЁЙ



***Станіслаў Валодзька нарадзіўся 11 лістапада 1956 года ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна. У 1987 годзе завочна скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў на Прыбалтыйскай чыгунцы. Цяпер жыве ў Даўгаўпілсе, працуе ў школе. Аўтар зборнікаў паэзіі «На хвалях хвалявання», «У вачах Айчыны», кніг для дзяцей.***

## ПАД НЕБАМ РАДЗІМЫ

Я тут і праз падэшвы адчуваю
Сляды дзяцінства босага свайго.
Крынічнаю вадою ачышчаю
Душу ад непатрэбнага ўсяго.

Адзначаны жыццёвай новай вехай,
Гляджу замілавана ўдалячынь.
І ясна так юнацтва чую рэха,
Пад бацькаўшчыны небам ідучы.

У вёсцы пад адкрытым небам танцы —
Язміну водар кружыць галаву.
З дзяўчынкай сарамліваю у вальсе
На хвалях хвалявання я плыву.

Якія словы вымавіць не знаю, —
Дыханнем апякаю вушка ёй.
І зоркі ўзнёсла кружацца над намі
У небе мілай вотчыны маёй...

Дарогі па зямлі мяне кружылі, —
Нярэдка горкім быў чужбіны дым.
Ды дзякуй Богу, як да сэрца жылы,
Шляхі мяне ізноў вялі сюды,

Дзе мары, як калісьці, б’юць крыніцай,
Пачуцці тут выходзяць з берагоў.
І цёплы летні дождж вярбою ніцай
Спадае з неба роднага майго...

## МАЭСТРА-ВЕЦЕР

Ты музыкант цудоўны, вецер,
Такога рэдка дзе знайсці!
З табой мне ўзнёсла жыць на свеце,
Бо колісь ты мяне хрысціў!

Дар Божы — слых выдатны маеш,
Чытаць умееш ноты зор.
То сум, як хмары, разганяеш,
То навяваеш смутак зноў.

Як быццам тайну адкрываеш,
Што за дубраваю гадоў,
Нас у мінуўшчыну вяртаеш
Ігрой на гуслях правадоў.

Дом родны бачыцца праз гоні
Вятрыска, ласку мне зрабі:
Ты трубачом пабудзь сягоння —
У комін зноўку патрубі!

Табе ж я золатам маўчання
Плаціць за гэта буду рад,
Ў дзяцінства звернуты вачамі,
Як хата вокнамі ў наш сад…

## СТАНІСЛАЎ НАРБУТ*

***«Свецячы іншым — згарашаеш сам»***
Старажытны дэвіз медыкаў

Ён заўжды быў ветлівым і чулым, —
Іскрай Бог душу пазалаціў.
І далёка пра яго пачулі...
Доктару любоўю люд плаціў.
Выпала яму такая доля:
Іншым ярка свецячы, згарэць:
Ідучы да хворага праз поле
У залеву, цяжка захварэць
І памерці, выказаўшы просьбу
Пахаваць на Замкавай гары...
Помнік на яго магіле ўзнёсся,
Маяком ліхтар на ім гарыць.
Каб не заблудзіўся чалавеча,
Каб бяды не здарылася з ім…
Нарбут Станіслаў і зараз лечыць
Нас гаючым прыкладам сваім...

* Доктар медыцыны, адзін з першых лекараў Браслаўшчыны.

## СІВЕР ЧАСУ

Такі шалёны вецер часу быў:
Зрываў людзей з сяліб даўно абжытых.
І з клункамі сабранага пажытку
Іх, бедных, гнаў, скуголячы, ў Сібір.

Ў зямлю чужую там, у мерзлату
Яны, жыць вельмі прагнучы, ўрасталі.
Як роднымі і той зямельцы сталі,
Што ім дарыла скупа дабрату.

І прыняла навек іх як сваіх.
Глядзяць з нябёс засмучаныя зоркі,
Што рэдка кветкі на магілах іх.
Ды на магілах іх рунеюць зёлкі.

Як трэба карані свае любіць,
Як трэба шанаваць свае магілы,
Каб не падзьмула ў душы нам Сібір,
Каб быць людзьмі
на гэтым свеце мілым!..



***Валерый МАЦУЛЕВІЧ***

Ў віхуры цемрадзі і злосці,
Ў будзённай шэрай чарадзе
Нам ёсць патрэба ў Прыгажосці
Не менш, чым ў хлебе і вадзе.

Жывём, працуем, ходзім ў госці,
А ўсё ж чагосьці не стае,
А менавіта — Прыгажосці,
Мы ледзь кранаемся яе.

Ў людскім натоўпе, важных справах
Мы раствараемся падчас,
І ўжо не бачым сноў яскравых,
Ў якіх Яна пакліча нас.

Каб не чынілі, што хацелі,
Цьмяная цемрадзь, злая злосць,
Каб будні фарбамі квітнелі —
Стварайце, людзі, Прыгажосць!

Серж МІНСКЕВІЧ

# УСМЕШКА ЖАЛОБНАЙ КАРАЛЕВЫ, АЛЬБО ТАЙНА МАГНІТНАГА ЗАМКА*

*Аповесць легендарных часоў*

## VIII

## ФОКУС КАТА МІАМУРМАРОРА

Наступным днём кот Міамурмарор і Алеолла спусціліся ў горад Палац Садоў.

У гэтым горадзе ўжо некалькі гадоў запар была жалоба. Алеолла адразу гэта адчула. Ва ўсіх хатах фіранкі на вокнах былі чорныя. Людзі таксама насілі чорную вопратку і гаварылі паўшэптам. Нідзе даўно ўжо не грала музыка — усе музыкі раз’ехаліся ў пошуках заробку.

— Чаму ў горадзе жалоба? — спытала Алеолла.

— Пяць гадоў таму над горадам пранеслася чорная хмара і закруціліся чорныя віхуры, — пачаў распавядаць кот. — Людзі пахаваліся хто куды ад страху. А прыгажуня Джайміна бегла ў гэты час на спатканне да свайго каханага — хана Ісмірая. Да белага каменя ў садзе. Чорныя віхуры ўжо амаль пранесліся міма юнай прыгажуні, як раптам вялізны чорны вір адарваўся ад хмары, агарнуў Джайміну і ператварыў яе ў тонкі цень. І чорная хмара з ценем Джайміны паляцела ўдалечыню. А ў гэты час хан Ісмірай прыйшоў да месца спаткання і ўбачыў, што на белым камені з’явілася сляза. Камень — сухі камень! — заплакаў. Вось якое каханне было ў Ісмірая і Джайміны. Вельмі моцна засмуціўся хан і з тых часоў носіць жалобу. Кожны дзень прыходзіць ён да таго каменя і ўспамінае каханую. А камень плача і плача, на ім ужо ўтварылася невялікая выбоінка, падобная да чашы, куды капае сляза. Недалёка ад каменя заўсёды стаіць варта. Яна сочыць, каб ніхто не змог парушыць смутак каменя і жалобу хана.

— Я ведаю, што гэта за хмара была, — сумна сказала Алеолла і ўздыхнула, — гэта Паляндра... І я, здаецца, зразумела, што мне трэба зрабіць для шалапутнага Арціна.

— Так-так. Гэта вельмі дзёрзкі і, я нават сказаў бы, небяспечны ўчынак: парушаць жалобу хана. Але іншага выхаду няма. Інакш Арціну давядзецца ўсё жыццё правесці пад шаўкоўніцай.

— Ты хочаш сказаць, што мне трэба неўпрыкмет узяць слязу таго каменя? — Алеолла зазірнула ў зялёныя вочы ката. — Можа, лепш мне прыйсці да хана і проста папрасіць яго?

— Гэта ні да чаго не прывядзе, — адказаў кот. — Хан Ісмірай абвясціў вечную жалобу, таму нікога не прымае. Цябе да яго не прапусцяць.

— А я распавяду, што мне трэба дапамагчы віцязю Арціну, і што пасля гэтага мы вызвалім людзей з цямніцы-скляпення Паляндры. Тады і каханая хана да яго вернецца.

— Што ж, — не захацеў далей пераконваць яе кот, — ты ідзі, а я цябе сустрэну вось тут, побач з агароджай палацавага саду.

* Працяг. Пачатак у № 1 за 2013 г.

Алеолла адправілася ў горад, а кот Міамурмарор — па адным яму вядомым кашэчым справам.

Злева і справа ад брамы ханскага палаца стаялі вартаўнікі — два велічэзных ваяры страшэннага выгляду. У руках яны трымалі вострыя дзіды і круглыя медныя шчыты, якія цалкам закрывалі іх магутныя торсы. Бронзавыя шаломы ваяроў, упрыгожаныя чорнымі пёрамі, зіхацелі на сонцы. Выразы твараў ахоўнікаў былі настолькі суровымі, што, падавалася, іх галовы былі выцясаны са скалы.

— Прабачце, калі ласка, ці магу я бачыць хана Ісмірая? — ветліва папрасіла Алеолла і зрабіла рэверанс.

Ёй ніхто не адказаў.

— Ці магу я прайсці да хана? У мяне да яго вельмі важнае справа. Паверце, гэта вельмі-вельмі важна.

І зноў маўчанне. Вартаўнікі былі падобны да фарбаваных статуй. Тады дзяўчына зрабіла крок у бок палацавай брамы, аднак вартаўнікі адразу ж скрыжавалі перад ёй свае вострыя дзіды, не даючы прайсці.

— Дзяўчынка, ты хіба не ведаеш, што Вялікі Хан Ісмірай нікога не прымае? — спытала бабулька ў чорным адзенні, што праходзіла паблізу. — У нас жалоба. Вяртайся адкуль прыйшла…

— Вось так... — прамовіў кот Міамурмарор, калі Алеолла вярнулася да яго, — ісці да той брамы — тое ж самае, што біцца галавой аб сцяну.

— Ну, і як нам прабіцца ў ханскі палац?

— Не прабіцца, а прабрацца. Мілёнча, ты зусім забыла? Я ж кот, у мяне ў лапах схаваны кіпцюры, і таму яны заўсёды вострыя, а яшчэ я іх штодня аб кару дрэў натачваю. А па дрэвах я лажу не горш, чым па зямлі хаджу. Значыць так: я заскочу на агароджу, потым улезу на дрэва, адчаплю павой, які абвіўся вакол яго ствала. Павой тоненькі, але і ты сама худзенькая — цябе ён вытрымае, па ім ты пералезеш праз агароджу. А я пайду да вартаўніка, які заўсёды хаваецца за акацыяй недалёка ад слёзнага каменя, — кот выгнуў спіну і на ўсю даўжыню выцягнуў заднюю лапу. — Вазьмі гэта.

Сваёй задняй лапай кот паказаў на бліскучы прадмет, які ляжаў у траве перад агароджай.

— Што гэта такое? — спытала Алеолла.

— Напарстак. А ў ім — кавалачак воску.

— Дзе ты ўсё гэта ўзяў?

— Пакуль ты хадзіла да брамы ханскага палаца, мне знаёмая котка прынесла. Яна жыве тут недалёка, у краўчыхі. Слухай далей. Я памуркаю — вартаўнік і засне, а ты ў гэты час набяры ў напарстак слязу з каменя і замаж напарстак воскам, каб сляза не выцекла. Потым мы паціху вернемся да гэтага дрэва, пералезем праз агароджу і адправімся вызваляць віцязя Арціна.

— Які ты ўсё-ткі разумны! — пахваліла ката Алеолла.

— Добрым людзям заўсёды прыемна дапамагаць, — адказаў на камплімент кот Міамурмарор.

У імгненне вока ён ускочыў на каменны плот, затым на дрэва, адчапіў галінку плюшчу і перакінуў яе Алеолле. Яна лёгка пералезла праз агароджу ў сад.

— Тс-с, — прашаптаў кот Міамурмарор, — вунь, бачыш, побач з акацыяй на траве сядзіць таўстун? Гэта вартаўнік. Я іду да яго, а ты абыходзіш акацыю і неўпрыкметку падкрадваешся да каменя. Калі пачуеш ад вартаўніка: «Мур-мур-мур», — значыць, ён заснуў, тады смела ідзі да каменя і набірай слязу.

— Наперад!

Кот саскочыў з дрэва і, падняўшы хвост трубой, накіраваўся да вартаўніка. Наблізіўшыся да яго, кот сеў насупраць і паглядзеў таму прама ў вочы.

— Ох, які вялікі і прыгожы кот! — мімаволі захапіўся вартаўнік. — Але ты сюды дарма забраўся, тут чужым катам рабіць няма чаго.

Аднак дзённая спёка размарыла тоўстага вартаўніка, яму была лянота ўставаць і праганяць ката.

— Псік… Псік з саду, — таўстун млява махнуў рукой.

Замест таго, каб сысці, кот суровым голасам спытаў:

— Як цябе клічуць?

Вартаўнік разгубіўся, таму што да гэтага моманту нават дапусціць не мог, што каты ўмеюць размаўляць. Ён машынальна падабраў жывот і прадставіўся:

— Рахмадул… А што?

— Ну, ты, вядома, і малайчына, Рахмадул, — тым жа тонам працягваў кот, — табе загадана стаяць і сачыць за каменем, а ты на траве разваліўся, зброю на зямлю кінуў. Нягожа...

— А гэта... гэта... Я ж толькі на хвілінку прысеў... Дзіда і шчыт такія цяжкія. Не верыш, сам паспрабуй патрымаць, — стаў апраўдвацца Рахмадул.

— Які ж ты вартавы, раз прапаноўваеш незнаёмцу патрымаць сваю зброю?

— Ха-ха, — раптам засмяяўся таўстун, — Мне смешна... Што кот можа зрабіць з дзідай чалавека?

— Глядзі, — Міамурмарор тыркнуў вострыя кіпцюры ў тронак, прыпадняў дзіду і рэзкім рухам лапы, нібы строс яе. Дзіда праляцела некалькі метраў і ўваткнулася ў зямлю.

— Бачыш, уся справа ў тэхніцы кідання дзіды — кашэчая адрозніваецца ад чалавечай, але ўсё-ткі скарыстацца дзідай я магу не горш за цябе.

Вартаўнік глянуў, як паляцела яго дзіда, ды і застыў на месцы ад здзіўлення з шырока адкрытымі вачыма.

— Я гляджу, ты вельмі марудна разважаеш, — ацаніў яго выраз твару кот. — Але вартаўнік Вялікага Хана павінен кеміць вельмі хутка і свайму камандзіру ён павінен усё неадкладна дакладваць. Ты, наогул, можаш што-небудзь неадкладна і даслоўна дакладваць?

— Нну... ммагу, — затаптаўся таўстун, прамармытаў, — недакладна неадкладна дакладваць...

— Ясна... Здаецца цябе пара звальняць з вялікаханскай варты...

— Ну што ты!

— І няма чаго мне тыкаць, ты на працы, — абурыўся кот Міамурмарор.

— Прабачце, спадар кот. Не, не трэба мяне звальняць. Я магу хутка думаць. І хутка дакладваць таксама магу.

— Раз так, то трэба праверыць.

Рахмадул хацеў было ўстаць з зямлі, але кот сказаў:

— Можаш сядзець. Паўтарай за мной так хутка, як толькі зможаш. І, глядзі, без памылак.

Кот Міамурмарор набраў паветра ў лёгкія і роўным голасам пачаў вымурkваць:

Муляр мыў мур мармуровы,
Мармур муру быў пурпуровы.
Муляр мыў мур мармуровы,
Мармур муру быў пурпуровы...

Рахмадул пачаў было паўтараць за катом, аднак чалавеку паўтарыць кацiную прымаўку практычна немагчыма. Таўстун збіваўся, збіваўся, а потым у яго пачало

атрымліваецца адно толькі мур-мур-мур... Ён стаў дзюбаць носам, а вочы самі сабою заплюшчыліся. Тоўсты вартаўнік падціснуў ногі ў бліскучых чорных ботах да жывата і замармытаў: мур-мур-мур...

Алеолла пачула салодкае пасопванне і наблізілася да каменя. Менавіта ў гэты момант на каменным выступе набралася сляза. Яна адарвалася і паляцела ў каменную нішу. Алеолла падставіла свой напарстак, злавіла слязу каменя і хуценька замазала напарстак воскам.

У гэты ж самы час па садзе гуляў бела-чорны, мармуровы дог хана Файран — вялікі сабака, з ганарлівай паставай. Яму было вельмі шкада свайго любімага гаспадара, таму дог таксама ўвесь час сумаваў. Раптам яго востры нюх улавіў пах ката, і Файран з усіх ног кінуўся да каменя. Ён бег, грозна брэшучы нізкім басам — боўбоў! — як брэшуць вялікія сабакі, а яго вушы ўзмахвалі, нібы крылы.

Заўважыўшы ката, дог скокнуў на яго, але Міамурмарор ліха выкруціўся і імгненна ўзлез на верхавіну дрэва.

Ад усёй гэтай валтузні прачнуўся вартаўнік Рахмадул. Ён вызірнуў з-за акацыі і ўбачыў каля каменя Алеоллу.

— Ага! — падбег ён да дзяўчыны і моцна схапіў яе за руку.

Добра, што Алеолла паспела схаваць напарстак са слязой каменя ў кішэню.

— Вось і папалася! Хацела да каменя прайсці! Не дазваляецца. Толькі Вялікі Хан можа тут знаходзіцца. А за тое, што ты парушыла жалобу каменя, цябе чакае смерць.

Моцна, як жалезнымі абцугамі, трымаючы Алеоллу за руку, Рахмадул павёў яе ў ханскі палац. І колькі яна ні вырывалася, колькі ні ўпрошвала адпусціць яе, вартаўнік быў няўмольны.

Ён заўважыў Вялікага Хана, які стаяў каля бірузовага фантана.

— О, Вялікі Хан Ісмірай, — здалёк прамовіў Рахмадул і ўкленчыў, пацягнуўшы за руку Алеоллу, каб тая таксама апусцілася на калені, — не глядзі на яго, — прашаптаў ёй Рахмадул, а ўслых прамовіў, — гэтая дзёрзкая дзяўчына парушыла жалобу слёзнага каменя.

— Вялікі Хан! — пачала Алеолла, — мне трэба вызваліць ад чар віцязя Арціна, а пасля гэтага мы зможам вызваліць з цямніцы Паляндры ўсіх людзей, якіх яна забрала з сабою… і вашу каханую. Калі ласка, адпусціце мяне.

— Шмат людзей хацелі б убачыць гэты незвычайны камень, набраць сабе яго слёз у якасці талісмана. Але хіба можна рабіць з гора і жалобы відовішча, атракцыён, каб чэргі разявак цягнуліся да яго? — роўным, але поўным горычы голасам спытаў Вялікі Хан Ісмірай. — Я выдаў указ: таму, хто наблізіцца да каменя, адсякуць галаву.

— Ну, як жа вы не разумееце? Мы ж вернем вам вашу каханую...

— О, калі б гэта было так проста... Некалькі маіх віцязяў ужо адпраўляліся на пошукі Паляндры, каб вызваліць Джайміну. І ніхто з тых часоў пра іх нічога не чуў. Я і сам хацеў ісці яе вызваляць, але мае падданыя мяне не адпусцілі. Ім патрэбны Вялікі Хан. Я павінен быць тут, разумееце?

— Мы з Арцінам і мастаком Дроздзічам зможам!

— Але да майго глыбокага шкадавання, я не маю права парушаць закон, — холадна прамовіў Ісмірай. — Адвядзіце яе да слуг, хай пераапрануць. І перадайце к*а*ту, каб лепей навастрыў сваю сякеру.

Алеоллу адвялі ў далёкі пакой-вязніцу.

— А як жа вы будзеце мяне пераапранаць, калі тут так цёмна? — спытала ў ханскіх прыслужніц Алеолла.

— Мы запалім лямпы.

— А ў мяне таксама адна з сабою.

— Ну, давай, і тваю запалім, — пагадзілася прыслужніца. — Можаш палюбавацца на вясёлы агеньчык, пакуль у цябе яшчэ ёсць час.

Прыслужніцы, усе ў чорнай вопратцы, выглядалі вельмі змрочнымі. Яны, як і хан, насілі жалобу. Хоць і адчувалася, што такая доўгая жалоба была для іх цяжарам.

Як толькі лямпа Алеоллы загарэлася, па вязніцы распаўсюдзіўся прыемны водар шаўкоўнічнага алею. Спачатку прыслужніцы сталі ўсміхацца, потым хіхікаць, а пасля хахатаць.

— Вы што, таго? — у вязніцу зазірнуў Рахмадул. Ён стаяў знадворку, побач з дзвярыма, і ахоўваў памяшканне. Але як толькі павёў носам, таксама засмяяўся, нават загогокаў, затуляючы рот дзвюма далонямі.

Хан Ісмірай сядзеў каля фантана, падобнага да вялікай яловай шышкі, з якой тонкімі струменьчыкамі біла крыштальна чыстая вада. Ля ног хана ляжаў яго любімы дог Файран. Сабака ўчуў пах араматычнага алею, які праз адчыненыя дзверы вязніцы пранік у сад. Файран па-сабачы шырока ўсміхнуўся, высунуў язык, і, размахваючы ім, гучна захыкаў — гэта ён па-свойму засмяяўся.

— Што з табой? — нахмурыў бровы хан Ісмірай.

Файран толькі заматляў хвастом.

— Даўно я не бачыў цябе вясёлым...

І раптам хан пачуў смех, які ішоў з вязніцы. Ісмірай хуткім крокам пайшоў да яе, а за ім, весела падскокваючы, пабег Файран.

— Не карай нас, Вялікі Хан, злітуйся, — прыслужніцы і вартаўнік Рахмадул упалі на калені перад ханам. — Гэтая слаўная дзяўчына прынесла нам столькі вясёлых хі-хі-хі хвілін. Мы проста не змаглі стрымацца. Яна падарыла нам радасць. Мы просім, калі ласка, адпусціце яе з мірам.

Хан Ісмірай пачуў прыемны водар, які струменіўся ад лямпы Алеоллы, але яго гора было настолькі моцным, што ён не стаў ні смяяцца, ні нават усміхацца. Хоць і адчуў, што на душы ў яго зрабілася трохі лягчэй, а на сэрцы мякчэй. І яшчэ ён зразумеў, якім цяжкім грузам ляжыць яго жалоба на плячах яго верных падданых. Яны перажываюць за яго, і самі не могуць жыць паўнавартасным жыццём.

— Адпусціце яе, — узмаліўся Рахмадул і так панік галавой, што шалом з’ехаў яму на вочы.

І нават дог Файран на хвіліну прыўстаў на заднія лапы і пачаў ківаць сваёй вялікай выцягнутай пысай.

— Адпусціце мяне, — папрасіла Алеолла, я падару вам гэтую лямпу і алей таксама. З яго можна рабіць чароўную парфуму. Калі жыхаркі горада будуць ім карыстацца, у іх сем’ях ніколі не будзе разладу.

— Я і рад бы адпусціць цябе, — сказаў хан Ісмірай, — але калі я сам пачну парушаць закон, гэта будзе беззаконне, — ён задумаўся. — Можа, настаў час унесці ў закон некаторыя папраўкі? Але гэта нялёгка. Трэба арганізоўваць дыспут, на які, па правілах, неабходна запрасіць двух мудрацоў. І галоўная ўмова: мудрацы павінны быць не з нашага горада, каб на іх не ўплывалі мае візіры. Вось гэтыя мудрацы ў спрэчцы і павінны вырашыць, ці можна дзеля такога выпадку ўнесці ў закон некаторыя змены альбо не.

## IX

## ВЯЛІКІ ХАНСКІ ДЫСПУТ

Хан Ісмірай адправіў ганцоў-спавеснікаў па ўсім паўвостраве і ў суседнія землі. Ганцы-спавеснікі павінны былі паведаміць, што Вялікі Хан Дарвіцкага Ханства запрашае прыняць удзел у дыспуце двух найвялікшых мудрацоў.

А мудрыя людзі разумелі, што выступаць на заканадаўчым дыспуце — вялікая адказнасць, таму замест таго, каб адразу ж ісці ў ханскі палац, пачыналі рашаць галаваломкі і разгадваць загадкі — трэніраваць свой розум. Але на гэта шмат трацілася часу і таму да паездкі ў ханскі палац, мудрацы паступова пачыналі ставіцца па-філасофску: «Яшчэ будуць дыспуты, яшчэ паспеем падыспутаваць».

А людзі, якія толькі лічылі сябе мудрымі, але насамрэч такімі не былі, адразу падхопліваліся, каб адправіцца ў горад Палац Садоў. Ханскія ганцы-спавеснікі астуджалі запал такіх самазванцаў — задавалі ім тры загадкі.

Першая загадка была такая:

Дзве галавы, кожная з жыватом,
Шэсць ног, але з адным хвастом.
Што гэта?

Другая гучала так:

Еду, еду,
Ні дарогі, ні следу...
Што гэта?

А замест трэцяй загадкі ганцы-спавеснікі задавалі толькі адно пытанне: «Калі вы мудрэц, то над чым цяпер думаеце?»

І калі такія «мудрацы» не маглі правільна адказаць хоць бы на адну з загадак, ханскія спавеснікі ім кланяліся і казалі:

— Выбачайце, але ў палац патрабуецца мудрэц трошкі іншага складу розуму, — і выпраўляліся далей.

Адбор быў суровы, таму кандыдатаў на ўдзел у дыспуце доўга не маглі знайсці. Асабліва цяжка было падабраць другога.

Першым у палац хана Ісмірая завітаў кіраўнік Пячорнага Горада Абдурахмон Улюкбабай. Дабірацца да горада Палац Садоў яму было бліжэй, чым усім астатнім дыспутантам — спусціўся з гары, а тут ужо і палацы хана. У Пячорным Горадзе неўзабаве таксама павінен быў адбыцца дыспут, таму Абдурахмон Улюкбабай хацеў патрэніравацца ў мудрагельстве. На загадкі ён адказаў злёту, і цяпер, ухмыляючыся сабе ў бараду, расхаджваў па ханскім палацы, чакаючы, калі яму прадставяць яго спаборніка.

Нарэшце ў ханскі палац прывялі маленькага росту, вузкавокага і вельмі вусатага заморскага госця:

— Вялікі Хан, гэты малы кажа, што ён вандроўны мудрэц, — прашаптаў адзін ганец-спавеснік.

— На дзве нашыя загадкі ён, быццам бы, адказаў.

— Як гэта быццам бы? Вы нічога не пераблыталі? Вы сапраўды загадвалі выбраныя намі загадкі? — спытаў Вялікі Хан.

— Так, — адказаў першы. — Я хутка прамовіў:

Дзве галавы, кожная з жыватом,
Шэсць ног, але з адным хвастом.
Што гэта?

І гэты мудрэц, амаль не задумваючыся адказаў, што гэта, прабачце, я.

— Як гэта ты? — здзівіўся Вялікі Хан. — Гэта ж няправільны адказ!

— Ну, я пытаўся ў яго, седзячы на кані. А значыць, гэта быў правільны адказ, таму што правільны адказ на гэтую загадку — верхавы альбо чалавек на кані.

— Добра, а што з другой загадкай?

— Другую загадку, задаваў я, — пачаў распавядаць другі ханскі спавеснік. — Гэта было так. Я яму сказаў:

Еду, еду,
Ні дарогі, ні следу…

Не паспеў я дагаварыць да канца, як гэты заморскі купец, абурыўся, навошта, маўляў, я яго ашукваю. Я здзівіўся, чаму гэта я яго ашукваю. А ён адказаў, што я яго ашукваю, бо еду на кані, а ад майго каня застаецца і след, і, акрамя таго, я бачу дарогу, па якой еду. І наогул, гаворыць ён, калі вы мне хочаце задаць гэтую загадку, то запрасіце на прыстань, устаньце на карабель — вось тады і задавайце гэтую загадку.

— Пачакай, дык ён разгадаў другую загадку ці не? — у хана пачынала заканчвацца цярпенне.

— Якраз гэтага я і не разумею… З аднаго боку — не, таму што ён прама нічога не сказаў, а з іншага боку — адгадаў, таму што адказ на гэтую загадку — «човен», альбо «карабель». І калі б я загадаў яе на караблі, то ён бы яе тады адгадаў, а я быў конна, таму ён і заявіў, што я яго ашукваю…

— Так, гэта мудры чалавек, адразу відаць. Ён не толькі знайшоў правільны адказ, але і вас у тупік сваімі адказамі паставіў, — адзначыў Вялікі Хан. — Ну, добра, а што наконт трэцяй загадкі, дакладней пытання?

— Калі я задаў яму трэцяе пытанне, — зноў загаварыў першы ганец-спавеснік, — то ён заявіў, што адкажа толькі вам асабіста. І, акрамя таго, сам задаў нам сустрэчную і, кажа, самую простую загадку, якраз пра нашу службу…

— Самую простую? Ану, загадайце яе мне, — папрасіў хан Ісмірай.

— Вось яна , — прамовіў другі спавеснік, я яе слова ў слова запомніў:

Мы скакалі цэлы дзень —
І зямны спаткалі цень.
Што гэта?

Хан задумаўся, а потым сказаў:

— Так, цікавая загадка… Я ведаю адказ. Але мне цікава паслухаць, як гэты заморскі госць будзе сам на яе адказваць. Вядзіце яго да мяне.

Заморскі госць быў шчыльна захутаны ў жоўты халат, такі доўгі, што валачыўся па зямлі, на нагах у чалавечка былі вялікія жоўтыя батфорты, на руках — жоўтыя скураныя пальчаткі, а на галаве — ядвабная жоўтая чалма, насунутая на самыя бровы. У яго мелася доўгая кучаравая барада, што пачыналася ледзь не ад самых вачэй.

— Вось, — сказалі ханскія спавеснікі, — гэты спадар кажа, што ён вандроўны мудрэц. І ў нашых краях праездам з Сіамуня.

— Т'як, т'як, — з замежным акцэнтам пацвердзіў сказанае чалавечак і пакланіўся хану, — я в'яндроўні муньдрэйц Міамунямунь з далёкай караіны Сіамунь.

Хан Ісмірай сядзеў на троне пасярод шырокага пляца, перад сваім палацам. Справа ад трона, за сталом, сядзеў Галоўны Візір з паперай і пяром, побач з ім за сваімі сталамі яшчэ тры візіры: Першы, Другі і Трэці, а злева, пад аховай, стаяла Алеолла. Над яе галавой два бамбізы-вартаўнікі скрыжавалі вострыя дзіды. Па краях пляца на лавах з парусінавымі брылямі, каб сонца не сляпіла вочы, сядзелі падданыя хана — шаноўная публіка.

На сярэдзіну пляца тварам да хана, паўбокам да галоўнага візіра і да ўсіх астатніх гледачоў выйшаў, трымаючы ганарлівую паставу, Абдурахмон Улюкбабай і пакланіўся.

— Тое, што Абдурахмон Улюкбабай — мудрэц, — зычна вымавіў хан Ісмірай, — ведаюць усё.

Абдурахмон Улюкбабай важна, як паўлін, задраў галаву на тонкай шыі і абвёў поглядам усіх гледачоў. І яшчэ раз пакланіўся.

Затым наперад выйшаў вандроўны мудрэц Міамунямунь.

— Хвала ньебу, сто сёнуня пагодн'і д'ень. Нічыйго не буд'е мьешат шаноўн'ім людьям, слюшат, батшыт' мяне і ўдумватыс'я ў мае слёвы… я в'яндроўн'і муньдрэйц Міамунямунь з далёкай караіны Сіамунь, — ён таксама пакланіўся.

Як толькі заморскі госць пачаў сваю вітальную прамову, дог Файран ні з таго, ні з сяго вельмі занерваваўся. Ён парываўся «боўкнуць» сваім басам — ужо і паветра ў лёгкія набраў, і пашчу разявіў — але Алеолла, якую дог моцна палюбіў, ласкава зірнула на яго, і Файран супакоіўся, ледзь не закусіўшы сабе верхнюю губу, ён прысеў на заднія лапы, развесіўшы вушы.

Хан Ісмірай шапнуў штосьці Галоўнаму Візіру, і той звярнуўся да заморскага мудраца:

— Калі вы насамрэч мудрэц, то вам не будзе вялікай цяжкасці адказаць на адну маленькую загадку.

— Калі ляска… — прыслухаўся Міамунямунь.

Візір выразна, каб усе на пляцы маглі пачуць вымавіў:

Мы скакалі цэлы дзень,
І зямны спаткалі цень.
Што гэта?

Гледачы прыціхлі і задумаліся.

— Я мяркую, — не міргнуўшы вокам, сказаў Міамунямунь, што гэта — ноч.

Публіка загула, пачуліся воклічы:

— Але ж правільна…

— Сапраўды!

— Нічога сабе...

Хан Ісмірай усміхнуўся — яму спадабалася, што заморскі мудрэц і выгляду не падаў, што гэта была яго ўласная загадка.

— Гэта адна з найпрасцейшых загадак, — паўтарыў хан словы, якія яму перадаў ганец-спавеснік.

А тыя гледачы, якія не ведалі адказу, падумалі пра сябе: «Які мудры ў нас Вялікі Хан, калі такая загадка яму падаецца адной з найпрасцейшых».

— А чаму вы завеце сябе мудрацом? Над якой праблемаю… над чым вы цяпер думаеце? — хітра спытаў візір.

— Цяпер я думаю над вашым пытаннем, — спакойна адказаў Міамунямунь.

— Правільна! — са здзіўленнем адзначыў Галоўны Візір.

— Так-так, відаць, што вы разумны чалавек, — сказаў хан Ісмірай. — Але

ўмець адгадваць загадкі — гэта яшчэ не значыць быць мудрацом. Мне хацелася б даведацца, якую вялікую разумовую задачу вы перад сабой паставілі і спрабуеце вырашыць?

Вандроўны мудрэц яшчэ раз пачціва пакланіўся хану, потым усім гледачам і ўжо не з такой моцнай замежнай вымовай стаў апавядаць:

— Я хачу абысці ўвесь зямны шар услед за сонцам, паглядзець, як людзі і звяры жывуць, і пры тым падумаць: што магло б змяніцца, калі б сонца аднойчы ўстала на захадзе, а села на ўсходзе? Здаецца, нічога не павінна змяніцца. Зноў будзе такі ж дзень і такая ж ноч, усе так і будуць жыць у сваіх дамах. Падумаеш: сонца перамяшчацца ў іншым кірунку. Але нешта, пэўна ж, зменіцца. Можа быць, у нас саміх?

Усе людзі на пляцы задумаліся. Абдурахмон Улюкбабай ледзь ссунуў наперад сваю чалму і пачаў пачэсваць патыліцу.

— Так, сапраўды, цікавая праблема, — пагадзіўся хан Ісмірай, — над ёй можа разважаць толькі сапраўдны мудрэц!

— Прабачце, Ваша Вялікасць, дазвольце мне сказаць, — Абдурахмон Улюкбабай пакланіўся хану Ісміраю.

— Калі ласка.

— Ва ўсёй пастаноўцы гэтай праблемы ёсць адна асноўная і вельмі прынцыповая памылка. А менавіта — наша Зямля — не шар. Вось паглядзіце, — Абдурахмон Улюкбабай выняў з кішэні халата апельсін, — калі б наша зямля была шарам, як заяўляе паважаны Міанямням...

— Міамунямунь, — ветліва паправіў яго заморскі мудрэц.

— Дык вось, калі Зямля — гэта шар, то паўсюль павінна быць горка, такі круглы ўзгорак. Як на апельсіне, разумееце? А цяпер возьмем каменьчык, — Абдурахмон Улюкбабай падняў з зямлі невялікі круглы каменьчык і паклаў на паверхню апельсіна. Каменьчык у момант скаціўся з «апельсінавай горкі». — Вось, бачыце, калі Зямля была б шарам, то і мы маглі б у любым месцы Зямлі, вядома, досыць адкрытым, паставіць вазок і скаціць яго з круглай горкі. І нават без коней. І ехалі б далёка-далёка... Куды нам заманецца, — Абдурахмон Улюкбабай зноў з важным выглядам абвёў поглядам гледачоў. — Але ж у нашым жыцці падобнага не адбываецца! Нам патрэбны коні!

— Так! Так! — загаманілі гледачы і запляскалі ў ладкі.

— З гэтага выходзіць, што зямля зусім не круглая горка, а плоская раўніна! — падагульніў Абдурахмон Улюкбабай.

— Што вы на гэта скажаце? — спытаў хан Ісмірай у заморскага мудраца.

— У якім-небудзь асобна ўзятым месцы зямля сапраўды плоская.

— Вы гэта прызнаеце? — удакладніў візір.

— Так, прызнаю...

На гэтых словах Галоўны Візір шырока ўзмахнуў чорна-белым гусіным пяром, патрос ім у паветры, затым накрэсліў нешта на паперы і абвясціў:

— Адзін-нуль на карысць Абдурахмона Улюкбабая.

— Пачакайце, — звярнуўся да ўсіх прысутных заморскі мудрэц. — Тое, што Зямля — шар, на самой зямлі не так добра відаць. А вось на вадзе, на моры, можна заўважыць. Ці вы не бачылі, што караблі, як быццам апускаюцца за гарызонт? І шчоглы са сцяжкамі знікаюць за краем вады?

— Так! Так! — зноў загаманілі гледачы.

— Значыць, па-вашаму, — умяшаўся Абдурахмон Улюкбабай, — вада круглая, а зямля плоская?

— Некаторым чынам можна і так сказаць, — заморскі мудрэц узяў са стала візіра слоічак з вадой — візір ёй разводзіў атрамант.

Міамунямунь кінуў у слоічак трэсачку, затым нахіліў — вада разам з ёю вылілася, і ў паветры, пакуль ляцела, ператварылася ў круглую кроплю, у якой плавала тая трэсачка. — Вось, гэтак жа, як гэтая трэска ў кроплі, так і зямная суша знаходзіцца ў круглай вадзе. Усе выспы і кантыненты.

— О-о, — працягнулі зацікаўленыя гледачы.

— Ну, дапусцім... выкажам, эээ, так сказаць дапушчэнне, што гэта… мм… магчыма, магчыма, — прамямліў Абдурахмон Улюкбабай.

Галоўны Візір зноў шырока ўзмахнуў пяром і накрэсліў нешта на паперы.

— Нічыя: адзін-адзін, — абвесціў ён.

Усе вакол, нават хан Ісмірай, запляскалі ў ладкі.

— І калі мараплавец, — працягваў заморскі мудрэц, — паплыве ў адзін бок, і ўвесь час будзе доўга плыць у адзін і той жа бок, не змяняючы курсу, то прыплыве дамоў са зваротнага боку мора-акіяна...

— Добра, — умяшаўся ў спрэчку мудрацоў хан Ісмірай, — пакінем гэтую тэму да таго часу, пакуль да нас не завітае такі мараплавец. А цяпер, паважаныя мудрацы, давайце пяройдзем непасрэдна да нашай справы. Паслухайце ўважліва. У свой час я даў слова і выдаў указ, які стаў законам, што той, хто парушыць спакой і жалобу слёзнага каменя, будзе прысуджаны да смяротнай кары праз адсячэнне галавы! Парушыла спакой і жалобу слёзнага каменя вось гэтая яснапанна Алеолла. Яна сама прызнала сваю віну. І ў нас нават ёсць сведкі яе злачынства. Але вось у чым праблема — мае падданыя просяць яе адпусціць. Яна ім спадабалася, і яшчэ яснапанна абяцала падарыць нам чароўны алей, з якога можна зрабіць вельмі патрэбныя людзям парфумы. А паколькі ўказы, якія становяцца законам, я выдаю для сваіх жа падданых, то іх просьбу я абавязкова павінен разгледзець. Пытанне да вас, паважаныя мудрацы, як быць? Разважце.

— Я думаю так, — пачаў Абдурахмон Улюкбабай, — амаль год таму на дыспуце ў сваім родным горадзе я даказаў, што чалавек кіруе ўласнай думкай. Ён сам яе стварае. Калі вы, Ваша Вялікасць, стварылі гэтую думку, значыць, яна была неабходная. Раз яна стала вашым словам, значыць, яна здабыла сілу, як кажуць — стала «жалезным словам». Калі яна — ваша думка — стала ўказам, значыць, стала магутнай, цвёрдай, непахіснай. Раз яна стала законам — значыць, стала ўладнай, непераможнай, неабвяргальнай. І цяпер уласнымі сумненнямі вы можаце яе паслабіць, а гэта недапушчальна! Чалавек, які адзін раз падвергне сумненню сваю думку, затым другі раз, потым трэці, пасля заўсёды будзе ствараць у сабе сумнеўныя думкі, можа і сам стаць вельмі сумнеўным суб’ектам…

Пачуўшы такія развагі, хан Ісмірай нахмурыўся і спадылба зірнуў на Абдурахмона Улюкбабая. Мудрэц з Пячорнага Горада заўважыў гэта і ўжо зусім іншым тонам дадаў:

— Я кажу пра абстрактнага чалавека, а ні пра якога-небудзь канкрэтнага хана...

— Так, так, — шэптам загаманілі гледачы. — Сумнеўная думка — гэта вельмі сумнеўна!

— Кат! — загадаў хан. — Рыхтуй сваю сякеру!

Кат у чырвоным скураным каптуры і чырвонай туніцы стаяў воддаль, побач з фігавым дрэвам. Ён раскрыў драўляны футарал, ababіты замшавай скурай, дастаў з яго вялікую двухбаковавострую сякеру з вельмі бліскучымі лёзамі, якія нагадвалі два паўмесяцы. Сякера — нават яе доўгая дзяржальна — была зроблена з чорнага жалеза, таму была даволі цяжкай. Але кат з ёй упраўляўся лёгка, нібы з драўляным кійком. Ён адной рукой узняў сякеру, хутка і моцна махнуў наперад, назад, уверх, уніз:

— Уюць, уюць, — запішчала паветра, рассечанае лёзамі.

Ад жаху гледачы ўціснулі галовы ў плечы, яны імкнуліся не глядзець на Алеоллу. Ім было яе вельмі-вельмі шкада.

— Увогуле, кат можа пакуль пачакаць, — сказаў Абдурахмон Улюкбабай. Ён таксама адчуваў жаль да Алеоллы, бо, па сутнасці, быў добрым чалавекам, але ўжо вельмі прынцыповым. — Дзеянне вашага закона неабмежавана. Вось і не абмяжоўвайцеся.

— Гэта як? — спытаў хан Ісмірай.

— У вашым законе сказана толькі — зняць галаву, але не сказана, калі гэта зрабіць... Хай Алеолла жыве ў вашым палацы разам з вашымі падданымі. Яна падзеліць з вамі жалобу — і вам будзе лепш, і падданым. Фу... — Абдурахмон Улюкбабай зняў чалму, дастаў з яе хустачку, працёр мокры ад поту лоб, потым схаваў хустачку ў чалму і зноў нацягнуў чалму на галаву.

— Гэй, Бедалдай! — крыкнуў хан Ісмірай к*а*ту. — Прыбяры пакуль сваю сякеру. Ты нам перашкаджаеш.

Бедалдай акуратна паклаў сякеру назад у футарал.

— Правільна! Правільна! — гучна загаманілі гледачы.

У іх адлегла ад сэрца.

Галоўны Візір узмахнуў белым пяром зрабіў на паперы чарговую адзнаку:

— Два-адзін на карысць Абдурахмона Улюкбабая.

— А цяпер паслухайце, калі ласка, што вам я, Міамунямунь, скажу, — заморскі мудрэц пакланіўся хану, затым публіцы. — Вы сцвярджаеце, паважаны Абдурахмон Улюкбабай, што думку ствараe сам чалавек, і калі яна ператвараецца ва ўказ, становіцца непахіснай, а калі пераходзіць у закон — то неабвяргальнай. Добра. Давайце прадставім такую сітуацыю. Адзін хан вырашыў адправіцца ў паход з усім сваім войскам. Ім неабходна прайсці па дарозе, якая ляжыць паміж горамі. Хан выдае пра гэта ўказ, і тым самым яго думка становіцца законам для ўсяго ханскага войска. І вось, ужо выступае ханскае войска ў шлях, як раптам мясцовы бядняк кажа хану, што ўсё-ткі не варта ехаць гэтай дарогай, бо ў любы момант можа сысці снежная лавіна. Так што па-вашаму рабіць гэтаму хану — ехаць са сваім войскам па гэтай дарозе, альбо ўсё-ткі прыслухацца да слоў бедняка і абвергнуць свой жа закон? — Міамунямунь спыніўся, даў слухачам падумаць, што ўсе слухачы і зрабілі, пачаўшы чухаць патыліцы, хмурыць ілбы, разводзіць і зводзіць бровы.

Заморскі госць казаў далей:

— Мудры хан, вядома ж, не паедзе такой небяспечнай дарогай, ён адменіць свой закон... І што з гэтага мы маем? — вандроўны мудрэц зрабіў шматзначную паўзу, абвёў поглядам усіх прысутных на пляцы і прадоўжыў. — А тое, што на думку ўплывае не толькі сам чалавек, але яшчэ і тое, што вакол чалавека адбываецца.

Усе яшчэ больш задумаліся. І Вялікі Хан, і Галоўны Візір, і яшчэ тры візіры, і Абдурахмон Улюкбабай, і гледачы, і нават дог Файран — ён, быццам разумеў, пра што кажа Міамунямунь, — хоць даволі коса пазіраў на вандроўнага мудраца.

— Альбо вось яшчэ адна гісторыя, — працягваў заморскі госць. — Адзін знаёмы мне чалавек даў клятву, што ніколі не стане купацца ў моры. Ён умее выдатна плаваць, але не хоча, бо лічыць, што мора — гэта люстэрка для зорак, месяца, аблокаў і сонца, таму і не жадае замінаць ім глядзецца ў яго. Аднойчы гэты чалавек ішоў уздоўж берага, як раптам заўважыў, што ў моры тоне маленькае кацянятка… Чалавек спыніўся, зірнуў… І вось перад ім устала пытанне, што важней — слова, дадзенае сабе, альбо жыццё жывой істоты?

— І што гэты чалавек зрабіў? — не вытрымала і спытала Алеолла. — Ён выратаваў кацянятка?

— Выратаваў, — адказаў Міамунямунь.

Усё ўздыхнулі з палёгкаю.

— Гэты выпадак паказвае нам, што думка і слова чалавека павінны быць не толькі цвёрдымі, але і гнуткімі. Неабходна ўлічваць акалічнасці.

— Дазвольце мне, — папрасіў Галоўны Візір.

Хан рукой даў яму знак працягваць.

— А як жа быць з законам? — візір падняўся са свайго месца. — Калі закон будзе гнуцца, як лаза, то кожны будзе гнуць яго ў свой бок.

— Так, гэта праўда, — пагадзіўся хан.

— Закон паказвае, што можна, а што нельга рабіць. А калі нешта і здараецца, то для высвятлення ўсіх акалічнасцей трэба запрашаць мудрацоў-суддзяў, — сказаў Абдурахмон Улюкбабай, — мудрацы нікому не дазволяць гнуць закон у розныя бакі.

— Наадварот, — запярэчыў яму Міамунямунь, — мудрацы не ўтрымліваюць закон, а паглыбляюць яго разуменне. І вызначаюць моц яго дзеяння ў кожным пэўным выпадку.

— Так што ж мне рабіць? — запытаў хан Ісмірай. — Як мне выканаць закон і ў той жа час не караць Алеоллу?

— Я думаю, — Міамунямунь прыняў важную паставу, але пры гэтым пачаў выглядаць вельмі хітра, — трэба глядзець у самую сутнасць закона. А сутнасць складаецца ў тым, што прычынай усяму сталі жалоба і гора. І вось калі Алеолла, як яна абяцае, вызваліць з цямніцы Паляндры вашу каханую Джайміну, то сама і адменіць сваё пакаранне.

— А калі ў яе гэта не атрымаецца? — спытаў хан.

— Тады яе забярэ да сабе Жалобная Каралева Паляндра. А гэта, паверце, раўназначна пакаранню.

— А калі яна не зможа прайсці да Паляндры, адступіцца і будзе проста жыць дзесьці ў сябе дома? — умяшаўся Галоўны Візір. — Гэта ж тое ж самае, што яна ад нас уцячэ.

— На гэта я вам так адкажу, — спакойна прамовіў Міамунямунь, — у вашым законе, як правільна зазначыў мудры Абдурахмон Улюкбабай, ні слова не сказана пра тое, калі трэба выконваць пакаранне, правільна?

— Так, так, — пагадзіліся ўсё.

— Таксама там не сказана, дзе яго трэба выконваць. Правільна?

— Так, так, — пагадзіўся Вялікі Хан.

— Значыць, ваш кат Бедалдай можа ўзяць сваю сякеру і пайсці разам з Алеоллай. Калі яна не пойдзе да Паляндры, ён зможа выканаць пакаранне. Хоць я ўпэўнены, што Алеолла пойдзе да Паляндры, бо дала слова.

— Але як жа маё ханства застанецца без к*а*та? — запытаўся хан Ісмірай.

— Наколькі мне вядома… Гэта мне вашы падданыя сказалі… Ваш кат так ні разу і не працаваў. Але акрамя гэтага, усе падданыя гатовы паклясціся, што на час яго адсутнасці ніхто не будзе ўчыняць нічога дрэннага. Праўда? — Міамунямунь звярнуўся да прысутных на пляцы.

— Так, так, клянёмся! — хорам адказалі ўсё.

— А на час адсутнасці к*а*та на смяротныя пакаранні будзе абвешчаны перапынак.

— Перапынак? — здзівіліся хан і візір.

— У іншых краінах гэта завецца мараторый, — растлумачыў мудрэц з Сіамуня.

— Ма-ра-торый... — паўтарыў хан. — Гэта па-новаму...

— Нічога сабе! Як гэта Нямуням так усё закруціў, — адзначыў сабе Абдурахмон Улюкбабай.

— Ага! — Галоўны Візір падслухаў гэта і ўзмахнуў пяром. Паставіў на паперы закавыку і абвясціў. — Два-два — нічыя.

— Малайчына, заморскі мудрэц! — закрычалі гледачы. — Жыве Вялікі і Мудры Хан Ісмірай! Жыве заморскі мудрэц!

— Ціха! — гучным голасам загадаў Галоўны Візір. — Раз выйшла нічыя, то, па законе, закон не адмяняецца, усё застаецца так, як і было да дыспуту.

Пачуўшы гэта, кат Бедалдай зноў дастаў з футарала сваю сякеру і — «уюць, уюць» — узмахнуў ёй у паветры.

— Цяпер паслухайце мяне, — хан Ісмірай устаў са свайго трона, выйшаў на сярэдзіну пляца, падняў рукі да неба і сурова сказаў:

— Раз у дыспуце адбылася нічыя, то я сам маю права выбіраць, якога мудраца мне слухаць. Прашу — усім стварыць цішыню!

Вялікі Хан устаў, закрыў вочы і пачаў уважліва слухаць, што яму падказвала яго сэрца. Ніхто з прысутных на пляцы не наважваўся яму перашкаджаць. Нават дыхалі цішком. Такой цішыні яшчэ ніколі не чуў горад Палац Садоў.

— Вось што, Бедалдай, — адкрыў вочы хан Ісмірай, — пакладзі сваю сякеру ў футарал і збірайся ў дарогу. А ты, Алеолла, адпраўляйся да свайго віцязя Арціна і прывядзі яго сюды. Я дам вам сваіх лепшых скакуноў. Утрох вы адправіцеся да Жалобнай Каралевы Паляндры.

— Жыве наш Вялікі і Мудры Хан! — сустрэлі яго словы гледачы-падданыя.

Візір махнуў пяром, нешта напісаў на паперы і абвясціў: тры-два-два, на карысць Вялікага Хана Ісмірая!

— Жыве Вялікі Хан Ісмірай

— Але я стаміўся, — панізіўшы голас, сказаў хан.

Пакуль ішоў дыспут, ён амаль забыўся на сваё гора, а цяпер яно з новай сілай вярнулася да яго. Хан устаў з трона і моўчкі накіраваўся ў свой палац.

— Пачакайце! — ускрыкнула Алеолла. — Я хачу падарыць вам чароўны алей.

— Пакіньце яго Галоўнаму Візіру, — не азіраючыся, сказаў хан Ісмірай. — Ён у мяне скрупулёзны. Па кропельцы раздасць кожнай жыхарцы нашага горада, усё запіша і падлічыць. Поспехаў, Алеолла!

— Дзякуй вам, хан Ісмірай, — адказала Алеолла і паставіла лямпу з алеем перад візірам на стол.

## X

## ТАЯМНІЦА СТАРОЙ ШАЎКОЎНІЦЫ

Алеолла ішла з горада па дарозе, якая вяла да гары з трыма шаўкоўніцамі. Людзі праводзілі яе да мяжы горада, а калі яна ішла ўжо адна, яе дагнаў заморскі мудрэц.

— Пастой, пачакай мяне, — сказаў ён Алеолле. — На задніх лапах я хаджу не так хутка.

Мудрэц зняў жоўтую чалму, і дзяўчына ўбачыла яго каціныя вушы.

— Як цябе там — Муня-мунь-мунь?

— Не, цяпер я зноў Міамурмарор, — і ён адклеіў накладную бараду.

— Вялікае-найвялікшае дзякуй табе, кот Міамурмарор, за тое, што выратаваў мяне, — яна цмокнула яго ў вільготны нос.

Калі кот Міамурмарор і Алеолла падняліся на вяршыню гары, то ўбачылі Арціна. Будучы віцязь, смутны-смутны, сядзеў пад шчаслівай шаўкоўніцай.

— Прывітанне! — радасна сказала Алеолла.

— Колькі можна? Я ўжо думаў, што вы ніколі не вернецеся, — дакорліва прамовіў Арцін.

— Ну, і што ты рабіў увесь гэты час? — замест адказу спытала Алеолла.

— Што рабіў, што рабіў? Вас чакаў. Пасяджу пад шаўкоўніцай, засумую, тады выходжу з-пад кроны, насмяюся ўдосталь і назад пад дрэва вяртаюся.

— Не, тое, што ты сумаваў-нудзіўся і пасля свой сум-нуду разганяў, гэта зразумела, — сказаў кот, — гэта кожны здагадлівы чалавек прыдумаў бы. Алеолла ў цябе пытае, ці знайшоў ты, з-за чаго ягады на шаўкоўніцы цалкам не выспяваюць?

— Знайшоў, — упэўнена адказаў Арцін. — Ідзіце сюды, пакажу.

Ён падвёў іх у самае цяністае месца пад кронай шаўкоўніцы, рассунуў галінкі, і яны ўбачылі, што на лісце, які па краях быў пажухлым, сядзеў вялікі чорна-буры вусень. Ён не проста сядзеў, а безупынна шавяліў сківіцамі — грыз ліст і самазабыўна жаваў.

— Падаецца, я дзесьці падобнае бачыла, — заўважыла Алеолла.

— Натуральна. Я таксама бачыў. У мастака Дроздзіча ў слоіку, — сказаў Арцін.

— Так, але толькі ў мастака ў слоіку яны былі як нежывыя, і больш мярзотныя.

— Таму што ў мастака Дроздзіча, — сказаў кот, — гэта і не вусені зусім, а перайначаныя ўсмуткі.

— А ты і мастака Дроздзіча ведаеш? — здзівіўся Арцін.

— А хто ж яго не ведае, — аксамітным голасам адказаў кот Міамурмарор.

— І як жа гэты вусень тут апынуўся? — задумалася Алеолла.

— Пэўна, хтосьці вельмі моцна смуткаваў і заразіў шаўкоўніцу сваёй усмуткай, — выказаў здагадку Арцін.

— Не, гэта Паляндра зрабіла, — сур’ёзна прамовіў кот. — Я заўважыў, што яна кружыла вакол шаўкоўніцы перад тым, як забраць Джайміну. Дзеля гэтай шаўкоўніцы яна ў наш край і прылятала. Шаўкоўніца для яе небяспечная.

— Глядзіце, вось яшчэ, — паказаў Арцін.

Яны знайшлі яшчэ пяць такіх жа чорна-бурых вусеняў.

— Пяць плюс адзін, гэта колькі будзе? — задумаўся кот, — шэсць. Шасцёркай чапляў запрэжана карэта Журботнай Каралевы.

— Усяго шасцёркай… А ў нашым мястэчку было больш віхураў. Нават не віхураў, а смерчаў, — успомніў Арцін.

— Можа быць, разам з імі яшчэ хтосьці прылятаў? — услых падумаў кот.

— І што з гэтымі вусенямі цяпер рабіць? — спытаў Арцін. — Я спрабаваў іх адчапіць — нічога не атрымліваецца. Яны вельмі моцна да лісткоў прылепленыя. Можа, іх проста прыдушыць?

— Што ты, нельга! — абурыўся кот. — Пад шчасцядайнай шаўкоўніцай не павінна быць дрэнна аніводнай істоце! Тады шаўкоўніца насамрэч засохне. Бо вусені не вінаватыя ў тым, што яны вусені!

— Паглядзіце! — выклікнула Алеолла. — Яны смяюцца!

І праўда, вусені не проста жавалі лісты, а яшчэ безупынку смяяліся. А можа, і наадварот, яны смяяліся і заадно безупынку жавалі.

— Ад лістоў яны і смяюцца, як я ад ягад, — здагадаўся Арцін.

— У такім разе, я ведаю, што рабіць, — прамовіў кот, — трэба іх апырскаць слязой каменя. Яны перастануць смяяцца, а заадно і жаваць.

Алеолла дастала напарстак са слязой каменя.

— Не, спачатку мяне, — папрасіў Арцін. — А то раптам не хопіць.

— Хопіць, — паспрабаваў супакоіць яго кот, — пырскаць трэба зусім мала, а то замест безупыннай радасці на цябе бясконцая журба нападзе.

Кот абмакнуў у напарстак белы кончык свайго ярка-рудага хваста і ўзмахнуў ім — некалькі малюпусенькіх кропелек патрапілі на лоб, шчокі і рукі Арціна.

— Давай, выйдзі з-пад шаўкоўніцы.

Арцін выйшаў з-пад дрэва і расплыўся ў шырокай усмешцы.

— Хі-хі!

— Што, не дзейнічае? — занепакоілася Алеолла.

— Го-го-го! — зайшоўся Арцін.

— Няўжо... Міамурмарор! — у Алеоллы нагарнуліся слёзы.

— Дзейнічае. Супакойся. Гэта я так, спецыяльна пасмяяўся, — ужо без усякага смеху сказаў Арцін. — Я проста пажартаваў. Сам сабе пажартаваў.

— Слухай, ну і жартачкі ў цябе, — пакрыўдзілася Алеолла.

— Ты б так не жартаваў, калі б ведаў, што ёй і мне давялося паспытаць перш, чым прынесці табе гэтыя слёзы каменя.

— А што? — занепакоіўся Арцін.

— І гэта ўсё, заўваж, каб выправіць, тваю памылку, — сурова сказаў Міамурмарор.

— Распавядзіце, што з вамі адбылося.

Кот і Алеолла расказалі Арціну ўсё, што з імі здарылася ў горадзе Палац Садоў.

— Так што перад тым, як жартаваць, — прамовіў кот, — трэба ведаць, ці можа чалавек у гэтую хвіліну ўспрыняць твой жарт.

— Прабачце мяне. Ну, калі ласка, — папрасіў прабачэння Арцін.

— Ды што з цябе ўзяць, эх ты... — прабачыла яго Алеолла.

— Давайце вусеняў акропім, — прапанаваў кот.

Як толькі мікрапырскі патрапілі на чорна-бурых вусеняў, тыя перасталі жаваць, задумаліся — што ж з імі такое адбываецца. Потым спаўзлі з лістоў па празрыстай павуціне і нейкі час віселі ў паветры. Пасля хуценька пачалі закручвацца ў павуціну і ў такім кокане зноў сталі прыладжвацца да ліста.

— Што гэта яны з глузду з’ехалі? Можа, ты на іх занадта шмат слязы каменя напырскаў? — здзіўлена спытаў у Міамурмарора Арцін.

— Заўтра паглядзім, — спакойна адказаў Міамурмарор.

Сонца ўжо знікла за гарамі, і змрок агарнуў наваколле чорным халатам са срэбнымі дзірачкамі зорак.

Але ні заўтра, ні паслязаўтра нічога не змянілася. Арцін сур’ёзна занепакоіўся.

І вось раніцай пятага дня Алеоллу і Арціна абудзіў кот Міамурмарор. Ён прымаў сонечныя ванны. «Ванны самага ранняга сонца — найкарыснейшыя для птушак і катоў», — сцвярджаў вучоны кот.

— Алеолла! Арцін! Хутчэй прачынайцеся! А то ўсё прапусціце!

Спалоханыя юнак і дзяўчына ўскочылі і падбеглі да шаўкоўніцы.

Побач з кожным коканам сядзеў белы матылёк. Было падобна, што матылькі толькі нядаўна выйшлі на свет і сушылі свае белыя крылцы з шакаладнымі акрайцамі. Раптам падзьмуў вецер і ўсе шэсць матылькоў пырхнулі і паляцелі ў даліну.

— Паглядзіце! — узрадавалася Алеолла.

Ягады шаўкоўніцы зрабіліся вялікімі і белымі. І акрамя таго, сваёй формай яны нагадвалі тых вусеняў, толькі скурчаных. Ягады відавочна былі налітыя і сакавітыя.

— Слухай, мы іх назбіраем, — пачаў разважаць Арцін, — а мастак Дроздзіч пафарбуе іх чорнай і бардовай фарбай, ягады стануць падобнымі да сапраўдных чорна-бурых вусеняў. Мы пакладзём іх у яго слоік. Чаплі возьмуць, паядуць, дадуць Паляндре — самі атруцяцца, і Паляндра атруціцца. Тады мы зробім гаць — наносім галля — і пяройдзем Чорнае балота! Пройдзем да Імховага вострава і Чорнага церама ды вызвалім людзей!

— Правільна, добра прыдумаў, — пагадзілася Алеолла.

— Добра, добра… — упершыню падтрымаў Арціна кот Міамурмарор. — А вось гэта таксама можа спатрэбіцца.

Кот падчапіў сваім вострым кіпцюром тонкую павуцінку на кокане. Кокан, быццам шпулька нітак, пачаў раскручвацца.

— Слухайце, — узрадавалася Алеолла, — гэта ж той самы ядваб, з якога зроблены парасон Дроздзіча!

— Так, вусені яго робяць з лісця шчасцядайнай шаўкоўніцы, таму Паляндра і яе паслугачы не могуць яго заўважыць! — улавіў яе думку Арцін.

— Якія вы сталі разумныя. Вось што значыць павучацца ў вучонага ката, — пахваліў іх альбо сябе самога кот Міамурмарор. — Я ведаю, дзе ў Пячорным Горадзе ёсць майстэрня — там ткуць ядваб. Мы прыгатуем пахкага алею, а таксама назбіраем пладоў звычайных шаўкоўніц. Ослік нам дапаможа перавезці іх да майстэрні. Плады аддамо майстрам, а алей — Абдурахмону Улюкбабаю. Ён раздасць па кроплі ўсім жыхаркам горада — на парфуму. А майстры хутка зробяць з кожнага кокана чатыры ядвабныя накідкі. Пад імі Паляндра нас не заўважыць.

— Усё-такі, у нас найвучонейшы кот! — разам пахвалілі яго Алеолла і Арцін.

Як сказаў кот, так яны і зрабілі. Алеолла адціснула з ягад шчасцядайнай шаўкоўніцы сок, а з іх костачак алей. Адзін маленькі збаночак алею пакінула сабе, другі — жыхаркам Пячорнага Горада. Арцін і кот Міамурмарор назбіралі ў падарунак майстрам два вялікіх плеценых кашы звычайных шаўкоўніц, а потым адзін невялікі кош «шчаслівых» ягад — «пачастунак» для чорных чапляў і Паляндры. Кошыкі і збанкі загадзя пазычылі ў жыхароў Пячорнага Горада. Ні Алеолла, ні Арцін, ні кот Міамурмарор «шчаслівымі» ягадамі і іх сокам ужо не ласаваліся, таму што, як сказаў кот Міамурмарор, — «ягады — саспелыя, значыць, можна адчуць не пустое шчасце, а поўнае. А істоце, цалкам напоўненай шчасцем, цяжка кудысьці ісці, і, тым больш, пачынаць рызыкоўную для жыцця кампанію».

Сябры працавалі бадзёра і весела. Ослік з радасцю дапамог ім перавезці плады шаўкоўніц і іх сок у Пячорны Горад. Арцін і Алеолла пачаставалі яго смачнымі звычайнымі шаўкоўніцамі, хлебам, перапечкамі. Абдурахмон Улюкбабай вельмі дзякаваў Алеолле, што яна і для яго жыхарак прынесла чароўнага алею. Раней ён трохі пазайздросціў, што яна дала алей, як ён трапна назваў — «алей гумору», — жыхаркам горада Палац Садоў, але выгляду не падаваў. Цяпер ён вельмі ўзрадаваўся, праўда неяк задуменна глядзеў на кат*а* Міамурмарора, усё імкнуўся зразумець, каго нагадвае гэтая вусатая ўсмешка, але ніяк не мог здагадацца.

Калі чатыры ядбвабныя накідкі былі гатовы, сябры выйшлі з Пячорнага Горада.

Алеолла і Арцін спыталі ў кат*а*:

— Паважаны Міамурмарор, ці не жадаеш ты з намі пайсці да Паляндры? Нам вельмі спадабаліся твае парады.

— Дзякуй, я чакаў гэтага запрашэння… — расчулена прамуркаў кот. — Я вельмі рады далучыцца да вашай кампаніі. З такімі стараннымі вучнямі і сумленнымі сябрамі лёгка адпраўляцца нават у цяжкі шлях. Акрамя таго, я ведаю, што побач з цямніцай-скляпеннем для людзей у Паляндры ёсць цямніца і для жывёл. І цяпер у мяне з’явіўся шанц стаць самым праслаўленым катом, які вызваліць з палону сваіх братоў.

— Выдатна!

— Толькі я паеду на кані разам з Алеоллай, — разважліва прамовіў кот Міамурмарор, — яна меншая, чым ты, Арцін, і ў сядле будзе больш месца.

— Я згодна, — адказала Алеолла.

Яны развіталіся з гараджанамі, майстрамі, са старым, у якога бралі амфару, зослікам. Іх па чарзе моцна сціснуў у сваіх абдымках Абдурахмон Улюкбабай — расчуліўся і пусціў слязу...

— Кіруйце сваімі думкамі! — пажадаў ён ім на шлях-дарогу.

— Дзякуй! Дзякуй!

І вось утрох яны спусціліся ў горад Палац Садоў. Сам хан Ісмірай, яго Галоўны Візір і кат Бедалдай, у якога на рэмені за плячамі вісеў футарал з сякерай, вывелі насустрач ім лепшых у ханстве скакуноў. Белага ўзяў Арцін, гнядога — Алеолла, а чорнага — кат Бедалдай.

— Поспехаў, — пажадаў на развітанне Вялікі Хан Ісмірай.

Кот, якога ніхто, акрамя дога Файрана, не пазнаў, ускочыў на каня Алеоллы, сеў у сядло перад ёй, каб бачыць дарогу, адной лапай моцна ўчапіўся каню ў грыву, а другой — памахаў хану, Галоўнаму Візіру і догу.

Файран хацеў «боўкнуць» з усіх сіл, але перадумаў і проста «гаўкнуў», маўляў — «трымайцеся і поспехаў», падняў правую пярэднюю лапу і памахаў ёю.

## XI

## ПУСТАГАЛОВЫЕ ЗЛЫДНІ

Панеслі іх ханскія скакуны хутчэй ветру. І неўзабаве сябры апынуліся перад рэчкай, за якой пачыналіся землі Светлых Азёр — радзімы Алеоллы і Арціна.

Разумны конь, на якім ехала Алеолла, знайшоў брод першым і скіраваў да процілеглага берага. За ім ступіў у ваду конь Арціна. Апошнім, без усялякага на тое жадання, пайшоў конь Бедалдая. На процілеглым беразе шчыльнай сцяной узвышаўся лес — чым бліжэй падыходзілі да яго падарожнікі, тым больш цёмным і жудасным ён ім падаваўся.

Не паспеў конь Арціна выйсці на сухую зямлю, як з лесу павыскоквалі дзікуны, чалавек дваццаць: у руках — дубіны і булавы, праз плячо перакінуты ваўчыныя скуры, на галовах замест шаломаў — ваўчыныя галовы з разяўленымі ікластымі пашчамі.

Не разважаючы, дзікуны кінуліся акружаць падарожнікаў, схапілі пад аброць каня Арціна. Будучы віцязь дастаў з похваў меч, Алеолла выхапіла ў яго з калчана стралу і выставіла на выцягнутай руцэ наперад, а кот Міамурмарор выпусціў на ўсю даўжыню кіпцюры, паказаў іклы і гучна зашыпеў.

Толькі конь Бедалдая, які быў бліжэй усіх да ракі, не патрапіў у акружэнне, кінуўся ў ваду і паплыў уніз па плыні.

Арцін адбіваўся мужна — адкінуў пяцёх дзікуноў, раскроіўшы ў дваіх з іх на галовах ваўчыныя чэрапы. Алеолла адштурхнула траіх, а кот раздрапаў шчокі і бровы двум.

— Сетку, нясіце сетку! — крыкнуў адзін з дзікуноў.

На юнака і дзяўчыну накінулі шырокі трывалы нерат — і толькі тады дзікуны зноў напалі ўсім гуртам.

Арціна, Алеоллу і ката Міамурмарора моцна звязалі пруткімі вяроўкамі і адвялі ў лес на паляну, дзе была выкапана зямлянка — галоўнае логавішча дзікуноў.

Палонных пасадзілі пад смалістую крывую хваіну. Дзікуны свіснулі — і з вузкага лаза зямлянкі, пазяхаючы і пацягваючыся, выйшаў верхавода, а за ім на карачках выпаўзла верхаводзіха. Устала, пацягнулася. Верхавода і верхаводзіха былі таўставатыя, з карычневымі закопчанымі тварамі. Рукі — карабатыя, пазногці — чорныя. Валасы даўно нямытыя і нечасаныя. На абодвух звярыныя скуры, гэтак жа, як і на астатніх дзікунах. Толькі ў адрозненні ад іх, ногі ў верхаводы і верхаводзіхі былі абутыя ў скураныя чобаты, а не лыкавыя лапці.

Верхавода і верхаводзіха ўважліва агледзелі палонных.

— Нядрэнны тавар, — нізкім голасам сказала дзікунка. — Прадамо іх купцам на ладдзях. Дзяўчына пойдзе за прыгажуню-прыслужніцу, а хлопца можна прыкаваць да вясла.

— Прадаваць трэба купцам, якія плывуць з дружынай, а тым прастакам, што плывуць з малой аховай, нічога прадаваць не будзем! Гэтых мы самі зможам захапіць, — расцягнуў рот у адназубай усмешцы верхавода, — і яшчэ выкуп за вызваленне запатрабуем! — ён люта памахаў сукаватай дубінай, якую ўсюды цягаў з сабою.

— Вядома, будзем прадаваць толькі тым купцам, у якіх ёсць дружына, — пагадзілася верхаводзіха. — Такія дружынныя купцы мацнейшыя і багацейшыя. За хлопца не менш дзесяці золтанаў дадуць, а за дзяўчыну — усе дванаццаць.

— А з гэтай жыўнасцю што будзем рабіць?

— Кат*а*, як заморскую жывёлу, паспрабуем за пяць золтанаў збагрыць, а калі не атрымаецца — з яго футра я сабе каўнер зраблю. Бачыш, які кацяра шыкоўны, вогненна-руды, паласаты, белая грудка… Не тое, што наш — чарноцце чарнюшчае…

— Хто вы такія? — злосна спытаў Арцін.

— Нас, — верхавода зірнуў на яго, прыжмурыўшыся ў яхіднай ухмылцы, — называюць злыдні. А калі дакладней, мы — ліхадзеі.

— Гэта што, разбойнікі? — спытала Алеолла.

— Не, дзяўчынка, — агідна хіхікнула верхаводзіха, паказаўшы свае зубы з чорным налётам. — Горш… Нашмат горш. Разбойнікі, увогуле, бываюць высакароднымі. А мы не паважаем высакароднасць.

— Высакароднасць нам абсалютна ні да чаго, — дадаў верхавода.

— А чым жа вам высакароднасць не па душы? — з непрыхаванай прыкрасцю прамовіў Арцін.

— А яна нам, нібы костка ў горле! Хі-хі-хі, — прастуджаным голасам засмяялася верхаводзіха. Яна прадчувала добрую выручку.

Пакуль верхаводзіха душылася смехам, Алеолла непрыкметна паслабіла путы на адной руцэ, злаўчылася і адкрыла схаваны ў мяшочку на поясе збанок з алеем, зробленага з пладоў шчаслівай шаўкоўніцы.

Водар дайшоў да верхаводзіхі.

— Ой, як прыемна пахне, хі-хі-хі, — больш тонкім голасам засмяялася верхаводзіха.

Верхавода таксама пачаў не то смяяцца, не то заікацца смехам.

— Вам гэты водар падабаецца? — шчыра пацікавілася Алеолла.

— Вельмі, хі-хі-хі, — верхаводзіха была не ў сілах стрымацца.

— Нешта вельмі ў носе ласкоча, — плачу ад смеху, — прызнаўся верхавода.

— А што гэта, хі-хі-ха, у цябе? — верхаводзіха тыцнула пальцам у мяшочак са збаночкам, які Алеолла прыціскала рукой.

— Гэта чароўны алей. Хто гэты алей панюхае, становіцца шчаслівым.

— Ого! Шчаслівым… Давай зробім так, — сказала верхаводзіха, — ты аддасі мне гэты алей, а я цябе за гэта адпушчу.

— Не толькі мяне, — паправіла Алеолла, — а ўсіх нас: мяне, віцязя Арціна і кат*а* Міамурмарора.

— Добра, — трохі зычлівей усміхнулася верхаводзіха.

— Ты што! — прахрыпеў верхавода. — Алей увесь вынюхаем, а грошай не атрымаем!

— Не слухай яго, дзяўчынка, — ласкава прамовіла верхаводзіха. — Я вас адпушчу.

Яна падышла да Алеоллы.

— Патрывай, мая маленькая, мая добранькая дзяўчынка, — дзікунка вызваліла яе рукі ад вяровак.

— Ой, як балюча, — прызналася Алеолла.

Яна аддала чароўны алей верхаводзісе. Тая хуценька закаркавала збаночак коркам, які быў вяровачкай прывязаны да збанка.

Верхавода акуратна ўзяў вызваленыя рукі Алеоллы, паглядзеў на чырвоныя паскі, пакінутыя вяроўкамі.

— Бедная, бедная мая…

І нечакана зноў накінуў на іх вяроўку і туга зацягнуў.

— Што гэта! Мы ж з вамі дамовіліся! — ускрыкнула Алеолла. — Вы абяцалі нас адпусціць!

— А навошта нам цяпер вас адпускаць, калі алей і так ужо ў нас? — скрывіла рот верхаводзіха.

— Мы ж ліхадзеі, а значыць, людзі несумленныя. Мы сваё слова ніколі не трымаем, — гэтым разам крыва ўсміхнуўся верхавода.

— А чаго тут радавацца — таго, хто не трымае сваё слова, ніхто не паважае, — сказаў ім кот Міамурмарор.

— Ого, кот умее размаўляць! — усклікнуў верхавода.

— Значыць, прадаць яго можна даражэй, — узрадавалася верхаводзіха. — Можа, як цуд заморскі — за сотню золтанаў!

Раптам з лесу раздаўся голас аднаго з ліхадзееў:

— Гэй, верхавода, на рацэ ладдзя! Нейкі купец плыве!

— А аховы ў яго шмат?

— Не, чалавек дзесяць!

— Дык бярыце чаўны ды вадаступы, і нападайце!

— Э-е-ёй! — зароў ліхадзей. — Нападаем!

— Вы нягоднікі, — гнеўна сказаў Арцін, — калі я вызвалюся, вам не здабраваць!

— Наўрад ці ты калі-небудзь вызвалішся, хлопча, — абыякава адказаў яму верхавода.

— Гэй, верхавода! — з лесу зноў гукнуў той жа ліхадзей. — Купец уцёк, мы яго не змаглі дагнаць! Але на рацэ з’явіліся яшчэ дзве ладдзі: адна з таварамі, а другая — з купцом і яго дружынай. Нападаць?

— Не, няздара! Крычыце купцу, што ў нас тавар маецца! Хай падплываюць для перамоў! — крыкнуў у адказ верхавода, а чацвёрцы вартавых, якія стаялі побач з палоннымі і трымалі булавы на плячах, загадаў:

— Вядзіце гэтых да берага!

Звязаных Арціна, Алеоллу і ката Міамурмарора — павялі да ракі.

У пясчанай водмелі гайдалася на хвалях ладдзя. На ёй спусцілі чырвоны ветразь з эмблемай жоўтага сонца. За бортам стаяла пяцьдзясят вояроў у кальчугах, са шчытамі і мячамі ў руках.

— Дабрыдзень, слаўнаму купцу, — пакланілася яму верхаводзіха. — У нас для вас ёсць выдатны тавар. Ці не жадаеце паглядзець?

Ліхадзеі падштурхнулі сваіх палонных бліжэй да вады.

— Дзяўчына прыгожая, чыстая — за дванаццаць золтанаў. Хлопец — віцязь — моцны... яго — за дзесяць. І кот — заморскі цуд — умее размаўляць. Сто золтанаў!

— Кот умее размаўляць? — здзівіўся купец.

— Так.

— А які ў яго характар?

— Мой характар — гэта мой характар, — буркнуў кот. — І ён вас не датычыцца.

— Ого! — развёў рукамі купец. — Насамрэч цуд заморскі!

— Ну, як, дзесяць плюс дванаццаць і плюс сто за кат*а*... колькі разам будзе? — задумаўся верхавода.

— Сто дваццаць, — сказаў купец.

— Не, — прахрыпеў верхавода, — сто дваццаць восем.

— Я згодзен — за ўсіх даць… сто дваццаць адзін золтан.

— Мала, — крыкнула верхаводзіха. — Сто дваццаць сем.

— Сто дваццаць два, — адгукнуўся купец

— Сто дваццаць шэсць

— Сто дваццаць пяць.

— Дамовіліся, — пагадзілася верхаводзіха.

— Вядзіце іх да ладдзі, — купец адлічыў грошы, паклаў іх у мяшочак і кінуў ліхадзеям.

— Стойце! Адпусціце іх!

На бераг на вараным кані выехаў кат Бедалдай у сваёй катаўскай вопратцы — у чырвонай туніцы, у чырвоным каптуры, які закрываў увесь твар, і толькі вузкія шчэлкі для вачэй цямнелі на ім. У руцэ Бедалдай трымаў сваю жахлівую двухвострую сякеру. Ліхадзеі, якія выскачылі было яму насустрач, убачыўшы Бедалдая і яго сякеру, задрыжалі. Ад аднаго толькі выгляду к*а*та, які размахваў жудаснай зброяй, ва ўсіх злыдняў адразу звяло шыі. Усе ліхадзеі сцяліся, згорбіліся, адступілі і кінуліся ўрассыпную — хто ў лес, хто ў раку.

Бедалдай саскочыў з каня і з сякерай наперавес пайшоў на тых, хто падштурхоўваў палонных да ладдзі.

— Гэй, ты хто такі?! Я купец Галідон! — прароў з ладдзі купец. — А гэта мае рабы, мая ўласнасць! Я купіў іх і вязу прадаваць!

— Ніякія яны табе не рабы, яны са мной падарожнічаюць! А я Бедалдай — кат хана Ісмірая!

— Хто? Кат? — купец Галідон разгубіўся, а затым махнуў рукой.

Дружыннікі выскачылі з ладдзі і з аголенымі мячамі пайшлі на Бедалдая. Той імкліва прабіўся скрозь уцякаючых ліхадзееў да палонных і разрэзаў іх путы. Алеолла тут жа схапіла за рукі верхаводзіху, кот Міамурмарор ўчапіўся кіпцюрамі ў карак верхаводзе, а Арцін вырваў у яго з рук дубіну і рынуўся на дапамогу Бедалдаю.

Арцін і Бедалдай, адчайна б'ючыся, загналі ўсю дружыну купца ў раку. Незвычайная сякера к*а*та на адлегласці, нават не датыкаючыся з ворагам, магла наносіць удары, адкідваць назад, варта было толькі Бедалдаю на таго замахнуцца.

Сам купец Галідон падняў ветразь на ладдзі і паплыў далей ад месца бітвы.

— Як вы можаце людзьмі гандляваць?! — крыкнуў яму ўслед Арцін.

— І вучонымі кат*а*мі! — дадаў кот Міамурмарор.

— Запомні, Галідоне, — гучна прамовіў Бедалдай, — не спрабуй нават нос паказваць ва ўладанні хана Ісмірая! Ён цябе адразу ж пасадзіць у вязніцу!

Купец Галідон імкнуўся як мага хутчэй адплысці, а яго мокрыя дружыннікі па пояс у вадзе цяжка цягнуліся за ім па пясчанай мелі.

Потым Бедалдай заняўся верхаводам і верхаводзіхай — моцна звязаў іх. Яны на ўвесь лес крычалі:

— Ліхадзеі! Ліхадзейчыкі, на дапамогу! Вас шмат, а іх усяго чацвёра!

Але ніхто нават не спрабаваў ім дапамагчы. Ліхадзеі былі так напалоханы зброяй ханскага к*а*та, што без аглядкі ўцяклі.

— Ніхто не будзе рызыкаваць сваім жыццём, каб вызваліць злыдняў, — сказаў кот Міамурмарор, — людзей, якія не трымаюць слова, ніхто не паважае.

— Адпусцеце нас, — узмалілася верхаводзіха, — мы вам чым хочаце паклянёмся, што не будзем больш нікога рабаваць, прадаваць...

— Яшчэ разок вам нагадваю, — сказала Алеолла, — вы самі пахваляліся, што ніколі не трымаеце сваё слова. Як жа вам можна верыць? — яна забрала ў верхаводзіхі свой збанок з чароўным алеем. — Мы аддадзім вас мясцоваму князю, ён і вырашыць, што з вамі рабіць.

— Не трэба, калі ласка! Князь пакляўся нас на ўсё жыццё пасадзіць у падзямелле свайго замка.

## XII

## ЖЫЦЦЁВАЯ ПАЗІЦЫЯ СТРЫЕЧНАГА БРАТА

Вечар заліў неба шэрым колерам. Сябры вывелі палонных ліхадзеяў на паляну побач з зямлянкай. Арцін і Бедалдай расклалі вогнішча, каб прыгатаваць ежу і пагрэцца.

— Ой, што гэта? — усклікнула Алеолла.

Яна паказала на цёмны лес. Там, паміж дрэвамі, свяціліся два круглыя жоўценькія агеньчыкі.

— Здарова, здарова! — павітаў жоўценькія агеньчыкі кот Міамурмарор.

— Здарова, здарова ўсім! — на паляну выйшаў вялікі чорны кот. Ён быў нават большы, чым кот Міамурмарор.

— Варгін! — пазналі яго Алеолла і Арцін.

— Так, я кот Варгін, разумны і мудракемны.

Кот Міамурмарор выгнуў спіну, узняў хвост трубой, выйшаў насустрач Варгіну і з дакорам прамовіў:

— І як не сорамна жыць у злыдняў!

— Я ў іх не жыву, а толькі прыходжу да іх… — буркатлівым голасам адказаў кот Варгін. — Гэта вельмі… Гэта вельмі нават вельмі-вельмі….

— Што вельмі-вельмі? — спытаў кот Міамурмарор.

— Вельмі добра, што я цябе сустрэў, мой стрыечны братка. Ім засталося ўсяго толькі дзве ночы для поўнай прачысткі галавы, але мы з табой управімся за адну.

— Ты пра што, Варгін, кажаш?

— Хутка дазнаешся. Трэба толькі, каб людзі спаць леглі. Давай памуркочам.

Каты гаварылі на кацінай мове, і з боку выглядала, што яны мяўкаюць на розныя лады.

— Вось разышліся, — пазяхнуў Бедалдай.

А калі каты пачалі паціху муркатаць, людзі леглі на скуры поруч з вогнішчам і паснулі. Праз сон ім здавалася, што яны чуюць нейкую прыгаворку. Нешта накшталт:

Муляр мыў мур мармуровы,
Мармур муру быў пурпуровы.
Муляр мыў мур мармуровы,
Мармур муру быў пурпуровы.

— А цяпер, — сказаў кот Варгін, — давай падпаўзём да верхаводы і верхавадзіхі. Толькі для іх трэба не муркатаць, а буркатаць. Запамінай:

Збрыдзі бяда
Бруд і брыда.
Збрыдзі бяда
Бруд і брыда.

— Запомніў? Ты будзеш буркатаць на вуха верхаводзісе, а я — верхаводу. Давай.

Каты разам пачалі хутка-хутка паўтараць гэтыя словы, і тут жа з вушэй і наздрын верхаводзіхі і верхаводы пачалі высоўвацца пыскі з мігатлівымі вачамі жаб, вужак, мышэй. Паказалі свае вусы прусакі. А каты ўсё буркаталі і буркаталі. І вось адна жаба не вытрымала і выскачыла з вуха верхаводзіхі, за ёй — другая, з наздрыны верхаводы выпаўз вужака. І тут пачалося — з вушэй, рота і ноздраў верхаводы і верхаводзіхі палезлі прусакі, жукі, п'яўкі, ракі хвастом наперад. Варгін спрытна махнуў лапай і падчапіў за хвост мышку, якая толькі што вылезла з вуха верхаводы. Кот Міамурмарор зажмурыў вочы.

— Ты гэта чаго? — спытаў Варгін у свайго стрыечнага брата.

— Я думаў, ты яе з'ясі.

— Што ж табе там пра мяне напляткарылі… Гэй ты, — звярнуўся ён да мышы, — ты не будзеш болей жыць у галовах гэтых людзей?

— Не, не буду, — віскнула мыша, боўтаючыся на сваім хвосціку.

— Ну вось і добра, — сказаў кот Варгін і апусціў яе на зямлю. — Бяжы ў лес — там табе месца хопіць.

— Ах, якое раздолле! — усклікнула мышка.

— Вядома, раздолле. А ў галаве злыдня жыць — тое ж самае, што ў вязніцы!

— Я ж не ведала, што на зямлі так добра! Мы, мышы, заводзімся там, дзе пуста. Але дарма ты нас патурбаваў, Варгіне, гэтыя злыдні нідзе ніколі не вучыліся, у галаве ў іх поўная пустэча. Так што там зноў завядуцца мышы, а таксама жабы, жукі, мухі, прусакі. Фу!

— Як толькі ў іх у галаве з'явяцца добрыя думкі — ніхто не завядзецца, — запэўніў мышку кот Варгін. — Ім яснапанна Алеолла дапаможа.

— Ой, як тут добра! — не магла нарадавацца мышка, і сама рабілася ад гэтага дабрэйшай, нават поўсць яе з брудна-шэрай ператварылася ў белую. — Я табе, Варгін, за тое, што ты мяне вызваліў, чаго-небудзь ядомага прынясу.

— Дзякуй, вужака ўжо каўбасы абяцаў прыцягнуць.

І сапраўды, вызваленыя з галоваў злыдняў істоты праз некаторы час вярталіся і прыносілі пачастункі — хто смятанку, хто малачко, хтосьці вяндліну, хтосьці сыр — ад гэтага кот Міамурмарор вельмі ўзрадаваўся. Каты-браты арганізавалі вялікую бяседу з гутаркай да самай раніцы. І наеліся ад пуза.

— Так… Цяпер я разумею, чаму ты такі тоўсты, — сказаў Міамурмарор свайму брату, — а то ж пляткараць, што тых мышэй, мух, прусакоў, гадасць усялякую ты з галоваў злыдняў адмыслова выманьваеш і ясі.

— Шмат па зямлі чутак ходзіць. Пакуль сам не ўбачыш — не рабі высноў.

Перад тым, як класціся спаць, яны яшчэ раз прабуркацелі на вуха злыдням.

Збрыдзі бяда
Бруд і брыда.
Збрыдзі бяда
Бруд і брыда.

З рота верхаводзіхі выпаўз слімак, а верхаводы — станожка.

— Ну што, нікога там не засталося? — сурова спытаў кот Варгін.

— Не, больш нікога — чыстыя галовы, — тонкім галаском прамовіла станожка і, перастаўляючы сто сваіх ножак, папаўзла прочкі.

А слімак пачаў поўзаць вакол вуха верхаводзіхі, не разумеючы, дзе ён. Варгін акуратна узяў беднага слімака лапай і перасадзіў на яблык.

Слімак ажно засвяціўся ад шчасця.

— Ну, выдатна, цяпер, братка, і паспаць можна, — пазяхнуў кот Варгін.

— Пра-а-авільна, — таксама позехам пагадзіўся кот Міамурмарор і расцягнуўся пад кустом.

Варгін паклаў сваю вялікую галаву на пярэднія лапкі, яшчэ раз пазяхнуў, зажмурыўся і задрамаў.

Толькі наступным познім днём катоў абудзіла Алеолла.

— Колькі можна спаць? Ужо час абеду, а вы ўсё спіце і спіце. Будзеце есці? Я смачны суп зварыла.

— Не, дзякуем, — адказалі каты,— мы і так сытыя.

— Сытыя? Вы што, у сне абедаеце? — здзівілася Алеолла.

Тады кот Міамурмарор распавёў, чым яны ўначы з Варгінам займаліся.

— Праўда, праўда, — пацвердзіў кот Варгін. — Цяпер верхавода са сваёй верхаводзіхай зусім не злыдні і не ліхадзеі, а нармальныя людзі. Толькі трэба, каб у іх чыстых галовах добрыя думкі завяліся. Адкрый, Алеолла, збаночак з чароўным алеем. Мінулы раз ад гэтага паху ў іх узнікала злараднасць, таму што іх галовы былі не тым, чым трэба, забіты. Цяпер усё будзе інакш.

Алеолла адкрыла збанок з чароўным алеем, дала панюхаць верхаводу і верхаводзісе. Яны шчыра ўсміхнуліся і задумаліся.

— Як я люблю нашую рэчку, — раптам прамовіў верхавода.

— А я як люблю нашую рэчку, — прамовіла верхаводзіха.

— Давай пераправу тут наладзім, паставім паром, — пачаў разважаць услых верхавода. — Тут жа самае зручнае месца. Людзям будзем дапамагаць.

— І яшчэ пабудуем дыхтоўную хату. Падарожнікі за пераправу будуць нам плаціць. З гэтага і жыць будзем.

— Правільна, мая любая, правільна, — ласкава сказаў верхавода і цмокнуў сваю верхаводзіху ў шчаку.

Алеолла, Арцін і Бедалдай вельмі здзівіліся такім пераменам у злыднях. А кот Міамурмарор — не вельмі, бо ён ведаў, што яго стрыечны брат, кот Варгін, вельмі разумны, і ўжо калі ён нешта сказаў — так яно і будзе.

Арцін і Бедалдай развязалі былых злыдняў, а Алеолла пачаставала іх супам.

— Дзякуй за вашую дабрыню, — сказалі былыя злыдні-ліхадзеі. — А мы вам за гэта падаруем неабходныя ў дарозе рэчы.

Былы верхавода ліхадзеяў спусціўся ў зямлянку і прынёс чатыры пары дзіўнага абутку — нейкія шырокія лапці, абвязаныя рыбінымі пухірамі.

— Гэта вадаступы. Калі апрануць іх, то можна спакойна па вадзе хадзіць, — растлумачыў былы верхавода ліхадзеяў.

— Нага правальваецца ў ваду самае большае — па шчыкалатку, — сказала былая верхаводзіха ліхадзеяў, — бярыце, яны вам спатрэбяцца.

— Дзякуй, удружылі вы нам, удружылі, — Арцін узяў вадаступы. — Гэта менавіта тое, што нам трэба, каб перайсці Чорнае Балота.

— Да пабачэння! — разам сказалі былыя злыдні-ліхадзеі.

Яны яшчэ раз падзякавалі ўсім і адправіліся да ракі наладжваць сваё новае жыццё.

— І мне пара, — пацягнуўся кот Варгін, — прыемна было з вамі пабачыцца.

— Хіба ты не пойдзеш з намі да Паляндры? — спытаў кот Міамурмарор.

— Занадта шмат гонару гэтай Паляндрусе, каб столькі смельчакоў і разумнікаў адначасова да яе хадзілі. Вы і без мяне ўправіцеся. Мне яшчэ вунь колькім злыдням трэба мазгі прачысціць.

— Шаноўны Варгіньчык, — сказала Алеолла, — а ты выпадкова не ведаеш, дзе нам мастака Дроздзіча знайсці?

Кот Варгін на хвілінку задумаўся.

— Я чуў ад варон, што тры дні таму яго бачылі на шляху каля Новага Мястэчка. Ён ішоў на поўдзень, у напрамку да Чорнага Балота.

— Выдатна! — усклікнуў Арцін. — Значыць, ён ужо назбіраў людскіх усмутканў. Мы яго нагонім!

— Дзякуй табе, кот Варгін, — сказала Алеолла.

— Поспехаў вам, — адказаў ён.

Кот Варгін памахаў ім і, як чалавек, на задніх лапах, пайшоў углыб лесу. Спыніўся, пачасаў сабе правую лапатку, успомніў, што ўсё-такі зручней для яго ісці па-кашэчы, апусціўся на чатыры лапы і схаваўся ў цені дрэў.

Бедалдай свіснуў, і на паляну прыскакалі ханскія скакуны. Усе — Алеолла, Арцін, Міамурмарор і Бедалдай — селі на коней і адправіліся да Новага Мястэчка.

***Працяг будзе.***



Валяціна ЛОКУН

# АТЛАНТЫДА АНАТОЛЯ КРЭЙДЗІЧА

***Крэйдзіч, А. М. Роднае, шчымлівае: кніга прозы / Анатоль Крэйдзіч. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2012. — 208 с. — (Лімаўскі фальварак).***

Яго імя вядома не толькі на Берасцейшчыне, дзе ён жыве і працуе, але і за яе межамі. Ён аўтар зборнікаў прозы «Палескі Напалеон», «Параненыя мары», «Права на ўсмешку», дакументальнай кнігі «Анатоль Клімец. Жыццё і лёс». І вось новая «ластаўка» — кніга прозы «Роднае, шчымлівае», якая выйшла ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» і змяшчае дакументальна-мастацкую аповесць «Богаў сон», серыю нарысаў, публіцыстычна абвостраныя і па-філасофску заглыбленыя нататкі, розныя па форме мініяцюры. Уся гэтая апавядальная прастора строга падпарадкавана дамінантнай ідэі адраджэння «*нацыянальнай самасці*» (І. Шаўлякова), самаідэнтыфікацыі асобы беларуса ў новых гістарычных умовах жыцця, у сучасным нацыянальным соцыуме. Як і раней, тэксты пісьменніка — гэта сінтэз дакладнай рэалістычнасці, дакументалізму і пранізлівага лірызму, эмацыянальнай шчырасці, якая часам мяжуе з пачуццёвай агаленасцю.

У цэнтры аповесці «Богаў сон» — працэс станаўлення асобы мастака Янкі Рамановіча. Герой, сведчыць аўтар, пазнаваў свет «*навобмацак, торкаючыся туд-сюд, нібы сляпое кацяня, паўсюль патарчакі, якія раняць, раняць, раняць…*» Але ён не адступаў, бо «*хіба без ран гэтак востра пазнаеш жыццё? Вунь колькі іх на целе, рубцоў — знакаў таго, што свет пазнаваўся напоўніцу, наўпрост, без зважанняў на боль*». Боль гэты стаў звыклым, і ён зусім не стрымліваў хлопчыка, які «*валіўся з печы, з дрэваў, захлынаўся ў рэчцы, ачомваўся, зноў за нешта чапляўся, зноў абыходзіўся без лекаў і бальніц… Сінякі сыходзілі, раны зажывалі-зарубцоўваліся, боль забываўся*». Бо «*ўсё гэта незваротна патанала ў велічнай празе пазнання свету*».

Гадаваўся Янка «самапасам» — у свабодзе, без нагляду, без прымусу. Літар да школы не ведаў, чытаць не ўмеў. І толькі пасля, у школе ўжо, як сведчыць аўтар, узнікла ў Янкі жаданне вучыцца, перагнаць усіх ва ўменні чытаць і пісаць. Тады ж прыйшло і «*неўсвядомленае яшчэ, але моцнае жаданне: хоць у чым быць першым, браць рэкорды*».

Пісьменнік наўздзіў тонка перадае трывогу і спадзяванні хлопчыка, яго жаданне вырвацца з вёскі і боязь будучыні. Яго згубленасць на мінскім вакзале, а пасля і бег за аўтобусам — вельмі трапны мастацкі вобраз-сімвал, гэта мастацкая знаходка А. Крэйдзіча. «*Дзіўнае гэта адчуванне: бяжыш, бяжыш, што ёсць сілы, даганяеш будучыню, але не маеш сілы дагнаць, адно аддаляешся ад мінулага; твая ўласная будучыня аддаляецца. І вось ты ні там, ні тут. Пасярэдзіне. Па-за часам і па-за прастораю*». Гэтым сімвалам аўтар падзяляе, ставіць мяжу паміж тым жыццём героя, якое было, і тым, якое будзе.

Герой адрываўся ад родных каранёў, сваёй малой радзімы, каб пасля, праз гады, зноў туды вярнуцца і «*даганяць тое, што вёска страчвае*».

Пераплятаюцца розныя апавядальныя пласты, рэальнае і ірэальнае, будучыня і мінулае. *«Але гэта была ява. Няхай сабе і падобная да сну. І было яго ўласнае мінулае, якое не адпускала, моцна трымала, колькі б ні аддаляўся, і будучыня, якая таксама*

**Пісьменнік змешвае розныя ча́савыя пласты, ён зноў і зноў вяртаецца — нават паўтараючыся — то ў маленства, то ў юнацтва — у часы, калі «фарбы пачуццяў зліваліся з фарбамі жыцця**

*не адпускала, была, вабіла, гіпнатызавала невядомасцю і прадчуваннем... Прадчуваннем незвычайнага*».

Мастацкае слова, што дамінавала на пачатку твора, паступова зменіцца словам дакументальным, аб’ектываваным аўтарскім аповедам пра далейшы жыццёвы і творчы шлях мастака. Пісьменнік змешвае розныя ча́савыя пласты, ён зноў і зноў вяртаецца — нават паўтараючыся — то ў маленства, то ў юнацтва — у часы, калі «*фарбы пачуццяў зліваліся з фарбамі жыцця, кахання, фарбамі на чарговым палатне*», калі прага жыцця, прага кахання злівалася з прагай творчасці. І мастак, забыўшыся пра сон і адпачынак, тварыў, тварыў, тварыў… Родны кут, сталіца, каханне, творчасць — усё гарманічна злучалася ў *«нешта адно цэлае-адзінае, імя якому — Айчына»*. Але гэта — Айчына, мастацтва, каханне — і яго, Янкі Рамановіча, разуменне вечнасці. Ён яе «схапіў», яму гэта ўдалося, усё атрымалася.

А. Крэйдзіч пастаянна падкрэслівае, што Рамановіч — мастак глыбока нацыянальны. І гэта найбольш імпануе пісьменніку, бо ён, як і яго герой, таксама занепакоены захаваннем нацыянальнай сутнасці, але ўжо літаратуры: «*Калі ты сапраўдны мастак, то як жа ты можаш быць не нацыянальным. Яна ж, гэтая прыналежнасць да сваёй зямлі, свайго народа, свайго радзіннага кутка так ці іначай выяўляецца ў творах — палотнах*», — пераконвае аўтар. Адсюль, з гэтага «вытоку» — замест Івана — і з’явілася імя **Янка**, якое неўпрыкмет злілося з мастаком, *«нібы насіў яго ўсё жыццё, зрэшты, чаму ж не насіў. Насіў. У сабе. Як той жа талент, як сваю геніяльнасць і сваю некрыклівую, някідкую ды натуральную і нязмушаную любоў да Айчыны, да ўсяго нацыянальнага, роднага... Яно выспявала, што тое зерне ў раллі, ва ўрадлівым сэрцы прарасло і выспела. І цяпер арганічна і натуральна асацыіруецца з нацыянальным жывапісам»*.

Пісьменнік параўноўвае Рамановіча з Напалеонам Ордам. Апошні — праз французскую школу графікі ў сваіх карцінах увасобіў сядзібна-палацавую архітэктуру беларускага краю. Ён нібыта прадчуваў, што ўсё гэтае адмысловае хараство можа знікнуць, і імкнуўся ў сваіх палотнах захаваць яго для нашчадкаў. Дарэчы, у гэтым Крэйдзіч бачыць праявы нацыянальнага духу творчасці Орды.

Па-мастацку завершанымі атрымаліся і нарысы пісьменніка, якія ўвайшлі ў кнігу «Роднае, шчымлівае». Прытрымліваючыся рэальнай — берасцейскай — геаграфіі, рэальнага факта, рэпрэзентуючы рэальнага героя, аўтар уздымаецца і да пэўных абагульненняў — адлюстроўвае героя нашага часу, часцей вёскі, быццё сучаснай беларускай вёскі. Ён і тут шукае глыбіннае, сакральнае, тыя духоўныя апоры, без якіх немагчымы гістарычны рух наперад, без чаго чалавек перастае быць чалавекам, а народ — **беларускім** народам.

Нарысы досыць разнастайныя па сваёй жанравай арганізацыі. У іх цэнтры можа быць асоба чалавека, гісторыя вёскі, гісторыя роду, сям’і.

Пісьменнік жывапісуе вёску Заверша — сваю малую радзіму («Пад небам Завершскім»). Там — «*пачатак свету*», там — мясцовы механізатар Міша Супрун выводзіць сваю сялянскую «*форму шчасця*».

*«Зямля,* — пераканаНы пісьменнік разам са сваім героем Уладзімірам Сухарэвічам, — *не толькі тое, што дае чалавеку хлеб для наталення так званага фізічнага голаду. Каб узрасціць хлеб, дастаткова некалькі месяцаў, а традыцыі, культура ўзрошч-*

**Гадаваўся Янка «самапасам» — у свабодзе, без нагляду, без прымусу. Літар да школы не ведаў, чытаць не ўмеў**

**Аўтар вылучае ідэю двух духоўных сусветаў — Царквы і славянскага мастацтва, якія паяднала ў сабе Біблія, а родапачынальнікамі славянскага пісьменства былі вялікія святары Кірыла і Мяфодзій**

*ваюцца стагоддзямі. Яны — штодзённае харчаванне для духу. Таго самага, на якім сэнс жыцця трымаецца. Значыць, таксама хлеб. “Хлеб наш надзённы”, як гаворыцца ў малітве».* («Надзённы хлеб старшыні Сухарэвіча».)

Такой жа ўлюбёнай у сялянскую працу з’яўляецца і гераіня нарыса «Ірыніна поле» Ірына Гецька, у якой *«цяжкая сялянская праца… неяк натуральна, нібы дзявочая каса з вянком, пераплятаецца з рамантыкай»*. Месцамі голас аўтара і гераіні зліваюцца настолькі, што іх ужо нельга распазнаць і раз’яднаць: *«Выйдзеш з хаты, гэткая раскоша навокал. Адразу ж за хатаю — поле. Ідзеш па сцяжынцы — жыта паабапал калышацца. Хлебны пах. Жаўранак над галавой звініць. Жыць хочацца»*.

Пісьменнік рэпрэзентуе людзей незвычайных, мэтанакіраваных, з багатай жыццёвай біяграфіяй, унутрана цэльных, сацыяльна значных. Герой Савецкага Саюза, былы ваенны лётчык, 93-гадовы Мікалай Далжанскі («Дзедавы рэкорды»), Герой Савецкага Саюза, былы сувязіст Канстанцін Лазаненка («Зоркаю блісне сляза»), удзельнік партызанскага руху на Беларусі падчас Вялікай Айчыннай вайны, ветэран журналістыкі, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, творца, які «*валодае рэдкім дарам распавядаць карцінкамі*», Аляксей Каўко («З ветэранам — ля веснічак»), журналіст з вялікай літары Пётр Суцько («У мудрым поглядзе — дзіцячы давер»). З усімі гэтымі людзьмі, так або інакш, пісьменнік кантактаваў і пры гэтым упітваў у сябе іх вопыт жыцця, іх філасофію, іх мудрасць.

Трэці раздзел — нататкі — лагічна працягвае канцэптуальную ідэю тэкстаў А. Крэйдзіча. Гэта рэфлексіі пісьменніка, якія друкаваліся ў свой час у газеце «Заря» ў рубрыцы «150 пісьменніцкіх радкоў». Пісьменнік разважае пра сучаснае быццё, пра нас усіх і пра нашых продкаў — іх шляхетнасць і лапцюжнасць адначасова, пра самаідэнтыфікацыю беларуса ў сучасным мікра- і макрасвеце, пра шматпакутную беларускую мову і беларускую літаратуру ва ўмовах глабалізацыі. *«Ці засмокча яна* (глабалізацыя. — **В. Л.**) *у свой вір і нашую вёску і літаратуру — апошняе апірышча ўсяго нацыянальнага?* — занепакоена ставіць пытанне Крэйдзіч. — *Не дай божа, прачытаем у наступным вясковым рамане пра Пакемона з Дэнверам, а не пра Пытэля з Доляй»*.

Аўтар вылучае ідэю двух духоўных сусветаў — Царквы і славянскага мастацтва, якія паяднала ў сабе Біблія, а родапачынальнікамі славянскага пісьменства былі вялікія святары Кірыла і Мяфодзій. Пісьменнік перакананы, што менавіта высокі нацыянальны дух і хрысціянская вера павінны стаць асновай беларускага нацыянальнага дома. Але шлях да Бога ідзе праз шлях да чалавека, а таксама праз шлях да бацькоў, а яшчэ — праз памяць пра продкаў — *«пра тое і ў кнізе кніг Бібліі пішацца, і ўся класічная літаратура — таксама пра тое. Хто не любіць чытаць — дык і пропаведзі пра тое ж. Трэба толькі здолець пачуць. А гэтая здольнасць звонку не прыходзіць, яна альбо ёсць унутры чалавека, альбо яе няма. Можа добра пашукаць?»* — заклікае пісьменнік.

Мастацка-дакументальныя дыскурсы А. Крэйдзіча — гэта найперш усхвалявання слова пісьменніка пра захаванне нашай спрадвечнай, закладзенай самім Творцам, духоўнай сутнасці, нацыянальнай адметнасці, «самасці», захаванне вытоку, які дае ўсяму беларускаму народу духоўную моц і скіраванасць у будучыню.

*Мікалай КРЫЎКО*

# НАДЗЁННА І АКТУАЛЬНА

## *Да выхаду ў свет аднаго лексікаграфічнага даведніка*

***Шчасная, К. Д. Слоўнік новай і актуальнай лексікі / К. Д. Шчасная. Мінск : Права і эканоміка, 2012. — 102 с.***

Інтэнсіўныя сацыяльныя змены, што адбыліся ў Беларусі ў канцы XX — пачатку XXI стагоддзя непасрэдна закранулі сферу моўнага жыцця, выклікалі зрухі ў сістэме нацыянальнай мовы. Беларуская мова папоўнілася значным пластом лексікі за кошт неалагізмаў, якія абазначаюць новыя паняцці, што сталі рэаліямі для нашай дзяржавы, а таксама моўных адзінак, якія актуалізаваліся ў сувязі з тымі або іншымі падзеямі ці набылі новы сэнс у сучасным выкарыстанні. Гэтыя актыўныя працэсы ў лексічным складзе і словазмяненні беларускай літаратурнай мовы патрабуюць нарматыўнай фіксацыі ў лексікаграфічных крыніцах.

На гэтыя запатрабаванні з'явіўся на свет «Слоўнік новай і актуальнай лексікі» К. Д. Шчаснай.

Дадзены слоўнік змяшчае толькі назоўнікі і ставіць на мэце адлюстраванне змен у лексіцы і граматыцы сучаснай беларускай мовы. Лексікаграфічны даведнік уключае словы, якія толькі ўвайшлі ва ўжытак і яшчэ не зафіксаваны ў слоўніках, а таксама падае тыя лексічныя адзінкі, што ўжо фіксаваліся ў даведніках, аднак у дадзены час набылі значную актуальнасць, распаўсюджанне, а таксама новыя значэнні.

«Слоўнік новай і актуальнай лексікі» дае адносна поўнае ўяўленне пра працэсы развіцця і крыніцы папаўнення сучаснага лексічнага складу беларускай мовы сённяшніх дзён. Вельмі важна, што запазычаныя словы ў новым слоўніку пададзены з указаннем на мову-крыніцу і прыводзіцца значэнне слова. Ухвальным з'яўляецца і тое, што ў квадратных дужках пасля загалоўнага слова падаецца напісанне слова, якое запазычваецца беларускай мовай, у арыгінале і прыводзіцца яго значэнне ў мове-арыгінале. Напрыклад:

**біг-бэ́нд** *м.* [*англ.* big-band < вялікі + band — аркестр, музычная група]. Вялікі джазавы аркестр са шматлікімі духавымі інструментамі.

**ба́цік** *м.* [*інданез.* batik — нацыянальная тканіна ў народаў Інданезіі]. Тэхніка роспісу па тканіне.

**шорт-трэ́к** *м.* [*англ.* short track — *літар.* кароткая дарожка]. Від канькабежнага спорту — хуткасны бег на каньках па кароткай дарожцы (даўжынёй 60 м).

Абсалютная большасць новых слоў, пададзеных у слоўніку К. Д. Шчаснай, гэта моўныя адзінкі, запазычаныя з замежных моў: **ба́гі** *нескл.*, **баг** *м.*, **ба́ер** *м.*, **ба́нер** *м.*, **бі-бо́й** *м.*, **бітбо́ксінг** *м.*, **бла́стар** *м.*, **блог** *м.*, **бойз-бэ́нд** *м.*, **бо́ўлдэрынг** *м.*, **геакэ́шынг** *м.*, **гру́мінг** *м.*, **грын-ру́м** і **грын рум** *м. нескл.*, **гэг** *м.*, **даўнта́ўн** *м.*, **джайв** *м.*, **дрыфт** *м.*, **ды́ска** *н. нескл.*, **дэ́ма** *н. нескл.*, **ё-ёінг** *м.*, **зо́рбінг** *м.*, **капіра́йтынг** *м.*, **ка́рвінг** *м.*, **кла́бер** *м.*, **крэаты́ў** *м.*, **ку́лер** *м.*, **лазертэ́г** *м.*, **лінк** *м.*, **ло́кінг** *м.*, **мадэ́лінг** *м.*, **мейл** *м.*, **мо́дынг** *м.*, **нью-э́йдж** *м.*, **о́ўпэн-эйр** *м.*, **паб** *м.*, **рок-по́п** *м.*, **са́міт** *м.*, **слэм** *м.*, **тві́тар** *м.*, **флуд** *м.*, **футбэ́г** *м.*, **хэтчбэ́к** *м.*, **цю́бінг** *м.*, **чэ́плінг** *м.*, **шэ́йкер** *м.*, **эм-сі** *м.* і *ж. нескл.* — з англійскай мовы; **арыга́на** *н. нескл.*, **дэ́гу** *м.* і *ж. нескл.*, **камедо́н** *м.*, **картызо́л** *м.*, **квадрацы́кл** *м.*, **ко́ртэкс** *м.*, **лаці́на** *н. нескл.* і *ж.*, **ната́тнік** *м.*, **прапафо́л** *м.*, **прэ́міум-клас** *м.*, **туні́ка** *ж.*, **фаво́р** *м.* — з лацінскай мовы; **авата́р** [1-2] *м.*, **акнэ́** *н. нескл.*,

**базілі́к** *м.*, **ге́рпес** *м.*, **гіг** *м.*, **дызбактэрыёз** *м.*, **калаге́н** *м.*, **сіндро́м** *м.*, **ске́псіс** *м.*, **тэкто́нік** *м.*, **фрапэ́** *н. нескл.* — з грэчаскай мовы; **аліёлі** *м.* і *н. нескл.*, **арака́ча** *ж.*, **бача́та** *ж.*, **буры́та** *н. нескл.*, **гаспа́ча** *м. нескл.*, **гуа́ва** і **гуая́ва** *ж.*, **інды́га** [1-2] *н. нескл.* і *м.* і *ж. нескл.*, **ма́мба** *ж.*, **мерэ́нге** *н. нескл.*, **паэ́лья** *ж.*, **сальмарэ́ха** *н. нескл.*, **са́льса** *ж.*, **тамалі́** *ж. нескл.*, **цэві́чэ** і **сэві́чэ** *н. нескл.*, **эмпана́да** *ж.*, **эмпана́дас** і **энсама́йдас** *мн. нескл.*, **ю́ка** *ж.* — з іспанскай мовы; **карпа́ча** *н. нескл.*, **латэ́** *н. нескл.*, **латэ́-макія́та** *н. нескл.*, **марэ́нга** *м. нескл.*, **маскарпо́не** *м. нескл.*, **мацарэ́ла** *ж.*, **руко́ла** *ж.*, **эспрэ́са** *н. нескл.* — з італьянскай мовы; **візажы́ст** *м.*, **глясэ́** *н. нескл.*, **даме́н** *м.*, **дэфіле́** *н. нескл.*, **ё-ё** *ж.* і *н. нескл.*, **ма́ржа** і **маржа́** *ж.*, **пае́ткі** *мн.*, *адз. ж.* **пае́тка**, **парку́р** *м.*, **пармеза́н** *м.*, **сатэ́** *н. нескл.*, **седа́н** *м.*, **фуа-гра́** *ж. нескл.* — з французскай мовы; **капаэ́йра** *ж.*, **ма́нга** *н. нескл.* (у знач. «назва трапічнай расліны»), **піра́ння** *ж.*, **са́мба** *ж.* (у знач. «бразільскі жанр музыкі і танца») — з партугальскай мовы; **візіто́ўка** *ж.*, **вучэ́льня** *ж.*, **выве́днік** *м.*, **гурт** *м.*, **дара́дца** *м.* і *ж.*, **до́свед** *м.*, **зні́жка** *ж.*, **каляжа́нка** *ж.*, **квіто́к** *м.*, **ма́па** *ж.*, **наро́дзіны** *мн.*, **по́зва** *ж.*, **скла́днік** *м.*, **слу́хаўка** *ж.*, **спарто́ўца** *м.*, **суплёт** *м.* — з польскай мовы. Нязначная колькасць слоў пранікла ў беларускую моўную стыхію з рускай мовы. Да такіх лексічных адзінак можна аднесці, паводле слоўніка К. Д. Шчаснай, наступныя: **асабня́к** *м.*, **бо́тан** *м.*, **дзяло́к** *м.*, **кент** *м.*, **мандра́ж** *м.*, **панты́** *мн.*, *адз. м.* **понт**, **раздзяўба́й** *м.* (*рус.* раздолбай), **са́мба** *н. нескл.*, **сцёб** *м.*

Спецыялісты лічаць, што і з чэшскай мовы беларуская ў найноўшы перыяд запазычыла некалькі слоў. Слоўнік К. Д. Шчаснай прыводзіць наступныя чэхізмы: **сцэна́р** *м.*, **хо́днік** *м.*

Як сведчыць гэты слоўнік, з украінскай мовы ў беларускую праніклі словы *ліставáнне*, *мажлі́васць*, *со́чыва*, *чытво́*.

Грузінскія нацыянальныя стравы сталі выкарыстоўвацца і распаўсюджвацца сярод другіх народаў. Некаторыя з іх сталі вядомымі і на тэрыторыі Беларусі, а з імі праніклі ў нашу мову іх назвы. «Слоўнік новай і актуальнай лексікі» на сваіх старонках фіксуе наступныя з іх: **сулугу́ні** *м. нескл.* і **хачапу́ры** *мн.* і *н. нескл.*

У беларускую мову могуць пранікаць таксама словы з моў народаў, якія жывуць у краінах, што знаходзяцца за многія тысячы кіламетраў ад Беларусі. Слоўнік, які тут рэцэнзуецца, сведчыць, што і ў сённяшні час як новыя прыйшлі ў нашу мову словы з кітайскай, японскай, інданезійскай і нават з некаторых моў экзатычных для нас краін. Так, у мову беларускай пісьменнасці сённяшніх дзён праніклі наступныя словы з кітайскай мовы: **вон-то́н** *мн. нескл.*, **лі́чы** *м.* і *н.*, **шы-тцу́** *м.* і *ж. нескл.* Сустракаюцца ў беларускіх моўных крыніцах сённяшняга часу і японскія словы; паводле слоўніка К. Д. Шчаснай гэта наступныя моўныя адзінкі: **амігуру́мі** *н. нескл.*, **го** *ж.* і *н. нескл.*, **каміка́дзэ** *м.* і *ж. нескл.* (цяпер у значэнні «тэрарыст-смяротнік»), **канза́шы** *н.* і *мн. нескл.*, **ма́нга** *ж. нескл.* (у знач. «японская прыгодніцкая гісторыя, намаляваная ў выглядзе комікса»), **но́ры** *мн. нескл.* З інданезійскай мовы трапілі ў беларускія моўныя крыніцы такія словы: **ба́цік** *м.*, **іла́нг-іла́нг** *м.*, **ка́ры** *н.* і *ж. нескл.*, **пачу́лі** *мн. нескл.* Як сведчыць «Слоўнік новай і актуальнай лексікі» К. Д. Шчаснай, у беларускамоўныя пісьмовыя і інтэрнэтныя крыніцы пранікаюць словы і з моў экзатычных краін. Так, напрыклад, з моў народаў заходнеафрыканскіх краін у нашу мову праніклі наступныя лексічныя адзінкі: **ву́ду** *н. нескл.*; *н. і ж. нескл.*, **карытэ́** *н. нескл.*, **шы** *н. нескл.*

«Слоўнік новай і актуальнай лексікі» працягвае традыцыі стварэння слоўніка новай лексікі беларускай мовы. Яму папярэднічае «Слоўнік новых слоў беларускай мовы» (Мінск : ТэтраСістэмс, 2009. — 448 с.) В. І. Уласевіч і Н. М. Даўгулевіч. Толькі 52 слоўнікавымі артыкуламі гэтыя два слоўнікі супадаюць (а гэта словы *аквaба́йк, антыаксіда́нты, апера́тар, аптымiза́цыя, ба́нер, бло́г, брэйн-ры́нг, візажы́ст, квадрацы́кл, крэаты́ў, мультыпле́кс, пазіты́ў, са́міт, фрыста́йл, эспрэ́са* і інш.).

У астатнім выданне К. Д. Шчаснай падае сотні новых слоў, якіх яшчэ няма ў «Слоўніку новых слоў беларускай мовы» В. І. Уласевіч і Н. М. Даўгулевіч. І ў гэтым значная актуальнасць слоўніка К. Д. Шчаснай. Лексікаграфічны даведнік акрамя падачы і тлумачэння новых слоў прыводзіць таксама вялікую колькасць слоў, якія ў нашай мове ўжываюцца ўжо значны час, але ў апошнія гады набылі асаблівую актуальнасць у сваім прымяненні і жыцці ў беларускай пісьмовай і вуснай мове. Тут мэтазгодна спісам у якасці ілюстрацыі сказанага прывесці значную колькасць такой лексікі: *аналітык, астролаг, бізнес, біяпрадукт, бос, бум, войска, губернатар, гулец, гурт, дарадца, допінг, дывідэнд, дыета, дыетолаг, дызбактэрыёз, дыскамфорт, дэндрапарк, дэфіцыт, заяўнік, знаёмец, зорка* (у знач. «папулярная, вядомая асоба — артыст, спартсмен і інш.»), *імідж, ініцыятар, інцыдэнт, іспыт, каардынатар, камфорт, кангрэсмен, кансервант, кантактаванне, культуролаг, куратар, ламбард, лобі, мадэрнізацыя, максіраліст, маршрутка, мецэнат, мікрааўтобус, намінацыя, парламент, парламентарый, патэнцыял, пафас, персанал, пляц, прадукт, праект, прафарыентацыя, прыватнік, прыхільнік, прэферэнцыя, разагрэў, рэмісія, рэпетытар, рэпрэзентант, рэтра, рэцэсія, салон, саміт, санкцыі, скепсіс, складнік, соцыум, спадкаемец, спецэфект, стрэс, стымулятар, суверэнітэт, сэрвіс, транквілізатары, фаварыт, хобі, шырспажыў, эксперт* і інш. Многія з прыведзеных слоў пашырылі семантыку, сферу свайго ўжывання. І гэта ўсё паказана ў слоўніку К. Д. Шчаснай.

«Слоўнік новай і актуальнай лексікі» багата ілюстраваны. Матэрыялам для ілюстрацый паслужылі многія беларускамоўныя перыядычныя выданні, электронныя выданні і электронныя версіі газет, а таксама сайты інфармацыйных агенцтваў і дзяржаўных ведамстваў Беларусі, сайты, што ўжываюць беларускую мову ці змяшчаюць перакладныя тэксты, некаторыя інтэрнэтчасопісы.

Слоўнікі новых слоў і іншыя слоўнікавыя даведнікі, як правіла, толькі абмяжоўваюцца лексікаграфічнай падачай моўнага матэрыялу. Слоўнік жа Шчаснай, акрамя асноўнай лексікаграфічнай часткі, прыводзіць вельмі неабходныя табліцы. Іх пяць: 1. Род новых нескланяльных назоўнікаў у беларускай і рускай мовах; 2. Склонавыя канчаткі неасабовых назоўнікаў мужчынскага роду ў родным і месным склонах адзіночнага ліку; 3. Склонавыя канчаткі асабовых назоўнікаў мужчынскага роду меснага склону адзіночнага ліку; 4. Формы назоўнікаў жаночага роду ў родным склоне множнага ліку; 5. Формы назоўнікаў III скланення ў родным склоне множнага ліку.

Гэтыя табліцы акажуць вялікую дапамогу карыстальнікам слоўніка і ў першую чаргу маладым асобам — навучэнцам, студэнтам, магістрантам і інш. у засваенні імі новай лексікі і ў першую чаргу замежнай, што пранікла і пранікае ў слоўны корпус беларускай мовы.

Тут вельмі важна зазначыць, што адносна невялікі сваім аб'ёмам (102 кніжныя старонкі) «Слоўнік новай і актуальнай лексікі» ўтрымлівае ў сабе шмат інфармацыі; і тым самым гэта выданне з'яўляецца вельмі карысным і актуальным лексікаграфічным даведнікам. Важна зазначыць і іншае: у гэтым слоўніку класічна вытрыманы ўсе лексікаграфічныя каноны, а гэта тлумачэнне слоў, іх этымалогія, паўната падачы матэрыялу, сістэмнасць адлюстравання ў выданні з'яў аманіміі і полісеміі і інш. Прыемна і тое, што такую працу выканала малады спецыяліст, аспірантка акадэмічнага інстытута.

«Слоўнік новай і актуальнай лексікі» К. Д. Шчаснай разлічаны на шырокую аўдыторыю карыстальнікаў — на маладых людзей, якія вывучаюць беларускую мову як навучальны прадмет, на навукоўцаў, што даследуюць пытанні беларускай мовы як вучоныя, на выкладчыкаў, настаўнікаў, журналістаў, працаўнікоў друку і на ўсіх тых, хто цікавіцца сучаснай беларускай мовай і пытаннямі яе нармалізацыі.



*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ І МЕТАФІЗІКА

Калі задумвацца пра тое, адкуль цячэ метафізічная плынь у нашай літаратуры, нельга не прыгадаць творчасць Максіма Гарэцкага.

Зразумела, што карані беларускай літаратурнай метафізікі растуць не з нашаніўскага перыяду. Да таго былі стагоддзі найскладанейшага суіснавання жанраў свецкай і духоўнай літаратуры, прычым аснову апошняй складаў арыгінальны хрысціянскі сімвалізм. Метафізічнасць неад'емная ад рэлігійнага вопыту, які тым не менш можа значна розніцца ў сваіх праявах. Грунт хрысціянскага варыянта метафізікі — у дыялогу чалавека і Богачалавека, які адбываецца з вялікім уплывам этычных імператываў. Хрысціянская традыцыя трансцэндэнтальных твораў — малітваў, акафістаў, кандакоў, патэрыкоў — і ў XX стагоддзі працягвала заставацца актуальнай, бо апелявала да знаёмага ўсім эмацыянальнага поля і нечакана сыходзілася з наймаднейшым экзістэнцыялізмам.

У XXI стагоддзі экзістэнцыяльная эстэтыка прадказальна церпіць паразу і страчвае сваё першачарговае значэнне. Сітуацыя інфармацыйнага выбуху, перанасычанасць тэкстамі, філасофія грамадства спажывання патрабуе лёгкіх літаратурных жанраў і лёгкага стылю. Спажывец кнігі чакае ад літаратурнага твора займальнай фабулы і простых эмоцый: псіхічных і цялесных. Адпаведна і метафізічны пласт адступае перад гэтым апафеозам матэрыялізму, бо ператвараецца з галоўнага, сэнсаўтваральнага напрамку — у адзін з сотняў спосабаў казытання нерваў. Нават і сам экзістэнцыяльны досвед, а з ім і метафізічная плынь у літаратуры, нярэдка падмяняецца побытавым магізмам і дэтэрмінізмам, складовай часткай сучаснай прымітыўнай рэлігійнасці.

Але гэта — сёння. У часе, калі давялося фарміравацца Максіму Гарэцкаму-пісьменніку, метафізіка была фактычнай дамінантай літаратурнага поля. Без сумневу, вялікі ўплыў рабіў тут сімвалізм, пануючы літаратурны напрамак. Эпоха Дэкадансу раіла сваім адэптам шукаць ісціну ў тагасветным, таямнічым, якое мусіць прасвечваць праз рэальнасць, як праз мутнае шкло. Адпаведна, множыліся пракрокі і празорцы, моладзь абрыналася ў глыбіні «яснабачання» паводле По і Рэмбо, часам з вялікай цяжкасцю адтуль выбіраючыся. У гэтыя дні пачынаў пісаць Гарэцкі. Бясспрэчна, ён адчуваў паветы эпохі, хаця і быў далёкі ад сытага жыцця сталічных інтэлектуалаў.

Бясспрэчна, раннюю прозу Гарэцкага трэба разглядаць у тагачасным дэкадансавым кантэксце — прычым не толькі рускім, але і ўкраінскім, польскім. Нельга не адчуваць падабенства метаду Гарэцкага з прозай Леаніда Андрэева, Фёдара Салагуба, а таксама з рамантычнай традыцыяй XIX стагоддзя. Заслуга Гарэцкага ў тым, што ён мог ісці дарогай сінтэзу, для яго існаваў выбар, асэнсаваная магчымасць абіраць сродкі і спосабы.

**Эпоха Дэкадансу раіла сваім адэптам шукаць ісціну ў тагасветным, таямнічым, якое мусіць прасвечваць праз рэальнасць, як праз мутнае шкло**

* * *

Гарэцкі, мабыць, быў першым, хто адчуў пад сваімі нагамі натуральнае беларускае балота.

**У XXI стагоддзі экзістэнцыяльная эстэтыка прадказальна церпіць паразу і страчвае сваё першачарговае значэнне. Сітуацыя інфармацыйнага выбуху, перанасычанасць тэкстамі, філасофія грамадства спажывання патрабуе лёгкіх літаратурных жанраў і лёгкага стылю**

Ёсць зямля і ёсць неба. Зямля — мінулае і наяўнае ў асабістай гісторыі. Неба — будучае, перспектыва.

Чалавек ведае пра абодва напрамкі, у якіх жыве. Ён цягнецца шатамі ў будучыню, пашырае перспектыву, адначасна застаючыся ў зямлі, з якой расце.

Той, хто думае толькі пра неба, — можа лёгка адштурхнуцца ад зямлі, а з ёй і ад таго, што звязвае і прыцягвае.

«Роднае карэнне», напісанае 20-гадовым Максімам, па сёння застаецца класічным узорам беларускай прозы менавіта дзякуючы фенаменальнай акумуляванасці філасофскіх ідэй, асаблівасцей нацыянальнага характару, дзіўным сінтэзам рэальнага і ірэальнага. Калі заняцца толькі пералічэннем жанраў, якія выкарыстоўвае ў гэтым творы Гарэцкі, то імі будуць, акрамя ўласна апавядання (сёння дзе-хто з пісьменнікаў назваў бы твор такога аб’ёму аповесцю), ліст, песня, казка, легенда. Празаік чаргуе планы аповеду і розныя творчыя метады з зайздросным майстэрствам: «пункт погляду» бацькоў у лісце перапыняецца «пунктам погляду» аўтарскім. Разам з тым голас аб’екта-апавядальніка ў творы з’яўляецца асноўным, праз гэтае суб’ектыўнае адлюстраванне паказваюцца пейзажы, аспрэчваюцца ці станоўча ўспрымаюцца пазіцыі іншых персанажаў, нават мроя Архіпа падкрэслена прапісаная аўтарам праз голас героя, як быццам ён пераказвае сон у той час, як сніць яго.

Гэта ўсё сцвярджае тое, што аўтар не забывае пра сваё пісьмо падчас працэсу. Пастаянна задае сабе Архіп праклятыя пытанні: «“Краіна родная мая…” — мармытаў-пяяў ён ціхенька і думаў-думаў, што будзе праз дзвесце, трыста, чатырыста гадоў тут, наўкола?.. Божа, Божа, як гэта ўсё страшна і цікава!»

«І Архіп прыгадаў, як ён з вялікім жарам і шчырай ахвотай пачынаў вучыцца, бо думаў, ды што думаў, — моцна верыў, што ў кніжках усё ёсць, кніжкі ўсё раскажуць, не толькі як яно, але і адкуль яно».

Тут з’яўляецца вельмі важнае для Гарэцкага слова «яно». Слова абсалютна сімвалісцкае па сваім сэнсе — безасабовае як Вечная Жаноцкасць, Сусветная Душа, пад ім маецца на ўвазе не толькі духоўнае, але разам з ім і матэрыяльнае — усё, што існуе.

Але і кніжная мудрасць не дае адказу, гучыць ясная інтэнцыя пра непазнавальнасць існага:

«І вось ён “укусіў” ад кніжнае мудрасці… Папраўдзе, знайшоў такія і гэткія адказы, але ж — Божа — пэўнасці аніякай няма, няма».

«Нічога не ведаем, не ведалі і ведаць не будзем… Сэрца пачне біцца дужэй і сціхне, а нешта чорнае, вялікае стане прад вачамі, нейкія ўзоры мітусяцца, і так добра, ладна ляжаць. Навука, чэрці, зданнё… Нічога не ведаем… Бог, чэрці, душы… Не ведаем…»

Балотная метафізіка няўпэўненасці працінае апавяданне.

Аўтар вырашае паказваць рэальнасць, гэта відавочна, бо безаблічнае «яно» з’яўляецца адстаронена, яно не ўцягвае самога Гарэцкага ў свае гульні; наадварот, ён сам кантралюе яго. У той жа час паказ рэальнасці сутыкаецца з відавочнымі праблемамі, таму і чаргуюцца метады: бо рэальнасць — гэта і песня, і сялянская магія, і невытлумачальныя, непадуладныя розуму падзеі.

Да пэўнай ступені Архіп аказваецца ў вёсцы чужым. Бо для тутэйшых жыхароў магічнае сплецена з рэальным і не ўяўляе сур’ёзнай заклапочанасці. Да таго ж тое, што здаецца несвядомаму чалавеку ірацыянальным, часам можна вытлумачыць сродкамі логікі, здаровага сэнсу і жыццёвага вопыту

**Заслуга Гарэцкага ў тым, што ён мог ісці дарогай сінтэзу, для яго існаваў выбар**

(гэта пастуліруецца ў размовах дзеда Яхіма з Архіпам па дарозе на станцыю — прывід над магілай з'яўляецца хімічным рэчывам, замова ад ваўкоў — веданнем іх прыроды). Сялян перш за ўсё клапоціць Архіп, яны адчуваюць небяспеку ў тым, што ён не проста цікавіцца, «адкуля свет, адкуля што», але і цікавіцца шчыра, а значыць, атрымлівае ад працэсу асалоду: «Нешта чорнае, вялікае стане прад вачамі, нейкія ўзоры мітусяцца, і так добра, ладна ляжаць». «А толку пра зданнё-страхаццё так і няма. І бацька з сынам неахвотна гаворыць ужо пра тое. Баіцца за сына ядынага, дрыжонага. Бо баіцца стары, што надта пачаў цікавіцца сынок незразумелым, таёмным, страшным, незямным». Разам з тым, нельга сказаць, што мудры вясковы «савет старэйшынаў», які раіць Нупрэю «глядзець за сынам», наладжаны прагматычна і дыялектыка-матэрыялістычна. Хутчэй, наадварот. Калі Архіп адказвае на «антыдэкадэнцкія» закіды дзеда Яхіма жорстка, той спрачаецца арыгінальна. Паглядзім:

— А Божа! Дык няўжо ж так праз гэты, выбачайце, свінячы спакой калодаю гнілою жыццё пражыць і нічым не цікавіцца?

— Чаму? Я таго не кажу; пэўне, без цікавасці — што за чалавек? Але гэта… Мяне во дзівіць вучыцель Балазевіч: на ўсё адгадкі знайшоў хлапец. Бога няма, памрэш, згнієш, вось табе і ўсё… Ну ці не дурны! А здаецца, і дзяцюк нічога сабе, рахманы».

Такім чынам, сялянская мудрасць засцерагае ад крайнасцей. І нястрымны «духавізм», і агалцелы матэрыялізм аднолькава выклікаюць у дзеда Яхіма недаўменне і прытоеную ўсмешку.

Стары Яхім разумее, што Архіп уваходзіць у пару сталення, менавіта таму, па дарозе на станцыю, якая тут уяўляецца таксама надзвычай сімвалічнай, ён праводзіць для яго своеасаблівы абрад ініцыяцыі, перадаючы чатыры асноўныя запаветы — тое, чым трэба кіравацца ў жыцці чалавеку сталаму: 1) спазнаваць гісторыю

### Па сваім кшталце запаветы дзеда Яхіма — адраджэнцкая нашаніўская праграма для моладзі

### Гарэцкі, мабыць, быў першым, хто адчуў пад сваімі нагамі натуральнае беларускае балота

уласнага народу («споўніш гэты загад — у жыцці не ашукаешся, будзеш ведаць, што рабіць трэба. І ніякая, братка, чартаўня, ніякія думы чорныя не змогуць цябе»); 2) наведваць як мага часцей месца, дзе нарадзіўся (тады «не будзе яно здавацца табе страшным» і не здрадзіш яму, пачуўшы «ад каго дурнога або цёмнага і скрыўджанага нараканні няправедныя, пахабшчыну на справу і працу тваю»); 3) маючы дабрабыт і асалоду, памятаць пра тое, што не адзін жывеш на зямлі, і дзейнічаць згодна з этычнымі імператывамі («ведай тады, што адным енкам ды стагнаннем бядзе людской не паможаш»); 4) быць моцным духам і целам, бо слабы нічога не можа зрабіць («а то і самаго затопчуць»).

Па сваім кшталце запаветы дзеда Яхіма — адраджэнцкая нашаніўская праграма для моладзі. Матыў сацыяльнай барацьбы ёсць і ў устаўной легендзе — сне Архіпа. Аднак, адкаснуўшыся ад сацыяльных тэорый (пра якія ўжо дастаткова гаварылася ў савецкі час у сувязі з прозай Гарэцкага), трэба памятаць пра тое, што гэтыя наказы з'яўляюцца своеасаблівым стрыжнем, які дасць маладзёну раўнавагу, засцеражэ Архіпа ад крайнасцей і вабаў іншасвету, праклятых пытанняў «аб вечным і безадказным: адкуля яно і што яно?»

* * *

Сто гадоў таму, у 1913 годзе, было напісана «Роднае карэнне» Максіма Гарэцкага, сто гадоў таму карпеў у рэдакцыі «Нашай нівы» над рукапісам «Вянка» Вацлаў Ластоўскі. Як усё-такі добра было б перанесціся ў той час, сесці з імі — Вацлавам і двума Максімамі — выпіць кавы і праясніць усе гэтыя пытанні, на якія сёння ўжо цяжка знайсці адказ.

Але ўсё яшчэ хочацца шукаць. 

# КАХАННЕ. АНАТОМІЯ

***З Раісай БАРАВІКОВАЙ, творцай самых, бадай, узнёслых радкоў пра каханне, напярэдадні Дня закаханых размаўляла рэдактар «Маладосці» Святлана ДЗЯНІСАВА. Каментарыі да размовы дала аўтар кніг па практычнай псіхалогіі Нэлі КСЯНЕВІЧ.***

**С. Д.** — Як на вашу думку, калі чалавек любіць, то што ён любіць больш — цела ці душу?

**Р. Б.** — Думаю, што ў кахання ў гэтым сэнсе — для гэтых мэт — ёсць розныя перыяды. Цяпер, калі большасць старонак жыцця перагорнута, я магу ўжо выбудаваць сваю канцэпцыю пачуццяў. Падобна Стэндалю, які вылучыў шэсць ці колькі адценняў і відаў кахання. Мне думаецца, што для кожнага перыяду проста існуе сваё адценне.

Безумоўна, ёсць каханне Рамэа і Джульеты. Яго можна па-рознаму называць, але гэта самае чыстае, самае светлае пачуццё, замешанае на парываннях, каханне-мроя, якому, між іншым, у нейкай ступені ўласціва і жарсць. Але яна таксама асаблівая. Для Рамэа і Джульеты вельмі важнай абставінай з'яўляецца прыгажосць — цела, твару і нейкіх асобных рысаў. Гэта калі пабачыў — абамлеў і цалкам падпарадкаваўся. Уласціва гэта, канешне, толькі самаму юнаму ўзросту.

**С. Д.** — І зусім немагчыма так кахаць, скажам, у сорак?

**Р. Б.** — Хутчэй не, як мне здаецца. Таму што ў каханні Рамэа і Джульеты прысутнічае вялікая таямніца: яно заўжды першае. Гэта той самы забаронены плод, яшчэ нават не надкушаны. Гэта калі рукаў сукенкі, падняты трошкі вышэй, здольны выклікаць у закаханага суцэльнае трапятанне. Гэта каханне-таямніца. Калі б паміж Рамэа і Джульетай адбылося ўсё тое, што адбываецца паміж мужчынам і жанчынай, яны б перажылі вялікае расчараванне. Таму што гэта яшчэ і каханне-чысціня — калі блізкасць з жанчынай мужчыне нават не ўяўляецца, таму што тое, што называецца словам «секс», успрымаецца як прыніжэнне: пажадаць блізкасці з аб'ектам свайго сузірання і захаплення — гэта ўсё роўна як абразіць нечым непрыстойным. Іншымі словамі, гэта нейкая боская вышыня.

### КАХАННЕ — ШТУКА ПАРАДАКСАЛЬНАЯ
*Каментарый псіхолага*

*— Калі гэта не каханне, а толькі закахацца, то для трапятання ў 16 хапае прыўзнятага рукаўчыка, а ў больш сталым узросце патрэбен секс. Калі ж гэта каханне, то бок, нешта такое, што носіць парадаксальны характар: невядома адкуль узнікае і каго ў які час напаткае, то, прабачце, не трэба і рукава, бо хвалі пойдуць па скуры ад адной толькі думкі пра гэтага чалавека. І ад узросту гэта не залежыць.*

**Р. Б.** — Потым, на другой ужо стадыі, прачынаецца жарсць трошкі іншага кшталту: хочацца ўсё ж адкрыць таямніцу — пакаштаваць плод, спазнаць цела. Вось тут хаваецца вельмі важны момант для жанчыны: ёй трэба як мага даўжэй трымаць паўзу. Таму што калі таямніца адкрыецца для мужчыны даволі хутка, яна перастане быць таямніцай — і аб'ект захаплення зробіцца яму нецікавым.

**С. Д.** — Я б паспрачалася, але пагаджуся. Супярэчнасць сваёй пазіцыі пастараюся патлумачыць. З аднаго боку, я ведаю шмат

**Калі ў нейкім фільме паказваюць публічны дом, больш за ўсё варта звярнуць увагу на тое, які яму ўласцівы антураж**

прыкладаў сапраўднага шчасця ў шлюбе, які пачынаўся «спазнаннем таямніцы» на першым спатканні. З другога, я таксама супраць легкаважкасці паводзін.

### КАХАННЕ ЧАС ЗАКРУЧВАЕ Ў СПІРАЛЬ

*Каментарый псіхолага*

*— На самай справе ўсё залежыць ад таго, кахае чалавек ці закаханы. У звычайным стане час лінейны. І ў закаханасці яго лінейнасць захоўваецца. Умоўна кажучы, тут наўпрост можна ставіць перад сабою пытанне кшталту: «На якім спатканні я здамся?» І гэта сапраўды можа паўплываць на далейшыя адносіны, бо закаханы разважае так: «З першай сустрэчы ў нас усё было? Было. Значыць, магчыма, такая яна і ёсць — легкадаступная...» Калі ж гэта каханне, то час нібыта скручаны ў спіраль, і калі дакладна ён адбыўся — той пераход на фізічны ўзровень стасункаў, — не мае абсалютна ніякага значэння.*

**Р. Б.** — Стадыя наталення жарсці вельмі хутка праходзіць. Пра каханне ў шлюбе ніхто яшчэ не сказаў і, напэўна, не скажа больш трапна, чым Маякоўскі: «Любовная лодка разбилась о быт…» Таму што парывы пачуцця — гэта заўжды жаданне прыгожага і паветранага. Я скажу груба: калі ў нейкім фільме паказваюць публічны дом, больш за ўсё варта звярнуць увагу на тое, які яму ўласцівы антураж. Якая дарагая і прыгожая там абстаноўка, якое адзенне на жанчынах! Жыццё ж іншае. Выключна іншае. І нашы кватэры — гэта звычайныя кватэры са звычайнай мэбляй, прызначанай для нармальнага чалавечага жыцця, а не…

**С. Д.** — …рамантычных прыгод.

**Р. Б.** — Рамантычных прыгод і штодзённых любошчаў. Таму, яшчэ раз кажу, міраж любоўны вельмі хутка можа сутыкнуцца з явою. Паскарэнне гэтаму працэсу надае нараджэнне дзяцей. Таму што ў ідэале каханне не можа быць толькі дзеля кахання. Не можа так быць! Каханне — з’ява практычная: яно — дзеля сям’і і будучага чалавечка. Вынік кахання, плод яго — гэта дзіця. І калі дзіця нараджаецца, каханне пераходзіць у іншую стадыю. Тут для мужчыны ўжо мае месца момант самапавагі: «Вось гэта мая каханая жанчына, яна мне нарадзіла дзіця, і цяпер я — абаронца гэтай сям’і і гэтай жанчыны». Позірк на жанчыну ўжо зусім іншы: праз разуменне жаночай сутнасці. І каханне набывае іншыя адценні: гэта ўжо не жарсць, а бязмежная пяшчота, цеплыня і спакой, замілаванне. У такіх адносінах, якія доўжацца дзесяць, дваццаць, трыццаць гадоў, былыя трапяткія закаханыя робяцца раднёй — вельмі блізкімі людзьмі. І магчыма, менавіта ў гэтым заключана самая высокая стадыя кахання. Мне так думаецца.

**Рукаў сукенкі, падняты трошкі вышэй, здольны выклікаць у закаханага суцэльнае трапятанне**

**С. Д.** — У свае дваццаць я лічыла так: муж — гэта і каханак, і сябар, і бацька, і брат — у адным, як кажуць, флаконе. Але сёння, начытаўшыся разумных артыкулаў, мне хочацца задаць пытанне пра магчымасць небяспекі такой вось роднасці ў працяглым шлюбе.

### РОДНАСЦЬ ПРАЗ ДЗЕСЯЦІГОДДЗІ: ЗВЫЧКА ЦІ САПРАЎДНАЕ КАХАННЕ?

*Адказ псіхолага*

*— Ці заўважае рыба ваду?.. А калі яе на бераг выкінуць?..*

*Закаханасць — гэта бурны ручай, з якога ўсё пачынаецца: шмат шуму і пырскаў, ды няма глыбіні. Калі людзям пашанцуе, то закаханасць пяройдзе ў каханне, якое перарасце ў шлюб. Гэта ўжо паўнаводная рака — ціхая, але глыбокая. І людзі могуць адчуваць адно аднаго нават на адлегласці, інтуітыўна. Ты проста бачыш чалавека як частку сябе. Вось такая якасць кахання магчыма пасля доўгага жыцця разам. А далей, за ракой, будзе мора: ты ўжо не будзеш заўважаць свайго кахання, як рыба не заўважае вады. Але калі адзін сыходзіць, другі — проста патанае. Небяспека здрады менавіта ў гэтым і хаваецца: каханне прарастае ў цябе так глыбока, што ты перастаеш яго заўважаць.*

**Р. Б.** — Некалькі тыдняў таму ішла нейкая сацыяльная перадача, у якой агучылі лічбу разводаў. У нас практычна кожная чацвёртая сям’я распадаецца. Прычым, часцей так: жэняцца маладыя людзі, а разводзяцца праз год-два. Звычайная справа: адна складанасць, другая — і ніхто не турбуецца, каб

папрацаваць — над сабой, над пачуццямі, над адносінамі. Не павінна так быць. Чым больш жывеш, тым больш упэўніваешся, наколькі мудрымі былі нашы бабулі. Раней было больш цнатлівасці. Напэўна таму, што вера ў Бога была мацнейшай. Чалавек, які ішоў пад вянец, выдатна ведаў, што шлюб — гэта нешта непарушнае, вечнае. Ён жа, шлюб, на нябёсах заключаецца. Толькі ў рэдкім выпадку шлюб распадаўся, і, як правіла, гэта было трагічна.

Я лічу, што каханне — гэта не толькі пачуцці, самыя розныя, з безліччу нюансаў і адценняў, але яшчэ і школа гэтых пачуццяў: ім усё ж трэба вучыцца. Але вось якая яшчэ ўпэўненасць у мяне ёсць. Любымі сродкамі на дзяржаўным узроўні трэба вырашаць кватэрнае пытанне для маладых пар. Якім бы моцным ні было каханне, але калі маладая пара год, два, тры вымушана жыць з бацькамі… Як было раней? Вясковы прыклад: дачка аддавалася «за мужа», а ў ягонай сям'і агульнымі намаганнямі будавалася новая хата.

**С. Д.** — Вось што самае цікавае: птушкі і звяры заўсёды маюць свае гнёзды і норы. Вынікае, што на жывёльным узроўні кватэрнае пытанне чамусьці арганізавана, а на чалавечым — не. Трэба яшчэ заўважыць, што нешчаслівы шлюб звычайна цягне за сабою новыя нешчаслівыя шлюбы — у наступных пакаленнях. Грамадства ўвогуле дзеліцца на прадстаўнікоў тых родаў, дзе спакон веку ніхто не разводзіўся, і тых, для каго гэта самая звычайная справа. Такое нельга не заўважыць. Як і тое, што бацькі баяцца прапісваць зяцёў і нявестак у сваіх кватэрах: а раптам яны праз год развядуцца — і «палавінка» пачне прэтэндаваць на тыя метры, якіх і без таго не хапае? А гэта, дарэчы, таксама праблема выхавання, ужо бацькоў. Калі ты як маці ці бацька жадаеш сыну ці дачцэ ў шлюбе шчасця, калі ў цябе самога існуе перакананасць у бясконцасці сямейнага жыцця і адзінасці выбару, ты ж не будзеш такія пытанні разглядаць. Так ці не?

**Р. Б.** — І так, і не. Бацькоў тут асабліва няма ў чым папракаць. Бо яны атрымалі гэту кватэру з вялікай цяжкасцю і ў пэўным узросце.

Мы яшчэ не пагаварылі пра тое, што каханне патрабуе адпаведнай аўры. І колеру, і нават слоўніка. Шпалеры ў пакоі — і тое ўплываюць на пачуццё. Ты ўжо ўвесь палымнееш, згараеш ад жарсці, а зірнуў на сцяну — і ўсё знікла. Таму што не тыя фарбы. А потым, каханне — гэта яшчэ і настрой. Гэта як напісанне вершаў. Калі ты хочаш, каб да цябе прыйшло натхненне, ты павінен сябе рыхтаваць — як да таінства. І калі яно доўга не прыходзіць… Ты ведаеш, напрыклад, якая мелодыя можа яго выклікаць, але

## ТРЫ МАРКЕРЫ І ПАДВОЙНАЯ ОПТЫКА

Калі вы ўвесь час гатовы паўтараць, як моцна яго (яе) кахаеце, то гэта, адназначна, закаханасць. Калі ж гаворыце сабе: «Люблю настолькі, што жадаю проста шчасця (яму ці ёй), і нават без мяне, калі раптам са мною гэта немагчыма, то, уласна кажучы, размова ідзе пра каханне.

Закаханасць заўсёды ў цяперашнім часе: «Не будзем планы будаваць — хто ведае, чым скончыцца ўсё гэта?» А каханне — будуе масты: назад, у мінулае, і наперад, у будучыню. Гэта калі яна можа сказаць: «Памятаеш, у дзіцячым садку мы былі ў паралельных групах?» Ці ён, напрыклад: «Я ж заўважыў цябе на той канферэнцыі, а ты мяне не». І разважанні пра тое, якімі будуць дзеці, нікога не раздражняюць.

Каханне робіць чалавека лепшым. І таго, хто кахае, і таго, на каго гэта пачуццё накіравана. Раптам адкрываюцца новыя здольнасці, бяруцца аднекуль духоўныя сілы і жаданне ўзыходзіць на вяршыні. Чалавек робіцца чысцейшым і больш паспяховым. А закаханасць, асабліва калі яна непадзеленая, можа загнаць у ступар ці выклікаць рэўнасць: бо гэта ўсяго толькі прывязанасць і страх страты.

Калі кажуць: «Я кахаў (ці кахала) гэтага чалавека, а ён мне, як аказалася, здраджваў, і я нічога не ведала», — то гэта не было каханне. Чалавека, які кахае, падмануць немагчыма. Ён такія рэчы адчувае. Але, усё бачачы і разумеючы, проста арыентуецца на лепшае — і ў чалавеку, і ў развіцці адносін з ім. Гэта і ёсць падвойная оптыка кахання.

**ШТО ЁСЦЬ КАХАННЕ**

*Прыватная версія псіхолага Нэлі Ксяневіч*

— Гэта самы звычайны цуд. За мужчын я сказаць не магу, а пра жанчын ведаю: сярод нас сустракаюцца служкі, прынцэсы і каралевы. Важна не быць служкай і своечасова перарасці з прынцэсы ў каралеву. Служкі пра цуд увесь час мараць, з прынцэсамі такая рэч часам здараецца, а каралевы яго, цуд, ствараюць самі. Выбірайце, кім вы хочаце быць, але памятайце: у што верыш, тое матэрыялізуецца. Можа быць, каханне і прыдумалі ў папярэднія вякі, ды ў наш час яно стала цудоўнай рэальнасцю, а ў наступныя стагоддзі, хто ведае, мо будзе нормай для кожнага. Калі так — нам нічога не страшна.

**ЧАМУ РАЗВОД — ГЭТА ДОБРА?**

— Таму што лепш жахлівы канец, чым бясконцы жах, — *жартуе Нэлі Ксяневіч.* — Ведаеце такі анекдот? Прыйшоў мужык на кірмаш прадаваць карову. Дрэнная карова, старая, малака дае мала, але ж на кірмашы прынята хваліць. Ды хлусіць яму таксама неяк не хочацца. Ён і кажа: «Карова не маладая, але такая ласкавая. Малака ад яе няшмат, але ад яго настрой так і ўздымаецца». Падыходзяць да яго, цікавяцца: колькі каштуе? «Ды нісколькі, — адказвае мужык. — Не прадаецца яна. Бо такая карова самому патрэбна».

Далей думайце самі. Пачнёце шукаць вартасці — і яны з'явяцца.

Жаданне залежаць ад мужчыны — прыкмета розуму. «Калі б я была разумнай, то была б дурнічкай». Гэты прынцып часам варта прымаць за ўзор

ты павінен пры гэтым адасобіцца ад усяго свету — і стварыць свой: каб аж дух заняло, каб цябе ахапіла сапраўднае боскае пачуццё, каб ты ўвогуле страціў арыенціры — дзе ты і што. Ты, паўтаруся, сам павінен нейкім чынам гэта ўсё сабе арганізаваць. Але што і як можна арганізаваць, калі жывеш з бацькамі, няхай сабе і лепшымі ў цэлым свеце? Тады ўжо пра каханне не ідзе ніякай гаворкі. Так часам бывае, што сын ці дачка нават не ведае, на які бок стаць — ці свайго абранніка, ці матчын. Бо якой бы разумнай маці ні была, але для яе сваё дзіця радней.

**С. Д.** — Слушна вы гэта закранулі. Але мне здаецца, тут ёсць момант ненатуральнасці пачуццяў. Так бывае, калі дзіця, хоць ужо і дарослае, разглядаецца як уласнасць, якая выпакутавана ў цяжарнасці і родах і якой працягваюць розным чынам карыстацца. Здольны да такога толькі жанчыны і найчасцей мамы дачок. Гэта так, назіранне… Ведаеце, я ў нейкі момант пачала лічыць, што ў бедах сям'і і грамадства павінны жанчыны.

**Р. Б.** — Я так не лічу. Таму што мужчына таксама за многае павінен адказваць. Кажуць, што некалі польскія шляхцічы бралі шлюб, як правіла, пасля сарака — тады, калі ўжо сапраўды маглі выконваць ролю абаронцы. Канешне, жонка пры такім раскладзе заўсёды была маладзейшая. І ў гэтым быў таксама пэўны сэнс: яна не ўдзельнічала ў неналаджаным быце, з аднаго боку, добрую ролю іграла захапленне ёю, з другога. А ў нас як бывае? Шлюб адбыўся — і мужчына міжволі пачынае спадзявацца на жанчыну. Бо гэта ўжо ледзь не ўмоўны рэфлекс: спачатку ім апякуецца мама, і потым яе клопаты перакладваюцца на жонку.

А прырода ж стварыла мужчыну дужай паловай.

Гэта не азначае, канешне, што жанчына не павінна сябе адукоўваць, расці духоўна і прафесійна.

**С. Д.** — Але яна ўсё роўна павінна стаяць на другой, а не першай пазіцыі. Калі яна будзе імкнуцца ў лідары — па зарплаце, па пасадзе, па характары, — гэта будзе няправільна, гэта будзе сведчыць пра тое, што яе псіхалогія сапсавана, пакалечана.

**Р. Б.** — Я таксама за тое, каб жанчына не станавілася ў такія позы. Мне адна маладая

адукаваная асоба расказвала, як яна закахалася. Аб'ект яе пачуцця адказваў узаемнасцю. Але, як часам бывае, атрымаў не тую прафесію. І яму хацелася вучыцца далей. Завочна. Асоба гэта, у яго закаханая, па ягонай просьбе робіць яму нейкую работу. Ён усім, як быццам, задаволены, але яшчэ больш, відаць, задаволена яго мама, бо кажа аднойчы: «Ты слухайся ва ўсім яе: у яе, ты ж бачыш, столькі розуму, што хопіць вам дваім». Пасля гэтага і малады чалавек збянтэжаны, і дзяўчына ў разгубленасці: ёй ён ужо не такі цікавы. Яна ж хацела, каб у яе быў нехта, кім бы яна захаплялася, каго б абагаўляла, ад каго б сама міжволі залежала. Так маці разбіла крышталёвы шарык мары адной фразай.

**С. Д.** — Жаданне залежаць ад мужчыны — гэта сапраўды прыкмета розуму. У адным часопісе я неяк прачытала нешта кшталту высновы пасля споведзі, і мне надта спадабалася: «Калі б я была разумнай, то была б дурнічкай». Гэты прынцып часам варта прымаць за ўзор.

**Р. Б.** — Жартоўнае вызначэнне самай што ні ёсць сур'ёзнай дыпламатыі! Бо як яшчэ павінна сябе паводзіць сучасная разумная жанчына, з якой здараюцца і перспектыўны рух па кар'ернай лесвіцы, і большая, чым у мужа, заработная плата? Наколькі ёй трэба быць тонкай, разумнай і мудрай, а галоўнае — як ёй трэба кахаць…

* * *

**Р. Б.** — А ўвогуле, вось да якой высновы я прыйшла: па вялікім рахунку каханне — гэта…

**С. Д.** — Тое, чаго ўвогуле не існуе?

**Р. Б.** — Або тое, што з'яўляецца прыгожым міфам. І чалавек з юнацтва павінен працаваць над тым, каб гэты міф міфам і заставаўся, але ўзнёслым, натхняльным… Каб людзі паверылі, што яно, каханне, усё ж ёсць, міф трэба рабіць явай.

## ЦІ ПРАЎДА, ШТО ЎСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ЖАНЧЫНЫ?

— Я не прымаю адно слова: «Усё», — *гаворыць Нэлі Ксяневіч.* — Таму што я супраць абагульненняў: жыццё парадаксальнае і індывідуальнае. Магу сказаць, што ведаю сама, зыходзячы з таго, што мне 55 гадоў, я 36 гадоў у шлюбе, у мяне 4 дачкі, і ў нас сям'я, у якую хочацца вяртацца. Тут трэба помніць прынцып: «Не звонку ўнутр, а знутры — вонкі». Калі ты развіваешся, мяняешся, то мяняецца і асяродак вакол цябе, і ў гэтым асяродку, хоча ці не хоча, але вымушаны змяняцца і той, хто побач: або ён павялічвае дыстанцыю і сыходзіць — калі не развіваецца, або таксама развіваецца. Калі тэмпы развіцця асоб не супадаюць, то шлюб носіць часовы характар: ён проста разбураецца натуральным чынам — каб стварыць глебу для нармальных адносін. У нас прынята разглядаць жыццё як статыку. А яно — дынаміка. У свеце няма нічога пастаяннага, акрамя, хіба, непастаянства. Кручіся, як планета, а хочаш — як электрон, які ніяк не можа вызначыцца, часціца ён ці хваля, але круціцца — развіваецца — усё роўна давядзецца. Або ты развіваешся, або дэградуеш. Калі адзін развіваецца, а другі дэградуе, то што будзе? Калі адзін пабег наперад, а другі ззаду цягнецца, што ім рабіць? Шукаць іншых спадарожных. Задача жанчыны ў тым, каб развіваць сябе і ствараць умовы для развіцця партнёра. Можа быць, таму з яе большы спрос, што яна больш інтуітыўная, тонкая і цікаўная. Жаночае пытанне: «Чаму ўсё павінна я?» няправільнае — яно ўзнікае толькі пры ўмове, што жанчына не развіваецца. Папракаць мужа за ляжанне перад тэлевізарам — гэты ход таксама няўдалы: часам, калі ты вельмі занята — бо ў цябе шмат спраў працоўных і грамадскіх, — прыемна прыйсці дадому і легчы побач з мужам паглядзець тэлевізар. Бо ты ж зарабіла ўжо столькі грошай, каб нехта прыйшоў і прыбраўся ў хаце, і каб замовіць абед з рэстарана. Я кажу сур'ёзна: самарэалізацыя, калі яна сапраўдная, дае дастатковую колькасць матэрыяльных сродкаў. Калі ж грошай недастаткова, але духоўнае развіццё ідзе, а муж яму ўжо чамусьці не адпавядае, то ёсць адразу некалькі варыянтаў: памяняць мужа — раз, пачаць яго шкадаваць і працягваць жыць з ім пад адным дахам ад жалю — два, ствараць такія ўмовы, каб яму захацелася падняцца з канапы — тры… Непрадуктыўны толькі вось гэты, апошні: пачынаць сварыцца за тое, што ён ляжыць на канапе. Стварыце матывацыю. Скажаце, што гэта не ваша праблема? Правільна, бо гэта ваша задача. А задача заўсёды мае рашэнне.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# ГАЙЦЮНІШКІ

***Першы ўспамін пра Гайцюнішкі датуецца XVI стагоддзем. У 1562 годзе гэтай маёмасцю валодае Лукаш Ленскі. Згодна з інвентаром 1565 года маёнтак ужо належыць Рымшам і складаецца з двара і гаспадарчых пабудоў. У двор уваходзяць тры жылыя дамы, стайні і гароды. Гаспадарчыя пабудовы, агароджаныя дылямі, маюць дзве брамы. У 1589-м гаспадаром маёнтка з'яўляецца Себасцьян Пакаш. Менавіта ў яго каля 1600 года Гайцюнішкі набывае Пётр Нонхарт.***

Нявядома, адкуль Нонхарты паходзілі і як па-сапраўднаму гучала іх прозвішча. Выглядала яно як курляндскае, таму іх лічылі курляндскай шляхтай, аднак даследчыкі высветлілі, што Нонхарты, верагодна, маюць паходжанне нідэрландскае. Два родныя браты Пётр і Станіслаў Нонхарты за вялікія заслугі перад краінай у 1590 годзе падчас вайсковых дзеянняў з Масквой і шведамі атрымалі пацверджанне свайго шляхецтва, якое атрымалі раней ад імператара германскай імперыі. Быў таксама пацверджаны іх фамільны герб: «Срэбны якар на чырвоным полі».

Пётр Нонхарт — высокакваліфікаваны прафесіянал, быў ацэнены адпаведна і атрымаў ад караля Жыгімонта Вазы дзве пасады — аршанскага старасты і будаўнічага вялікакняскага замка ў Вільні. Тут ён кіраваў рэстаўрацыяй будынкаў Ніжняга замка — палаца і капліцы Святога Казіміра ў Віленскай катэдры.

Пётр Нонхарт быў найбольш уплывовым шляхціцам-лютэранінам ВКЛ першай паловы XVII стагоддзя. Каля 1600 года ён купіў Гайцюнішкі, яму ж належалі маёнткі Халопенічы і Хацюхова ў Аршанскім павеце. Быў жанаты на пратэстанцы Падбярэзскай, меў дачку Зузану і, верагодна, дачку Эльжбету.

Для пратэстантаў ВКЛ у 1621 годзе коштам старасты аршанскага і гараднічага віленскага, лютэраніна Пятра Нонхарта ў Кракаве друкуецца кніга: «Postilla chrzescijanska to jest kazania albo wyklady porzadne Swietych Ewangelii na kazda niedziele i na kazde swieto». Аўтарам твора з'яўляецца славуты біскуп лютэранскага збору ВКЛ Самуэль Дамброўскі (1577—1625). У прадмове да другога выдання фундатар зазначае, што кніга прысвячаецца «…святой памяці найяснейшай панне яе каралеўскай мосьці Ганне, з ласкі Боскай Шведскай каралеўне... патронцы і пястунцы ўбогага касьцёлу Аўгсбургскай канфэсіі». Гэта кніга стала самай папулярнай чытанкай лютэран у Беларусі. Пачынаючы з XVII стагоддзя кніга перавыдавалася дванаццаць разоў, і апошні раз была перавыдадзена ў 2002 годзе ў Польшчы!

На скон Пятра Нонхарта 18 лютага 1633 года пастар Андрэй Шонфлісіюш напісаў і выдаў у Любчы эпітафію: «Obchod pogrzebu Jego Mosci Pana Piotra Nunharta...»

Дачка Пятра Нонхарта Зузана выйшла замуж за навагрудскага ваяводу Юрыя Храптовіча (1586—1650) і перадала Гайцюнішкі яму ў пасаг. Пасля Юрыя Гайцюнішкі атрымаў у спадчыну яго старэйшы сын Адам Храптовіч, жанаты на Елізавеце Ісайкоўскай.

Адам Храптовіч каля 1660 года за 45 000 злотых прадаў Гайцюнішкі палкоўніку Вільгельму Корфу. У купчай значылася і «камяніца стаячая ў двары». Пры канцы XVII стагоддзя гэтая маёмасць перайшла да Шротараў (герб Любіч) — шляхце інфляндскага паходжання. Верагодна, Гайцюнішкі былі пасагам Дароты Шротар, другой жонкі Ваўжынца Путкамера, стольніка інфляндскага і гаспадара суседніх Бальцэнікаў. На пачатку



*На поўначы сучаснага Воранаўскага раёна, у Гайцюнішках захаваўся найцікавейшы сядзібны комплекс XVII стагоддзя. Малюнак Напалеона Орды.*

XIX стагоддзя, а можа і раней, Гайцюнішкі ад Путкамераў пераходзяць да барона Караля Остэн-Сакена. Яго дачка Вераніка, вядомая прыгажосцю і навыкамі верхавой язды, каля 1840 года выйшла замуж за Адама Рымшу (герб Гоздава) і атрымала маёмасць як свой пасаг. Пасля Веранікі і Адама ўсё гэта атрымала ў спадчыну іхняя дачка Алена, жонка Рамуальда Рымшы. Перадапошнім уладальнікам Гайцюнішак быў сын Алены і Рамуальда Эдвард Рымша (1863—1937), жанаты на Яніне Лавенецкай. А апошнімі ўладальніцамі маёнтка былі ягоныя дзве дачкі: Алена (нарадзілася 19.02.1911 года, была замужам за Янам Гаштоўт-Ажынскім) і Зоф'я (нарадзілася 23.06.1913 года, жонка Напалеона Сянкевіча).

Унучка знакамітай Марылі Путкамер (з Верашчакаў) Яніна Жалтоўска (з Путкамераў), якая нарадзілася ў суседніх Бальцэніках і правяла там дзяцінства і юнацтва, так пісала пра сваіх суседзяў і сваякоў Рымшаў у мемуарах: *«Паміж намі і двума братамі Рымшамі: Эдвардам з Гайцюнішак і Раманам з Падвярышак існавала блізкае сяброўства. Гайцюнішкі з Падвярышкамі пасля Станіслава Путкамера (дзеда Яніны. —* **Л. Л.***) успадкавала яго дачка Галіна Остэн-Сакен, ...дачка яе Вераніка, чароўная Вэрця, дазволіла, каб яе выкраў Рымша, ...жанаты мужчына. Ён вывез заможную панну ў Вятку (відочна, ссылка за ўдзел у паўстанні 1831 года. —* **Л. Л.***) і толькі праз шмат гадоў, пасля смерці першай жонкі, урэгуляваў з ёй шлюбныя адносіны. У маёй маладосці падобную прыгоду я ўспрымала як непраўдападобную. Адам Рымша і Вераніка мелі адну дачку, якая выйшла замуж за свайго кузена Рымшу, і была маткай цэлага шэрагу сыноў і адной дачкі: панны Марыі, неверагодна брыдкай. ...Два браты Рымшы, нашы суседзі, былі яшчэ нежанатымі, але рабілі ўражанне старых людзей. Яны добра паканчалі ўніверсітэты. Эдвард быў інжынерам, як і мой бацька.*




*Дом-крэпасць у Гайцюнішках быў узведзены з цэглы на левым беразе ракі Жыжма па праекце гаспадара дома ў 1611—1612 гадах.*

*Кожны з іх на сваім фальварку працаваў з замілаваннем і нават з запалам, устаючы з рання да ўдою, а ўдзень пільнуючы працу ў полі. Былі яны занадта незалежнымі і падобнымі да герояў аповесці... Хадзілі ў доўгіх ботах і кажухах, пасмы валасоў спадалі ім на лоб, пагарджалі раскошай і жылі па-спартанску. Яны разам складалі салідарны сямейны клан, але фанабэрыстасць шляхты ў іх дапаўнялася дэмакратычным пазітывізмам».*

Дом-крэпасць у Гайцюнішках быў узведзены з цэглы на левым беразе ракі Жыжма па праекце гаспадара дома ў 1611—1612 гадах. Будоўляй кіраваў інжынер-фартыфікатар Ван Данэн. Напэўна, гэта ён жа спраектаваў галандскую сістэму каналаў і сажалак, злучаных з ракой Жыжмай. Дом-крэпасць, пабудаваны ў галандскім, ці паўночна-французскім стылі, быў акружаны ровам з вадой. Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы, пад высокім дахам. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны трохпавярховай прамавугольнай вежай з невысокім кубічным арачным уваходам, прыбудаваным пазней. Чатыры вуглавыя вежы круглыя, накрыты шатрамі. Кожная вежа з вузкімі вокнамі — байніцамі, што дазваляла абаронцам з усіх бакоў кантраляваць подступы да дома. На першым паверсе знаходзіліся службы і казарма для невялікага гарнізона, наверсе — «панскія» пакоі і сталовая. У скляпеннях дома была вялікая студня.

У 1648 годзе сядзіба складалася з двара і фальварака, якія злучаліся паміж сабой дарогай. Галоўная брама вяла ў двор, другая стаяла на дарозе да фальварка. Акрамя дома-крэпасці вакол з'явіліся млын, ставы, карчма, будынак мыта каля мосту цераз Жыжму, драўляныя хаты ўпраўніка, дваровай чэлядзі і кухня. Каля дома на беразе ракі стаяла паперня, якую бачна на малюнку Напалеона Орды. Маёнтак акружаў стары парк плошчай 15 га, раслі ў ім ліпы і лістоўніцы, многім з якіх было ўжо больш як трыста гадоў. Фальварак размяшчаўся паміж дваром і гумном і меў два жылыя дамы, абору на пяць хлявоў, сырніцу, саладоўню і гарод. Гумно было за мостам праз роў у канцы дарогі, якая вяла да двара. Да маёнтка Гайцюнішкі належаў і двор у суседніх Падвярышках.

У 1900—1905 гадах Эдвард Рымша дабудаваў да дома-крэпасці шырокі ганак з тэрасай, сапсаваўшы такім чынам чысціню і арыгінальнасць першапачатковага праекта. Падчас дабудовы былі знойдзены насценныя малюнкі са сцэнамі палявання, якія не былі закансерваваны. Ёсць меркаванне, што гэтыя малюнкі належалі пэндзлю вядомага віленскага мастака і былога ўладальніка маёнтка Шротара.

У гэтым доме-крэпасці ў 1708 годзе падчас Паўночнай вайны паспяхова вытрымалі аблогу шведы, атакаваныя войскамі караля Аўгуста II Саса. У суседніх Смаргонях, дзе была знакамітая школа дрэсіраваных мядзведзяў, так званая «Смаргонская акадэмія», сустрэліся два каралі: шведскі Карл XII і польскі Станіслаў Ляшчынскі, які разам з атрадам шведаў знаходзіўся ў суседніх Геранёнах і адтуль выправіўся на сустрэчу з каралём Швецыі праз Гайцюнішкі. У доме-крэпасці ваяры Станіслава Ляшчынскага маглі спыніцца і нават прыняць удзел у абароне дома ад нападу арміі Аўгуста II Саса. Памяць

пра караля Ляшчынскага і шведаў доўга жыла ў гэтых мясцінах. Нават яшчэ на пачатку XX стагоддзя быў бачны адбітак памятнай дошкі, прымацаванай над уваходам у дом і скрадзенай жаўнерамі ў 1812 годзе.

Кожная старажытная пабудова павінна мець свой прывід. Вышэй апісаныя падзеі прывялі да таго, што ў доме-крэпасці людзі пачалі сустракаць яго. Гаспадарамі дома на пачатку XX стагоддзя запісана гісторыя пра тое, як панская служка, ідучы ўвечары да склепа, сустрэла незнаёмага мужчыну, апранутага ў дзіўную вопратку з белым жабо на шыі. З далейшай гісторыі вынікала, што гэта быў шведскі жаўнер, які загінуў пры аблозе дома. Кабета вельмі спужалася, і склеп давялося асвяціць мясцоваму ксяндзу, пасля чаго прывід больш не з'яўляўся. Аднак сяляне расказвалі аб прывідах у навакольных лясах, якія, па іх меркаванні, з'явіліся пасля паўстанняў 1831 і 1863 гадоў.

У польскай філалогіі ёсць версія пра тое, што Гайцюнішскі дом-крэпасць стаў правобразам Міцкевічавых Сапліцова і Гарэшкавых з «Пана Тадэвуша». Доўгі час лічылася, што правобразам Сапліцова былі Тугановічы. Пазнейшыя даследчыкі размяшчалі яго ў Міры ці нават у Вялікапольшчы. Новую цікавую і цалкам праўдападобную гіпотэзу сфармуляваў прафесар Рышард Керсноўскі ў артыкуле «Замак Гарэшкаў і яго жыхары» і «Гавенда Гайцюнішска». Ён сабраў шмат фактаў на карысць слушнасці версіі пра Гайцюнішкі.

Вядома, што Міцкевіч бываў у Гайцюнішках. Пра гэта сведчаць захаваныя ў архівах сямейныя дзённікі Рымшаў, апошніх уладальнікаў маёнтка. Паводле гэтых дзённікаў у сядзібным парку, які зваўся Сола, знаходзілася альтанка — невялікі зашклёны павільён, у якім госці пакідалі свае подпісы ці нават невялікія тэксты. І там над дзвярыма быў напісаны Антонам Адынцом трыялет, які славіў прыгажосць пані Остэн-Сакен — гаспадыні маёнтка на той час. У гэтай альтанцы быў подпіс Адама Міцкевіча на аконным шкле, зроблены дыяментам пярсцёнка. У тым жа парку Тамаш Зан па вяртанні са ссылкі ладзіў вясёлыя забавы — хованкі з паннамі з ваколічных маёнткаў. Міцкевіч мог трапіць у парк у 1820 годзе, калі з сябрамі ехаў з Навагрудка ў Вільню трактам, які праходзіў недалёка ад Гайцюнішак. Мог ён быць тут і ў траўні 1822-га, калі бавіў час у суседніх Бальцэніках Путкамераў і адкуль рэгулярна выязджаў разам з Марыляй Путкамер (з Верашчакаў) на конныя шпацыры. Яны павінны былі наведваць і Остэн-Сакенаў у Гайцюнішках: суседзяў і радзіну Марылі. Такім чынам, у Міцкевіча быў час вывучыць наваколлі дома-крэпасці, каб пасля, у эміграцыі, апісаць мясцовыя рэаліі ў сваёй геніяльнай паэме. Замак Гарэшкаў, як і гайцюнішскі дом, быў «самотным будынкам», двухпавярховым, з вежай. Дом-крэпасць, як і замак ў Гарэшкаве, мае высокі дах, які бачны здалёк, і ганак, на які выходзіў стольнік, і адкуль быў зроблены фатальны стрэл Яцака Сапліцы. Як і замак, дом меў вялікія сені, выпуклыя скляпенні на калонах і падлогу, высланую каменем (да нядаўняга часу сені тут былі высланы каменнай пліткай).



*У 1808 годзе Караль Остэн-Сакен зрабіў на сцяне капліцы вялікую эпітафію пра гісторыю яго сям'і XVIII і пачатку XIX стагоддзя.*




*Гайцюнішкі ў 1915 годзе. Паштоўка.*

Цікавыя факты і дадумкі можна прыводзіць і далей, але, верагодна, замак Гарэшкаў у Міцкевіча — сінтэтычны вобраз замкаў яго радзімы. Памяць пра Гайцюнішскі дом-крэпасць і Мірскі замак адбілася ў запамінальны літаратурны вобраз.

У маёнтку былі архіў і бібліятэка, якія загінулі падчас Першай сусветнай вайны. Ацалела толькі «Генеалогія роду Рымшаў», якая сягала часоў хрышчэння Літвы.

Апошні бой у Гайцюнішскім доме-крэпасці адбыўся ў навагоднюю ноч 1944 года, калі аддзел Арміі Краёвай разграміў тут залогу літоўцаў-калабарантаў.

У 1946—1949 гадах у доме-крэпасці знаходзілася школа механізатараў. З 1960-га тут месціцца абласная псіхіятрычная бальніца. Быў праведзены капітальны рамонт — і ў выніку ўнікальны дом-крэпасць добра захаваўся. Цяпер у ім знаходзіцца адміністрацыйны будынак бальніцы. Захаваліся некаторыя гаспадарчыя пабудовы XIX — 1-й паловы XX стагоддзя.

* * *

На пачатку XVI стагоддзя ў Гайцюнішках Пятром Нонхартам заснаваны лютэранскі прыход, а ў 1613—1633 гадах каля маёнтка з цэглы ім жа будуецца лютэранскі збор, у якім, нягледзячы на ўсе цяжкасці, набажэнствы служыліся аж да 1939 года. Гісторык Міхал Балінскі пісаў, што збор тут фундавалі дзве сястры: дочкі Пятра Нонхарта. У архівах захавалася пахавальнае казанне біскупа Самуэля Дамброўскага над труной Эльжбеты Нарушэвіч (верагодна з Нонхартаў) у Гайцюнішках на пачатку 1624 года. Гэта паказвае, што ўжо ў 1624-м тут праходзілі набажэнствы.

Збор — прамавугольны ў плане будынак і такая ж алтарная частка. Асноўны аб'ём быў накрыты чарапічным вальмавым дахам. Сцены прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, завершаны шырокімі прафіляванымі карнізамі і ўмацаваны магутнымі контрфорсамі, схілы якіх накрыты чарапіцай. У сутарэннях знаходзіліся труны з муміфікаванымі целамі пахаваных. Высокую каштоўнасць мелі алтар і казальніца XVII стагоддзя.

Пасля пабудовы збор доўгі час меў асобнага пастара, а ў XIX стагоддзі быў філіяй («прычэтнай» царквой) Віленскай лютэранскай парафіі.

Збор стаў сямейнай пахавальняй Нонхартаў, Шротараў і іншых уладальнікаў Гайцюнішак пратэстанскай веры: Статкевічаў і Остэн-Сакенаў. У 1808 годзе Караль Остэн-Сакен зрабіў на сцяне капліцы вялікую эпітафію пра гісторыю яго сям'і XVIII і пачатку XIX стагоддзя.

Капліца парушана ў часы, калі ў доме-крэпасці знаходзілася школа механізатараў. Пры гэтым гатычная цэгла выкарыстоўвалася на будаўніцтва гаспадарчых пабудоў. Руіны збора знаходзяцца ў паўднёва-ўсходняй частцы вёскі каля дарогі.

*Эмануіл ЮФЭ*

# ГАРАЎСКІ

***Прысвечаны 130-годдзю мастака артыкул пачнём з таго, што, калі Апалінарыю споўнілася дванаццаць, бацька яго, Гілярый Гараўскі, прывёз хлопца на вучобу ў Брэст-Літоўскі кадэцкі корпус, заснаваны ў Брэст-Літоўску на сродкі казны, а таксама памешчыкаў Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губерняў і Беластоцкай вобласці.***

У гонар свайго шэфа, будучага імператара Аляксандра II, які ў 1849—1855 гадах быў галоўным начальнікам кадэцкіх карпусоў Расіі, гэты корпус атрымаў найменне «Аляксандраўскі». Размяшчаўся ў пераабсталяваным будынку бернардзінскага кляштара на Валынскім умацаванні Брэст-Літоўскай крэпасці. У корпус прымалі дзяцей дваран і штаб- ды обер-афіцэраў ва ўзросце ад дзевяці з паловай да адзінаццаці з паловай гадоў (Апалінарый быў перарослкам). Тут чатыром сотням кадэтаў выкладаліся агульнаадукацыйныя прадметы за курс гімназіі — то бок мовы, прыродазнаўчыя і грамадазнаўчыя навукі, а таксама стралковая падрыхтоўка, верхавая язда, ружэйная стральба, фехтаванне, гімнастыка, плаванне, музыка і танцы. Выпускнікі накіроўваліся пераважна ў юнкерскія вучылішчы, каб працягнуць ваенную адукацыю, у надзвычайных жа выпадках, такіх як вайна, — у гвардыю або армію афіцэрамі (пасля сканчэння спецыяльнага класа).

Якую ролю ў лёсе Апалінарыя Гараўскага адыграў Брэст-Літоўскі кадэцкі корпус? Тут мастацкі талент будучага жывапісца заўважыў вядомы архітэктар Бенуа, які часта бываў у свайго брата — начальніка корпуса палкоўніка Бенуа. Пазней Гараўскі з асаблівай падзякай успамінаў пра чалавека, які заклаў у ім першапачатковыя асновы мастацкай граматы і падрыхтаваў да паступлення ў 1850 годзе ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў.

Вялікую ролю ў лёсе Гараўскага адыграў і палкоўнік Бенуа. У адным з лістоў Апалінарыя Гіляравіча ёсць такія радкі: «Любя и понимая живопись, он заметил во мне способность, старался настроить к большому изучению в искусстве и привёз меня в Петербург, через его старания попал и в Академию пенсионером».

Цяпер спынімся на 1850—1854 гадах — часе вучобы Гараўскага ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Тут ён пад кіраўніцтвам вопытных прафесараў М. Вараб’ёва і Ф. Бруні займаецца пераважна пейзажным і партрэтным жывапісам. У 1852 годзе яго пейзаж «Балота», напісаны ў час летніх вакацый у Мінскай губерні, удастойваецца пахвалы акадэмічнага савета і набываецца з акадэмічнай выстаўкі наследнікам імператара. З 1852 года 19-гадовы Апалінарый становіцца удзельнікам выставак (Акадэміі мастацтваў, усерасійскай, Таварыства рускіх акварэлістаў, Таварыства выставак мастацкіх твораў за мяжой і іншых), паспяхова экспануе партрэт епіскапа Вайткевіча, таксама напісаны ў Беларусі. Мастацкі крытык А. Майкоў у аглядзе, змешчаным у часопісе «Айчынныя запіскі», адзначае гэты партрэт у ліку лепшых карцін, называючы яго «выдатным».

У 1853-м Апалінарый мае тую колькасць залатых і срэбных медалёў, якая дае яму

**Прыроду вывучае ўважліва, бачанае перадае скрупулёзна, не даруючы сабе нават самага малога промаху — па некалькі разоў перамалёўвае ўжо намаляванае**



*«Вечар у Мінскай губерні» (1870-я).*

права прэтэндаваць на вялікі залаты медаль. У якасці праграмы мастаку зацвярджаецца пейзаж: «Від у Пскоўскай губерні». Месца для напісання «дыплома» Гараўскі выбірае невыпадковае: у гэты час сюды, у Пскоўскую губерню, перасяляецца палкоўнік Бенуа, і Апалінарый часта да яго наведваецца.

За пейзаж «Від у Пскоўскай губерні» Гараўскаму прысуджаецца залаты медаль першай вартасці і званне класнага мастака, што, дарэчы, дае права на замежную паездку. Аднак Апалінарый едзе за мяжу не адразу. Да мая 1858 года ён знаходзіцца на радзіме, у вёсцы Уборкі, з вялікай энергіяй аддаючыся любімай справе. Піша эцюды беларускай прыроды і шматлікія віды наваколляў крэпасці Бабруйск. Прыроду вывучае ўважліва, бачанае перадае скрупулёзна, не даруючы сабе нават самага малога промаху — па некалькі разоў перамалёўвае ўжо намаляванае. У лісце да Траццякова, датаваным 1854 годам, адзначае: «Теперь я пишу “Липы” Козьме Терентьевичу (Салдаценкаву. — **Э. І.**), начиная от воздуха почти всё вновь. Потому что как увидел в натуре облака, так на моей картине точно как на конфетке расписано, то я с досады вновь стал писать и не буду рассчитывать времени, лишь бы только вышло хорошо».

Упартасць прыносіць добрыя вынікі: многія пейзажы Гараўскага атрымаюць высокую ацэнку мастацтвазнаўцаў. Некаторыя набудзе для сваёй галерэі Траццякоў.

А вось праца над заказнымі партрэтамі, якія ён піша ў 1854—1858 гадах, маральнага задавальнення не прыносіць: залежнасць ад густу заказчыка пазбаўляе мастака магчымасці ўдасканальваць майстэрства. Гараўскі ўсяляк імкнецца пазбавіцца ад такіх заказаў, аднак цяжкае матэрыяльнае становішча сям’і і хвароба бацькі вымушаюць яго ісці на кампраміс. І вось ён піша партрэты мінскага архірэя Галубовіча, мітрапаліта Галавіна, іншых асоб. Але ўсё ж знаходзіць час, каб ствараць і тое, што адлюстроўвае жыццё праўдзіва. Так з’яўляецца «Старэнькая, якая моліцца».

Спынімся на гісторыі стварэння гэтай карціны. Апалінарый Гіляравіч задумаў яе

ў 1856-м. Першапачатковая праца ідзе марудна. А ўсё таму, што натуршчыца — сталая беларуская сялянка — часта хварэе і таму падоўгу пазіраваць у яе не атрымліваецца. Нарэшце 27 кастрычніка 1857 года мастак паведамляе Траццякову: «Усердно, со слезами молящуюся старуху кончил и благодаря Всевышнему вышла лучшим произведением из всех, которые только писал. Надеюсь, что всякий из знатоков согласится с моим мнением: рельефность головы, рук, рисунок, колорит и выполнение и скромность живописи в подражание натуры, насколько мне не страшно, если станут сравнивать с портретами Штейбека работы и Зарянко».

Даволі высока ацэніць выкананне працы Ілля Яфімавіч, геніяльны Рэпін. Ён знойдзе карціну моцнай па тэхніцы і асобна адзначыць, што твар старой напісаны «с порами на коже». А беларускі мастацтвазнаўца Дробаў падкрэсліць, што «па глыбіні сацыяльнай характарыстыкі гэта адзін з лепшых твораў жывапісца». Дарэчы, першы варыянт карціны быў напісаны раней, але мастак палічыў яго незавершаным. Толькі праз чатыры гады ён прадставіў работу акадэмічнаму савету.

Натхнёны Апалінарый Гараўскі выязджае нарэшце за мяжу. На пенсію Пецярбургскай акадэміі мастацтваў ён удасканальвае сваё майстэрства ў Жэневе, Дзюсельдорфе, Рыме і Парыжы.

У Жэневе і Дзюсельдорфе Гараўскі наведвае майстэрні жывапісцаў Каляма і Ахенбаха. Сустрэча са славутымі замежнымі жывапісцамі маральнага задавальнення не дае. У Жэневе Апалінарый піша: «У майстэрні Каляма і цяпер не займаюся, а толькі зрэдку заходжу паслухаць яго парады і заўвагі. Астыў я да яго крыху за тое, што ён больш хваліць, чым папракае. Мне здаецца, што ён вялікі палітык. Урэшце, да гэтага мне няма справы. Калям Калямам, але прырода, па-мойму, самы лепшы настаўнік». З гэтага і іншых пісьмаў бачна, што Гараўскі не схільны слепа пераймаць «рэцэпты поспеху». У 1859 годзе ён наведвае Рым — «сталіцу ўсіх мастакоў свету». І тут яго чакае расчараванне: як і ў Жэневе і Дзюсельдорфе, Гараўскі адчувае сябе адзінокім. Не дабыўшы ўстаноўленага тэрміну пенсіянерства, у 1860 годзе ён вяртаецца на радзіму і з гэтага часу на працягу амаль трыццаці гадоў жыве ў Мінскай губерні. Ну, хіба толькі зрэдку выязджае з сям'ёй у Пскоўскую губерню да родзічаў жонкі. Што датычыць зім, то Гараўскі праводзіць іх у Пецярбургу, дзе выкладае жывапіс у Вышэйшай мастацкай школе пры Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

У 1860-м 27-гадовы Апалінарый Гіляравіч, жывучы ў сястры ў вёсцы Брадзец (сучаснага Бярэзінскага раёна), стварае цудоўны пейзаж «На радзіме». Траццякоў і яго набывае для сваёй галерэі. Можна дадаць, што гэта лепшы твор жывапісца, у якім знайшоў адбітак «роздум над лёсам радзімы».

Нягледзячы на поспехі, якія ўжо дасягнуты Апалінарыем Гіляравічам у пейзажным і партрэтным жывапісе ў 1860-я гады, ён адчувае матэрыяльную нястачу. Яшчэ ў 1860-м мастак падае рапарт у савет Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, у якім просіць прадоўжыць пенсіянерства на тры гады. Просьба адхіляецца. Тады Апалінарый Гіляравіч спрабуе дамагчыся ад акадэміі дазволу працягваць адукацыю ў межах Расійскай імперыі. Паміж ім і акадэміяй вядзецца доўгая перапіска — і ў 1869 годзе савет акадэміі пастанаўляе: «Дазволіць акадэміку Гараўскаму падарожжа па Расіі для заканчэння сваёй адукацыі і напісання карцін з народнага побыту тэрмінам на тры гады, выдзяліўшы яму на ўтрыманне па 300 рублёў на год».

Апалінарый Гіляравіч зноў з натхненнем бярэцца за працу. Ён едзе ва Украіну і ў найбольш глухія мясціны Беларусі. Вынікам гэтага з'яўляецца серыя партрэтаў і пейзажаў. Лепшыя з іх ствараюцца ў ваколіцах ракі Бярэзіны.

У 1870 годзе мастак пачынае працу над карцінай «Балота»: выязджае ў забалочаныя месцы Мінскай губерні, каб «зняць» эцюды з натуры. Але раптоўная хвароба — рэўматызм — прыкоўвае яго да ложка.

**Месца для напісання «дыплома» Гараўскі выбірае невыпадковае: у гэты час сюды, у Пскоўскую губерню, перасяляецца палкоўнік Бенуа, і Апалінарый часта да яго наведваецца**



*«Пейзаж з ракой і дарогай» (1853).*

Знаходзячыся ў цяжкім стане, Апалінарый Гіляравіч піша ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў са станцыі Свіслач Бабруйскага павета: «Путешествуя с ранней весны, я занимался съёмкой этюдов с натуры из русской природы и изучением коров, телят, овец и типичных фигур, чтобы соединить пейзажный род с фигурами и животными. И в июле месяце, писавши с натуры весьма характерные "Пинские болота", от сырой почвы, зелени и тамошнего воздуха незаметным образом получил лихорадку и ревматизм в правой ноге. Так что принужден был оставить начатую работу и, вылечившись, опять занялся новыми материалами, поэтому и отстал от задуманного мной дела, которое при здоровье постараюсь всеми силами вознаградить. И тогда буду иметь честь и удовольствие представить Вашему превосходительству и совету Академии художеств труды свои на благоусмотрение, а в настоящее время буду заниматься до тех пор, пока холод не прогонит меня». Упарты і чэсны.

З пейзажаў, створаных ім у пачатку 1870-х гадоў, найбольш цікавы «Вечар у Мінскай губерні». Матыў просты: на пярэднім плане — невялікі ручаёк. Яго перасякае дарога. У аддаленні бачны абрысы населенага пункта. На другім плане — пара магутных дубоў. На дарозе — постаці людзей з сабакам (ідуць у горад). Сухавата, зашмат «чарнаты». Толькі ў канцы жыцця гэта «чарната» знікне з яго жывапісу. Пра гэта будуць сведчыць пейзажы, напісаныя ў 1897 годзе ў маёнтку Зачарэнне і іншых месцах Беларусі і Пскоўскай губерні. Створанае ў Зачарэнні экспануецца сёння ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

У 1870-х гадах паралельна з пейзажамі мастак зноў стварае шмат партрэтаў: рэктара Пецярбургскай акадэміі мастацтваў жывапісца Бруні, кампазітараў Глінкі і Даргамыжскага (па фатаграфіях, якія раней знаходзіліся ў Траццякоўскай галерэі), мітрапаліта Галавінскага, графа Шарамецьева... А ў 1888 годзе на акадэмічнай выстаў-

цы з’яўляецца партрэт «Селянін», пра які пецярбургская газета «Навіны» піша наступнае: «Академик Горавский выставил всего лишь одного “Крестьянина”, но зато такого интересного, что он мог бы показывать себя за деньги, именно “столетнего”». Праз год мастак — што б вы думалі — паведамляе Траццякову: «...У вёсцы напісаў партрэт стагадовага селяніна, які паказаў на выстаўцы... Тыпаж і каларыт карціны атрымаліся нядрэнна». Вось так сціпла.

У гэты час у творчасці Гараўскага назіраюцца істотныя змены. Ад скрупулёзнага капіравання натуры мастак пераходзіць да больш шырокага, абагульненага пісьма, імкнецца перадаць не толькі падабенства, але і эмацыянальны настрой, які адпаведным чынам уплывае на каларыт і кампазіцыю карціны. У адным з апошніх пісем Траццякову ён паведамляе наступнае: «Написал 20 этюдов, бил преимущественно не на детальность, а на верность момента солнечного и колорита».

Гэту асаблівасць творчасці жывапісца ў 1890-х гадах адзначала сучасная яму мастацкая крытыка. Ацэньваючы карціны Гараўскага «Восень» і «Час жніва», якія былі выстаўлены на акадэмічнай выстаўцы ў 1890-м, «Пецярбургская газета» напісала: «Есть много вещей, на которые смотришь с удовольствием. Так, например, господина Горавского “Осень” — столько правды в красках, что даже неоконченность письма и плосковатость в рисунке не могут сгладить общего впечатления». Так, пачаўшы сваю творчасць як заўзяты прыхільнік акадэмічнага жывапісу, Гараўскі ў канцы жыцця прыйшоў да рэалізму.

Апошнія гады Апалінарый Гіляравіч правёў у сваім невялікім маёнтку Кірылавічы каля станцыі Белае былой Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі. У многіх пісьмах да Траццякова і іншых асоб Гараўскі вельмі часта ўжываў беларускія словы і выразы. Гэта сведчыць, што ў побыце і звычайным жыцці, сярод кола сваёй сям’і і сяброў ён карыстаўся беларускай мовай.

Памёр у 1900-м у вышэйназваным маёнтку Кірылавічы Пецярбургскай губерні. Вельмі шкада, што і сёння невядома, у які дакладна дзень якога месяца гэта адбылося.






**КАБ НЕ ЗНІКАЛІ**

Алесь Пісьмянкоў меў звычку казаць сябрам на развітанне: «Не знікай». Тым самым просячы не прападаць — ні з поля яго зроку, ні, увогуле, з палатна жыцця, якое, нягледзячы ні на якія складанасці, а часам, і наіўны прымітыў, сябе самога вартае. Гэта быў своеасаблівы наказ.

Паэт пайшоў з жыцця ў сорак сем... Яго радкі — не зніклі, не прапалі. Мы застаёмся вартымі жыцця. Ці не праз іх?..




**У ПРАЦЯГ...**

Расійскі крытык і літаратуразнаўца Валерый Дзяменцьеў зазначаў наступнае: «Его книга не может оставить равнодушным любителя поэзии, как не может оставить нас равнодушным всё истинное, неподдельное, талантливое...» Белы манах — гэта вобраз: прывід, які плыве над краем бездані — туды, адкуль ідзе святло надзеі. «Белый монах» — кніга паэзіі, сабраная яшчэ пры жыцці Міхаіла Стрыгалёва, і задуманая ім як працяг «Третьей стражи». Трохі балюча, але аптымістычна!

# УСЁ — ЯНА

***1 лютага споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння Анэлі Тулупавай. Успамінамі і думкамі з чытачамі «Маладосці» дзеліцца ўнучка паэткі Валерыя САРОТНІК.***

Калі б словы маглі прабіць у чалавечай галаве дзірку, мая даўно ўжо была б падобная да рэшата.

— Калі ты напішаш?! Калі ты напішаш?! — маці кожны дзень прабівае ў маёй галаве дзірку за дзіркай. А ў мяне няма слоў. Як тады, калі бабуля памерла, у мяне не стала слёз.

Я памятаю. Гэтак я зроблена, напэўна, што памятаю. Кожная рэч у руках абуджае памяць.

Вось гэты ручнік. Белы са светла-зялёным. Я памятаю, як, нашкодзіўшы, кожны раз атрымалівала добрага «дубца» гэтым самым ручніком. А вось кніга, якую мы чыталі разам. Дакладней, яна чытала, а я гуляла з лялькамі і слухала.

Усё, усё ў нашым доме — яна. Усе ўспаміны. Усё, што я маю, — дала яна: заклала, як насенне ў зямлю. Ці блага мне ад гэтага? Не. Ці лёгка? Таксама не.

Усё з нечага пачынаецца. І пачатак ніколі не позніцца — гэта яго асаблівасць.

Бывае, праўда, ён прыходзіць раней, чым чакалася. Зімой, пад самы Новы год.

Пачынаецца жыццё.

Людзі шмат што гавораць, больш за ўсё — прыцішана.

— Сурочылі, — ставіць «дыягназ» бабуля і паглядае на ваду, што кіпіць у чыгунку.

Маці танцавала на вяселлі ў родных. Прыгажуня, пявуня.

Роды пачаліся знянацку, раней, чым чакалася.

Пачатак ніколі не позніцца.

«Не сурочылі, — скажа яна са смехам праз шмат гадоў. — Проста ёй карцела з'явіцца на свет хутчэй».

Жыццё працягвае пачынацца. Першы раз у горадзе, дзе яна згубілася каля атэлье — ёй там шылі палітончык. Машыны, гул, скрыгат. Вуліца праз пруткі балкона.

І новы пачатак — па пакоі лётаюць лісткі бацькавага рукапісу. Рэчыцу бамбілі. Вайна.

Яна зусім не любіць расказваць пра вайну, і нават цяпер амаль плача, спрабуючы запісаць колькі слоў пра той час. Мабыць, гэтых слоў няма ўжо, яны ўсе засталіся ў вершах — як рыба ў сетцы.

Былі словы іншыя, але гэта таксама іншая гісторыя.

А пакуль — дзеці гуляюць у «каравай». За ракой ірвуцца снарады. Немцы палююць на бацьку, які пайшоў да партызан, і гразяцца забіць яе, трохгадовую дзяўчынку. Кідаюць на калодку, дзе з раніцы seклі пеўня.

Нешта тахкае ў грудзях. Яна ў першы раз адчула, дзе яно, сэрца.

Мабыць, шчаслівы той чалавек, хто можа выбраць сабе месца для жыцця і працы, сыходзячы з яго назвы. Арэхаўка. Яна заўсёды любіла арэхі. Хто ведае, мо іх там будзе шмат?

Ізноў пачатак — валейбольны мяч прыкаціўся да ног, калі ішла з працы. Каму крышталёвыя чаравічкі, а каму — мяч. І прынц неспадзеўкі.

Прызвычаіцца, адказаць і… пакахаць? Цяпер ужо і не скажаш, не выпутаеш з глыбіняў памяці — гэта тым, хто навокал. А што ў душы… ведае толькі яна.

Вяселле. Няма грошай. Цаліна, расстанне. Лісты-лісты-лісты.

Ох, як яна не любіць іх захоўваць. Усё жыццё яна ірве іх, бязлітасна, не зважаючы на тое, што гэта памяць. Гэтак лепей, мабыць, — выпадковы ліст не паласне, нібы лязом, па старой ране і не прымусіць плакаць у светлы дзень.

Але нешта з пісьмаў яна ўсё роўна беражэ. Потым яны знойдуцца, зайграюць новымі колерамі. Але гэта ізноў — гісторыя зусім для іншага часу.

Маленькія дзеткі — вялікія бедкі.

Нованароджаная дачка часта хварэе. Ёй страшна рабіць уколы ўласнаму дзіцяці. Да таго ж, малая заўсёды плача. Плача і плача. І хто зразумее, ад чаго? І гэта робіцца невыносным.

Жыццё ў сям'і — як і заўжды: спрэчкі і клопаты, сваркі і прымірэнні, будні і святы. З дробязей складаецца мазаіка.

Да таго моманту, калі спатрэбіцца зрушыць ледавік з месца, разбудзіць марэну. І змяніць усё. Яна едзе ў горад. Адна. У пустэчу з усіх пунктаў гледжання. Непамыслота.

Усё аднойчы пачынаецца. Тады ўсё пачыналася. Зноў.

Яна знайшла працу адразу ў трох месцах.

Забрала мужа с дачкой да сябе. Новы пачатак. Новае жыццё, і ўсюды сябры. Сябраваць, знаходзіць «сваіх» па сэрцы і душы, быць усім для ўсіх — гэта ў яе атрымліваецца лёгка і радасна. Студэнты ходзяць да яе адным вясёлым натоўпам. Многія застаюцца сябрамі назаўжды, іншыя знікаюць.

Як бы тое ні было, яна не магла не дапамагаць. Вайна помнілася. Яна часта ўзгадвала тыя дні, пасляваенных людзей і іх дзіўную дабрыню. Яна сама стала такой — у адказ. І дапамагала, не чакаючы, калі папросяць, а калі адчувала, што дапамога неабходная.

Боль. Яго многа. Яго занадта многа, з самага дзяцінства — і на працы, і ў жыцці, навокал. Свой боль, чужы. Мабыць, гэта крыж такі — браць частку чужога болю на сябе?.. Мабыць, гэта наканавана з дзяцінства, з вайны і яе жахаў. З таго дзяцінства, якога не было?..

Боль заўсёды быў з ёю. На кожным пачатку. І да самага канца, але ж гэта зноў іншая гісторыя.

— Мама, ты каралева прыгажосці!

Дачка глядзіць, як яна робіць прычоску. Яна пасміхаецца.

Яна многа піша апошнім часам. Не так даўно выйшла кніжка. Вершы.



Яна «не чыста паэтка», як будзе смяяцца сама потым. Яна піша і прозу, якую не спяшаюцца прапускаць толькі таму, што «жанчына не можа пісаць пра вайну». Праз шмат гадоў аповесць надрукуюць, нарэшце. А цяпер пачаткі ідуць адзін за адным. Кнігі, зборнікі, пераклады. Дачка, яе вучоба, выпускны баль, ВНУ.

І Мінск. Нарэшце.

Унучка нараджаецца амаль пад самы юбілей, як падарунак.

І гэты падарунак дорага каштуе ўсёй сям'і. Дзіця расце і бясконца хварэе.

Яна кожную ноч трымае хворую ўнучку на руках — кашаль не дае дзіцяці спаць. Яна вызваляе дачку — сама сядзіць усю ноч, пакуль дзіця не засынае, і тады пачынае прыдрэмваць сама.

Дзяўчынка гуляецца ў словы і чамусьці называе сябе Сэнса. Яна расказвае малой казкі. Чытае кніжкі. Гуляе з ёю, прыдумляе — зайца Коську, шмат чаго іншага.

Унучка называе яе «бабутка» і нікуды не хоча адпускаць…

Тады выходзіць яе апошняя — на той час, ва ўсялякім выпадку, — кніжка.

Тады прыходзіць бяда.

І новы, жорсткі пачатак.

Яна робіць першыя крокі ў храме. Збірае кнігі. Чытае, прагна, з бясконцай любоўю. Едзе ў паломніцтвы, прывозіць іконы, думкі, гісторыі — шчымлівыя і жахлівыя. Вязе па Беларусі Жыватворны Агонь. Малая слухае яе заўсёды, і нават калі не ўсё разумее, упэўнена: проста слухаць бабулю — цікава само па сабе.

Яна шукала ўсё жыцце, яна гаварыла пра гэта — вершамі. Але мала хто гэта чуў. І, вядома, ніхто не адказваў.

Чатырохгадовая ўнучка поўзае па падлозе кухні, спрабуючы сабраць аскепкі. Не так даўно гэта быў кубачак з бабулінага сервіза.

І плача. Таму што ёй сорамна.

Дзесьці пісалі пра мядзведзіху, якая, стукнуўшы лапай гарэзу-медзведзяня, адразу прыціснула яго да сябе: маўляў, ох і адлупіць бы цябе, але ж люблю. Гэтак і ў яе з унучкай. Кубачак — гэта не так важна. Аднойчы, сама не ведаючы, яна навучыла дзяўчынку прасіць прабачэння. І ведаць, калі ты вінаваты сапраўды, таксама.

Унучка не хоча, каб яна ад’язджала кудынебудзь з дому. Яна баіцца без яе. Дачка, напэўна, крыўдзіцца за гэта, але што зробіш...

Паміж імі заўсёды ёсць словы, і гульні ў словы, і кніжкі. І птушка Рух, пра якую яна напісала верш. Як яны смяяліся, калі прачыталі ў адной казцы, што птушка Рух магла за адзін раз з’есці слана, а ў яе вершы садзілася на тонкую галінку вішні. Да таго ж, у яе птушка Рух называлася «птушкай душы». Душа ў яе, напэўна, і была вялікай. Сям’я лічыць так.

Малая вучыць вершы, піша сачыненні. Яна здзіўляецца і абураецца: гэткае яны вучылі толькі ва ўніверсітэце. Фанетыка — не для пятага класа. А ў шостым, мабыць, у школе будзе нямецкі. Дзядуля дамапожа — дамаўляюцца яны.

Амаль праз год яна спрабуе паразмаўляць з унучкай пра смерць і пра тое, што ёй жыць засталося няшмат. Дзяўчынка ўсё добра разумее. Не хоча верыць, але — разумее. А потым звініць тэлефон. Яны разам, не згаворваючыся, бягуць да яго.

Дзядуля памёр у бальніцы.

Цяжкая хвароба — крыж для ўсёй сям’і і спроба зрабіць людзей больш сталымі. Гэта разумееш апасля, калі ёсць час і моц азірнуцца.

Калі такое здараецца, табе застаецца пустэча. І без адзінай слязінкі.

Яна жыве яшчэ даволі доўга. І — цяжка. І ты сціскаеш зубы, каб не адчуваць чужы боль, бо гэтак можна проста страціць розум.

І вось — пустэча. Слёз — няма. Яны згубіліся на шляху ў гэты дзень.

У цябе няма слёз.

У *мяне* няма слёз.

Гэта ўсё ты, бабуля. Што яшчэ я магу пра цябе сказаць? Апошні час я занадта часта бачу цябе не сваімі вачамі — вачамі маці, тваіх сябровак, тваіх родных…

І кожны раз меня цягне с табою спрачацца. Чаму «Гарывада» скончылася так? Дзеля чаго ўсё гэта? Бачыш, я не люблю такія рэчы… Так, я люблю сталую Веру, але ці магу я крыўдзіцца на тое, што ты не паспела? На тое, што мы — такія розныя, і што я проста не магу адчуваць і бачыць усё тое, што ты, гэтак, як ты? Я адчуваю час ад часу частку цябе ўва мне — і мне хочацца плакаць ад гэтага.

Не ведаю.

Ну, бачыш, бачыш, чым я стала? Я пакуль не магу, як ты, у вершах сказаць: «*я люблю вас, людзі*». Не магу, і мне сорамна прызнацца ў гэтым табе нават цяпер. Што я зусім не такая, якой ты хацела, каб я была.

Вось, дзесяць год таму я знайшла вашы з дзедам лісты, тыя, што вы пісалі адно аднаму незадоўга да вяселля і пасля яго. Я нібы зноў адкрыла цябе, убачыла іншага чалавека, і гэтае адкрыццё сталася, хоць пафасна гучыць, натхненнем жыць далей, у самы чорны і невясёлы час майго тады чатырнаццацігадовага існавання. Дзякуючы табе я маю тое, што маю.

І цяпер я проста кажу: дзякуй. Дзякуй табе, бабуля. Дзякуй. Не крыўдуй, калі ласка, калі нешта не так. Мне вельмі не хапае цябе сёння. Мне ўжо дванаццаць год не хапае цябе. 

# ВАЙНА І МІР ШЧАМЯЛЁВА

***Пачцівы ўзрост і аптымістычная іскрынка ў маладжавых вачах. Класік айчыннага жывапісу Леанід Шчамялёў 5 лютага сустрэў свой дзевяносты дзень нараджэння.***

***Прапануем некаторыя развагі Леаніда Шчамялёва пра мастацтва, занатаваныя падчас яго нефармальнай гутаркі з прадстаўнікамі айчыннай культуры. Тая сустрэча ладзілася ў майстэрні мастака тры з паловай гады таму, калі ён быў вылучаны на атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва. Расшыфраваныя запісы, якія раней не друкаваліся, — яшчэ адзін адметны штрых да партрэта шаноўнага творцы.***

## ДА ХЛЕБА І МАСЛА АБАВЯЗКОВА ПАТРЭБНА МАСТАЦТВА

«Мастацтва павінна быць з чалавекам заўсёды і адыгрываць актыўную ролю ў жыцці. А ў нашым грамадстве гэтага мала. І меркаванняў пра мастацтва ў нас не стае. Было калісьці кола людзей, якія хадзілі на выстаўкі не толькі ў дзень іх адкрыцця. А цяпер — няма. Непрывучаныя. Многія не разумеюць сэнсу такіх паходаў, шкадуюць часу. Маўляў, штодня клопатаў хапае, а тут яшчэ мастацтва. А яно ж паўсюль, і рознай вартасці. Калі я бачу па тэлевізары, як вядомы палітычны дзеяч суседняй дзяржавы



Было калісьці кола людзей, якія хадзілі на выстаўкі не толькі ў дзень іх адкрыцця. А цяпер — няма. Непрывучаныя выступае ў сваёй рэзідэнцыі на фоне прымітыўнай карцінкі, дык гэта зніжае маё агульнае ўражанне... Зразумела, выяўленчая творчасць ніколі не памірала і не памрэ, пакуль ёсць людзі. Але нармальны, паўнавартасны чалавек мусіць ведаць, у чым каштоўнасці мастацтва, і ўмець разбірацца. У кожнай нашай агульнаадукацыйнай школе павінен быць педагог-мастак, але ж такога няма. Адпаведным чынам выхоўваць звычайнага вучня трэба не дзеля таго, каб ён стаў мастаком, а каб мог разумець мастацтва».

### РАЗВІЦЦЁ МАСТАКА І РАЗВІЦЦЁ ЧАЛАВЕКА — РЭЧЫ РОЗНЫЯ

«Калі я ўбачу чалавека, над партрэтам якога мяркую працаваць, дык адразу не пішу яго. Я прывыкаю. І калі, звыкшыся, адчую штосьці сугучнае, я пішу, і гэта ўрэшце атрымліваецца цікавым для мяне. Хаця не заўсёды тое, што я раблю, падабаецца тым, хто разглядае гатовы партрэт, бо ёсць розніца між бачаннем мастака і звычайнага чалавека. Наогул, эстэтычнае развіццё мастака і развіццё чалавека, прафесійна не звязанага з творчасцю, — розніца вялікая. Сама эстэтыка як навука пра прыгажосць і вытанчанасць прайшла вельмі доўгае развіццё. Здавалася б, я ўсё жыццё, пачынаючы з 1947 года, калі паступіў у мастацкае вучылішча, развіваюся як прафесіянал. Але сказаць, што я ўсё ведаю пра эстэтыку адчуванняў жывапісу, будзе не зусім правільна».

### У АКАДЭМІІ МАСТАЦТВАЎ Я НЕ ВЫКЛАДАЮ

«У мяне ладзяцца адносіны з маладымі мастакамі, яны добра ставяцца да мяне, прыходзяць на выстаўкі, наведваюцца ў майстэрню. А ў Акадэміі мастацтваў я не выкладаю. І не таму, што не хачу. Я даўно хацеў там выкладаць, але так сталася, што гэтага не захацелі ў самім педагагічным асяроддзі... Мне падабаецца многае з таго, што апошнім часам адбываецца ў беларускім мастацтве, але, здаецца, трошку ёсць паслабленне ў адносінах да яго крытэрыяў. Дай Бог, каб у нашай творчасці заўжды развівалася імкненне да тэм адухоўленых. Мастак і чалавек, мастак і час, мастак і значэнне гэтага часу — калі творца выяўляе сябе праз асэнсаванне такіх паняццяў, дык будзе, напэўна, заўважаны».

### ЛЮБОЎ МАСТАКА ДА СВАІХ РАБОТ НЕПАСЛЯДОЎНАЯ

«Вось я даражу нейкай сваёй карцінай. Праходзіць дзень, два, чатыры, месяц, год — і я іншы, і маё стаўленне іншае. Калі б чалавек штосьці зрабіў, і яму гэта спадабалася б, і ён лічыў бы зробленае найвышэйшым дасягненнем і спыніўся на тым, дык скончылася б яго жыццё. А калі ён працуе, думае, разважае, дык мяняецца яго погляд на каштоўнасць зробленага ім. Зрабіўшы адну работу гожую, усё жыццё маліцца на яе — так не павінна быць. Праўда, былі мастакі, якія пасля адной геніяльнай работы так больш нічым не ўразілі. Атрымаўся выбух, пачалося ўсхваленне куміра — і ўсё абрынулася, як у апошні дзень Пампеі. Але ў нас калегі не надта хваляць адно аднаго...»

### З ТЭМАЙ ВАЙНЫ, МОЖА, І ПЕРАБАРШЧЫЛІ

«Цяпер да тэмы вайны я звяртаюся толькі апасродкавана. За ўсе пасляваенныя гады столькі зроблена ў нас карцін пра Вялікую Айчынную, што, можа, і перабаршчылі, і пайшлі паўторы, а паўтор не ўплывае на развіццё мастацтва. Ёсць жыццё, ёсць смерць. І ёсць людзі — прыгожыя людзі вакол нас, і іх жыццё не менш важнае, чым вайна. І калі мастак гэта разумее, ён робіць тое, што яго насамрэч хвалюе. Мне цікавы чалавек».

*Падрыхтавала Святлана БЕРАСЦЕНЬ,*
*фота Віктара КАВАЛЁВА*

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# НЕФАРМАТ — ГЭТА ГУЧЫЦЬ ГОДНА!

***Такая музыка сёння ў эфіры госця. Папулярныя радыёхвалі, прайм-тайм на тэлеканалах — не для яе: фармат, кажуць, не той. Класіка ў статусе выгнанніцы... Нонсенс! Яна ж вечная. Універсальная мова міжнародных стасункаў.***

У кожным новым пакаленні яна знаходзіць прыхільнікаў, захапляючы містычнай вобразнасцю і падсілкоўваючы мудрасцю, наталяючы эмоцыямі, стымулюючы да творчасці, настройваючы на інтэлектуальную працу. І нездарма сярод асветніцкіх праграм Беларускай дзяржаўнай філармоніі з'явіліся канцэрты пад рубрыкай «Класіка — гэта класна!»

Для таго, хто і слухаць не будзе, — нефармат. Для таго, хто захоча пачуць, — эксклюзіў.

Такой музыцы прысвячаюць жыцці прафесіяналы, далучаныя да сусветнай класікі, сучасных кампазітарскіх школ, традыцыйнага фальклору, акадэмічнага выканальніцтва, педагогікі, асветніцтва. Высокія спецыялісты. Індывідуальнасці. Тонкія натуры. Адмысловыя характары. Ідэалісты. Рамантыкі. Ды прытым — рэдкасныя патрыёты! Будучыня духоўна-эстэтычных набыткаў народа трывожыць іх, як уласны лёс. Менавіта яны занепакоены праблемамі захавання, развіцця, прапаганды і пераемнасці непаўторных традыцый ва ўмовах масавага распаўсюджвання стэрэатыпаў камерцыялізаванага эрзацу.

**Колькі ні прыгадвай, ні пералічвай, атрымаюцца толькі схематычныя контуры. Не заўсёды яна кідкая, не выстаўлена напаказ — дзейнаць суполкі музыкантаў**



*Рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Кацярына Дулава ўручае старшыні праўлення БСМД, прафесару Міхасю Дрынеўскаму нагрудны знак акадэміі.*

Яны шукаюць магчымасці папулярызаваць сярод землякоў узоры гуманітарных каштоўнасцей. А творчае супольніцтва, у якім аб'ядналіся лепшыя прадстаўнікі музычных прафесій, зарэкамендавала сябе як значная і прагрэсіўная сіла ў развіцці айчыннага мастацтва.

Такім чынам Беларускі саюз музычных дзеячаў, створаны чвэрць стагоддзя таму, — гэта амаль паўтары тысячы «адзінаверцаў». Каля паловы з іх — лаўрэаты і дыпламанты розных конкурсаў, 89 адзначаны ганаровымі званнямі, многія маюць іншыя высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Пярвічныя суполкі саюза ёсць у Нацыянальным акадэмічным народным хоры імя Генадзя Цітовіча, Нацыянальным акадэмічным народным аркестры імя Іосіфа Жыновіча, Вялікім тэатры оперы і балета, у сталічнай філармоніі, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, БДУ культуры і мастацтваў — практычна ва ўсіх творчых і навучальных установах, дзе працуюць прафесійныя музыканты.



*Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення БСМД, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, кампазітар, прафесар Віктар Войцік і створаны ім ансамбль Juvenile Bel Trio.*



*Музыканты канцэртнага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі — удзельнікі імпрэз БСМД.*

Саюз развіваецца як адмысловая структура: дзейнічае ўжо дзесяць спецыялізаваных асацыяцый, дзевяць творчых калектываў, два прадзюсарскія цэнтры. І ўсе падраздзяленні БСМД унікальныя і важныя, бо за кожным — жывыя справы, здзейсненыя праекты, што дадаюць разнастайнасці, змястоўнасці, непаўторнасці ў партытуру будняў.

Як шкада, што музычныя імпрэзы, па сутнасці, не падлягаюць дакладнаму пераказу і не паддаюцца слоўным апісанням. Нават калі і суправаджаюцца візуальнымі эфектамі. Тут чытачу лепей адзін раз пачуць. На ўласныя вушы. Або…

Або настолькі мабілізаваць сваю фантазію і досвед, каб за чарадою аўтарскіх разваг, пералічаных фактаў, назваў і прозвішчаў проста ўявіць — з'яву, падзею, эмоцыю, асобу. Уявіць, напрыклад, як працуе Асацыяцыя беларускіх дамрыстаў і мандалістаў (яе ўзначальваюць ганаровы старшыня Галіна Асмалоўская і старшыня Мікалай Марэцкі — віртуозныя артысты, педагогі), адраджаючы ў айчыннай музычнай практыцы старадаўнюю мандаліну. Інструмент, некалі шырока распаўсюджаны ў Беларусі, а ў перыяд барацьбы з «ідэалагічна шкоднымі ўплывамі» выдалены з нашай культуры, зноў пачувае сябе валадаром канцэртнай сцэны і кумірам перапоўненай залы. Так бывае падчас дэкад народна-інструментальнага мастацтва «Славянскі вянок» і Дзён мандалінна-гітарнай музыкі «Mandalinissimo». Асацыяцыя беларускіх цымбалістаў пад кіраўніцтвам свайго лідара Яўгена Гладкова, якая аб'ядноўвае каля 400 чалавек (ці не ўсіх нашых прадстаўнікоў гэтай спецыяльнасці), годна прапагандуе на міжнародных форумах нацыянальную выканальніцкую школу як адну з лепшых у свеце. Цяпер уявіце, у якое феерычнае свята ператвараецца «фірмовы» рэспубліканскі фэст з удзелам юных канкурсантаў — «Срэбны звон цымбал»! А што скажаце пра маштабныя праекты Асацыяцыі кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў (сустаршыні Анатоль Варлахін, Юрый Казакевіч, Павел Шэпелеў)? Пра канцэрты-прэзентацыі, дабрачынныя імпрэзы Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў, на чале якой прафесар Мікалай Сеўрукоў?

## Для таго, хто і слухаць не будзе, — нефармат. Для таго, хто захоча пачуць, — эксклюзіў

Самы звычайны чалавек, трапіўшы ў «поле ўплыву» БСМД, неаднойчы пераконваўся, што ў кожным падраздзяленні саюза ёсць пэўныя прафесійныя задачы і сур'ёзная тактыка для іх вырашэння. І няма тут каставай замкнёнасці. Вось і творчая дзейнасць Беларускай перкусійнай асацыяцыі (старшыня — бліскучы знаўца сямейства ўдарных, музыкант-мультыінструменталіст Уладзімір Судноўскі) скіравана да самай дэмакратычнай публікі. Чаго варты той ажыятаж, які выклікалі «Дні барабанаў і пер-



*Старшыня Асацыяцыі беларускіх майстроў музычных інструментаў БСМД Віктар Кульпін.*



*Канцэртны хор хлопчыкаў БСМД.*

**Наталля ВІТЧАНКА, першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў:**

***— Усіх паяднаных у саюз, такіх розных асоб, збліжае не толькі (ды, можа, і не столькі) жаданне прапагандаваць сваё майстэрства і пашыраць кола замежных прыхільнікаў. Збліжае найперш вялікае імкненне процістаяць бязглуздаму перанясенню ідэй рынку ў сферу ўнікальнага музычнага мастацтва, выступаць за стварэнне ў нашым грамадстве такіх умоў, што спрыялі б росквіту нацыянальнай культуры і агульнай культуры людзей.***

**Рыгор САРОКА, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. Кл. Агінскага, старшыня Мінскага абласнога аддзялення БСМД:**

***— Час-почас мы задаём неспакойныя пытанні. Якая перспектыва чакае выхаванцаў музычных школ, сярэдніх і вышэйшых спецыяльных навучальных устаноў? Мы вучым дзяцей іграць Моцарта і Равеля, а дзеля чаго? Што будзе з імі потым: хіба высокае мастацтва запатрабавана нашым грамадствам? Мы крычым пра экалагічную небяспеку, устрывожаныя тым, што ўсюдыісны пластык засмечвае наваколле, змагаемся за чысціню асяроддзя, аднак прымаем як належнае, калі наша культурнае, духоўнае асяроддзе, тэлеэкраны і радыёэфір засмечваюцца, як шалупіннем ад семак, легкаважкім «прадуктам» эстрады. І ўсё ж... У Маладзечне нам удалося стварыць паўнавартасны оперны тэатр — калектыў маладзёжны, прафесійны, паспяховы. Пастаўлены ўжо чатыры класічныя оперы. У нашым невялікім горадзе яны ідуць з аншлагам! Гэта прынцыповае дасягненне: людзі пайшлі на нефармат!***



*Музыканты канцэртнага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі — удзельнікі імпрэз БСМД.*

кусіі ў Беларусі» ды марафоны выканаўцаў, зладкаваныя гэтай асацыяцыяй!

Варта ўспомніць пра ініцыятыву Канстанціна Яськова, пад чыім кіраўніцтвам у саюзе ўтварылася Асацыяцыя маладых беларускіх кампазітараў. Хаця ў прафесійных кампазітараў ёсць сваё грамадскае аб'яднанне, адно са старэйшых у краіне, актывісты новага пакалення звярнуліся менавіта ў БСМД. Прыйшлі са сваёй актуальнай і перспектыўнай праграмай, скіраванай на прапаганду ў Беларусі і за мяжой набыткаў нашай моладзі ў сферы сучаснай акадэмічнай музыкі...

Моладзь наогул хінецца да гэтага саюза. Студэнты, выпускнікі творчых навучальных устаноў, школьнікі ўдзельнічаюць у асветніцкіх і дабрачынных праграмах, семінарах і майстар-класах, музычных святах, выканальніцкіх конкурсах. Побач — старэйшыны саюза: мудрыя, крэатыўныя, энергічныя, легендарныя. Без іх шмат чаго проста не было б. Прыкладам таму — міжнародны фестываль класічнага мастацтва «Студзеньскія музычныя вечары». Чулі пра такі? Яго арганізуе ў Брэсце ветэран БСМД Лілія Батырава. Кожную зіму. На працягу чвэрці стагоддзя. І практычна без памочнікаў. Ці шматлікія праекты некамерцыйнага прадзюсарскага цэнтра «Класіка», які на грамадскіх асновах узначальвае Валерый Уколаў, колішні філарманічны супрацоўнік з велізарным практычным досведам. Дзякуючы яму адбыліся дзясяткі юбілейных і мемарыяльных праграм, дабрачынных творчых акцый, вечарын у падтрымку музыкантаў-ветэранаў ды іх таленавітых паслядоўнікаў, высокамастацкіх канцэртаў, у тым ліку міжнароднага ўзроўню.

Зрэшты, колькі ні прыгадвай, ні пералічвай, атрымаюцца толькі схематычныя контуры. Не заўсёды яна кідкая, не выстаўлена напаказ — дзейнаць суполкі музыкантаў. Пра многія добрыя справы БСМД гаварылася на нядаўнім пашыраным пленуме яго праўлення, які прысвячаўся 25-годдзю сябрыны. Першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі проста прызнаўся: «Прыемна бачыць разам столькі ўнікальных таленавітых асоб — эліту нацыянальнага мастацтва краіны. Не многія з нашых творчых арганізацый працуюць так, як Беларускі саюз музычных дзеячаў. А ён працуе дружна, самадастаткова і не толькі не стварае праблем Міністэрству культуры, але і дапамагае нам». Нязменны старшыня праўлення саюза, народны артыст Беларусі, прафесар Міхась Дрынеўскі, завяршаючы сваё юбілейнае выступленне, падкрэсліў: «Нас чакае вялікая праца. І сутнацю ўсёй нашай дзейнасці будзе, як заўжды, удзел у захаванні ды ўзбагачэнні нацыянальнай музычнай культуры як арыгінальнай, самабытнай гістарычнай з'явы культуры сусветнай. Спатрэбяцца больш актыўныя дзеянні па пераадоленні адчужэння нашага сучасніка ад акадэмічнай музыкі, па далучэнні яго да агульначалавечых каштоўнасцей. Чакаюць ажыццяўлення многія цікавыя творчыя ініцыятывы і прапановы. Ды Беларускі саюз музычных дзеячаў, выявіўшы за 25 гадоў вялікі творчы і арганізацыйны патэнцыял, верыць у свае агромністыя магчымасці і ў будучыню».



***Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ і Святланы БЕРАСЦЕНЬ***

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# КРОПЛЯ ЖЫВІЦЫ. ДЛЯ ДУШЫ

***Я прынесла дадому кроплю жывіцы. Потым чакала, пакуль аціхне ў доме будзённы тлум і на мяжы ўжо новага дня надыдзе хвіліна светлай паўночнай самоты. Нарэшце ўсе спяць. Нішто не адцягвае ўвагу, не замінае дзівіцца на гэты цуд — кроплю жывіцы. Вызваляю яе з-пад вечка футарала, кладу на далонь. Перадаю кроплю жывіцы — дакладней, «Кроплю жывіцы», танюткі дыск з выявaю смаляной слязінкі на шурпатай кары меднастволай хвоі, — сваёй разумнай машыне. І ціха гучыць песня.***

Вы ведаеце, што ў Вілейцы жыве творца-ўніверсал, аўтар і выканаўца песень Уладзімір Цанунін? А ў Нясвіжы — цёзка вялікага класіка XX стагоддзя Сяргей Пракоф'еў, кампазітар-аматар і паэт? Я ведаю, што Яўген Карпуць са Стоўбцаў напісаў «Калядны вальс»; што верш Зінаіды Гасціловіч з Валожына стаў песняй праз музыку Дзмітрыя Краскоўскага з Івянца; што Валянцін Каваліў з вёскі Трубянок Смалявіцкага раёна — адметны меладыст; што пранікнёную дзявочую песню, якая раз-пораз гучыць на хвалі радыёстанцыі «Сталіца», склала і выканала Таццяна Атрошанка з Маладзечна. І што ва ўдзельнікаў клуба ёсць адна на ўсіх «Кропля жывіцы»: агульная песня, створаная ў садружнасці паэтэсы Ліліі Мялешкі з Клецка і аўтара музыкі Алега Петкуна з Дзяржынска.

Прадстаўнікі гэтай стракатай сям'і ёсць цяпер у кожным раёне. Бібліятэкары, медыкі, школьныя настаўнікі, будаўнікі, электрамантажнікі, супрацоўнікі швейнага прадпрыемства і падатковай інспекцыі, сямігадовыя вундэркінды, школьнікі выпускных класаў, пенсіянеры, якія даўно размянялі восьмы дзясятак... Клуб аб'ядноўвае амаль 170 кампазітараў і паэтаў Міншчыны. У 2006 годзе рашэннем калегіі Міністэрства культуры Беларусі яму было нададзена званне «народны».

Да 2002 года «Жывіцы» проста не было. І ніякіх аб'яднанняў-папярэднікаў не існавала. І нават Ірына Карнавухава, кіраўніца ды ініцыятар стварэння клуба, не адчувала ў сабе ні памкненняў творчага лідара, ні арганізатарскіх схільнасцей. Што да ўласнай творчасці... Перыяд рамантычнага падлеткавага рыфмаскладання яе абмінуў. Ірына Аляксандраўна прызнаецца, што ў маладосці захаплялася чытаннем вершаў, а пісаць іх сама пачала пазнавата: «Гэта былі нейкія пажаданні ў віншавальных паштоўках, сяброўскія эпіграмы для капуснікаў з нагоды дзён нараджэння калег-настаўнікаў. Калі ж выраслі два мае сыны і з'ехалі далёка, паступіўшы вучыцца, я не магла пазбавіцца адчування пустэчы. Пакуль не пачала пісаць».

Сур'ёзнае захапленне — новыя праблемы: «Не хапала староннята меркавання пра тое, чым я пачала займацца. Ці тое раблю, ці трэба гэта каму-небудзь? Хацелася, каб нехта пачытаў. Каб знайшліся аднадумцы. А паколькі жыву я ў Мінскім раёне, дык прыйшла са сваімі пытаннямі ў раённы цэнтр культуры. Мне параілі звярнуцца ў абласны цэнтр народнай творчасці. Там выслухалі, сказалі: няма ў нас такіх клубаў. Вось, маўляў, прыходзьце да нас працаваць і самі арганізоўвайце. Я нават не ўспрыняла прапанову. А потым падумала: мабыць, менавіта гэтак і трэба зрабіць. З дапамогай анкеты, разасланай па раёнах, Ірына Карнавухава выявіла нямала людзей розных прафесій, якія ў вольны час пішуць вершы і песні.

Натура далікатная, схільная «хавацца ў цень», без вопыту працы ў сферы культуры і арганізатарскіх стасункаў у асяроддзі дарослых людзей, яна мусіла гартаваць у сабе кіраўнiка: упэўненага, дзелавітага, актыўнага, настойлівага.









«Я вельмі рада, што людзі паверылі ў мяне і ў сябе. Мы шчыра падтрымліваем адно аднаго. Незласлівая ўзаемная крытыка, што ладзіцца пад рубрыкай "Сам сабе рэдактар", сустрэчы з прафесіяналамі спрыяюць развіццю талентаў».

Дня не хопіць, каб паглядзець калекцыю фотаздымкаў з імпрэз і пасяджэнняў «Жывіцы». Вось выступленне ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне падчас абласнога фестывалю гумару «Я — пякучка Крапіва». Вось у Слуцку на «Дажынках». У Маладзечне, дзе праходзіла новая духоўна-асветніцкая акцыя клуба «Калядныя званы»: для ўсіх ахвотных там ладзіліся майстар-класы званароў, кампазітары-аматары і паэты канцэрт паказалі, а некаторыя з іх паўдзельнічалі ў конкурсе жывапісных і фотаработ, вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і... кулінарных штукарстваў. А гэта «Ракуцёўскае лета», «Каласавіны», Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. Серыя здымкаў нагадае пра сустрэчы з прафесійнымі літаратарамі, дзеячамі мастацтва. Сваімі кансультацыямі падтрымалі клуб Галіна Каржанеўская, Васіль Жуковіч, Юрась Нераток, Алена Легастаева, кампазітары Алена Атрашкевіч, Ларыса Мурашка, Валерый Карэтнікаў... Майстар-класы па сцэнічнай мове, праведзеныя актрысамі Раісай Астрадзінавай ды Ірынай Нарбекавай, спрыяльна паўплывалі на сцэнічны імідж, эстэтыку публічных выступленняў. Зрэшты, сёй-той з аматараў працуе не горш за некаторых профі: народны калектыў аўтарскай песні «Элегія» пад кіраўніцтвам Таццяны Захарыч (Вілейка), народны вакальны ансамбль «Берагіня» пад кіраўніцтвам Тамары Барэхавай (Стоўбцы), народная эстрадная студыя аўтарскай песні «Імпэт» пад кіраўніцтвам Галіны Кутас (вёска Ілля, на Вілейшчыне), кампазітар Дзмітрый Сушко (Маладзечна), вакальна-інструментальны ансамбль «Замкавая гара» пад кіраўніцтвам Андрэя Раеўскага (Капыль), народны інструментальны ансамбль «Настальгія» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Белавусава (Жодзіна).

Памятаюць у «Жывіцы» і тых, каго забралі ў нябыт хваробы ці аўтакатастрофы. Зорка таленту не гасне, пакуль яго шануюць жывыя. І творчасці незабыўных сваіх сяброў прысвяцілі ўдзельнікі клуба першую сёлетнюю імпрэзу.



***Фота з архіва «Жывіцы»***












**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





**Верасок**

# Падарунак



Дваццаць шостае кастрычніка, восень толькі набірае моц і не думае перадаваць уладу зіме. Дні пахмурныя і дажджлівыя, вецер дзьме няспынна. Голая зямля, прыкрытая дзе-нідзе сухой травой, навявае сумныя думкі.

А тут яшчэ і ўрок выклікае не самыя радасныя пачуцці! Усе заняты сваімі справамі: хтосьці дрэмле, прыкрыўшыся «хаткай» з падручніка, іншыя забаўляюцца напісаннем sms, хаваючы мабільнік пад партай.

А я проста сяджу... Гляджу ў падручнік напаўзаплюшчанымі вачыма. Здаецца, усё аддам за падушку з коўдрай! І раптам сонную цішыню падрывае нечы голас:

— Глядзіце, снег! Снег пайшоў!

Усе мы ўскокваем з месцаў, узіраючыся ў запатнелыя вокны. І сапраўды, недарэчна, няўпэўнена пухнатыя сняжынкі падаюць з неба, упрыгожваючы зямлю беласнежнай коўдрай. Мы адразу пазналі першы снег!

Якімі ж стомна доўгімі здаюцца апошнія хвіліны ўрока! І вось нарэшце доўгачаканы званок. У адно імгненне апусцела школа. І малеча, і старшакласнікі высыпаюцца на вуліцу. Прапусціць такое можа толькі апошні зануда!

На двары я міжволі смяюся... Трэба ж! Колькі шчаслівых твараў! І ўсе ўсміхаюцца. Нязграбна-бясформенныя шматкі апускаюцца на гарачыя далоні і адразу растаюць, пакідаючы пасля сябе дробныя кропелькі. Тое ж адбываецца і на зямлі. Неўзабаве з’яўляюцца лужыны...

Бачылі б вы, з якім задавальненнем, адкрыўшы рот, ловіць снег малеча! Іх постаці проста выпраменьваюць шчасце! Сталеючы, мы вучымся выдумляць сабе праблемы. І ўжо куды больш думаем, чым проста бесклапотна адчуваем. Я лічу, што заўсёды трэба старацца шукаць вакол сябе маленькае шчасце! Бо з гэтых маленькіх радасцей і складаецца сапраўднае, вялікае шчасце. Напэўна, трэба захоўваць у сабе кавалачак дзяцінства, нават стаўшы сур’ёзным старшакласнікам.

А вось і званок: нагадвае пра пачатак наступнага ўрока. Вымаклыя, але задаволеныя, мы бяжым у школу. Злавацца за спазненне на нас не стануць. Бо ў нас ёсць важкая прычына — доўгачаканы першы снег!

***Ганна ФІЛІСТОВІЧ, 15 гадоў, Маладзечна***



## Зімовы востраў



Зіма. На вуліцы цёмна — хоць вока выкалі. Толькі стоячы пад ліхтаром адчуваеш сябе жыхаром нейкага цудоўнага вострава, утворанага святлом электрычнай лямпачкі. Недзе далёка завыў сабака, нібы заспяваў песню, у якой усяму свету выказвае сваю тугу па волі.

На даляглядзе пачынае святлець — гэта першыя промні сонца крадуцца па зямлі, абуджаючы ўсё на сваім шляху. Адчуваючы небяспеку, ноч уцякае ў сваё царства, але ненадоўга. Настане час — і яна зноў прыйдзе, але цяпер яна ўцякае без аглядкі, уступаючы месца новаму дню.

Зоркі знікаюць адна за адной, і неба робіцца блакітным, нагадваючы акіян...

Вось і дрэвы прачнуліся, уся прырода прачнулася. Па заснежанай вуліцы пачалі хадзіць людзі. Зямля сустракае новы дзень з яго цудамі і хараством.

*Антон КУЛАГІН, 16 гадоў, Барысаў*

## Сняжынчын лёс

Які доўгі і адначасова кароткі лёс сняжынкі... Яна нараджаецца ў небе і пачынае ісці па вызначанай сцяжыне: павольна ляціць высока ў нябёсах, аглядаючы незвычайныя прасторы прыгожай зямлі. Яна пазірае на аксамітна-зялёныя верхавіны сосен і елак, а яшчэ яна заўважае, што калі ў небе з'яўляецца сонейка, то рэкі пераліваюцца блакітна-срэбна-шэрым колерам. А сняжынка ўсё ляціць, падпарадкоўваючыся вольнаму ветру. На вышыні ў сотню метраў маленькая часцінка зімы адчувае, што жыццё заканчваецца. Яна сваім крохкім цельцам чапляецца за паветра, каб выжыць, але ў яе нічога не атрымліваецца, і сняжынка памірае над брудна-шэрай зямлёй... Сумна... Але праз колькі часу яна з'явіцца зноў, толькі ўжо больш мудрагелістай і непаўторнай.

Відаць, доля яе такая: нарадзіцца, пакрасавацца ў зімовых промнях і памерці, каб нарадзіцца зноў.

*Анастасія БЕЛАРУСАВА, 16 гадоў, Барысаў,*
*фота Кацярыны ДЫЛЕЎСКАЙ*

**● Цяжкасці росту**

# Калі здаецца, што ўсё дрэнна...



## Стан твайго розуму — восьшто важна

Пісаць дзённік (не электронны, а папяровы) — было неад'емным заняткам майго юнацтва. Як, зрэшты, і многіх іншых дзяўчынак... Перачытваеш тыя нататкі праз гады, і нібыта глядзіш на сябе былую збоку. Бачыш выразна тое, што тады ўбачыць было немагчыма.

Усе мы ў пэўным сэнсе — пісьменнікі, мастакі, фатографы... Інакш кажучы, творцы ўласнага кіно. Вось яна — рэальнасць. І кожны свае фотаздымкі робіць, па-свойму ў фоташопе апрацоўвае. Але нам уласцівы пэўны кансерватызм. Таму, як правіла, мы застаемся адданымі на гады аднойчы абраным стылю і метаду апрацоўкі.

Не пасаромеюся прызнацца, што я была тым фотамастаком, які згушчае ў фоташопе фарбы рэальнасці. Сама нешта дадумвала, нярадасныя замкі-фантазіі будавала... А калі ў абраным рэчышчы ты ўжо дасягнуў значных вынікаў, стварэць у іншым стылі не вельмі і хочацца. Хаця быццам і ўсведамляеш, што твой фотаздымак можна было апрацаваць і па-іншаму. Пакінуць неба такім, якое яно было за акном: ясным, бясхмарным.

Перачытаўшы свае юнацкія дзённікі, дзе так мала радасці, аптымізму і цвярозасці, а куды больш нуды і безвыходнасці, ашчадна і з любоўю выгадаванымі, я вельмі ясна адчула: сітуацыі і абставіны — другаснае. Першаснае ж — маё ўласнае да іх стаўленне і ўнутраны настрой.

Ангеданія таленавітай новасібірскай дзяўчыны з гітарай Янкі Дзягілевай — гэта ўсяго толькі абраны ёю колер акуляраў. На жаль і на шчасце! **Калі здаецца, што ўсё дрэнна і безвыходна, — гэта ўсяго толькі здаецца!**

## Не трэба дзейнічаць згодна з парывам

*Ёсць у некаторых небяспечныя хобі: плесці песімістычныя карункі ў асабістых дзённіках, рэзаць сабе рукі і марыць пра самазабойства.*

*Маша ў пятнаццаць гадоў рэгулярна ў «рэзаць рукі» гулялася. Цяпер яна ўжо дарослая і падобнай бязглуздзіцай не займаецца, але ж шнары на руках засталіся. Не вельмі ёй гэтыя шнары, асабліва ўлетку, падабаюцца. А вось плён упартых юнацкіх крывавых гульняў Волі — скалечаная рука, якая з заўважным дэфектам рухаецца.*

— Думкі пра самазабойства могуць прыйсці да любога, нават здаровага чалавека, — сцвярджае загадчыца псіхатэрапеўтычнага аддзялення Мінскага гарадскога клінічнага дзіцячага псіханеўралагічнага дыспансера Алена Навіцкая. — Аднак калі ты не бачыш выйсця, гэта часцей за ўсё вынік падманлівага «тунэльнага» мыслення. Чалавеку здаецца: альбо ўсё, альбо нічога. Ці я атрымаю стапрацэнтны вынік ці мне ўвогуле нічога не трэба. Навошта мне жыць, калі не стану Нобелеўскім лаўрэатам? Альбо калі не закончу школу з залатым медалём і не паступлю ў прэстыжную ВНУ? Такі вось юнацкі максімалізм. Часцей за ўсё падлеткавы суіцыд — вынік не столькі дэпрэсіі, колькі падлеткавай імпульсіўнасці. Яго здзяйсняюць людзі, якія не могуць альбо не хочуць думаць над вырашэннем нейкай непрыемнай для іх сітуацыі. Між тым з любой сітуацыі ёсць нават некалькі выйсцяў. І заўсёды можна выбраць аптымальны варыянт. Неабходна вучыцца заўважаць свае маленькія перамогі і «калекцыяніраваць» іх, замест таго, каб фіксаваць увагу на ўласных няўдачах. Трэба выпрацоўваць у сабе ўменне адрозніваць, што важнае ў жыцці, а што не.

Нядаўна сустрэла адну жанчыну, у якой было шмат прэтэнзій да жыцця. Нейкі яе праект не атрымліваўся, сябры да яе недастаткова добра ставіліся. Выпадкова гэта жанчына трапіла з вострым апендыцытам у шпіталь. Некалькі дзён не ела. І аказалася, што булён такі смачны, а сябры — цудоўныя, адгукнуліся адразу ж. Такія вось крытычныя сітуацыі вельмі дапамагаюць зразумець, што самае галоўнае ў нашым жыцці.

**— Ну, а што рабіць, як самога сябе выцягнуць, калі здаецца, што ўсё безвыходна?**

— Першае, што трэба зрабіць у такой сітуацыі, нягледзячы на тое, што ёсць вялікае жаданнне схавацца ад усіх і ўсяго, — знайсці таго, з кім можна абмеркаваць сваю праблему. Гэта могуць быць сяброўка, бацькі, спецыяліст, які працуе на «тэлефоне даверу». Нават калі ты абмяркоўваеш сваю праблему проста са знаёмым, хаос, які ўчыніўся ў тваёй галаве, паступова развеіцца, і пачнеш разумець, што гэта сітуацыя зусім не безвыходная. Уменне кантактаваць, прасіць дапамогі надзвычай важныя. Вельмі моцнае проціяддзе супраць



адчування безвыходнасці — пачуццё гумару. Я б параіла развіваць яго ў сабе.

**— Ёсць адчуванне, што ўсе гэтыя суіцыдальныя мерапрыемствы здзяйсняюцца для нейкага спектакля...**

— І такое здараецца. Але гэткім чынам ты можаш прыцягнуць да сябе увагу — з аднаго боку, але з іншага — навесіць на сябе кляймо псіхічна неўраўнаважанага чалавека. Так да цябе і будуць ставіцца. Таму лепш знайсці сілы іншым чынам распавесці навакольным пра сваю праблему. І яны дапамогуць яе вырашыць больш канкрэтнымі сродкамі. Рукі рэжуць часцей за ўсё падлеткі імпульсіўныя, якім працей не задумвацца, а адразу рэагаваць нейкім эпатажным дзеяннем. Аднак трэба ўмець сказаць сабе: «Стоп!» Спачатку даць час на абдумванне, а потым ужо адэкватна рэагаваць. Часам падлеткі, якія рэжуць рукі, сцвярджаюць, што гэта дапамагае ім пазбавіцца душэўнага болю. Парэзаў руку — і баліць ужо не душа, а рука. Але гэта прыкладна тое ж самае, як мне дрэнна — выпіў гарэлкі, укалоўся наркотыкам. Стала лягчэй. Таксама своеасаблівая залежнасць узнікае.

**— А яшчэ бывае, што чалавек нібыта гуляе з гэтым самазабойствам: сам ведае, што да канца не пойдзе. А потым — оп! Сур'ёзныя наступствы, якім і сам ужо не рады...**

— Бывае, на жаль: зрабіў глупства, а потым доўга лечышся ад яго вынікаў. Напрыклад, наеўся таблетак — атрымаў сур'ёзнае алергічнае захворванне на ўсё жыццё. Трэба разумець, што эмацыянальны стан у падлеткавым узросце вельмі зменлівы. А таму не трэба дзейнічаць згодна з першым жа душэўным парывам.

***Амаль у кожнай школе ёсць псіхолаг, а ў паліклініцы — псіхолаг і псіхатэрапеўт. У Мінску існуе тэлефон даверу для падлеткаў, на які тэлефанаваць можна ў любую гадзіну дня і ночы — 8-017 (код Мінска) 315-00-00. Звяртацца па дапамогу да спецыяліста — гэта, сябры, сучасна і эфектыўна. І зусім не слабасць, як некаторым чамусьці падаецца.***

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ***





# Рок — гэта жыць без правіл

***Алена захапляецца кінематографам, чытае нават спецыялізаваную прэсу. Кіно — страсць Алены, роднае паветра! Улюбёная тэма, якую вывучаеш і вывучаеш, а дна — няма. А вось Наталля ўсё ў слоўніках корпецца, запамінаючы беларускія словы. Зміцер падарожнічае аўтастопам, Адэля спявае ў гурце, Верця захапляецца гарбатамі і іх уздзеяннем на свядомасць...***

***Сябры, «Бярозка» распачынае новую рубрыку — «Захапленне маю!» І чакае вашых тэкстаў, магчыма, разам са здымкамі. Наталля Ленская сёння распавядзе пра рок-музыку — і пра сябе.***

***Таксама з музыкай сінхронна дыхаеш? Распавядай, грукай па клавіятуры! І ў цябе сваё эсэ атрымаецца! А можа, ты дзяўчынка, у якой цэлы куфар разнастайных упрыгожванняў: адны пацеркі ад бабулі, другія сама змайстравала, трэція — з захапляльнага падарожжа ў Крым. А можа... Колькі людзей на свеце, колькі захапленняў!***



Што ёсць музыка? Цяжка растлумачыць словамі. Але ж сёння вельмі складана ўявіць жыццё без яе. Многія людзі, якія ідуць па вуліцах горада, маюць навушнікі. Я добра разумею іх, бо сама не расстаюся з музыкай фактычна ніколі. Яна валодае чароўнай уласцівасцю па-рознаму ўплываць на пачуцці і настрой: можа пакінуць абыякавым ці парадаваць, можа прымусіць сумаваць альбо дзейнічаць.

Бясспрэчна, што музыка займае важнае месца ў жыцці сучасных людзей. Слухаць музыку — гэта і цікавае баўленне часу, і эстэтычная асалода, і інтэлектуальнае самавыражэнне. Ды нават форма пратэсту! Напэўна, не сустрэнеш сёння ніводнага чалавека, які не меў бы свайго асабістага музычнага захаплення.




Калі мы чуем слова «музыка», кожны з нас, думаю, уяўляе сабе нешта сваё, бо існуе багата розных плыняў на любы густ: нехта любіць і слухае толькі джаз, хтосьці — дабстэп, а ў некаторых дома ёсць цэлая калекцыя дыскаў і нават вінілавых пласцінак розных класічных рок-гуртоў. Асабіста я адношуся да апошніх і аддаю перавагу року.

Калі я ўпершыню пачула моцныя гітарныя рыфы і ўбачыла, з якім запалам гітарыст перабірае струны, я адразу зразумела: гэта маё. Увогуле, мой характар мае тыя ж самыя рысы, з якіх складаецца гэтая музыка — рэзкасць, жаданне бунтаваць, парушаць трывалыя правілы, рабіць тое, да чаго яшчэ ніхто не дадумаўся. Рок — гэта музыка духоўнай свабоды і пратэсту, не абмежаваная нейкімі ўмоўнымі рамкамі. Рок не мае вызначаных правіл. У ім можна пачуць featuring рознае: ад прызнання ў каханні ў выглядзе рок-балады ці блюза да экспрэсіўнага крыку душы, праз якія слухачу перадаюцца энергія, бадзёрасць, гнеў ці разбурэнне. У цэлым, гэта музыка наватарства і эксперыментатарства, гэтым яна і захапіла мяне. Яна заклікае людзей да свабоды самавыражэння, як бы пераконвае іх не баяцца свайго ўнутранага свету і займацца тым, што падабаецца больш за ўсё.

Музыка — гэта жыццё. Без яе было б вельмі цяжка, а можа, і проста немагчыма выказаць свае думкі і эмоцыі, пачуцці, мары. Дзякуючы музыцы, слухач лепш чуе сваю душу. Яна — нітка, што злучае ўсе моманты нашага быцця. Праз яе людзям прасцей знайсці агульную мову і стаць блізкімі сябрамі на ўсё жыццё. А яшчэ музыка — асаблівы доктар, псіхолаг, які дапамагае загойваць душэўныя раны і надае ўпэўненасці ў дасягненні сваіх мэт.

*Наталля ЛЕНСКАЯ, 16 гадоў,*
*Маладзечна, школа журналістыкі «Маладзік»,*
*фота Анастасіі СКРЫЦКАЙ*



# Сем рэчаў, якія я не буду рабіць, калі вырасту!



Нядаўна, перабіраючы свае старыя кнігі і сшыткі, я знайшоў нейкую паперку... Разгарнуўшы яе, убачыў свой дзіцячы почырк і нешта да болю знаёмае, што выклікала ўва мне ўспаміны і даўно забытыя эпізоды з дзяцінства. Прачытаўшы яе, мне захацелася падзяліцца гэтым наіўным «тварэннем» з Вамі. Вядома, яно прайшло маю рэдактуру, бо памылак тады я рабіў значна больш, чым цяпер. Прызнацца сумленна, па-беларуску я таксама не пісаў і не гаварыў (затое шмат нацярпеўся ад настаўніцы беларускай мовы і літаратуры). Аднак сутнасць таго «паслання» я захаваў...

Такім чынам, вось яно:

«Зараз мне 13 гадоў. Я вельмі люблю чытаць і бавіць вольны час са сваім сябрам Дзімам. Мы разам з ім клеем мадэлькі самалётаў і караблёў, абмяркоўваем фільмы і ўсялякія дробязі, якія адбываюцца з намі за дзень, лаемся ціхенька на нашу вядзьмарку-англічанку (“русічцы” і “фізічцы” таксама дастаецца ад нас). Часам гуляем у шахматы і шашкі. Мне гэта вельмі падабаецца. Але ёсць такія рэчы, якія я не люблю. І я хачу трохі пра іх распавесці.

Я вельмі люблю сваіх бацькоў, але часам яны робяць столькі незразумелых учынкаў, што мне хочацца ўцячы з дому. Але пакуль я гэтага не раблю... Напэўна (як кажа мой тата), з-за свайго слабога характару і смаркатага носа. Становіцца крыўдна ад гэтых слоў. Аднак...

Я вырашыў зрабіць невялікі спіс гэтых рэчаў.

♦ **Пункт № 1.** Калі я вырасту я не буду купляць сабе брытву! Лепш гэтыя грошы я буду адкладаць на што-небудзь больш карыснае: на новы ровар, ролікі, ці новыя мадэлі самалётаў (усё ж лепш, чым брытва).

У жыцці шмат усялякіх цікавых рэчаў, акрамя таго, што стаяць кожную раніцу перад люстэркам, вылупіўшы вочы на сваё мужнае адлюстраванне, і скрэбсці шыю і шчокі брытвай. Акрамя таго, гэта ж вельмі небяспечна: я бачыў як у таты часта сочыцца кроў пасля галення! Бр-рр. Ён яшчэ лепіць на ранкі кавалачкі газеты ці туалетнай паперы... Праз некалькі хвілін кроў пера-

стае цячы, тады тата адрывае іх, і яна зноў пачынае ісці з гэтых ранак. Ніколі не буду галіцца!

♦ **Пункт № 2.** У кожнага чалавека ёсць свае рытуалы! Некаторыя з іх адразу ж кідаюцца ў вочы, а некаторыя можна ўбачыць, толькі тады, калі жывеш з гэтым чалавекам пэўны час. За адным з такіх рытуалаў, я сачу кожную раніцу: тата, пасля таго, як паснедае, набірае ў рот апошні глыток гарбаты і пачынае шумна паласкаць ім зубы, а ў канцы глытае яго... Глядзець на гэта мне брыдка. Але што мне застаецца? Злаваць бацьку заўвагамі — сабе даражэй. Але, калі я вырасту — я не буду так рабіць!

♦ **Пункт № 3.** Я вельмі баюся тых вечароў, калі мама прыходзіць з бацькоўскага сходу. Гэтыя вечары страшнейшыя за фільм жахаў! Спачатку мама хвілін пяць маўчыць (вытрымлівае тэатральную паўзу), а потым пачынае распавядаць тату пра ўсе мае подзвігі, якія здзейсніў я на працягу чвэрці (а іх "набягае" нямала). І гэта зацягваецца на ўвесь вечар. А потым маці пачынае правяраць усе мае хатнія заданні. Глядзіць мой дзённік! Мама цвёрда пераканана, што ўсе графы ў дзённіку павінны быць запоўнены. Пры наяўнасці "пустэч" яна пачынае тэлефанаваць маім больш таленавітым аднакласнікам і выпытваць хатнія заданні. Мне было сорамна за сябе... Але за маму было вельмі сорамна. Калі вырасту, я не буду так рабіць!

♦ **Пункт № 4.** Рынкі... Як жа я іх ненавіджу! Рынак забірае лепшыя гадзіны майго выхаднога дня. Але мама гэтага не разумее. Бо яна ведае лепш, што мне трэба для шчасця: новыя джынсы, кашуля, чаравікі, шнуркі і іншае... І ўсё гэта дабро купляецца на мае (чуеце, на мае!) грошы, падораныя на Дзень нараджэння.

Самае "цікавае" ў паходзе на рынак — прымерка рэчаў (асабліва ўзімку). Ты самотна стаіш у намёце ў трусах і з гусінай скурай на нагах, а ў яго (у намёт) праз кожную хвіліну хто-небудзь зазірае (а ты ціха молішся, каб толькі не хто-небудзь знаёмы са школы). Пасля трох гадзін хаджэнняў па пакутах, я пачынаю капрызіць, чым выклікаю прыступ мамінай істэрыкі (мама ў мяне, мякка кажучы, неспакойная). Яе вельмі лёгка раззлаваць, асабліва, калі яна прыходзіць стомленая з працы. Любы нязграбны рух можа абярнуцца катастрофай. Нямыты посуд, раскіданыя па падлозе рэчы, агрызак яблыка на стале — усё гэта выклікае ў мамы нечаканую дэтанацыю і прыводзіць да выбуху, пасля якога любая вайна здаецца дзіцячай гульнёй, у параўнанні з тым, што адбываецца ў нашай кватэры!

♦ **Пункт № 5.** А яшчэ я не буду стрыгчыся! Страх застаўся без вушэй з'явіўся ў мяне пасля татавых спробаў зрабіць на маёй галаве "што-небудзь больш зразумелае". Я разумею, вядома, што тата ў нас майстар на ўсе рукі, але і ў майстроў бываюць свае агрэхі і недахопы (але тата быў ўпэўнены, што і тут ён Майстар). Адзін з гэтых недахопаў — "мастацтва" стрыгчы валасы. "Сем разоў адмер, адно вуха адрэж" (так я праз унутраныя слёзы за вочы жартаваў над татам).

Я памятаю, як мама папрасіла бацьку падраўнять ёй трошачкі валасы... Так. Гэта быў яшчэ той нумар. Яна потым тыдзень не выходзіла з хаты, а часам нават плакала, гледзячы на тое, што засталося ад яе пышнай чубкі. Лоб яе быў падобны на той адзіны неразбіты ліхтар, які стаяў каля нашага



пад’езда... Бацька ў апраўданне казаў, што цяпер вочы сталі больш выразнымі. А што казаць пра мяне?! Бацька эксперыментаваў над маёй галавой па поўнай праграме, пачынаючы з дзіцячага садка і на працягу амаль усіх гадоў праведзеных у школе. Мне часта даводзілася цярпець кпіны ад тых, каму не “ў лом” было чарговы раз пасмяяцца з маёй “чохі” а-ля “дурань Ванька”. Я клянуся, што не вазьму ў рукі нажніцы! Гэта я ведаю дакладна!

♦ **Пункт № 6.** Я не буду каментаваць тэлевізійныя перадачы. Няма нічога больш сумнага на свеце, чым татавы каментары навін, спартыўных матчаў або якіх-небудзь фільмаў... Мне хочацца праваліцца скрозь падлогу да суседзяў, каб толькі не слухаць яго разумных каментарыяў і разваг на тэму “дык вось куды сыходзяць нашы грошы”, або “я б зрабіў гэта лепш”! Так-так, тата, я не сумняюся ў гэтым. Толькі не трэба! Досыць...

♦ **Пункт № 7.** Пакідаць дзіця аднаго ў чарзе. Гэта бесчалавечна!

Напэўна, кожны з вас адчуваў (ці яшчэ калі-небудзь адчуе) на сваёй скуры гэтае “катаванне”. Я яго называю “катаванне чаргой” — гэта калі мама нечакана ўспамінае пра нешта і кажа табе: “Пастой сынок, я хутка”. І гэтае “хутка” цягнецца пакутлівымі хвілінамі чакання. А чарга, пачынае рухацца хутчэй... дыхаць ты ўжо зусім не можаш... І вось апошні пакупнік, а наступны ты! А мамы ўсё няма!!! Жах-жах-жах! Але яна паспявае прыйсці ў апошні момант, а ты ўжо стаіш амаль без памяці. Можна ўжо не ісці ў Парк Чалюскінцаў на экстрэмальны атракцыён “Супер 8”, бо сваю порцыю вострых адчуванняў ты атрымаў. І наіўна думаць, што гэта было ў апошні раз. Апошняга разу няма: мама ўсё роўна нешта абавязкова забывае і ў апошнюю хвіліну пакідае мяне ў гэтай праклятай чарзе... І ўсё пачынаецца спачатку.

Гэта ўсяго толькі тыя нешматлікія падзеі і ўчынкі родных мне людзей, якія я б не хацеў паўтараць у сваім дарослым жыцці. Не ведаю, ці атрымаецца гэта? Спадзяюся, што атрымаецца. Вельмі спадзяюся».

Цяпер мне здаецца гэта пасланне смешным... Але ўспамінаючы сябе малога, я пачынаю нешта разумець: тады мае адчуванні былі сапраўднымі і сур’ёзнымі (вось як цяпер). А што будзе праз 20 гадоў? Не ведаю. Мабыць, праз 20 гадоў я ўсміхнуся, згадаўшы сябе сённяшняга... А можа і не. У любым выпадку, я шчыра спадзяюся, што ўсё будзе добра! А як жа інакш?

***Яўген МАРТЫНОВІЧ,***
***малюнкі Вольгі АЛЕЙНІКАВАЙ, 8 клас, гімназія № 25, Мінск***

# Школа наша — сусвет цэлы!

***У лінгвістыцы ёсць напрамак — тэралінгвістыка («тэра» — зямля, «лінгвістыка» — навука пра мову). Дык вось яна сцвярджае, што існуе самая цесная сувязь паміж тэрыторыяй, яе жыхарамі і Космасам. Людзі, жывёлы, ландшафт, жыццядзейнасць выпраменьваюць у Космас хвалі, а Космас, «прачытаўшы» іх, дасылае свае. І ад гэтага ўзаемаабмену альбо добра, альбо не вельмі абодвум бакам у дадзены час у дадзеным месцы. Нават тапонімы (назвы геаграфічных аб'ектаў) не дарма існуюць.***

***Мы — вучні Сыраваткінскай сярэдняй школы. Што ж нам засталося ў спадчыну? І якія сігналы мы дасылаем у Космас у выніку сваёй дзейнасці? І што з гэтымі хвалямі рабіць? Якімі рабіць нашыя «лісты» Космасу, каб прыходзілі больш пазітыўныя «адказы»?***

***Космас! Прыём!***

## «На правым беразе Вяллі...»

Гадоў 5-6 таму назад стварылася ўдалае, на наш погляд, чатырохрадкоўе:

На правым беразе Вяллі,
Далей ад вашых гарадскіх пакут —
Вы ў нас, напэўна, не былі?! —
Ляжыць наш родны Сыравацкі кут.

Яно, дарэчы, нарадзілася разам са школьнай газетай «Наша формула: 91 + 22 + 12». Лічбы ў назве матываваныя: першая — колькасць вучняў, другая — настаўнікаў, трацяя — тэхперсаналу. Дарэчы, можна было б і чацвёртую лічбу увесці ў назву — 15. Столькі ў нашых сценах бегае-дурэе-выхоўваецца дзетак з ясляў-сада.

Больш сціслa, мы — гэта 91 + 15. І сярод нас — 14 юных карэспандэнтаў. Сёлета склад істотна абнавіўся, бо скончылі школу такія «зубры», як галоўны рэдактар Каця Махнач, сябры рэдкалегіі Саша Тапуць, Саша Лобач, Юля Гардзей, Даша Бянько. Вясной мы пажадалі ім: «Ні пуха, ні пер'я!» — і выпускнікі дружна паступілі ў ВНУ, ды яшчэ і на бюджэтныя месцы. Але, дарагі чытач, ты іх сёння яшчэ пачуеш, бо «рукапісы не гараць»! А замяніў «зуброў» апантаны 6 клас.

*Света ГРЫБ, 9 клас,*
*Каця БУЙНОЎСКАЯ, 6 клас*

 

## «Тупальшчынскі камень дрэмле...»




*Каля Тупальшчынскага каменя.*

Школу наведваюць вучні з вёсак Сыраваткі, Дзенавішкі, Нястанішкі, Дабраўляны, Лылойці, Пазборцы. Мы — «мядзвежы» і ціхі куток раёна. Але, як жартуе Сяргей Віктаравіч, дырэктар школы, куток гэты газафікаваны, з электроннай поштай, тэлефонам і сайтам школы ў сеціве.

Калі мы збіралі-вывучалі звесткі пра свой мікрараён, то даведаліся пра цікавыя рэчы: напрылад, што Вілія — Вялля па-мясцоваму — гэта рака Вялеса. І камень Тупальшчынскі памятае гэтага паганскага бога! Саша Лобач нават верш прысвяціў гэтаму каменю. Уявіце сабе: восень, лясны паўзмрок, а мы, турысты, чытаем:

Тупальшчынскі камень дрэмле,
Стаіўся ў лесе глухім,
Яго абступілі дрэвы,
Каб ён адкрываўся не ўсім.
На капішчы быў ён галоўны,
Ахвяраў людскіх чакаў...

У нас склалася традыцыя: ачысціць камень ад моху, пакласці што-небудзь у якасці «ахвяры» і папрасіць штосьці патаемнае!

Ідзём далей. У Дабраўлянах у XIX стагоддзі быў добры культурны асяродак: пан Карл Гюнтэр — багаты і шчодры мецэнат. Ён трымаў аранжарэю, меў карцінную галерэю, прымаў з візітамі знакамітых гасцей — Дуніна-Марцінкевіча, Кіркора, Зана і іншых. Калі мы паехалі на экскурсію ў Мастацкую галерэю ўніверсітэта культуры, то трапілі на выстаўку студэнцкіх работ з пленэра ў цяперашніх Дабраўлянах, якія былі прэзентаваны побач з гравюрамі знакамітага Казіміра Бахматовіча — нашага вядомага дабраўлянскага мастака XIX стагоддзя. «Ой, дзеткі, зямля вашая такая шчодрая на добрых і таленавітых людзей!» — пачулі мы ад супрацоўнікаў галерэі, калі тыя дазналіся адкуль мы.

У Нястанішках стаіць самы прыгожы ў раёне касцёл. Ён незалежна і горда ўздымаецца над наваколлем. У будынку можна ўбачыць косы, граблі, іншы сялянскі рыштунак, бо тут святкуецца фэст у гонар Святога Зыдора — апекуна хлебаробскай працы. А яшчэ большы цуд — касцёльныя крыніцы з гаючай вадой. Доўгі час яны былі занядбаны, а цяпер людзі (і нашы вучні ў тым ліку) ўпарадкавалі іх, ачысцілі. І можна палячыцца той святой вадой.



*Спаборніцтвы на спартыўным арыентаванні.*

Мы ведаем шмат цікавага пра свой кут: і пра лес Лапавойню, і пра ўдзельніка паўстання 1863 г. Юльяна Бакшанскага, і пра паходжанне назвы вёсак Сыраваткі, Паляны, Капачы, Пастарыні. Бо ўся гісторыя нашых зямель — цікавая і займальная.

Хочацца дадаць, што і нашая школа — таксама немалая «зорка» на правым беразе Віліі: сёлета зноў заняла 1 месца сярод сельскіх устаноў адукацыі ў раённым конкурсе на лепшую якасць адукацыйнага працэсу. Сапраўдныя карэспандэнты з «Настаўніцкай газеты» мінулай восенню прыязджалі, гутарылі з дырэктарам і з намі. І з’явіўся цэлы артыкул пра ўсіх нас!

***Гражына ЯЦЫНА, 6 клас,***
***Рэната ЧАРНУШЭВІЧ, 6 клас***

## Паэтычная рэфлексія

Творчае і цікавае жыццё ў нашай школе! Вось, напрыклад, трывалая традыцыя — сяброўскія капуснікі для выпускнікоў у дзень апошняга званка. Чаго там толькі не пачуеш, чаго не ўбачыш! Або дасціпныя канцэрты да Дня настаўніка.

А яшчэ мы пішам вершы. Калектыўны верш нашых юных карэспандэнтаў «Пісьмо юбілярам Янку Купалу і Якубу Коласу» заняў 1 месца ў раёне і «паехаў» спаборнічаць у Гродна.

## Пісьмо юбілярам Янку Купалу і Якубу Коласу

Шлём Вам, паэты, сваё прывітанне!
Мы, маладыя, пішам да Вас!
Хочам прамовіць Вам словы прызнання
І даць віртуальны у часе адказ.

Вы нас арлянятамі трапна назвалі,
У вершах моладзь віталі не раз,
Аб спадчыне, лёсе моладзі дбалі,
Давалі руплівы, шчыры наказ —

Быць не тутэйшымі — гаспадарамі
Нашай любімай свабоднай зямлі,
Стаць і аратымі, і ваярамі,
Галінамі сонца крануць каб змаглі.

Рупнымі быць у навуцы і працы,
Мову святую сваю паважаць.
З гонарам, з чэсцю з суседзямі знацца,
Долі шчаслівай і годнай шукаць.

Гэты наказ Ваш і цэнім, і помнім,
Горда нясём мы яго праз вякі:
Рунню красуюць нашыя гоні
І ганарацца ўмалотам такі.

Працу любую адольваюць рукі,
Ў спорце багата вышынь «узялі»,
Горда узняўся сцяг нашай навукі,
Хутка да зорак пашлём караблі!

Вольнай часінай танцуем, спяваем,
Голас далёка-далёка чуваць,
Верым у Бога, Закон паважаем,
Вучымся продкаў сваіх шанаваць.

Скажаце, можа занадта траскучым,
Надта хвалебным робім пісьмо?..
Шмат ёсць аспектаў заганных, балючых,
Але адпор ім, паверце, дамо!

Так вось жывём у любімай краіне,
Вашыя творы — кірунак для нас.

Верце: ніхто ідэалаў не кіне,
Сцвердзілі іх і прастора, і час.

З Днём нараджэння мы Вас віншуем!
Гонарам лічым, што разам, усе
Робім мы справу агульна — святую —
Краіну мацуем сваю — Беларусь!

А ў наступных радках **Віка ГВАЗДОВІЧ** філасофствуе аб сабе і сваіх аднагодках:

* * *

Як дасягнуць гармоніі
У супярэчным жыцці?
Як сярод беззаконня
Свой Рубікон перайсці?

Дзе светлыя сілы? Дзе цёмныя?
Дзе тонкі між іх масток?
Загадкі — да болю, да стомы...
Адгадкі — як праўды глыток.

«Ляцім мы да зор» — у звязцы,
І хуткасць — на злом галавы!
Выканаць як абавязкі?!
Свае бараніць як правы?!

...Чэрвеньскім ранкам светлым
Ступлю за бацькоўскі парог.
І веру: у свеце прыветным
Мяне абароніць наш Бог.

Вось такія сур'ёзныя вершы ў нашай дзесяцікласніцы, прадстаўніцы БРСМ. Яна і вучыцца сур'ёзна, і мары ў яе такія ж.

***Насця КАЖАРНОВІЧ, 9 клас,***
***Таня ЖУК, 6 клас***

## Спорт — наша ўсё!

Мы, вядома, людзі сціплыя, але зноўку будзем выхваляцца! Які самы любімы прадмет у нашай школе? Правільна, фізкультура! Бо здароўе — гэта важна. Наш фізрук — малады ды прыгожы. Шкада толькі, што Валерыя Станіслававіча Ляшчэвіча вясной у войска забіраюць. Але добра, што ў дэсант-



нікі! Будзем яго чакаць праз год назад у школу. Дарэчы, летась нашу спартыўную справу «стары» фізрук У. Т. Рогач падняў высока: мы занялі 1 месца ў раённай спартакіядзе! У кожным класе ёсць спартсмены, мы іх паважаем, па-добраму зайздросцім іх поспехам і ўдзелу ў спаборніцтвах, адміністрацыя адзначае іх у загадах і на школьных лінейках.

Да добрых вынікаў спрычыніліся і нашы турысты. Яны — першыя ў спартыўным арыентаванні.

*Таня МНІХ, 10 клас,*
*Насця МАЦОНКА, 6 клас*

## «А цяпер — пра вучобу!..»

Гэта выказванне — таксама ўстойлівы жарт: так стараста 6 класа Каця Буйноўская і класны кіраўнік А. Ф. Пятроўскі спрабуюць павярнуць класныя сходы ў патрэбнае рэчышча. Але ўдаецца гэта нячаста. Бэйбусы хочуць гутарыць: а) пра спорт, б) пра паходы, в) пра інтэрнэт-забавы, г) хоць пра што, абы не пра галоўны школьны занятак — вучобу!

З вучобай, праўда, нічога страшнага не здарылася. Вось сёлета наш знакаміты Аляксандр Лобач атрымаў атэстат з залатым медалём. І яго нават без экзаменаў залічылі ў Мінскі медыцынскі ўніверсітэт, бо ён тры гады запар быў пераможцам ІІІ тура Рэспубліканскай алімпіяды па біялогіі. А рыхтавала да алімпіяды Сашу яго маці Вольга Лявонаўна — настаўніца біялогіі і хіміі. І яшчэ адзін Лобач-разумнік падрастае — Ягор. Ён ужо летась адзначыўся: стаў прызёрам раённай алімпіяды па хіміі і інфарматыцы, а таксама заняў ІІ месца ў раённым інтэрнэт-конкурсе «Знатакі прыроды». Сёлета, натхнёны, нават алімпіядныя заданні па рускай мове на школьным этапе добра зрабіў. Так трымаць, Ягор!

Што ж яшчэ сказаць пра вучобу? Напрыклад, рэйтынг прадметаў у школе наступны: дапрызыўная і медыцынская падрыхтоўка, фізічная культура і здароўе, праца, музыка, выяўленчае мастацтва. Гэта гаворыць пра тое, што:

а) вучні нашы здаровыя;
б) свядомыя;
в) таленавітыя!

*Віка ГВАЗДОВІЧ, 10 клас,*
*Маргарыта КІСЯЛЕВІЧ, 6 клас*

## А што ў нас тут і цяпер?

Пра гэта можна даведацца з навінаў. Напрыклад, навіны з 5 класа наступныя:

«Нас лічаць атаманамі-разбойнікамі ў школе. І гэта зусім не дзіўна: мы з 2-х школ зліліся — Лылойцінскай і Сыраваткінскай! Другая прычына — хлопчыкаў больш у 2 разы, чым дзяўчынак. Уявіце, які кайф: наша класная кіраўніца Марыя Іосіфаўна тэлефануе нашым бацькам штодзень, а то і часцей!»



*На «вясковым падворку».*

«Амаль усе мы сябры гуртка “Мастацтва рукадзелля”: пляцём з пацерак, будзем вышываць, вязаць кручком і на прутках. Лаўчэй за астатніх атрымліваецца ў Светы Пастушэнкі і Арцёма Шчуроўскага, бо яны з гэтым гуртком ўжо летась пасябравалі. Мы вырашылі зрабіць з пацерак ялінку: і прыгожа, і для прыроды бяспечна».

«На нашым школьным двары ёсць цікавы куток — “вясковы падворак”. Там стаяць колы з возам, сячкарня, драўляныя ночвы, калодзеж-журавель. А яшчэ там жыве школьны ёлуп — І. Гэта такі драўляны балван, які застаўся з вясёлага школьнага капусніка. Ёлупу ўжо 2 гады. Што ён робіць? А сядзіць пад дрэвам і назірае за ўсімі намі. Дык вось, мы яму зрабілі хатку — схованку ў калодзежы: хай яшчэ і гэтую зіму пэразімуе!»

А вось навіны з 8 класа:

«Наш клас узяў шэфства над адзінокай састарэлай грамадзянкай вёскі Сенцяняты — Аленай Пятроўнай Лукашэвіч. Бабуля Алена яшчэ даволі жвавая, хоць пражыла на свеце 77 гадоў. Свой падворак і хату яна ўтрымлівае ў чысціні і парадку. Каб не пакрыўдзіць нас, памагатых, яна папрасіла пакасіць вакол. Дзіма Цітоў і Коля Брылёў з радасцю выканалі яе заданне. Бабуля расказала нам цікавы выпадак: нядаўна яна віламі забіла драпежніцу — лісіцу, якая цікавала за яе курамі. Малайчына бабуля! Мы падумалі, што ў яе яшчэ можна браць урокі вясковага каратэ або самба».

«Старастам класа мы аднагалосна выбралі Колю Брылёва і не прагадалі. Ён склаў графік дзяжурства, сочыць за раскладам, праводзіць класныя сходы».

«Хатнія кветкі ў класным пакоі растуць добра, бо і мы, і класны кіраўнік Галіна Юльянаўна іх даглядаем: паліваем, апырскваем вадой, рыхлім глебу ў вазонах. Хутка нават зацвіце адзін — “декабрыст”».

«Жывецца нам добра і весела. Вельмі любім мы харчавацца ў школьнай сталоўцы. Валянціна Іванаўна гатуе смачна і якасна. Асабліва катлеты з кашай і тварожную запяканку. А многія з нашых дзяўчат мараць стаць павapaмі».

***Сняжана ЦІКОТА, 5 клас,***
***Крысціна ЧАРНУШЭВІЧ, 8 клас***

## Заключэнне

***Вось такі ў нас атрымаўся нарыс пра саміх сябе — моладзі самага паўночна-заходняга мікраараёна Смаргонскага раёна. Мы любім свой «родны кут», імкнёмся ўпрыгожваць яго, аберагаць, паважаць сваіх продкаў, ад якіх мы атрымалі гэты каштоўны дарунак. Мы клапоцімся пра тое, каб Космас атрымліваў здаровыя і станоўчыя хвалі-выпраменьванні. Гэта наша жаданне, права і ўсвядомлены выбар! Бо Зямля — гэта сур’ёзна і надоўга!***

● **Дынамік**

# Неўміручая таямніца The Doors

***Літаратура і мастацтва — бяздонны, жывы акіян. У хуткай, штоімгненна зменлівай плыні жыцця большасць твораў губляецца, забываецца... Ну, а штосьці і праз трыццаць гадоў, і праз семдзесят выклікае інтарэс і нават застаецца модным. Некаторыя творы — далёка не ўсе! — бясконца перавыдаюцца, трапляюць у залаты фонд гісторыі культуры. Бо сапраўды самыя таленавітыя? Ці проста шчаслівы выпадак, спрыяльны збег абставін?***



Легендарны, без перабольшання знакаміты гурт The Doors! Ужо гісторыя. Але ж і сёння слухаем, ды яшчэ як захапляемся!

Знакаміты канцэрт The Doors 1968 года ў Галівудзе выйшаў нядаўна ў свет у адноўленай версіі. Для мяне, адданай прыхільніцы рок-музыкі 60—70-х гадоў, ён стаў сапраўдным падарункам.

Кружэлка з канцэртам ужо паступіла ў продаж на сайты Амерыкі і Еўропы. На прасторах сеціва таксама можна знайсці бясплатныя ўрыўкі. Пра якасць нельга сказаць ніводнага дрэннага слова, яна сапраўды здзіўляе. І гэта зразумела: фільм адноўлены ў HD-фармаце, дзякуючы якому мы можам глядзець нашыя любімыя старыя фільмы ў колеры ці ў лепшай якасці. Калі ў адноўленым фармаце назіраеш, як саліст квартэта энергічна рухаецца па сцэне, вырабляе розныя трукі з мікрафонам і цалкам аддаецца любімай справе, здаецца, што ты сапраўды знаходзішся ў той самай «Галівудскай Чашы» і бачыш усё на ўласныя вочы. Па-іншаму ўспрымаюцца вершы Джыма Морысана, пакладзеныя на музыку яго лепшага сябра, клавішніка гурта Рэя Манзарэка. Таксама ў адноўленую версію былі дададзены некаторыя ўрыўкі з канцэрта, якіх не было раней, у папярэднім фільме. Асабіста я бачыла першую, арыгінальную версію гэтага выступлення, знятую непасрэдна ў 1968-м годзе. З дакладнасцю магу сказаць: новая і старая версія — гэта неба і зямля.

Гурт The Doors быў створаны ў 1965 годзе ў Лос-Анджэлесе і існаваў не так доўга — каля васьмі гадоў. Духоўны лідар і вакаліст ансамбля Джым Морысан



памёр у 1971 годзе ў сваёй кватэры ў Парыжы. Па афіцыйнай версіі — ад сардэчнага прыступу. Але сапраўднай прычыны смерці вялікага амерыканскага паэта не ведае ніхто...

Гурт моцна паўздзейнічаў на развіццё культуры і мастацтва таго часу. Загадкавыя, містычныя тэксты спеваў і яркі вобраз саліста зрабілі калектыў ледзь не самым знакамітым і супярэчлівым гуртом свайго часу.

Неверагодна, але нават пасля свайго распаду The Doors не згубілі былой папулярнасці. Кружэлкі са спевамі і жывымі выступленнямі, рэчы з выявамі музыкаў ці аднаго Джыма Морысана прадаюцца з вялікай хуткасцю і ў немалой колькасці. Фанклуб квартэта не памяншаецца, а толькі ўзрастае, і аднаўленне старых запісаў канцэртаў у новым сучасным фармаце толькі спрыяе гэтаму. Такія навінкі дапамагаюць людзям альбо ўзгадаць сваіх былых улюбёнцаў, альбо пазнаёміцца з імі ўпершыню.

Нельга сказаць, што The Doors *былі*. На мой погляд, яны ёсць і будуць у думках, розумах людзей. А паэзія Джыма Морысана па-ранейшаму — неразгаданая таямніца: прымушае толькі меркаваць, толькі здагадвацца, што ж ён у сваіх вершах меў на ўвазе.

***Наталля ЛЕНСКАЯ, 16 гадоў,***
***Маладзечна, школа журналістыкі «Маладзік»***



# Шукаючы — знойдзеш!

## *Аповесць*



Косцік ведаў і любіў наваколле роднай вёскі. За апошнім домам рос лес. Там, на ўскрайку, стаялі дзве бярозкі, якія хлопчык калісьці пасадзіў разам з бацькам. За лесам — сенажаць, на якой бабуля час ад часу пасе коз.

З другога канца вёскі разляглося поле, а пасярэдзіне на ўзвышшы — могілкі. Іх Косцік ведае дасканала. Ён знайшоў самую старую магілу, датаваную маем 1711 года. Пахаваны там чалавек з такім жа прозвішчам, як у Косціка і, хутчэй за ўсё, гэта сваяк. Таксама Сквароўскі, праўда, Леанард. Вельмі незвычайнае імя для гэтых краёў. Косцік хацеў распытаць пра гэта бабулю, аднак яна родам з суседняй вёскі і радаслоўнай мужа не цікавілася. Запытаць бы ў дзеда — дык ён памёр шэсць год таму.

Апроч згаданай магілы меліся радавыя магільныя склепы з надпісамі «1831» і «1839». Яны былі вельмі вялікімі: з калонамі, вокнамі і купаламі — быццам маленькія касцёлікі. Прозвішчы на іх, праўда, напісаны не надта знаёмыя — Мельжыч і Костка.

Жыў калісьці ў вёсцы адзін Костка. Дзіўны дзед. Сварыўся з усімі. Аднойчы нават суседскі хлеў падпаліў. Памёр год таму. Шкада было гэтага Костку. Ён усім даказваў, што належыць да знатнага, найбагацейшага роду, казаў, што бачыў нейкія дакументы. Толькі ніхто яму не верыў, казалі, што блюзніць стары.

А Мельжычаў таксама ў вёсцы не засталося. У апошняга, Юзафа, выгадавалася чатыры дачкі, якія павыходзілі замуж і раз’ехаліся. За дзедам прыглядала Косціна бабуля. Але стары таксама нядаўна памёр.

Косцік так шмат назіраў і ведаў пра мясцовае жыццё таму, што быў адзіным хлопчыкам і наогул дзіцём ва ўсёй вёсцы пад назвай Кавальчукі. У школу ён хадзіў у суседнюю вялікую вёску, а потым вяртаўся дадому да мамы, бацькі і бабулі.

Але самым улюбёным Косціным месцам былі зусім не могілкі, а рэшткі старога касцёла, фундатарам якога быў той самы Леанард Сквароўскі. Святыню ўзарвалі камуністы ў верасні 1929 года. Там загінуў і ксёндз. Звалі яго Павел Юрскі. Ён начаваў у касцёле, асцерагаючыся падпалу, але тыя, хто з няна-

вісцю ставіліся да рэлігіі, проста падарвалі касцёл разам са святаром. Ноччу жыхары прачнуліся ад страшэннага грукату, прыбеглі з трох вёсак басанож. Мужчыны кінуліся заліваць пажар, цягаючы ваду з навакольных калодзежаў, а жанчыны галасілі вакол цела маладога ксяндза. У святара моцна абгарэлі ногі, але памёр ён, пэўна, ад удушша.

Хавалі Паўла Юрскага вераснёвым днём. Неба было яснае-яснае — ні воблачка. Усе плакалі так, што аж стагнаў недалёкі лес. А ў газеце напісалі: «Бог не змог усцерагчы таго, хто яму служыў». Магіла, дарэчы, не захавалася. Надмагільны помнік, напэўна, потым разбілі ці скралі, так што не было куды нават кветкі пакласці.

Гэта ўсё распавядала бабуля. Ёй тады споўнілася дзесяць гадоў. Цяпер, праз шэсцьдзесят сем гадоў яна памятала ўсё, нібы тое адбылося ўчора.

У касцёла ўсё ж цэлымі засталіся фасад і дзве вежы. Пацярпеў алтар, а з часам цалкам разбурыўся дах. Усе рэчы за столькі гадоў скралі, і цяпер унутры касцёла растуць бярозкі, спяваюць птушкі, падлога пакрылася тоўстым слоем моха і травы. Скрозь пустыя вачніцы пранікае сонечны свет, а з-за адсутнасці даху касцёл шчодра паліваецца дажджом.

Доўгімі летнімі вечарамі Косцік любіў займацца адной, на першы погляд вельмі сумнай, справай: пласт за пластам здымаў зямлю і мох з падлогі. Калі нарэшце дабіраўся да пліт, яго ахоплівала радасць. За адно лета ён расчысціў падлогу касцёла ад уваход да першых калон.

Бацькі не разумелі захапленне сына, і часта раілі схадзіць у суседнюю вёску ды пагуляць з хлопцамі ў футбол. Аднак Косцік адмаўляўся — казаў, што яму гэта нецікава. І зноў ішоў альбо ў лес, альбо да касцёла: слухаць птушак і чысціць падлогу ды сцены святыні.

А ў лістападзе Косцік знік. У мясцовай газеце з'явілася паведамленне: «У вёсцы Кавальчукі 14 лістапада 1996 года знік хлопчык, Канстанцін Пятровіч Сквароўскі, 12 год. Быў апрануты ў чорныя штаны, чорны гольф, куртку шэрага колеру, вязаную шапачку чорнага колеру, чорныя чаравікі. У пяць гадзін вечара ён выйшаў з дому і не вярнуўся. Усіх, хто бачыў яго, просім звяртацца ў аддзяленне міліцыі в. Куль».

Скончылася восень, прыйшла і адляцела зіма, мінула вясна, а хлопчыка так і не знайшлі. Бедныя бацькі спадзяваліся, што ён проста збег у горад. Тым і жылі, а сын не вяртаўся...

## 1

Спачатку знік сабака. Быў у суседзяў такі дварняк, які здалёк нагадваў аўчарку. На ланцугу не сядзеў, гуляў сам па сабе, часам вяртаючыся дадому паесці і паспаць у будцы. Косцік часта сустракаў яго то ў лесе, то каля касцёла. Сабака заўсёды прабягаў міма, не звяртаючы ўвагі на хлопчыка.

Аднойчы яны сустрэліся ў лесе. Быў на ўскрайку такі дуб. Рос ён даўно і прамільгнула перад ім нямала пакаленняў. Выглядаў ён своеасабліва, не так, як астатнія дрэвы. Гісторыі невядома, якая бяда здарылася з гэтым дрэвам, але ствол яго быў падзелены ў сярэдзіне на дзве часткі, злучаўся ўнізе і наверсе, на

адлегласці паўтара метра ад зямлі. Адтуліна была даволі вялікая і праз яе пры жаданні можна нават пралезці. Вось менавіта праз гэту шчыліну, як убачыў Косцік, і пралез Лобзік. Пралез, але на адваротным баку не з'явіўся. Хлопчык не паверыў сваім вачам. Ён аббег дрэва вакол, але сабакі не ўгледзеў. Косцік не разумеў, што здарылася. Бацькам ён пра тое не распавёў. Але вырашыў правесці эксперымент на наступны дзень самастойна.

З пасткі ў свірані ён дастаў мыш, пасадзіў у мяшэчак і панёс да дуба. Там вызваліў грызуна і накіраваў да праёма ў дрэве. І мыш знікла! Яе таксама нідзе не было, як і сабакі ўчора. Косцік сеў на пянёк і задумаўся. «Калі жывёлы знікаюць, то куды? Там дакладна няма аніякай дзіркі, гэта я ўжо праверыў. А гэта значыць, яны не трапляюць пад зямлю, а праходзяць праз адтуліну, ды не выходзяць са зваротнага боку. Не выходзяць!..»

І тут развагі давялося перапыніць. Са зваротнага боку дуба вылезла мышка і пачала гучна пішчаць, як быццам хацела нешта расказаць. Знешне яна не змянілася! Толькі дзе ж была дзесяць хвілін? У праёме яе не бачылася дакладна, у гэтым Косцік быў упэўнены.

Кастусь і так лічыўся хлопчыкам маўклівым, а пасля гэтага здарэння цалкам замкнуўся, усё хадзіў і думаў. У школе перастаў з усімі размаўляць, ды і бацькі не маглі выцягнуць з яго ані слова. Ён хацеў бы, і ў той жа час баяўся пралезці праз незразумелую дзірку ў дрэве. Ці зможа ён вярнуцца назад, што сустрэне па той бок дрэва? Куды знік Лобзік, і дзе пабывала мыш? Шкада, але на гэтыя пытанні не мелася адказаў, і ўсё больш і больш прывабнай здавалася ідэя пралезці скрозь дуб і ўсё ўбачыць самому. Будзь у яго блізкі сябар, Косцік абавязкова параіўся б з ім, а то і палезлі б удваіх. Аднак хлопчык быў зусім адзінокі, так што разлічваць даводзілася толькі на сябе. Яму нават пачалі сніцца жахі, нібыта ён праходзіць скрозь дрэва, а яно паглынае яго вялізнай глоткай. Або такі яшчэ сон: быццам праходзіць Косцік праз дрэва, а за ім космас, і ён робіць у яго некалькі крокаў і пачынае ляцець, ды падымаецца да зорак. І ці варта казаць пра тое, што ён закінуў касцёл і стаў прыходзіць да дуба кожны дзень.

Дванаццатага лістапада выпаў першы снег, і Косця адважыўся. Пасля школы ён прыйшоў дадому, добра паеў, употай ад маці сабраў пакуначак з хлебам і кампотам, ды пайшоў да руінаў. Ён крочыў па беласнежнымі полі, пакідаючы чорныя сляды, увайшоў скрозь дзверы і ўпаў на калені перад разбітым алтаром. Зверху, праз разламаны дах, на некаторых частках якога засталася яшчэ старажытная ляпніна, падаў снег, але калі хлопчык стаў прасіць парады, ці варта яму ісці праз дуб, засвяціла сонца. Косця зразумеў, што ён пойдзе.

Кастусь быў ахрышчаны. Гэтаму паспрыяла бабуля, якая ніколі не адмаўлялася ад сваёй веры. Менавіта яна ўгаварыла сына і нявестку звазіць хваравітае немаўля ў бліжэйшы касцёл і ахрысціць. З божай дапамогай хлопчык выжыў, а калі падрос, то сам пачаў ездзіць кожную нядзелю на імшу за дваццаць кіламетраў на ровары. Спачатку яго суправаджала бабуля, потым, калі ў яе сіл паменшала, ездзіў адзін. Зімой, праўда, ніяк не атрымлівалася. Прыходзілася задавальняцца тым, што ксёндз сам прыязджаў у іх вёску раз на два тыдні. Але, як толькі знікаў снег, хлопчык зноў сядаў на ровар і ехаў. Менавіта таму ён і пайшоў да руінаў старога касцёла, бо ў дзеючы не мог дабрацца.



«Зусім незвычайная сітуацыя, — падумаў Косцік. — Чаму за столькі гадоў, пакуль расце дуб, яшчэ ніхто туды не пралез? Не можа такога быць! Дзеці ж заўсёды цікаўныя». Потым ён зразумеў, што ў іхняй вёсцы даўно няма маленькіх дзяцей, а дарослаunion чалавеку ў галаву не прыйдзе лезці скрозь ствол. Можа, хтосьці са старых жыхароў вёскі і быў па той бок, ды маўчыць. А можа, і сапраўды ніхто там не быў, а ў Косціка ўзнікла такая вар'яцкая думка.

Чым бліжэй Косцік падыходзіў да дуба, тым больш павольнымі станавіліся ягоныя крокі. Каленкі дрыжалі, сэрца грукала ў скронях і ў горле, захацелася прысесці, сабрацца з думкамі. Але вакол ляжаў снег, нават на пяньку ля старога дуба, які стаў Кастусю амаль родным. Так ён прастаяў каля дрэва хвілін дваццаць. Пачынала цямнець, трэба было нешта вырашаць. Снег спыніўся, але неба ўсё роўна было зацягнута хмарамі, і ад таго цямнела яшчэ хутчэй. Спачатку хлопчык падышоў і прасунуў у шчыліну руку. Ніякіх адчуванняў: ані болю, ні холаду. Тады ён, нарэшце, рашыўся: перахрысціўся і палез у адтуліну. Імгненне ён так пастаяў, панюхаў водар старога дрэва і, нарэшце, зрабіў крок на той бок. І першае, што адкрылася вачам хлопчыка — адсутнасць снегу. А яшчэ было значна цяплей. У астатнім жа лес нагадваў той самы. Толькі некаторыя хвоі вакол здаваліся ніжэйшымі, ды не было бярозавага гаю. Гэта і зразумела, яго пасадзілі, калі Косцік быў маленькім. А, уласна, чаму зразумела? Куды ж ён трапіў? Дакладней, ён ужо зразумеў, што трапіў у мінулае, але на колькі далёкае мінулае? Вельмі захацелася вярнуцца дадому і ўсе абдумаць. Косцік пралез у адваротным парадку і зноў апынуўся ў сваім часе. Ляжаў снег, недалёка красаваўся бязлісты бярозавы гай, і ўсё такое ж цёмнае неба над галавою. Па той бок дуба, дарэчы, былі яшчэ прыцемкі.

Шмат чаго варта было вырашыць гэтым вечарам. Канешне, некаторыя таямніцы хлопец ужо прыадкрыў: па той бок дрэва яго не чакае зубастая пачвара з трыма галовамі. Там той жа свет, толькі мінулы. Што ж, калі ёсць магчымасць вярнуцца назад, то можна некалькі разоў і туды схадзіць, паглядзець, як там у мінулым. А больш за ўсё хацелася Косціку ўбачыць сваіх продкаў. Не гаворачы пра тое, хто ён ёсць, пазнаёміцца, даведацца, як яны жылі і выглядалі. «А раптам і касцёл яшчэ цэлы, а раптам?..»

Косцік нечакана натыкнуўся на татаву грудзіну. Пакуль ён прыйшоў дадому, ужо сцямнела, а так позна ён ніколі яшчэ не вяртаўся.

— Дзе ты быў, сын? — запытаўся бацька.

— На раскопках, — адказаў Косцік.

Часцінка ісціны ў словах усё ж мелася.

— Цябе там не было, я ўжо хадзіў.

— На раскопках, а потым у лесе, — паправіўся хлопчык.

— Глядзі, больш не затрымлівайся, добра? А то маці хвалюецца, і бабуля ўжо прыйшла. Мне цяжкавата з імі дзвюма справіцца, калі яны нервуюцца.

Косцік толькі хітнуў галавой і прашмыгнуў у варотцы. Цяпер трэба было як мага хутчэй прайсці праз кухню, каб маці і бабуля не прыставалі з пытаннямі. Хоць гэта было б цудам.

— Кастусік, дзе ты быў? — у адзін голас спыталі жанчыны і ўсміхнуліся.

— На раскопках. А потым у лесе, я ўжо тату распавёў. Затрымаўся, нешта. Забыўся, што раней цямнее, — адказаў хлопчык, хутка зняў абутак і накіраваўся да сябе ў пакой.

— Ты што, спаць ужо? А вячэраць не будзеш?

— Не, не хачу. Стаміўся, пайду адпачываць.

Маці толькі пацiснула плячыма, а бабуля цяжка ўздыхнула. Не проста ім даводзілася з хлопчыкам.

На гэтым дыялог скончыўся і Косцік змог усё спакойна абдумаць. Варта было прыняць сур'ёзнае рашэнне. Па-першае, у глыбіні душы ён ужо прыйшоў да высновы, што калі пойдзе ў мінулае, то паспрабуе не вяртацца пры малейшай небяспецы, а вырашыць усё сам. Далей, варта было б абдумаць, што з сабою ўзяць, і калі, дакладна, туды адправіцца. Косцік вырашыў даць сабе два дні на зборы, сысці ўвечары, а заплечнік з рэчамі выкінуць праз акно.

З рэчаў Косцік прыхапіў з сабою некалькі швэдараў, бялізну, шкарпэткі, чаравікі, штаны ды кашулю. Калі бацькоў не было дома, зварыў пяць яек, узяў хлеба, бульбы, запалак, цукерак і вялікую бутэльку вады. Вось і ўсё.

Праз два дні Косцік замкнуў у сваім пакоі дзверы, адкрыў акно, выкінуў спачатку заплечнік, потым выскачыў сам, прыкрыў акенца і пабег агародамі, каб ніхто яго не бачыў, да лесу. Пачынала цямнець, але дарогу і дрэвы яшчэ можна разгледзець. На вуліцы было шэра, пахмурна і нявесела. У Косці ў галаве пачалі мільгаць думкі каб вярнуцца ды адкласці задуму на вясну. І ўвогуле, чаму абавязкова ноччу трэба рухацца ў мінулае. Дзе там пераначаваць, ды яшчэ ў такі холад? Аднак адступаць ужо было пазнавата.

Вось і дуб. Ён выступаў з цемры лесу чорным гігантам. Зусім не хацелася да яго набліжацца. Дзьмуў халодны вецер, пад нагамі снег, а дома было цёпла і спакойна. Але хлопчык усё ж наважыўся. Ён наблізіўся да дрэва і спыніўся. Дзірка, у якую трэба было пралезці, чарнела перад ім. Косця перахрысціўся і ўвайшоў.

***Ганна СТАРЫКОВІЧ,***
***малюнкі Алены БОСАВАЙ***

*Працяг у наступным нумары*

***Льготная падпіска для ўстаноў***
***Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі***
***Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;***
***падпісная цана на 1 месяц — 27720 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 13800 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 35080 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.***
***Цана на 1 месяц — 9700 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*

Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
При передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 11.02.2013. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,79. Тыраж 2430 экз. Заказ 469. Кошт нумара ў розніцу 13 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**